

# Песні народных свят і абрадаў

Беларускі фальклор
у сучасных запісах

# ПЕСНІ НАРОДНЫХ СВЯТ І АБРАДАЎ



# ПЕСНІ НАРОДНЫХ СВЯТ І АБРАДАЎ

*Укладанне і рэдакцыя*
*Н. С. ГІЛЕВІЧА*



ВЫДАВЕЦТВА БДУ
імя У. І. ЛЕНІНА МІНСК 1974



## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ЗБОРНІК

У зборніку «Песні народных свят і абрадаў» змешчаны ўзоры пэўных жанраў песеннай творчасці беларускага народа ў сучасных запісах. Ён ахоплівае не ўсю традыцыйную лірыку, а толькі песні так званага земляробчага святочнага календара і сямейна-абрадавыя. Да першай групы, як вядома, належаць песні гадавога кола: калядныя і шчадроўскія, песні на масленіцу, веснавыя (раннія вяснянкі, валачобныя, юраўскія, песні «зялёных святак»), купальскія і пятроўскія, жніўныя (у тым ліку—песні яравога жніва), восеньскія. Сюды ж трэба аднесці песні талочныя, карагодныя і гульнёвыя, выкананне якіх прыпадала на розныя поры года, але таксама было звязана з традыцыйным народным календаром і ў значнай меры абумоўлена ходам гаспадарчых работ у вёсцы. Да другой групы належаць песні хрэсьбінныя, вясельныя песні і пахавальныя галашэнні. У такім парадку, як пералічаны, песні абедзвюх груп і размешчаны ў зборніку. Не прадстаўлены ў ім толькі галашэнні, паколькі высокамастацкіх узораў гэтага жанру запісаць не ўдалося.

Усе песні для гэтага выдання ўзяты з фальклорнага архіва кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна. Запісы зроблены на працягу 1961—1971 гг. студэнтамі аддзялення беларускай мовы і літаратуры ў час фальклорнай практыкі ў групавых экспедыцыях і ў індывідуальным парадку (кожным студэнтам у сваёй мясцовасці). У збіранні песень, апрача студэнтаў стацыянарнага навучання, кожны год вельмі актыўны ўдзел прымалі—па нашай просьбе—студэнты-завочнікі, а часткова—і вячэрнікі.

Працуючы над падрыхтоўкай матэрыялаў да выдання і затым складаючы зборнік, мы кіраваліся перш за ўсё тым, каб адабраць песні найбольш цікавыя, змястоўныя і дасканалыя ў ідэйна-мастацкіх адносінах. І першы, і апошні наш клопат быў—паказаць беларускую песенную паэзію менавіта як паэзію ў самым сапраўдным значэнні гэтага слова. Наколькі гэта нам удалося—меркаваць чытачу, але прынцыпа свайго мы стараліся не парушыць. З агромністай колькасці запісаў,

якія былі ў нашым распараджэнні, адабраны для зборніка каля 1150 песень. Варыянты адных і тых жа песенных сюжэтаў прыводзяцца толькі тады, калі яны маюць, на наш погляд, пэўную ідэйна-мастацкую самастойнасць. Пры рэдагаванні тэкстаў ніякай адвольнасці, якая магла б парушыць арганічную цэласнасць фальклорнага твора, не дапускалася: выпраўляліся толькі відавочныя скажэнні і апіскі.

Паколькі запісы песень рабіліся ў самых розных раёнах Беларусі, то зразумела, што ў іх адлюстраваліся лексічныя, марфалагічныя, фанетычныя і сінтаксічныя рысы пэўных дыялектаў і мясцовых гаворак. У зборніку мы палічылі патрэбным захаваць найбольш істотныя і характэрныя моўныя асаблівасці і адметнасці, замена якіх літаратурнымі нормамі магла б прывесці да парушэння мастацкай формы песні, да збяднення яе паэтычнага хараства і страты мясцовага каларыту.

Кожнаму цыклу песень у зборніку папярэднічае невялікая нататка, у якой даецца сціслая характарыстыка цыкла, а іменна: паказана асноўнае функцыянальнае прызначэнне песень, вылучаны тыповыя матывы ў іх змесце, адзначаны пэўныя жанравыя асаблівасці і важнейшыя рысы паэтыкі, зроблены заўвагі да некаторых свят і абрадаў.

У фальклорных экспедыцыях у якасці кіраўнікоў студэнцкіх груп, апрача ўкладальніка, удзельнічалі супрацоўнікі кафедры беларускай літаратуры: асістэнт Шыловіч А. М., кандыдат філалагічных навук Семашкевіч Р. М., дацэнты Царанкоў Л. А. і Рагойша В. П., аспірант Лецка Я. Р. У падрыхтоўцы матэрыялаў да выдання прымалі ўдзел выкладчык Каладзінскі В. В. (ім таксама складзены змест-паказальнік да зборніка) і члены студэнцкага навукова-даследчага фальклорнага гуртка Занько В. Я., Каральчук Н. І., Тарасюк Л. К., Лапа Т. В., Бахно Н. А., Вараб'ёва Р. Ф., Шабан Т. М., Баян Н. І., Вярбіцкая Т. Ц., Маскалевіч Т. А., Купрэвіч Г. В., Чарнавец В. Ф., Карабейнік С. М., Макаўчык А. Л., Мацкевіч І. А., Кавальчук С. В., Гімпель В. А., Хацяновіч В. П., Яновіч В. А., Жыгуноў А. М., Яновіч А. А., Скапец В. У., Янушэўская І. І., Палачаніна В. В., Хіхіч В. П., Трасько Д. А., Кулеш З. У., Дубік А. В. Гурткоўцамі перапісаны са сшыткаў адабраныя для зборніка тэксты, праведзена зверка і ўдакладненне пашпартызацыі, зверка машынапісных тэкстаў з арыгіналамі. Слоўнік і каляндар свят склала кандыдат філалагічных навук Гілевіч Н. І. Слушныя заўвагі і парады, якія мы ўлічылі ў рабоце над рукапісам, выказаў нам доктар філалагічных навук прафесар Грынчык М. М. Названым таварышам, а таксама ўсім студэнтам аддзялення беларускай мовы і літаратуры, якія добрасумленна збіралі фальклорныя матэрыялы, выказваю шчырую падзяку.

*Ніл Гілевіч*

# ПЕСНІ
# КАЛЯНДАРНА-ЗЕМЛЯРОБЧЫХ
# СВЯТ І АБРАДАЎ





## КАЛЯДНЫЯ І ШЧАДРОЎСКІЯ ПЕСНІ

Усе песні, прымеркаваныя да святаў народнага земляробчага календара, мелі ў старажытнасці аграрна-магічны характар. Звязаныя—зместам і вобразамі—з працоўнай дзейнасцю селяніна-земляроба, яны павінны былі магічным чынам (а вера ў магічную сілу слова была вельмі моцнай) пасадзейнічаць плёну і спору ў гаспадарцы, паспрыяць дабрабыту і шчасцю сялянскай сям'і. Аснову зместу гэтых песень складае вопыт асваення прыроды, а таксама вопыт сацыяльных, грамадскіх узаемаадносін.

На зімовы перыяд гаспадарчага года прыпадала свята каляды. Гэта было свята ў гонар Новага года, яно звязана з зімовым сонцаваротам: у гэты час дзень пачынае прыбываць, «расці», а тым самым—набліжаць вясну, адраджэнне прыроды і новыя клопаты аб будучым ураджаі. Святкаванне каляд суправаджалася магічнымі абрадамі, якія выконваліся галоўным чынам вечарам напярэдадні свята (так званая «бедная куцця») і ў апошні вечар старога года (так званыя «шчодры», «шчадруха», «шчадроўкі», «багатая куцця»). Калядныя і шчадроўскія песні спявалі пераважна «калядоўшчыкі»—звычайна маладыя мужчыны і дзецюкі, якія хадзілі гуртам ад хаты да хаты і спевамі віншавалі гаспадара, гаспадыню і іх дарослых дзяцей, жадалі ім плёну ў полі, прыплоду ў хляве, дастатку і шчасця ў сям'і. Калядоўшчыкі нярэдка вадзілі «казу»—пераапранутага адпаведным чынам хлопца,—таму што каза (казёл) у народзе здаўна лічылася апекуном ураджаю, ушаноўвалася як добры дух поля. Песні калядоўшчыкаў маюць пераважна заклінальны і велічальны характар. Асноўны мастацкі прыём велічальных песень-віншаванняў—паэтычная ідэалізацыя, згодна якой нават самы бедны селянін выглядзіць заможным, багатым гаспадаром, яго жонка—працавітай, руплівай гаспадыняй, дачка—надзвычайнай прыгажуняй і г. д.

У калядныя вечары моладзь ладзіла розныя гульні, найбольш вядомымі з якіх былі «Жаніцьба Цярэшкі» і «Яшчар». Першая з іх—гэта своеасаблівая жартоўная інсцэніроўка шлюбу, у якой угадваюцца перайначаныя з цягам часу формы даўніх эратычных гульняў язычніцкай пары. Асабліва пашыранай «Жаніцьба Цярэшкі» была ў паўночных і паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі. Гульні суправаджаліся песнямі звычайна вясёлага, гумарыстычнага характару.

Ушанаванне чалавека працы, яго высокіх маральных якасцей і душэўнага хараства, паэтызацыя яго гаспадарчых клопатаў і простых зямных уцех, выяўленне светлых, чалавечных надзей і памкненняў—вось што складае сапраўдны змест беларускіх калядных і шчадроўскіх песень. Менавіта ў гэтым заключаецца іх ідэйна-мастацкая каштоўнасць. Сказанае цалкам стасуецца і да ўсіх іншых цыклаў каляндарна-абрадавай паэзіі. Зразумела, што для сённяшняга чытача многае ў гэтых песнях можа здацца ўсяго-наўсяго паэтычнай архаікай—далёкім днём у гісторыі духоўнага развіцця чалавека працы, у гісторыі станаўлення мастацкай культуры народа. Але той, хто, нягледзячы на архаічнасць формы, адчуе вечна жывую душу народнай песні, яе глыбінны змест і сэнс, будзе шчодра ўзнагароджаны: яго чакае радасць далучэння да паэзіі чароўнай, вялікай, неўміручай.



Тыднік, тыднік да каляд,
Вот наш пан і не рад.
Чэлядзь ідзе скачучы,
А пан за ёй — плачучы:
«Чэляднічку, вярніся,
На другі год найміся!»
— Дзякуй табе, пане, дзякуй
І за хлеб, і за бліны.
Каб у цябе людзі не былі!
Каб ты, пане, не даждаў,
Як я ў цябе гараваў.
Вот табе хамут і дуга,
Я ж табе, пане, не слуга.



У дубнічку стрынаткі,
Недалёчка калядкі.
Пайшла служка скачучы,
А пан за ей — плачучы:
«Вярніся, служка, вярніся,
Яшчэ на гадок найміся».
— Каб ты, панок, не даждаў,
Як ты мною пасылаў.
На святога Сцяпана
Вышэй сяду за пана.
На святую гаспожку
Вышэй сяду за кошку.



Да пытаў дзедка ў бабкі:
«Ці скора, бабка, калядкі?»
— Ты калядак не пытайся,
Да к калядкам сабірайся.
А калядкі ў бярэзнічку,
А каўбаскі ў жалезнічку.



Каляды, калядачкі,
Бліны ды аладачкі,
    Ой, люлі, люлі,
    Бліны ды аладачкі.
Каляды далёка,
Каўбасы высока,
    Ой, люлі, люлі,
    Каўбасы высока.

Калядачкі пабліжайце,
Каўбасачкі паніжайце,
Ой, люлі, люлі,
Каўбасачкі паніжайце.



Блізка каляды,
Усе людзі рады:
Япручкі смаляць
І бога хваляць.
Радуйся, зямля,
Бо жыта родзіць.
Пастаўлю каляску —
Дастану кілбаскі.
Пастаўлю драбінку —
Дастану сланінку.
Радуйся, зямля,
Бо жыта родзіць.



А калядачкі, а скарэйце вы,
А калядачкі, а барджэйце вы!
Нашы бабачкі пасядзець хочуць,
Нашы дзевачкі пагуляць хочуць.



Да ішлі, ехалі калядкі
У муляваных санёчках,
У кужэльных сарочках.
А санёчкі паламаліся,
А сарочкі памараліся.



Прыехала калёдка,
Прыехала лябёдка
На сівенькім канёчку,
У строчаным вазочку.
Іванька, суседзька,
Іванька, лябедзька,
Ці ты мяне дары,
Ці ты мяне гані.



Як пайшла каляда
Упярод ражства,
    Каляда, каляда! *
Прынесла ж каляда
Рэшата бліноў,
Рэшата бліноў,
Берасцень мёду.
Дзеткі блінамі
У мёд макалі,
У мёд макалі,
Каляду ўспаміналі.



Прыехала каляда на белым кані,
Яе конічак — ясен месячык,
Яе дужачка — ясна зорачка,
Яе пужачка — ясна звёздачка,
Яе вазочак з тоўстага лядку,
Яе кажушок з белага сняжку.



Прыехала каляда ў вазочку
Да на сівенькім канёчку.
Прыехала каляда ўвечары,
Прывезла дудак рэшата.
Паставіла дудкі на стаўпе,
А сама села на куце.
Зайграйце, дудкі, тоненька,
Скачыце, дзяўчаткі, хорашанька.
А вы, хлопчыкі, пазірайце,
Сабе дзевачак выбірайце.



Прыехала каляда ўвечара
Да прынесла дудак рэшата.
Паставіла дудкі на стаўпе,
А сама да й села на куце.

** Тут і далей ва ўсіх цыклах
каляндарна-абрадавых песень словы,
пазначаныя зорачкай,
з'яўляюцца прыпевам,
які пры спяванні паўтараецца
пасля кожнага радка або двухрадкоўя.*

Скінуліся дудкі з стоўпа далоў.
Круціцеся, хлопцы, к чорту дамоў.
А вы, дзевачкі, гуляйце,
Залаты персцень пускайце.
Як найдзеце — аддасцё.
«Будзе мяне маці біць, караць
Да на вуліцу не пушчаць».



Прыйшлі калядкі увечары, увечары,
Прынеслі кілбаскі ў рэшаце, ў рэшаце.
Паставілі рэшата на стаўпе, на стаўпе,
Самі селі за сталом на куце, на куце.
А вы, музыкі, іграйце, іграйце,
А вы, дзеванькі, гуляйце, гуляйце.
А вы, кілбаскі, з стоўпа далоў,
з стоўпа далоў.
А вы, дзеванькі, к чорту дамоў,
к чорту дамоў.
А ты, красуня, астанься, астанься
І са мною звянчайся, звянчайся.



Прыехала каляда ўвечары, ўвечары,
Прынесла гарошку ў рэшаце, ў рэшаце.
Паставіла на стаўпе, на стаўпе,
Сама села на куце, на куце.
Ды каляда надворкі, надворкі,
Ды гарошак далоўкі, далоўкі.
Вы ж, дзевачкі, не гуляйце, не гуляйце,
Да гарошак пазбірайце, пазбірайце
Ды хлопчыкам у кішэнькі, ў кішэнькі,
Малым дзеткам у пяленькі, ў пяленькі.



Прыйшла каляда звечара,
Прынесла дудак рэшата,
Паставіла на стаўпе,
Сама села на куце
Ды ў чырвоным кабаце.
Грайце, дудачкі, жаласна,
Пейце, дзеванькі, голасна,
Як там дзевачка плакала,
За нямілага ідучы,
Нялюбаму пасцель сцелючы:

«Пасцелька ж мая беленька,
Нялюбы са мной спаць будзе,
А я ж, як бяроза, белая,
А ён, як калода, гнілая».



А калядачкі, нашы лежачкі,
Ой, рана, рана, нашы лежачкі,
Каб не ўбачылі хлопцы сцежачкі,
Ой, рана, рана, хлопцы сцежачкі.
А ні сцежачкі, ні дарожачкі,
Ой, рана, рана, ні дарожачкі,
Каб паехалі да варожачкі,
Ой, рана, рана, да варожачкі.



А калядныя бліны ладныя,
Ой, рана, рана, бліны ладныя.
А мікольскія бліны шорсткія,
Ой, рана, рана, бліны шорсткія.
А калядачкі, вы барджэй, барджэй,
Ой, рана, рана, вы барджэй, барджэй.
Нам піліпаўка надакучыла,
Ой, рана, рана, надакучыла.
Нам жамерачкі зубкі праелі,
Ой, рана, рана, зубкі праелі.
Мы ж вас, калядкі, шанаваць будзем,
Ой, рана, рана, шанаваць будзем,
Па вячорачках святкаваць будзем,
Ой, рана, рана, святкаваць будзем,
Што ранейка бліны печ будзем,
Ой, рана, рана, бліны печ будзем,
Па вячорачках мы хадзіць будзем,
Ой, рана, рана, мы хадзіць будзем.
То на йгрышчайка, то з ігрышчайка,
Ой, рана, рана, то з ігрышчайка.



А калядачкі, нашы матачкі,
Ой, рана, рана, нашы матачкі,
А прысуньцеся, а прыблізцеся,
Ой, рана, рана, а прыблізцеся.
Каб нам калядак нядзель дзесятак,
Ой, рана, рана, нядзель дзесятак,

Мы бы, дзевачкі, нагуляліся,
  Ой, рана, рана, нагуляліся,
Нашы б праснічкі наваляліся,
  Ой, рана, рана, наваляліся.



Вы, калядачкі, вы хадзіце к нам,
А кілбасачкі вынасіце нам.
А калядачкі — у дварэ, ў дварэ,
А кілбасачкі — у вядрэ, ў вядрэ.
Вы, калядачкі, ды вярніцеся,
На нас, дзевачак, агляніцеся.
А мы, дзевачкі, мы гуляць будзем,
Вас, калядачкі, памінаць будзем,
Часта ў ваконца пазіраць будзем.



А калядачкі, а хадзіце к нам,
  Ой, рана, рана, а хадзіце к нам.
А хадзіце к нам, а мы рады вам,
  Ой, рана, рана, а мы рады вам.
Нашы праснічкі паламаліся,
  Ой, рана, рана, паламаліся,
Верацёначкі пагубляліся,
  Ой, рана, рана, пагубляліся.
Нашы пальчыкі паспрадаліся,
  Ой, рана, рана, паспрадаліся
І пярсцёначкі пасціраліся,
  Ой, рана, рана, пасціраліся.
Каб вас, калядак, нядзель дзесятак,
  Ой, рана, рана, нядзель дзесятак,
Мы бы, дзевачкі, нагуляліся,
  Ой, рана, рана, нагуляліся
І калядак наўспаміналіся,
  Ой, рана, рана, наўспаміналіся.



Ну, ну-ну, казёл,
Ну, ну-ну, нябожа,
Не адбрыквайся,
Паварачвайся —
То на сёй бачок,
То на той бачок!
Да расхадзіся,
Развесяліся

Па ўсяму дому,
Па гаспадарскаму!
Дзе казёл ходзіць —
Там жыта родзіць,
Дзе казёл туп-туп —
Там жыта сем коп.
А што ў даліне
Шуміць ды гудзе?
Старая каза
Казлянят вядзе.
Ой, вядзе, вядзе
Да навучае,
Сваіх дзетачак
Да затуляе.
А на гары воўк
З ваўчанятамі,
У даліне каза
З казлянятамі.
Як прыйшоў ваўчок —
За казу — чок-чок,
А ваўчаняты —
За казляняты.
Як прыбег заяц,
Стаў казу лаяць:
Ох, ты, казінка,
Не гаспадынька:
Узяла б сярпок,
Нажала б снапок
І сваіх дзетачак
Да накарміла,
У ніцу лозачку
Спаць палажыла».

Гаспадынечка,
Як маліначка,
Не будзь такая,
Як шэльма тая.
Запалі свечачку,
Пайдзі ў клетачку,
Набяры мядку
На талерачку
Нашаму казлу
На гарэлачку.
Нашаму казлу
Многа не трэба:
Сем печ перапеч,
Бочка пшаніцы,
Рэшата аўса,

Наверх каўбаса.
І яшчэ мала —
Дай кусок сала!



«Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Дзе каза была?»
— На месцы жыла.
«Дзе рогі дзела?»
— На соль праела:
Соль дарагая,
Мера скупая.
На печы й авёс
Вялікі парос.
На палу жыта
Рагамі збіта.
А ў тым у жыце
Перапяліца
Вывела дзяцей.
«Ідзіце, дзеці,
К сырому дубу»,
А там жа стральцы
Білі, стралялі.
Ударылі козаньцы
У левае вуха,
А з правага вуха
Пацякла юха.
«Устань, козанька,
Ды расхадзіся».
Гаспадар ідзе,
Каўбасу нясе,
Тры кускі сала,
Каб каза ўстала,
І мерку аўса,
Каб каза пайшла.
І мерку жыта,
Каб была сыта.

Паклонімся
Гаспадару і гаспадыні.



Уставай, каза,
Жылы надзімай.
Гаспадар ідзе,
Каляду нясе:

Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.
Гаспадынячка,
Мая вішанька,
Запалі свечачку,
Пайдзі ў клетачку,
Стукні ў бачок —
Там стаіць мачок.
Стукні ў другі —
Там стаяць крупы.
Вазьмі таго мачку
На талерачку.
Нашаму козліку
Нямнога трэба:
Сем печ перапеч
І бочка жыта,
Каб каза была сыта.
Дзе каза рогам —
Там жыта стогам.
Дзе каза хвастом —
Там жыта кустом.
Дзе каза нагою —
Там жыта капою.



Пасярод двара стаяла вярба,
    Шумела ў лесе, верабей у стрэсе *,
А на той вярбе дзіўная каза.
Прыйшоў да яе баравы воўча.
«Дзіўная каза, лезь ты да мяне».
— Баравы воўча, баюся цябе.
Чаму ў цябе вочы чырвоныя? —
«Я ў пана служыў, чырвонцы лічыў.
Дзіўная каза, лезь ты да мяне».
— Баравы воўча, баюся цябе.
Чаму ў цябе, воўча, лапы шырокія? —
«Я ў пана служыў, пірагі мясіў,
Дзіўная каза, лезь ты да мяне».
— Баравы воўча, баюся цябе.
Чаму ў цябе, воўча, хвост, як мяцёлка? —
«Я ў пана служыў, пакоі падмятаў,
Пакоі падмятаў, свінкі паганяў».



Добры вечар, пане гаспадару!
А ці ў доме, пану гаспадару?
Няма ў доме, паехаў на поле,

Паехаў на поле паляваці,
Паляваці, жыта аглядаці.
Усіх жыта ядраное,
Ў нашага гаспадара — найлепшае,
Найлепшае, ядранейшае.
У адзін бачок пахілілася,
А ў даліне ў трубы павілося.
Яго жнейкі маладзенькі,
Ў іх сярпочкі залаценькі.
Яго конікі вараныя,
Іх падкоўкі залатыя.
Жыта вязуць, коні іржуць.
Дай жа божа, пане гаспадару
На полі капамі,
На гумне тарпамі,
На гумне тарпамі,
У таку ўмалотам,
У таку ўмалотам,
У арудзе спорам,
У арудзе спорам,
У млыне з прымолам,
У млыне з прымолам,
У дзяжы з падходам,
У дзяжы з падходам,
А ў печы з падростам,
У печы з падростам,
На стале з прыбыткам,
На стале з прыбыткам,
З добрым ужыткам.
Выйдзі, выйдзі, пане гаспадару,
Выйдзі, выйдзі да й на ганачак,
Вынесь, вынесь, нам падарачак:
Тысячу злоты — нам на боты,
Дзве саракоўкі — нам на падкоўкі.
Мы боцікі патаптталі,
Пакуль гаспадара дапыталі.
Сыр на талерку,
Чарку гарэлкі.
Ды вазьмі драбінку,
Лезь па сланінку —
Калбасу крутую,
А наверх другую.



Слаўны вечар,
Каляда, каляда!
Добры вечар,
Каляда, каляда!

Паночак, гаспадарочак,
Ці ты спіш, ці ляжыш?
Ці ты нас не чуеш?
Адчыні акенца,
Паглядзі ў гуменца,
Хто там што там робіць.
Сам бог там ходзіць,
Дабро тваё ліча
І цябе ён кліча.
Табе дар даець:
Поўны ток жыта,
Жоначцы тваёй —
Шубу да долу,
Сыночкам тваім —
Ды па коніку,
Ды па коніку,
Дый па вараненькім.
Дачушкам тваім —
Ды па вяночку,
Ды па вяночку
Дый па руцявенькім.
Паночак, гаспадарочак,
Просім не трымаць,
Кароткія світкі —
Студзена стаяць.
Наш дар невялікі:
Рэшата аўса,
Рэшата аўса,
Наверх кілбаса.



Ішла каляда калядуючы,
З кута ў кут жабруючы,
  Каляда, каляда *.
Зайшла каляда да Сцяпана на двор.
«Пане Сцяпане, чым багаты дарыць?
А ці пшонкаю, а ці жонкаю?
А ці дочкаю маладою?»
— А ні пшонкаю, а ні жонкаю,
Падару табе дочку маладую.



Ой, куры, куры, не пейце рана,
Не пейце рана, не будзіця пана.
Пан сам устаня, па двару паходзя

Па двару паходзя, курэй пабудзя.
Дайце каўбасу, дамоў панясу.
Дайце другую — яшчэ пашчадрую.

Пане гаспадару, ці падаваў тавару,
Святы вечар, падаваў тавару.
Чорнаму валу ды рабой карове,
Святы вечар, ды рабой карове.
У чорнага вала залатыя рогі,
Святы вечар, залатыя рогі.
А ў рабой каровы чорныя бровы,
Святы вечар, да чорныя бровы.

Ой, ці дома, дома сам пан гаспадар?
Святы вечар добрым людзям! *
Калі ён дома — хай выйдзе на двор,
Хай выйдзе на двор да й зірне ў шчыры бор.
А што ў тым бару ды шуміць, ды гудзе?
Пчолка-матка ідзе, два раёчкі вядзе:
Первы раёчак — нясе мядочак,
А другі раёчак — нясе вашчочак:
Сыту сыціці і сыноў жаніці,
Свечы сукаці, дочкі аддаваці.

Добры вечар, гаспадынечка,
А што ў цябе за навіначка?
Сорак кароў ацялілася,
А йшчэ сорак назначылася.
Гаспадынечка-перапёлачка,
У цябе ж сырчыкаў поўна полачка,
А ты ж тут нас частаваць будзеш,
А мы цябе віншаваць будзем
І з дзеткамі, і з сямейкаю,
І йшчэ з добрым здароўечкам, —
Каб налета дачакала,
Каляднічкаў сустракала,
Падарачкамі надзяляла.

Добры вечар, пахвалёны,
Добры вечар, паненачка.
Ці спіш, ці ляжыш?

Устань рана, ўмыйся бела.
Умыйся бела, як папера.
У татулькі, у матулькі
Радуйся на выгодзе,
Як садочак на пагодзе.
Сукеначка ядвабная,
Панчошачкі шаўковыя
І туфелькі храмовыя.
Цвіці ж, цвіці ж на пагодзе,
Як розачка ў агародзе.



Ой, жарка, жарка каліна ў лузе,
    Святы вечар, каліна ў лузе.
Ой, красна, красна дзеўка ў мамкі,
    Святы вечар, дзеўка ў мамкі.
Па двары ішла — як пчолка гула,
    Святы вечар, як пчолка гула.
Увайшла ў сені — сені зазвінелі,
    Святы вечар, сені зазвінелі.
Увайшла ў хату — як зорка ўзышла,
    Святы вечар, як зорка ўзышла.
Села за сталом — панічы абселі,
    Святы вечар, панічы абселі.



Ой, рано, рано куры попелі,
    Святы вечор *.
Куры попелі, просо поелі.
А шчэ раней Ніночка ўстала,
Ніночка ўстала, коску чэсала,
Коску чэсала, ў цэркоўку ішла.
Сустрэлі яе два панічыкі.
Одзін путае: «Ці ты попова?»
Другі путае: «Ці ты дзякова?»
— Я не попова, я не дзякова,
А я Ніночка, Іванова дочка!
    Святы вечор.



А ў полі, полі ды жыта не зжата,
    Святы вечар *.
А хто тое жыта ды будзе жаці?
А жала, жала маладая Валечка,
А жала, жала, ў снапы вязала.

Як прыехала к ёй семсот казакоў,
Семсот казакоў, семсот малайцоў.
«Не бярыце мяне з чыстага поля.
У майго татачкі тры старожачкі:
Першая старожа — сам татка на куце,
Другая старожа — братка ў парозе,
Трэцяя старожа — мамка ў каморы.
Татка ў куце кубачкі поўне,
Братка ў парозе гасцей выглядае.
Мамка ў каморы хусты качае,
Хусты качае, ў скрыні складае».


Ой, ясна, красна да каліначка ў лузе.
Сьвяты вечар добрым людзям! *
А ясней каліны да Ніначка ў бацькі:
Па двару хадзіла — увесь двор красіла,
На ганкі ўзыйшла — ганачкі заззялі,
А ў сені зайшла — чаравічкі зарыпелі.
А ў хату зайшла — баяры сядзяць,
Баяры сядзяць, мёд-віно папіваюць.
Мёд-віно папіваюць да Ніначку ўмаўляюць:
«Што ты, Ніначка маладая, нам абяцаеш?»
— Першаму абяцаю залатое кальцо.
Другому абяцаю шаўковы платок.
А трэцяму — я сама, маладая.


А красна, ясна ў лузе каліна,
Сьвяты вечар добрым людзям! *
А красней таго дочка ў бацькі:
Па двару ходзя — увесь двор красуя,
У сені ўвайшла — сені ззяюць,
У хату ўвайшла — баяры стаяць,
Шапачкі здымаюць, дзевачку пытаюць:
«Ці ты папоўна, ці каралёўна?»
— Я не папоўна, не каралёўна —
Бацькава дачка, як ягадачка.


А ў Кіеве ды на перавозе,
Шчодры вечар, ды на перавозе,
Стаяў човен маладой Ганначкі,
Шчодры вечар, маладой Ганначкі.
«Маладая Ганначка, перавязі нас,
Шчодры вечар, перавязі нас».

— Не маю часу да перавозу,
Шчодры вечар, да перавозу.
Татачка паехаў у вяліку дарогу,
Шчодры вечар, у вяліку дарогу.
Да прывязе мне тры гасцінчыкі,
Шчодры вечар, тры гасцінчыкі:
Першы гасцінчык — пярловы венчык,
Шчодры вечар, пярловы венчык;
Другі гасцінчык — пазалочаны персцень,
Шчодры вечар, пазалочаны персцень;
Трэці гасцінчык — зялёна сукенька,
Шчодры вечар, зялёна сукенька.
Пярловы венчык галоўку клоніць,
Шчодры вечар, галоўку клоніць,
Пазалочаны персцень ручку точыць,
Шчодры вечар, ручку точыць.
Зялёна сукенька ў танец водзіць,
Шчодры вечар, у танец водзіць.



Стаяла бяроза ў канцы перавоза,
Святы вечар людзям добрым! *
А на той бярозе кара залатая,
Ніхто тае кары ды не абірае.
Выйшла, выбегла слічна паненка,
Слічна паненка, маладая Ганка.
Яна тую кару дый абабрала,
Дый абабрала і ў рукавец склала.
А з рукава брала дый віла вяночак,
Звіўшы вяночак, пайшла ў таночак.



Ой, пайду ж я ды дарогаю,
Гэй, каляда, гэй, каляда! *
Да дарогаю, да шырокаю.
Да знайду ж я да рукаў зелля,
Да рукаў зелля, усё руты насення.
Ой, пасею ж я да ў агародзе,
Да ў агародзе, да на пераходзе.
Я ж палола, ручкі пакалола,
А прыйшоў негадзяй да ўсё стаптаў.



Ішоў Колечка беражынаю,
Святы вечар добрым людзям! *
Знайшоў ветачку пад ражынаю.

То не ветачка-вінаградачка —
Яго дзевачка-ненаглядачка.
Ён яе шукаў — у ладачкі пляскаў,
Ён яе знайшоў — упрысядку пайшоў.
За ручаньку ўзяў і пацалаваў,
За другую ўзяў — падарачак даў.

Мы ж цябе, Коля, не зневажаем,
З Новым годам паздраўляем.



Ой, гула, гула да крутая гара,
Святы вечар добрым людзям! *
Што на той гарэ? — Чорнае палянятка.
Чорнае палянятка, Колечка дзіцятка.
Стрэлачкі стружа да й за Дунай пускае.
«Ляціце, стрэлачкі, да да маёй дзевачкі.
А ў маёй дзевачкі па плечках коскі,
Па плечках коскі, пад вачыма слёзкі.
Хусцінaчка ў руках выціраціся,
Маладому Колечку заляцаціся».



А ў ляску, ляску на жоўтым пяску,
Добры вечар добрым людзям! *
Там тры малайцы цэркву стаўлялі,
Цэркву стаўлялі з трыма вярхамі,
З трыма вярхамі, з трыма вокнамі:
У першае акно — сонейка ўзышло,
У другое акно — сокал уляцеў,
У трэцяе акно сам бог паглядзеў.
Сам бог паглядзеў, слязіну ўраніў,
А з той слёзачкі мора пацякло,
На тым жа моры вутачкі плавалі.
Коля малады вуткі палавіў,
Вуткі палавіў, Олі падарыў.
Оля маладая вуткі паскубла,
Вуткі паскубла, падушачку зрабіла.



А рана, рана Геначка ўстаў,
Святы вечар *.
Раненька ўстаў — тры свячы ссукаў,
Тры свячы ссукаў і ўсе тры спаліў:
Першую спаліў, вабуваючысь,

Другую спаліў, вомуваючысь,
Трэцюю спаліў — па двору хадзіў.
«Ўставайце, братцы, коней сядлайце,
Коней сядлайце, з двара з'язджайце
Куну сачыці, дзеўку сватаці».
Высачылі куначку з хвастом,
Высваталі дзевачку з кублом.



Стаяў явар тонкі, высокі,
    Сьвяты вечар *.
Пад яварам ляжаў белы камень,
На камені стаяў сівы конік,
На коніку сядзеў бел малойчык,
Лук нацягае, ў арла страляе.
Не страляй ў арла, едзь да караля,
Дасць табе кароль зялёны жупан,
Каралёва жонка — шаўковую хустку,
Каралёва дочка — залаты пярсцёнак.
Паедзеш вянчацца з каралёвай дочкай.
Зялёны жупан — сляды замятаці,
Шаўковая хустка — ліцо ўціраці,
З залатым пярсцёнкам да вянца ісці.



У нашага дзядзькі явар пад вакном,
Ой, хоча, хоча ён сокала ўбіці,
А сокал яму дый прамаўляе:
«Ой, не бі мяне, я табе скажу,
Я табе скажу дый тры радасці,
Дый тры радасці, дый тры карысці:
Першая радасць — цябе бацька кліча,
Другая радасць — пярсцёнак дае,
Трэцяе — жаніці хоча,
Жаніці хоча на тры гарады:
У первым горадзе павянчаціся,
У другім горадзе пажаніціся,
У трэцім горадзе жыці і быці
Не сам з сабою — з дзецьмі, з жаною».



А за гумном трысцё шуміць,
    Каляду, каляду *.
А тамака ваўчок бяжыць.
«Пастой, свінка, пагукаем!»

— Ужо я згукалася,
З шэрым ваўком спаткалася,
Будуць косці разнесены,
Па кусточках растрэсены. —
«А ты, свіння, не бойсь мяне,
Я ў караля зіму адслужыў,
Вялікай лустай рот разадраў,
Доўгім хвастом свіней падганяў».



Да за варотамі да зялён вінаград,
Святы вечар, да зялён вінаград.
Да хто ж таго вінаграду да сцярэгці будзе,
Святы вечар, да сцярэгці будзе?
А будзе сцярэгці да малады Толік,
Святы вечар, да малады Толік.
Да сцярог ночку, да сцярог другую,
Святы вечар, да сцярог другую.
А на трэцю ночку стаў засынаці,
Святы вечар, стаў засынаці.
Прыйшоў яго бацюхна, стаў пабуджаці,
Святы вечар, стаў пабуджаці:
«Да ўставай, Толік, уставай, мой сынок,
Святы вечар, уставай, мой сынок.
Ужэ ж твой вінаград птушкі аб'елі,
Святы вечар, птушкі аб'елі.
Ужэ ж тваю Ніначку жаніхі абселі,
Святы вечар, жаніхі абселі».
— Няхай абсядаюць, я не баюся,
Святы вечар, я не баюся.
Я ж сваю Ніначку між усіх пазнаю,
Святы вечар, між усіх пазнаю:
На плячах коскі, пад вачыма слёзкі,
Святы вечар, пад вачыма слёзкі.
Я ж сваю Ніначку між дзевак вазьму,
Святы вечар, між дзевак вазьму.
Між дзевак вазьму, між баб пасаджу,
Святы вечар, між баб пасаджу.



Малады Віцячка коніка паіў,
Святы вечар *.
Коніка паіў, з канём гаварыў:
«Ой, коню, коню, я цябе прадам».
— Малады Віцечка, не прадай мяне,
Не прадай мяне, ўспомянеш мяне.

Ох, як будзеш ты молад жаніцца —
Масты памашчу з тонкае трасты,
Пастаўлю слупы ўсе залатыя,
Пасучу свечы ўсе васковыя,
Павешаю махры ўсе шаўковыя.
Ох, як будзеш ты молад ехаці —
Зазвіняць масты з тонкае трасты,
Заззяюць слупы ўсе залатыя,
Загарацца свечы ўсе васковыя,
Замахаюць махры ўсе шаўковыя.



Ой, рана, рана куры прапелі,
Добры вечар, шчодры вечар! *
А раней таго Іванька ўстаў,
Іванька ўстаў, тры свячы ссукаў,
Тры свячы ссукаў ды ўсе й папаліў:
Адну спаліў, умываючысь,
Другую спаліў, абуваючысь,
Трэцюю спаліў — па двару пахадзіў,
Па двару пахадзіў, братцаў пабудзіў:
«Уставайце, братцы, коней сядлаці,
Коней сядлаці, сястру выпраўляці.
Едзь, мая сястра, да з майго двара».



Цераз вішняў сад да й дарожанька,
А тудой ішла божая маці,
Божая маці сына шукаці.
Да й сустракае тры каляднічкі.
«Вы, каляднічкі, мае дачанькі,
Ці не бачылі майго сыночка?»
Адна кажа: «Мы не бачылі».
Другая кажа: «Чуць не чулі».
Трэцяя кажа: «Не таімося,
Не таімося да й прызнаймося.
А твой сыночак у караля служыць,
У караля служыць — дорага бярэ:
А што месяца — рублей тысяча,
А што ваўторка — то й саракоўка,
А што панядзелка — харошая дзеўка.
А што чацьвярга — дайце пірага,
А што пятніцы — мы, калядніцы.
Ды за тым словам да й бывай здароў,
Жыві ў радасці хоць да старасці,
Дэй з прыяцельмі з добрымі людзьмі!»



Не кур, не вей, мяцеліца, каляда,
Не завявай сцежак-дарожак, каляда.
Да мамкі іду — вяночак ўю, каляда,
Ад мамкі іду — развіваю, каляда,
Па кветачцы раскідаю, каляда.
Дзе сцежачка, там кветачка, каляда,
Дзе кусточак, там вяночак, каляда,
Дзе дарожачка, там слёзачка, каляда.



«Чаго ты, дубе, зялёны развіўся?
Святы вечар вам, людзям добрым! *
Чаго ж, Іванка, молад жаніўся?»
— Ой, не сам жа я молад жаніўся.
Жанілі мяне ацец і маці,
Ацец і маці, сёстры і брацці
І з суседзямі, і з прыяцелямі.



Ой, стаяў кося пад ігрушаю,
Гаварыў кося ды з ігрушаю:
«А і быў жа я пад ліхім панам,
Пад ліхім панам, пад Іванькаю.
Настаяўся я пад шуметнікам,
Кармілі мяне ды саломаю,
Паілі мяне балотнай вадой.
Мае капыцікі не падчышчаны,
А мой хвасточак не растрэпаны,
Мае вочанькі, як у securityванькі».
А стаяў кося пад ігрушаю,
Гаварыў кося ды з ігрушаю:
«А і быў жа я пад добрым панам,
Пад добрым панам ды пад Міхасём.
Настаяўся я да на стаенцы,
Кармілі мяне сенам, аброкам,
Паілі мяне ды з крынічанькі.
Мае капыцікі, як талерачкі,
А мой хвасточак, як мяцёлачка,
Мае вочанькі, як звёздачкі».



А ў ляску, ляску, калядо, калядо,
На жоўтым пяску, калядо,
Іванко хадзіў, калядо, калядо,
Коніка паіў, калядо.

Марылька прыйшла, калядо, калядо,
Вады набрала, калядо.
Марылька душа, калядо, калядо,
Я дзіво скажу, калядо:
«На Пятра рано, калядо, калядо,
Да Дунай замёрз, калядо.
На куццю рано, калядо, калядо,
Ружа расцвіла, калядо».
— Іванко душа, калядо, калядо,
Няпраўда твая, калядо!
На Пятра рано, калядо, калядо,
Ружа расцвіла, калядо.
На куццю рано, калядо, калядо,
Да Дунай замёрз, калядо.


У лесе, лесе ўсё на верасе,
А там Лёшачка каровы пасець,
А Зосечка абед нясець.
Селі абедаць — разгукаліся,
Разгукаліся і рассмяяліся.
«А ці знаеш, ведаеш, Лёшанька,
Што ў пятровы пост Дунай замёрз».
— Чаму я не знаю, чаму не ведаю,
Я ж там і быў — коніка паіў,
Конь вады не піў — лёду не прабіў.


Скача гарабейка да па сметнічку,
Калядо, калядо *.
Кліча дзевачак на гулянейко:
«Вам, дзевачкі, скрыпкі іграюць,
Вам, малодачкі, дзеткі плачуць,
Вам, малодачкі, ды не волейка.
Вы, дзевачкі, на гулянейко ідзіце,
Вы, малодачкі, дома сядзіце,
Дома сядзіце, кудзельку прадзіце.
А вы, дзевачкі, замуж ідзіце».


А й судзі божа, нам каляд даждаць,
Ой, люлі, рана, нам каляд даждаць.
Як пайду малада я й на йгрышча,
Ой, люлі, рана, на йгрышча.
Паціхусеньку, памалюсеньку,
Ой, люлі, рана, памалюсеньку.

Цёплую шубучку падымаючы,
Ой, люлі, рана, падымаючы,
Залатыя ключыкі прыціскаючы,
Ой, люлі, рана, прыціскаючы.
Каб мая шубачка ды не шумнула,
Ой, люлі, рана, не шумнула,
Залатыя ключыкі ды не бразнулі,
Ой, люлі, рана, ды не бразнулі.
Ой, каб не пачуў мой ліхі свёкар,
Мой ліхі свёкар, свякроў горшая.
Дый каб не сказалі свайму сыну,
Дый свайму сыну, а майму мужу.
Мой нялюбы муж, як мяцеліца,
Ой, люлі, рана, як мяцеліца.
Ён паб'ець мяне за бяздзеліца,
Ой, люлі, рана, за бяздзеліца.
Не хадзі, шэльма, ты на ігрышча,
Ой, люлі, рана, на ігрышча.
Не гуляй, шэльма, ты з рэбятамі,
Ой, люлі, рана, ты з рэбятамі
Ні з халостымі, ні з жанатымі,
Ой, люлі, рана, ні з жанатымі.
А гуляй, шэльма, ты з дзявіцамі,
Ой, люлі, рана, ты з дзявіцамі
Ды з маладымі маладзіцамі,
Ой, люлі, рана, маладзіцамі.



А калядачкі, нашы лежачкі,
За вароцікі — чорны сцежачкі.
А ў варот вярба калыхалася,
Дачка к татачку прыбіралася.
І сама ідзе, і мужа заве,
І мужа заве, і каня прося.
Муж і сам не йдзе, і каня не дае.
«Прападзі, мужа, з вараным канём,
З вараным канём і з новым дваром.
Я к свайму татачку — хоць пяхотаю,
Хоць пяхотаю, сваей ахвотаю».



Як пашла каляда
Ды й па вуліцы гуляць,
Ды й па вуліцы гуляць,

Сабе адзежу здабываць.
Каляда, калядзіца,
Добрая маладзіца!
Як пашла каляда
Ды й к Пяклютні пад вакно,
А Пяклютка малада
Ей рубашачку дала.
Каляда, калядзіца,
Добрая маладзіца!
Як пашла каляда
Ды й к Рыпуткі пад вакно,
А Рыпутка малада
Ей хусцінку дала.
Каляда, калядзіца,
Добрая маладзіца!
Як пашла каляда
Ды й к Аўгінні да двара,
А Аўгіння малада
Ей прысмакаў дала[1].
Каляда, калядзіца,
Добрая маладзіца!



Зялён дубочак сам развіваўся,
Шчодры вечар людзям добрым!*
Бацька дачкою сам набіваўся:
«Вазьміце дочку, дам віна бочку,
Замест пярыны дам мех мякіны,
Замест каровы дам куль саломы,
Няхай жывуць яны здаровы».



А я табе, дзядзечка, пакалядую,
Святы вечар *.
Памрэ дзядзінка — возьмеш другую.
А табе, дзядзечка, пад акном ямачка,
У ямку ўпадзеш, навек прападзеш.
Не даў блінца — хай здохне аўца,
Не даў сала — каб свіння не ўстала!



Ходзя Ілля на Васіля,
Нося пугу драцяную,
Драцяную, плеценую.

[1] *Відавочна, песня можа мець працяг у такім жа плане, толькі з новымі імёнамі.*

Дзе пугаю махне —
Там жыта расце.
А дзе не махае —
Там жыта ўлягае.
Няхай табе, дзядзечка,
Бог памагае!

Скарэйце дарыце,
Нас не марыце.
Кароткія світкі —
Памерзлі ў нас лыткі,
Кароткія кажушкі —
Памерзлі ў нас петушкі.

❖ Ой, забіў дзед свінку —
То ў лоб, то ў лысінку.
«Не кажыце, дзеткі, бабцы —
Дам вам па каўбасцы».
Узялі дзеткі ды сказалі,
Таго дзеда і звязалі.
Пад печ падкацілі
І ступаю закацілі.

❖ Калядачкі, калядкі,
Да ў ліпнічку прынадкі.
Да прынадачка дзевачка,
Да прынадзіла хлопчыка:
Дыбком, дыбком цераз сені,
Да к хлопчыку на калені.

❖ Калядзін, калядзін,
Я у бацькі адзін.
Кароценькі кажушок.
Дайце мне піражок,
А наверх каўбасу,
А то хату разнясу.

❖ Шчадрую, шчадрую,
Каўбасу я чую.
Дайце каўбасу,
Дамоў панясу.

Дайце другую —
Толькі даўгую.
Дайце трэцюю —
Хоць авеччую.



Шчодры, бодры,
Пабіў дзед вёдры,
А баба гаршкі,
А свіння мяшкі.
Не дала ты сала —
Штоб свіння не ўстала.



Ой, шчодзер, шчодзер,
Твой бацька злодзей:
Украў кабылу,
Павёў да Капылю.
Бацьку дагналі,
Кабылку забралі,
А яго самога
Ў турму пасадзілі,
Ў турму пасадзілі,
Бізунамі білі.



Ой, шчодзер, шчодзер,
Твой бацька злодзей:
Кабылку украў
Ды пад печ схаваў.
Пад печчу лупіў,
Сабе боты сшыў.



Шчадрыначка шчадравала,
Што ты, баба, гатавала,
Што варыла, што пякла —
Давай зразу да вакна!



Ты хадзі ж, мужычок,
Даставай пятачок
Дзецям на арэшкі,
Сабе на пацешкі!

❖ Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка
Бітая, таптаная,
А я ў мамкі каханая.
Хто Цярэшку жаніць будзе,
Той ў золаце хадзіць будзе.
Я Цярэшку жаніць буду,
Я ў золаце хадзіць буду.

❖ Пайду я па гародзе,
Па дзявоцкім карагодзе
Арэшкі лускаючы,
Дзядулькі шукаючы.
Ах, мой ты дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.
Я ж цябе люблю, люблю,
Я ж цябе злаўлю, злаўлю.

❖ Пайду я у сад, у сад,
Мой дзедзька вусат, вусат.
Вусікі сівенькія,
Яны ж мне міленькія.
Хоць галоўка лысая,
Яна ж мне памыслая.

❖ А здайся, дзедзька, здайся,
На лепшых не заглядайся.
Лепшыя з ума звядуць,
Боцікі з ножак здзяруць.

❖ Пад акном рэчачка цякла,
Я ад свайго дзедзькі ўцякла.
Уцякала — наругнулася,
Бегла — спатыкнулася.

❖ А ці мой, ці не мой будзеш,
Нашто маё сэрца нудзіш?
Не будзеш ты — будзе другі,
Не надавай сэрцу нуды.

❋ Дзевачкі, у полі дымна,
Не стала дзядулькі відна.
Хоць жа я у дым пайду,
Усё роўна дзядульку знайду.

❋ Шэрая зязюлечка
У саду кукавала,
Усю гэту нядзелечку
Дзядульку выбірала.
Шэрая зязюлечка
Па саду паляцела,
Далі мне дзядулечку,
Якога не хацела.

❋ Цярэшку бяда стала:
Дзе ж яго жана спала?
Ці ў хаце пад лаўкаю —
Зарасла мураўкаю?
Ці ў сянёх пад загнетам —
Зарасла жоўтым цветам?

❋ Цярэшка валочыцца,
Жаніцца не хочацца.
Жаніся, мой міленькі,
Жаніся, удаленькі.
Бяры тую ключніцу,
Што нашу разлучніцу,
Што ключы расключала,
Нас з табою разлучала.

❋ Цярэшка валочыцца,
Жаніцца не хочацца.
Цярэшцы бяда стала:
З кім яго жонка спала?
Ці ў полі пад ліпкай
З маладым Піліпкай?
Ці ў полі пад яворам
З маладзенькім Ягорам?
Ці пад гаем зеляненькім
З казаком маладзенькім?



Паціху, музыка, іграй,
Паціху, дзядулька, ўцякай.
Я ўжо захадзілася,
Я ўжо замарылася.
Хадзіла па садочку,
Ступала па слядочку.
Слядочак абступіла,
Дзядульку злавіла.



Цярэшка, цяху, цяху,
Што ў цябе ў мяху, мяху?
Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі,
Зялёныя кутасачкі —
Дзеўкам на прывязачкі.



Пад кутом, пад кутнічкам
Далі мне паскуднічка.
Ні мне з ім Цярэшку жаніць,
Ні мне яго ў ваду тапіць.



Божа ж мой, вяліка бяда:
Далі мне старога дзяда,
Старога, нягожага,
Дужа непрыгожага.
А ні з ім у пір пайсці,
А ні з ім дома быці.
У пір пайсці — сварыціся.
Дома быць — пабіціся.



Пайду я па гароду
У дзявоцкім карагоду
Арэшкі лускаючы,
Дзядульку шукаючы.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Нарайце дзядульку вы мне.
Мой дзедзька далёка відаць:
На руках пярсцёнкі блішчаць,
На грудзях цэпачка з часоў —
Мой дзедзька гуляці пайшоў.

❋ Пастаўлю рутачку на акне,
Дайце дзядулечку па мне.
Зняла я рутачку з акна —
Далі дзядулечку, як я.

❋ На вакне рутачка цвіла,
Я ад дзядулькі ўцякла.
Цяпер я й пабегаю,
Як рыбка па берагу.
Цяпер я й пагуляю,
Як рыбка па Дунаю.

❋ Ельнічак зялёненькі,
Мой дзядок малодзенькі.
Ельнічак кудравенькі,
Мой дзядулька бравенькі.

❋ Пайду ў зелен сад глядзець,
Як мой міленькі арэць:
Сошачка ліповая,
Пужачка шаўковая,
Конік вараненькі,
А сам маладзенькі.

❋ Божа мой, вяліка бяда:
Далі мне крутога дзеда.
А што ж рабіць буду?
Як я яго лавіць буду?
Не бяжы, дзядулька, бягом,
Запала дарожка снягом,
Каб я не марылася
І не паваліласся.
Хоць жа я й павалюся —
А за дзедам паганюся.

❋ Не ўцякай, дзядулька-прахвост,
Улаўлю цябе за хвост.
Не ўцякай, дзядулька-шарсцень,
Не турбуй маіх касцей.

Хоць жа я павалюся,
А за дзедзькам паганюся.
Хоць я ножаньку зламлю,
Але дзядульку злаўлю.

❋ А дайся, дзядулька, дайся,
На другіх не заглядайся.
А ці я не пралінка?
А ці я не ткалінка?
Устану ранюсенька,
Напраду танюсенька,
Пастаўлю красёнцы ў кутку,
Табе кашульку адатку.

❋ Пад вакном ручэй пацёк,
Ад мяне мой дзедзька ўцёк.
Не ўцякай, дзедзя-лябедзя,
Пашыю шубу з мядзведзя.

❋ На вакне рута зялёна,
Я з сваім дзедзькам няроўна:
Ён росту вышэйшага,
Гонару быстрэйшага;
Я росту ніжэйшага,
Гонару цішэйшага.

❋ Пастаі, дзедзя-лябедзя,
Будзем піць віно ў абедзе.
А ці дзедзька мой баіцца,
Што мы будзем з ім жаніцца?

❋ Божа мой, багата хата,
Далі мне дзеда-салдата,
Што ж я з ім рабіць буду,
Як яго я лавіць буду?
Ён ідзе, аж полы гнуцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Біцеся не біцеся,
Я буду любіціся.

❖ Пайду я ў Цярэшку,
Вазьму я качарэжку,
Паганю дзеда на піва,
Нараблю дзевачкам дзіва.
«Нашто ты ў карчму хадзіў,
Нашто пшанічку прапіў?
Я ж бы піражок спякла,
Лепшага б дзеда знайшла».

❖ Пайду я ў садочак,
Сарву я васілёчак.
Васілёчак сіненькі —
Мой дзядулька міленькі.
Васілёчак найсінейшы —
Мой дзядулька наймілейшы.

❖ Пайду я ў зялён садок,
Сарву руцяны вянок.
Маю хустачку ўвязаць,
Не буду мамачцы казаць.
Скажу, мой дзядок, табе —
Ці будзеш любіць мяне?

❖ А ў саду зялёненькім
Зязюля вярцелася,
Далі мне дзядулечку,
Каго мне хацелася:
А ў беленькай рубашачцы,
А ў чорненькай фуражачцы,
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглядаюцца.

❖ Пайду я па гародзе
У дзявоцкім карагодзе
Хустачкай махаючы,
Дзядульку шукаючы.
«Дзядулька, як маешся?
Чаму не вітаешся?»
— Дай божа, пазнаціся,
З табой павітаціся.



Пайду я па гародзе
У дзявочым карагодзе
Арэшкі кусаючы,
Дзядульку шукаючы.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Скажыце праўдачку вы мне.
Дзе мой дзядулька ходзіць?
Каго ён сабе ловіць?
За кім ён ганяецца,
Ад мяне хаваецца.
А ці ён у піру спіўся,
А ці ён ад мяне скрыўся.



Здайся, дзядулька, здайся,
На лепшых не заглядайся.
А ці я не пральнічка?
А ці я не ткальнічка?
Сем нядзель пачынак прала,
Тры гады красенцы ткала.
Пастаўлю кросны на печы,
Адатку кашулю на плечы
З чырвоным каўнерыкам,
Каб звалі жаўнерыкам.



Пайду я на ток, на ток,
Найду там курэй куток.
Ўсе курачкі чорненькія,
Петушка ніводнага.
Цішэй, курачкі, не сакачыце,
Мне галовачкі не клапаціце.
Прадам я рэшата пер'я,
Куплю вам петушка-пеўня.
Прадам я рэшата яец,
Куплю такога, што пяець.
Бадай той пятух прапаў,
Як ён мой агарод скапаў.
Бадай той пятух зблудзіў,
Што мяне раненька будзіў.



Паіла коніка ў вядрэ,
Ўвідзела дзядульку на дне.
Кінула коніка паіць,

Пабегла дзядульку лавіць.
Не ўцякай, дзядулечка,
Не ўцякай, зязюлечка.
А ці ж я не праллейка?
А ці ж я не ткаллейка?
Устану ранюсенька,
Напраду танюсенька.
Пастаўлю красёнцы ў кутку,
Я табе штонікі адатку
Тонкія-таненькія,
Белыя-бяленькія.
Ушыю гузік залаты,
Каб быў дзядулька малады.



Пайду я у ток, у ток,
Найду я курэй куток.
Курачкі кудак-кудак,
Мой мілы лайдак, лайдак.



Каб цябе кадук задраў,
Як ты мой хвартух падраў.
Гэта ж мне татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў.
А мамуся пашыла,
Каб сто год я насіла.



Пайду ў поле я глядзець,
Як мой дзядулька арэць:
Кабыла бясхвостая,
Баразна няпростая.



«Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая».
— Дзядулька, карольчык ты мой,
Надтачы падольчык ты мой. —
«А хоць я штаны ўкарачу,
Бабульцы спадніцу надтачу».

❖ Паслухай, дзядулька, мяне,
А што я скажу табе:
«Ты пойдзеш трэсачкі сячы,
А я пайду хрушчэй пячы».

❖ Белая бярозачка,
Ой, да нізу клоніцца.
Пусціце мяне, дзевачкі,
За мной мілы гоніцца.

❖ Чую, скрыпачка іграець,
А дзядулька не пускаець.
«Пусці, пайду я па сена».
Выйшла на вулку і села.
Віджу: дзядулька ідзець,
А ззаду бізун нясець.
«Не бія, дзядулька, болей,
Не пайду без тваёй волі».

❖ Як пайду я каля саду
Дзядульку на дасаду.
Я ж яму наперад зайду,
Красны цвет у рукі даю.
«А здайся, дзедзька, здайся,
На другіх не заглядайся.
А ці я не хатніца?
Ці я не работніца?»

❖ Маю я у бога надзею:
Прыдзіць мой дзедзька ў нядзелю
Не у гэту — дык у тую.
Я яму абед згатую.
Перац у ступе таўчэцца,
Кабан у печы пячэцца.
Перац на прыправачку,
А кабан у стравачку.

❖ Не ўцякай, дзядулечка,
Я твая зязюлечка.
Хоць жа я маленькая,

Ды з табой роўненькая.
Хоць жа я расточкам мала,
Ды з табой у раду стала.

❖ Мой мілы бяжком бяжыць —
Аж пад ім зямля дрыжыць.
А я памалюсеньку —
Я ж яму мілюсенька.

❖ Пайду я ў лавачку,
Набяру паркалечку.
Пашыю кашулечку
Я свайму дзядулечку
З чырвоным каўнерыкам,
Каб звалі жаўнерыкам.

❖ Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз двор дарожачка.
Тая дарожачка, як ток.
Куды мой дзядулька уцёк?
А я тут жа ўхаплюся
Ды за дзедзькам паганюся.

❖ Дзевачкі, мая нязмога:
Далі мне дзеда старога.
Ў яго ногі крывыя,
Ў яго боты чужыя,
Шапка пазлачоная
Не свая — пазычоная.

❖ Хто гэту гару капаў,
Чорну сцежачку таптаў,
Да Манечкі ходзячы,
Падарачкі носячы:
Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі,
Садовыя яблычкі.
Гэта не на жартачкі.
Лясновыя арэшачкі —
Яны не на смешачкі.



Мой жа ты дзядулечка,
А я твая бабулечка.
Дзядулька пяшком, пяшком,
Запала сцежка сняжком.
А я сняжку не баюся,
Ў чаравічкі абуюся.
Чаравічкі казловыя,
К Цярэшачцы гатовыя.



Пастаі, дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.
Чаго ж ты хаваешся?
Ці ты мной стыдаешся?
Пастаі, дзядулечка,
Болей не стыдайся,
Ад мяне, малодзенькай,
Болей не хавайся.



Ішла я каля ставу—
Мой дзедзька рыбачку дастаў.
Смачная рыбачка шчучка,
Мяккая дзедзькава ручка.
Смачная рыбачка акунь,
Скажы, мой дзедзька: «Адкуль?»
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзедзька, хоць раз.



А божа мой, мая нязмога:
Далі мне дзеда старога.
Што я з ім рабіць буду?
Дзе я яго дзяваць буду?
Пайду ў Дунай па ваду—
Дзеда з сабой павяду.
Пайду ў ток па мякіну—
Дзеда дома не пакіну.
Пайду карову даіць—
Дзед за мною бяжыць.
Як пушчу даёначку
Дзеду у галёначку:
«Мой жа ж ты Давыдзіла,
Я цябе не відзела».



А божа, мой божа, бяда:
Далі мне старога дзяда,
Старога-старлівага
І таго журлівага.
На вуліцы скрыпка йграіць —
Стары гуляць не пускаіць.
За мной, маладой, ідзець,
У руках бізун нясець.
Я ў яго прасілася,
Я ў яго малілася:
«Не бі, дзядулька, болей,
Не пайду без тваёй волі».



Паціху, скрыпачка, іграй,
Памалу, дзядулька, ступай,
Каб я не ўмарылася,
Каб не павалілася.



А здайся, дзядулька, здайся,
На лепшых не заглядайся.
А ці я не праллейка?
А ці я не ткаллейка?
Устану ранюсенька,
Напраду танюсенька,
Асную красёнцы ў таку,
Пастаўлю на печы ў кутку,
Табе штонікі адатку
Тоненькі-танюсенькі,
Беленькі-бялюсенькі.
На моры бяліліся,
У лесе сушыліся,
У маглях качаліся,
Дзядульку дасталіся.



Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, не йдзець:
«Не вядзі, мой дзедзечка,
Не вядзі, лябедзечка!
Пастаўлю красенцы ў кутку —
Табе кашульку вытку.
Выткаўшы, бяліць буду,
А пасля сушыць буду».



Паддайся, дзедка, паддайся,
На другіх не заглядайся.
Другія з ума звядуць,
З ножак боцікі здзяруць.
Ў садзі чырвоныя вішні —
Дзядулька па маей мыслі.
Паддайся, дзедка, паддайся,
На лепшых не спадзявайся.
Хоць жа я не ладная —
Хустачка ядвабная.
Хоць жа я не пральнічка,
Хоць жа я не ткальнічка,
Пастаўлю красенцы ў кутку,
Дзядульку штонікі вытку
Тонкія-таненькія,
Белыя-бяленькія.



«Дзядулька, папуць-папуць,
Не ўмееш бабульку хапнуць.
Не ўмееш скоранька хадзіць,
Не можаш бабульку злавіць».
— Дзевачкі, сястрыцы мае,
Злавіце бабульку вы мне.



Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзедзечку злавіць.
Божа мой, ножачкі баляць,
Як жа мне дзедзечку спаймаць.
Хоць жа я павалюся,
За дзедзькам паганюся.
Хоць жа я ўдаруся,
Ад дзеда не астануся.
Хоць жа я ножачку зламлю,
А дзядульку злаўлю.



А здайся, дзедзя-лябедзя,
Пашыю шубу з мядзведзя.
Каўнярок шатковенькі,
Мой дзедзька рысковенькі.



Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка.
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Я ў мамкі расту, расту,
Выйду я за старасту.
Стараста вялік, багат,
Купіць мне шубу, халат.
У халаце — жыта жаць,
А у шубе — панаваць.



На вуліцы гуслі граюць,
Мяне стары не пускаець.
Пайду гусялькі глядзець —
За мной стары дзед ідзець,
У руках бізун нясець.
Стаў ён па плечыках мне сеч.
Я ў яго прасілася,
Я ў яго малілася:
«Ой, не бі, дзядулька, болей,
Не пайду без тваёй волі».



Быстрая рэчачка цякла,
Я ад дзядулькі ўцякла.
Цякла — скалыхнулася,
Ўцякла — наругнулася.



Пайду я каля елі —
Там мілага ваўкі з'елі.
Пайду я каля тросці —
Цягаюць мілага косці.



«Царыца, бабка, царыца,
Каротка твая спадніца».
— Харош, мой дзедка, харош,
Парваны ў цябе калош.



Пайду я праз тын глядзець,
Як мой дзядулька арэць:
Конік вараненечкі,

Сам ён маладзенечкі.
Пужанка пяньковая,
Шапачка шаўковая,
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглядаюцца.
Я тыя кудры разаўю,
Я тых дзевак адаб'ю.



Цярэшка, Цярэшыла,
На печы не ўлежыла.
Кажушком накрылася,
Ды з печы зваліласся.
Цярэшка, каху-каху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.



На гары агонь гарыць,
Дзядульку жывот баліць.
Ходзіць ён сагнуўшыся,
У лапцікі абуўшыся.
Было гарэлкі не піць,
Было боцікі купіць.



Выйду, выйду ў агарод,
У дзявоцкі карагод
Арэшкі шчыпаючы,
Дзядульку, шукаючы.
Арэшкі цатуючы,
Дзядульку цалуючы.



На двары сняжок, сняжочак,
А каля хаты слядочак,
А хто яго наслядзіў?
Там Іванька хадзіў.
Іванька гару капаў,
Чорную сцежку таптаў
Да Манечкі ходзячы,
Гасцінчыкі носячы.
Стук, стук у ваkenачка:

«Ці дома паненачка?
Адчыні, дзяўчыначка,
На табе гасцінчыка:
Шпілечак, іголачак,
Залаты пярсцёначак».



«Пайду я праз тын глядзець,
Як мой дзядулька лапці пляцець:
Стуліць строчачкі, мігціць,
Паложыць галоўку ды спіць».
— Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець:
Адцягне нітачку — мігціць,
Паложыць ручачкі — ды спіць.



«Пайду я праз тын глядзець,
Як мой дзядулька арэць:
Сошачка яловая,
Упражка шаўковая,
Конік варанюсенькі,
Дзедзька маладзюсенькі.
Сошачка зламалася,
А ўпражка парвалася».
— Пайду на вулку глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Тоненька-танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.
А прадзець, прадзець — мігціць,
Пад лаўку праснічку — і спіць.



Пайду ў балота глядзець,
Як дзедзька сена грабець:
Узлез на корч і крычыць,
Баіцца ногі замачыць.



«Хадзі, хадзі, яшчар,
Гэй, наш, наш!
На залато крэсла,
Гэй, наш, наш!
Бяры сабе панну,
Гэй, наш, наш!

Каторую любіш,
    Гэй, наш, наш!»
— Люблю ж я Ніначку,
Што ў руцяным вяночку,
Што ў шаўковым паясочку. —
«Яшчар, яшчар, паночак,
Проша аддаць вяночак!
Ой, я ж яго руціла,
Пару злотых плаціла.
Пару злотых чырвоных,
Дзве сукенкі зялёны,
Два конікі-рыжакі,
Два музыкі-разакі,
Дзве шабелькі ясныя,
Дзве паненкі красныя».

❖ Сядзіць, сядзіць яшчар, ладу, ладу,
Ў арэхавым кусце, ладу, ладу.
Арэшыкі лушча, ладу, ладу,
Жонку выбірае, ладу, ладу.
Бяры сабе панну, ладу, ладу,
Яна невялічка, ладу, ладу,
Ў новых чаравічках, ладу, ладу,
Ў бялёвых панчошках, ладу, ладу,
У шаўковай хусце, ладу, ладу.

❖ Сядзіць яшчар на куце,
Дзяржыць вянок у руцэ.
Яшчар, мой паночак,
Аддай мой вяночак.
Я вяночак збірала —
Ручкі-ножкі калола.
Ручкі-ножкі падабіла,
Свайго вянка не знасіла.

❖ Сядзі, сядзі, яшчар,
    Гэй, нам, нам!
Да ты пераяшчар,
    Гэй, нам, нам!
На залатым крэсле,
    Гэй, нам, нам!
А мы гарох лушчым,
    Гэй, нам, нам!

Ў каробачку сыплем,
Гэй, нам, нам!
Каробачка поўна,
Гэй, нам, нам!
Павязём да Коўна,
Гэй, нам, нам!
Гарох прадаваці,
Гэй, нам, нам!
Дзевачку купляці,
Гэй, нам, нам!
Бяры сабе панну,
Гэй, нам, нам!
Ці за белу ручку,
Гэй, нам, нам!
А ці за хустачку,
Гэй, нам, нам!
Яшчар сазнаў панну,
Гэй, нам, нам!
Не ўзяў за ручачку,
Гэй, нам, нам!
А ні за хустачку —
Гэй, каляда!





## ПЕСНІ НА МАСЛЕНІЦУ

Песні гэтага зімовага свята ў цыкле беларускай каляндарна-абрадавай паэзіі займаюць параўнаўча сціплае месца. Абрады, якія ў глыбокай старажытнасці вырконваліся на масленіцу, уяўлялі сабой магічнае завяршэнне зімы, і таму асноўным зместам іх было культавае ўшанаванне сонца, яго цяпла, якое хутка прыйдзе з вясною. Але ў сучасных запісах песень водгаласу язычаскай даўніны амаль не чутно. Больш-менш выразна гучыць услаўленне масленічнай абрадавай сытасці, якое таксама мела калісьці магічны сэнс («А мы масленку дажыдалі, гару сырам набівалі, зверху маслам палівалі...»). Асноўныя матывы песень цыкла— замужжа, шлюб, сямейнае жыццё. Тлумачыцца гэта, відавочна, тым, што ў перыяд ад каляд і да «запустаў» (да пачатку «вялікага посту»), так званы «мясаед», лічыўся вельмі зручным для шлюбаванняў, для вяселляў. Святкаванне масленіцы з яе гульнямі і забавамі вымагала вясёлага настрою, таму і многія песні маюць жартоўны характар.



У нас сягоння масленіца,
Прыляцела ластавіца.
Сядзела на тыну, на калу,
Кідала масла па каму.
А хто ўхопіць — так таму.
Малада дзяўчына схапіла,
Ды ў чарапочку стапіла,
Свайго мілага паіла:
«Пі, мой мілы, хоць да дна,
А я ў цябе буду адна».



А ўжо ж, дзеўкі, масленка, масленка,
А ўжо ж, дзеўкі, масленка, масленка,
Прыляцела ластаўка, ластаўка,
Кідала сыры на палу, на палу.
А хто ж ухваціць, дык таму, дык таму.
Дзеўкі сыры хваталі, хваталі,
Яны й хлопчыкаў угашчалі, угашчалі.



Сягоння масленіца,
Вылецела ластавіца
З цёмнага луга на поле.
Садзіцеся, малайцы, на коней
Ды злавіце ластавіцу.
Запытайце ў ластавіцы,
Што ў Кіеве дзеецца:
Дзевяць малайцоў жэніцца,
Дзесятая панна замуж ідзе.



Ой, топчым мы снег, топчым,
Што з яго мы вытапчым?
Траўку-мураўку на вясну,
А ціхае жыта на лета.
Траўку-мураўку коні з'ядуць,
А ціхае жыта дзеўкі сажнуць.



А мы масленку дажыдалі
І ў ваконца паглядалі,
Гару сырам набівалі,
Зверху маслам палівалі.
А ад сыра — гара сыра,

А ад масла — гара ясна.
А на двары снежкі сыплюць,
А нас мамкі дамоў клічуць.
Нам дамоўкі не хаціцца,
Нам хаціцца пракаціцца.



Наша масленіца гадавая,
Яна госцейка дарагая.
Яна пешаю к нам не ходзіць —
Усё на коніках раз'язджае.
Штобы конікі былі вараныя,
Штобы слугі былі маладыя.



Масленіца-каўзуха,
Масленіца-каўзуха,
Чаму не вялася да духа?
Чаму не вялася да духа?
Чаму адна нядзелька,
Чаму адна нядзелька
І тая караценька,
І тая караценька?
Караценька, зусім мала,
Караценька, зусім мала.
Я ж нічогачкі не прыдбала,
Я ж нічогачкі не прыдбала.
Масленіца, масленіца,
Масленіца, масленіца.



А ў нас сягоння масленіца, масленіца,
Вылецела з кустоў ластавіца, ластавіца.
А вы, малайцы, не стойце, не стойце,
Выганяйце з куста ластавіцу, ластавіцу.
Адагнаўшы — пабіце, пабіце,
А пабіўшы — пытайце, пытайце,
Што ў нашым сяле дзеецца, дзеецца:
Дзевяць малайцоў жэняцца, жэняцца,
Бяруць яны дзевак — паненак, паненак.



На вуліцы ля варот
Сядзіць баб карагод.
Адна ў адной пытаюць,

Аб нявестках гукаюць.
Адна кажыць: «Ляніва».
Другая кажыць: «Драмліва».
А трэцяя «Шэльма была:
Запаліла клець і проч пашла.
А ў той клеці багацце было,
Шасток ануч плацця было,
Камарова сцягно мяса вісела,
І ў сцяне іголка тарчэла —
І ўсё гэта згарэла, згарэла.
Каб мая нявестка акалела!»



А на гарэ, на гарэ
Дзеўкі каліну ламалі,
Дзеўкі каліну ламалі,
З каліны мост масцілі.
А там ехаў дваранін
На коніку вараным,
На сядзельцы залатым,
З каліны мост абламіў.
Яго дзевачкі дагналі —
Дый коніка адабралі.
Селі яны у раду,
І прапілі на мяду,
А сядзельцы на гарэлцы,
А струменне на піва —
А хлопчыкам на дзіва.



На гарэ зайка туліцца,
На яго дзеўкі сварацца.
«Не сварыцеся, дзевачкі,
Я ў вашым садзе не бываў,
Салодкіх вішань не шчыпаў.
Толькі адну адшчыкнуў,
І тую пакінуў,
І пясочкам засыпаў,
І лапачкай затаптаў».



Зрабіў пяхцер хлопцам печ,
Хлопцам печ, хлопцам печ.
А сам пайшоў па ваду,

Па ваду, па ваду,
Разбіў ногу на ляду,
На ляду, на ляду.
Прыйшоў ў хату — нага баліць,
Нага баліць, нага баліць.
Павярнуўся — печ гарыць,
Печ гарыць, печ гарыць.

«А вы, дзевачкі, тушыце,
Тушыце, тушыце.
Кубкамі ваду насіце,
Насіце, насіце».
А ў кубачках вада ёсць,
Вада ёсць, вада ёсць.
А ў дзевачак праўда ёсць,
Праўда ёсць, праўда ёсць.

«А вы, хлопчыкі, тушыце,
Тушыце, тушыце,
Рэшатам ваду насіце,
Насіце, насіце».
А ў рэшаце вады нет,
Вады нет, вады нет.
А ў хлопцаў праўды нет,
Праўды нет, праўды нет.



На вуліцы дзеўкі гулялі,
Мяне, маладую, гукалі.
У мяне, маладое, муж ліхі:
Сам на вулку не пойдзе,
Мяне, маладзеньку, не пусціць.
А хоць пусціць, то позненька:
Усе дзевачкі розненька,
Звонкія музыкі спаць паляглі.
Выйду на вулку, запяю.
Я ўсіх дзевачак сабяру,
Звонкіх музыкаў панайму.
Буду гуляць да свету
І да позняга абеду.
А дамоў ісці баюся,
Дзевараганьку кланюся:
«Дзевараганька большы брат,
Завядзі мяне дадому.
Пашыю кашулю да долу,
Дам табе хусту шаўкову,
Дам табе персцень залаты».



«Яблынь мая, яблынь садавая,
Дакуль будзеш у полі стаяці?»
— Стаю гадок, стаю другі,
На трэці гадок у сады пайду.
У сады пайду — цвісці буду,
Цвісці буду, яблык раджу. —
«Дзевачка, дзевачка маладая,
Дакуль будзеш у таткі жыці?»
— Жыву гадок, жыву другі,
На трэці гадок замуж пайду.
Замуж пайду, сына раджу,
Сына раджу — Васілёчка,
Дачку раджу — Настасечку.



Крутное калясо
Круціцца харашо.
Мы ж яго пярэймем
У Васількі на дварэ,
У Васількі на дварэ,
У Валечкі на касе.
У Валечкі на касе,
На русым валасе.
На русым валасе,
На белым платочку.
На белым платочку,
Ў вішнёвым садочку.



На гарэ елка сцеліцца, сцеліцца,
Каля яе зайка туліцца, туліцца.
Дзеўкі зайку злавілі, злавілі,
На абед сабе зварылі, зварылі.
Дзеўкі селі за стол, за стол,
Мальцы селі пад сталом, пад сталом.
Дзеўкі ядуць мяса яго, мяса яго,
А мальцы ды косці яго, косці яго.
Дзеўкі ядуць — смяюцца, смяюцца,
А мальцы ядуць — грызуцца, грызуцца.



Ноч мая цёмная,
Свякроўка мая грозная.
Шлець мяне, маладу,
З поўначы па ваду.
А ні пятух не пяе,

А ні гусак не крычыць,
Толькі адзін ваўчышча
За гарою вые.
Адзін за гарою,
Другі за другою.
Мой мілы ў полі начуе
І ўсё гэта чуе.
«Не бойся, міленька,
Бяры ваду смяленька.
Я к табе падыйду,
Пад гару вадзіцу паднясу».



Цякла рэчка з-пад мясцечка,
З крутай гары, з-пад берага.
Пытай, рэчка, ці ўсе дома,
Ці ўсе дома стральцы-лаўцы,
Стральцы-лаўцы, ўсе купленцы?
Няма дома, паехалі,
Паехалі ўсе на ўловы.
Улавілі рыся ў лесе,
Рыся ў лесе, бабра ў рэчцы.
Шылі шубу, шылі шубу
Слаўнай жане Міхаліне.
З бабра шуба, з бабра шуба,
З рыся каўнер, з рыся каўнер,
З ліса кішэнь, з ліса кішэнь,
Злоты ў кашэль, злоты ў кашэль.



У канцы моста Ракава
Клікала дзеўка Якава:
«Ой, Якаве, Якаве,
Ці не трэба я табе
На вясну красну кросна ткаць,
На ціхое лета жыта жаць?»
— Пададжы, дзеўка, восені,
Дажні пшонку нізенька,
Складзі ў копку слізенька,
Будзе табе восень блізенька.



Ехаў маладзец быстраю ракою,
Вышчыкнуў красачку праваю рукою.
«Каб мая красачка ў руках не звяла,
Каб мая мілая з другім не стаяла».



Гутаталіся два малойчыкі,
Гу-та-та, гу-ля-ля.
Гутаталіся і пабіліся,
Гу-та-та, гу-ля-ля.
А за што ж яны ды пабіліся?
Гу-та-та, гу-ля-ля.
Ці за яблычак за румяненькі?
Гу-та-та, гу-ля-ля.
Ці за дзевачку, за красавіцу?
Гу-та-та, гу-ля-ля.
Не за яблычак за румяненькі,
Гу-та-та, гу-ля-ля,
А за дзевачку, за красавіцу,
Гу-та-та, гу-ля-ля.



Дзеўкі каліну ламілі,
Калінавы мост масцілі.
А там ехаў дваранін
На коніку вараным,
Калінавы мост паламіў.
Дзеўкі ж яго спаймалі,
Варанога каня выпраглі.
Пайшоў дваранін да караля:
«А каролю ж мой, ой, каролю,
Нашто ж даў дзеўкам волю?»
— А ты ж, дваранін, сам вінават:
Было ж табе дзевак не чапаць,
Здалёку ехаці — шапку зняць,
Блізка прыехаці — ручку даць.



А на гары сад, сад...
Калышуцца дзеўкі,
Калышуцца красны.
А я, маладзенька,
Часок пастаяла,
Другі — паглядзела.
А ўбачылі людзі,
А злыя суседзі —
Яны не маўчалі,
Татаньку сказалі.
Біў жа мяне татка
Саломеннай пугай.
А мне ж тая болька
Гадочак балела,
Другі — прасвярбела.

А на гары сад, сад...
Калышуцца дзеўкі,
Калышуцца красны.
А я, маладзенька,
Часок пастаяла,
Другі — паглядзела.
А ўбачылі людзі,
А злыя суседзі —
Яны не маўчалі,
Маманьцы сказалі.
Біла ж мяне мамка
Шаўковай істужкай.
Мне ж тая болька
Гадочак балела,
Другі — прасвярбела.

А на гары сад, сад...
Калышуцца дзеўкі,
Калышуцца красны.
А я, маладзенька,
Часок пастаяла,
Другі — паглядзела.
А ўбачылі людзі,
Злыя суседзі —
А яны ж не маўчалі,
Мілому сказалі.
Біў жа мяне мілы
Раменнаю плеццю.
А мне ж тая болька
Дзянёчак балела,
Другі — прасвярбела.



Як памру я, памру,
Памру, паканаю —
Мілага спужаю.
Мой мілы спужаўся,
Як пан, увабраўся,
Выйшаў за вароты
І узяўся ў бокі:
«Сам жа я не знаю,
А што ж мне рабіці?
Ці гэту хаваці,
Ці другу шукаці?
Запрагу я каня,
З'еду на Ўкраіну».
Выездзіў Ўкраіну,

Выездзіў другую,
Не нашоў такую,
Як сваю мілую.



У майго татулечкі
Стаяла рабіначка.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Стаяла рабіначка.
Каля той рабіначкі
Йшлі, пайшлі тры малайцы.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Йшлі, пайшлі тры малайцы
У скрыпачкі йграючы,
Песенькі спяваючы.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Песенькі спяваючы.

Прасілася дачка ў мамкі:
«Пусці, мамка, на вулку.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Пусці, мамка, на вулку
Скрыпачак наслухацца,
Песенек наўчыцца.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Песенек наўчыцца».

— Не пушчу, дачушачка,
Яшчэ ты замалада.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Яшчэ ты замалада.
Скрыпачкі з ума звядуць,
Песенькі састараюць.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Песенькі састараюць. —

«Ой, мамулечка мая,
Ды няпраўдачка твая.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Ды няпраўдачка твая.
Ой, звядзець мяне з ума
Чужая староначка,
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Чужая староначка.
А састараіць мяне
Ліхая свякровачка.
    Ой, люлі, палюлюшкі,
Ліхая свякровачка».



У сераду на масленіцу,
Ды на рускія загавіны,
Як пабіўся баран з казлом —
Замуцілася вада з пяском.
Парасёначак яечка знёс,
На высокую палічку ўзнёс.
А бязрукі яечка ўкраў
І голаму за пазуху паклаў.
Без'языкі «Калавур!» закрычаў,
А бязногі у паход збяжаў.
А сляпы ўсё прысматрываець,
Без'языкі выгаварываець.



У гародзе, у гародзе бяроза —
Вецце йка дадолу.
Вінават, вінават Міколка:
Ня едзя дадому.
Ужо яго, ужо яго Аленка
Мёд, віно папіла.
Мёд, віно, мёд, віно папіла,
Кубачкі пабіла.
Кубачкі, кубачкі пабіла,
На Дунай пусціла.
«Плывіця, плывіця, кубачкі,
К новаму двару,
К новаму двару, двару,
К міламу майму.
Плывіця, плывіця, кубачкі,
Разам з вадою,
Разам, разам з вадою —
Са мной, маладою».





## ВЕСНАВЫЯ ПЕСНІ

У беларускім фальклоры гэта вельмі багаты і разнастайны ў тэматычных і жанравых адносінах раздзел каляндарна-абрадавай паэзіі. Паводле зместу і функцыянальнага прызначэння веснавыя песні можна згрупаваць у некалькі цыклаў, кожны з якіх мае свае спецыфічныя асаблівасці. Найбольш раннія песні-вяснянкі, якімі заклікалі, або загукалі вясну, маюць выразны аграрна-магічны характар. З надыходам вясны ўся ўвага селяніна скіроўвалася на поле, усе яго думкі займаў клопат аб тым, каб пабачыць плён сваёй працы «на гумне стагамі, на таку ўмалотам, у млыне намолам, у дзяжы падходам», таму і песні заклікалі вясну паспрыяць гаспадару на ніўцы, папесціць «зямельку» сонечным цяплом і спорнымі дажджамі, буйнымі росамі і ціхімі вятрамі.

Самае віднае месца сярод веснавых песень—і па колькасці, і па значэнню—займаюць, несумненна, песні валачобныя. Іх лёгка пазнаць па характэрных прыпевах: «Вясна красна на ўвесь свет!», «Зялён явар, кудравы», «Зялёны сад, вішнёвы» і інш. Выконваліся яны «валачобнікамі», якія падобна калядоўшчыкам хадзілі ад хаты да хаты і спевамі віншавалі гаспадароў, выказваючы ім розныя добрыя пажаданні. Зместам і характарам сваім валачобныя песні вельмі напамінаюць велічальныя песні калядоўшчыкаў, толькі дух велічання выяўлены ў іх яшчэ больш поўна і ярка. Ушанаванне селяніна-хлебароба, услаўленне яго працы, паэтычная ідэалізацыя яго маёмаснага становішча, яго гаспадаркі і хатняга быту набывае ў гэтых песнях сілу і маштабы незвычайныя. «Нідзе ў беларускіх песнях не адводзіцца такое пачэснае месца земляробчай працы, як у валачобных»,—пісаў вядомы этнограф А. Я. Багдановіч (бацька паэта Максіма Багдановіча).

З прыняццем хрысціянства на многіх валачобных песнях у нейкай меры адбіўся ўплыў новай афіцыйнай рэ-

лігіі, але гэты адбітак меў, як правіла, вонкавы характар і не перайначыў сапраўднага зместу песень, не змяніў іх ідэйна-эстэтычнай сутнасці. Слынны знаўца беларускай народнай песні Р. Р. Шырма пісаў: «Дзеючымі асобамі валачобных песень часта з'яўляліся святыя. Але ж як яны падобны на беларускіх сялян-земляробаў! Гэтыя святыя ніколі не маліліся богу, не цікавіліся жыццём на тым свеце. Яны былі заняты працаю. Гэта зусім рэальныя тыпы, створаныя фантазіяй народа». Валачобныя песні, у якіх ідзе пералік царкоўных святцаў,—гэта своеасаблівы і вельмі цікавы народны сельскагаспадарчы каляндар, які ў прыгожых і трапных паэтычных формулах, заснаваных на прыкметах і назіраннях, вызначаў парадак і характар вясковых работ. Такіх паэтычных «календароў» існавала мноства, і кожны варыянт у залежнасці ад мясцовасці меў сваю характэрную адметнасць.

Валачобныя песні невядомы фальклору рускіх, украінцаў і іншых славянскіх народаў. У беларускім жа фальклоры яны складаюць адну з самых паэтычных і каштоўных старонак.

Да веснавых належаць таксама песні юраўскія і песні так званых «зялёных святак», або іначай—русальнага, ці граногa, тыдня. Можна меркаваць, што імем святога Юр'я, апекуна жывёлагадоўлі, у эпоху хрысціянства было названа старажытнае свята ў гонар першага выгану жывёл на пашу (як святкаванне ў гонар першай сяўбы—імем святога Міколы). «Зялёныя сяткі» праводзіліся ўжо на пераходзе вясны ў лета, звязаны яны з культам продкаў і культам расліннасці. Песні гэтых цыклаў у сучасных запісах сустракаюцца адносна рэдка.

Многія песні-вяснянкі, юраўскія і песні «зялёных святак» прысвечаны адвечнай тэме кахання і шлюбу,—гэта песні сямейна-бытавога зместу. Такі ж пераважна характар маюць і песні веснавых карагодаў.



Вол бушуе — вясну чуе,
Воран грача — сыру хоча.

Воран грача — сыру хоча,
Дзеўка плача — сына хоча.

Воран грача, прыгракае,
Дзеўка плача, прыплакае.

Воран грача — сыр бяленькі,
Дзеўка плача — сын маленькі.

Воран грача, прыгракае,
Дзеўка плача, спавівае.

Воран грача на даліну,
Дзеўка хоча на Ўкраіну.

На Ўкраіне ўсе дзявочкі
Рвуць прыгожыя цвяточкі.

На Ўкраіне ўсе дзявочкі
Ўюць маленькія вяночкі.

Воран грача, сыра з'еўшы,
Дзеўка плача, сына меўшы.



Волік бушуе — вясну чуе,
Баран бляе — у поле хоча.

Баран бляе — у поле хоча,
Курка сакоча — знесціся хоча.

Курка сакоча — знесціся хоча,
Дзеванька плача — замуж хоча.

Дзеванька плача — замуж хоча,
Стары стогне — бо жыць хоча.

Не бушуй, волік, яшчэ наарэшся,
Не бляй, баран, яшчэ напасешся.

Не бляй, баран, яшчэ напасешся,
Не сакачы, курка, яшчэ нанясешся.

Не сакачы, курка, яшчэ нанясешся,
Не плач, дзеўка, яшчэ нажывешся.



Благаславі божа,
Вясну красну пеці
На ціхае лета,
На буйнае жыта.
Каб наша жыта
Ў трубы павілося,
У трубы павілося,
Набок схілілося.
На полі снапамі,
А ў гумне тарпамі,
На таку ўмалотна,
Ў арудзе прысыпна,
А ў млыне прымолна,
А ў дзяжы падходна,
А ў печы пячыста,
А на стале краіста.
Сям'і на здароўе,
Панам — безгалоўя!



А памажы божа,
Вясну красну клікаць
На ціхае лета,
На спелае жыта.
А дай жа ты, божа,
Ды ў снапу спорам,
А ў полі капамі,
А ў гумне сціртамі,
А ў пуні вазамі,
А ў клеці зёрнамі,
А ў млыне намолам,
А ў дзяжы падходам,
А на стале сыццю,
Ды к добраму жыццю!



«Жаваранак, ранняя птушэчка,
Чаго так рана з выр'ю вылятаеш?
А там пры даліне —
там ляжаць крыгі,
А там пры дарозе —
снягі і марозы».
— А я тыя крыгі крыламі разаб'ю,
А я тыя марозы нагамі растапчу.



Вясна недалёчка,
Вясна недалёчка,
Хлеба ні кусочка,
Хлеба ні кусочка.
Паехаў дзед да торгу,
Паехаў дзед да торгу,
Купіў хлеба торбу,
Купіў хлеба торбу.
«Еж, баба, давіся,
Толькі не сварыся.
Еж, баба, авёс,
Я ж табе прывёз.
Еж, баба, мякіну,
Я ж цябе не кіну».
Вясна недалёчка,
Хлеба ні кусочка.



Вясна чуць, вясна чуць,
А чужыя жонкі кросны ткуць.
А мая Тэкля лён трэпле,
Увярцела ножкі ў патрэп'е —
Пад новым тыночкам
З маленькім сыночкам.



Ой, то ж вясна, то ж вясна,
Ды ўсе людзі ткуць кросна.
А я, маладзенька, не ткала,
Адзін клубочак напрала.
Прыйшла суседка і ўкрала,
На рыначак занясла,
На гарэлачку прадала.



Ой, гай-вясна, гай-вясна,
Усе людзі ткуць кросна.
А я, маладая, не прала,
Пад лёд кудзелькі пускала:
«Плывіце, кудзелькі, валакном,
Прыплывіце ка мне палатном».
Да ўсе людзі дзівяцца:
«Чые гэта кудзелькі беляцца?»
— Да гэта ж тае гультайкі,
Да што падпірала людзям клямкі.



Затым вясна на ніз пайшла,
Што крутыя горы.
Затым дзеўка замуж пайшла,
Што чорныя бровы.
Бровы мае, бравяняты,
Прапала я з вамі,
Нельга выйсці на вуліцу
Да й за варагамі.
Варожачкі спаць палягуць,
А я пагуляю.
Варожачкі паўстаюць,
А я спаці лягу.



«Вясна красна, вясна красна наступае,
Вадой лугі, вадой лугі залівае,
Што ні прайсці, што ні прайсці, ні праехаць,
Свайго роду, свайго роду не праведаць,
Ой, вясною, ой, вясною — за вадою,
А ў лецячку, а ў лецячку — за жнівою,
А зімою, а зімою — за снягою».
— Дзіця ж мае, дзіця ж маё маладое,
Ты вясною, ты вясною — на чаўночку,
Ты ў лецячку, ты ў лецячку — ў нядзелечку,
А зімою, а зімою — ў палазочку —
Такі ж роду, такі ж роду пераведай.



А ўжэ вясна, а ўжэ красна,
А са стрэх вада капля.
Што нашаму да й хлопчыку
Вандровачка пахне.
Завандраваў да й хлопчычак,
Дай й босы па полю,
А за ім жа дзяўчыначка:
«Вярніся, саколю!»
— Не вярнуся, не азірнуся...
Гардуеш ты мною,
Будзе тваё гардаванне
Ўсё перада мною.
Будзе твая руса каса
Ў мяне пад нагою.
Будзе тваё бела ліцо
Ў мяне на ладоні.

Дзякуй богу, вясна прыйшла,
Скацінка ў поле пайшла:
Кароўкі — каля дуброўкі,
А конікі — каля пожанькі,
Авечачкі — каля межачкі,
А гусачкі — каля лужачкі,
А свіначкі — каля нівачкі.

«Вясна красна, адкуль прышла,
Адкуль прышла, што прынясла?»
— Прынясла я цёплае лецейка:
Малым дзеткам — па яечку,
Старым бабкам — па кіёчку,
Красным дзеўкам — па вяночку,
Маладзіцам — па сярпочку.
Старыя бабкі — чапцы шыці,
Красны дзеўкі — вянкі віці,
Маладзіцы — жыта жаці.
Красны дзеўкі — на вулічку,
Маладзіцы — за люлечку,
Красны дзеўкі — гулі, гулі,
Маладзіцы — люлі, люлі.

«Ой, вясна, дый весенка, дый весенка,
Што ж ты нам прынеселка, прынеселка?»
— Маладым малодкам — па бердзячку,
па бердзячку,
А дзевачкам — па пранічку, па пранічку,
А малым дзеткам — па яечку, па яечку,
А старым дзядкам — па кіёчку, па кіёчку,
Маладым мужчынкам — па плужочку,
па плужочку,
А хлопчыкам — па пужачцы, па пужачцы.
Маладым малодкам — красёнцы ткаць,
А дзевачкам — дый палотны бяліць,
Малым дзеткам з яечкамі гуляць,
Старым дзядкам — на мураўцы сядзець,
Маладым мужчынкам — поле араць,
А хлопчыкам — на пастку гнаць.

Зацвіцела сіня ягада ў бару,
Заблудзіла малада дзеўка ў лясу.
Прыблудзіла к сіню мору Дунаю.

У тым Дунаю маляваненькі чаўнок,
У тым чаўночку красны ўдалы маладзец.
Ой, малойчык маладзюсенькі ты мой,
Перавязі мяне сіненькай вадой
Ці на той бок, ці на тую старану,
Тады табе я ўсю праўду раскажу.
Я відзела многа пташак на кусту,
З куста на куст пералятали,
Адна з адной размаўлялі.
А як прыйдзе цёпленькая вясенка,
Кожна пташка ў свой голас запяе.

Рад салавейка: даждаў вясны, рана.
Прыляцела зязюленька, рана,
Добра будзе палятаці, рана.
Яна сама маленькая, рана,
Яе пер'е шэранькае, рана.
Добра будзе палятаці, рана,
І зязюльцы кукаваці, рана.
Рад Міколка: даждаў цешчы, рана,
Не так цешчы, як Манечкі, рана.
Добра будзе мілаваці, рана.
Яна сама міленькая, рана,
Яе лічка беленькае, рана.
Добра будзе мілаваці, рана.

Ах, зелен-зелен садочак,
Саўём дзевачцы вяночак,
Пакоцім яго па скам'і,
Зададзім жалю ўсей сям'і.
А татку з мамкаю найгорш,
Што гадавалі найбольш,
Што гадавалі, расцілі,
Ў чужыя людзі пусцілі.

Ой, на рэчачцы на быстранькай,
Ой, на кладачцы на гібенькай
Там дзевачка бялілася,
Яна з кладачкі ўвалілася.
На яе мамка сварылася,
Што на падолі барылася.
«Сварысь, мамка, карай мяне,
А прыдуць сваты — аддай мяне».



Да зязюля куе,
Што дзяцей не мае.
Салавей шчабеча,
Дружыну збірае.
«Ці ты, салавейка,
Ці ты любіш лозу.
Ці ты любіш лозу
Ці белу бярозу?»
— Я не люблю лозу
Ні белу бярозу:
Як сяду высока,
То чутно далёка;
Як сяду нізенька,
То чутно блізенька.



Ды йшла вясна цераз бор, цераз бор,
Ды на ей шуба ў дзевяць пол, у дзевяць пол,
Ды на ей шапка баброва, баброва—
Загарэўся лес-дуброва, дуброва.
Ды й я, маладзенькая, тушыла, тушыла
Ды рэшатцам ваду насіла, насіла.
Ды й колькі ў рэшаце вадзіцы, вадзіцы,
Столькі ў майго свёкра праўдзіцы,
праўдзіцы.



Дый угрэла сонца ў ваконца, ў ваконца,
Дый забіла ліпа Піліпа, Піліпа
Дый ляжыць Піліп і не дыша, не дыша,
Барадою дзіця калыша, калыша:
«А-а, люлі, люлі, малое, малое,
Каб на лета было другое, другое.
А-а, люлі, люлі, Несцерка, Несцерка,
Каб на лета было шэсцерка, шэсцерка».



Ой, што то дзіво за дзіво:
Дзеўкі двараны пабілі,
У карчме коніка прапілі.
Ідуць дзеўкі з карчмы скачучы,
А парабак ідзе плачучы:
«Ой, не жаль мне коніка,
Ды страшно мне сораму,
Што прабілі дзеўкі голаву».



Язджаў, паязджаў Яся па полю,
Сеяў, рассяваў ён сінь васілёчкі.
Рассеяўшы, проч паехаў.
Ехаў ён, ехаў, аглянуўся,
Сваім васілёчкам адклікнуўся:
«Васількі мае зялёныя,
А хто ж вас будзець паліваць,
Ад буйных вятроў укрываць?
А маці стара, сястра мала,
Жана малада ў грыбы пайшла,
У грыбы пайшла — не вярнулася.
А ці яна ў лесе заблудзілася?
А ці яна ў моры ўтанула?
А калі б яна так заблудзіла,
Лясы б барочкі зазвінелі,
Салаўі бы пташачкі запелі.
А каб жа яна ўтанула,
Сіняе бы мора ўскалыхнула».



Ды каліна-маліна,
Ды не стой, развявайся.
Ды не стой, развявайся,
Сваім цветам занімайся.
Мне твой цвет цяпер трэба
Ды на адзін вечарочак,
Ды на адзін вечарочак —
Дзевачцы на вяночак.



«А чаму ты, бярозка, некудрава?»
— Я ў лесе у халадочку стаяла.
Там дачушка з мамулечкай размаўляла. —
«Не аддай мяне, мая мамачка, за старога.
А я з старым адну ночку начавала,
Як за калодай за гнілою паляжала.
Не аддай мяне, мая мамачка, за малога.
А я з малым адну ночку начавала,
Як верабей пад страхою шчабятала.
Аддай мяне, мая мамачка, за роўніцу.
Я з роўніцай адну ночку начавала,
Як у бару зязюлечка кукавала».



На моры вутка купалася,
На беражочку сушылася,
А я, молада, журылася:

Свякроў на вуліцу не пускае,
У каморачку запірае.
А ў каморачцы кватэрачка,
А ў кватэрачцы аконачка.
Як зірну, гляну з каморачкі,
Як зірну, гляну ў аконачка:
Там мой мілы танкі водзе
А ўсё з маімі падружкамі,
А ўсё з маімі віцюшкамі.



Адлітаіць саколінька, адлітаіць,
Ён жа сваю саколіньку пакідаіць.
А вярніся, саколінька, а вярніся.
Ня вернішся, саколінька, агляніся:
Я на тваё сіза пер'я нагляджуся.
Ад'язджаіць мой міленькі, ад'язджаіць,
Ён жа мяне, маладзеньку, пакідаіць.
А вярніся, мой міленькі, а вярніся,
Ня вернішся, мой міленькі, агляніся:
Я на тваё бела ліцо нагляджуся.
А спішу я бела ліцо на паперку,
Падлажу я бела ліцо пад пасцельку,
Сярод ночкі я прачнуся, падкачуся,
А як вазьму ў ручачкі — наплачуся.



Ой, каб я, молада, знала,
Ой, што мая доля злая,
Не купляла б я, молада,
Залатое калечка,
А купіла б я, молада,
Залатое крыллечка.
Ды ўзнялася б, паляцела,
Дзе мой мілы п'е, гуляе
І з другою размаўляе.
А я ж гэта ўсё чую
Пад акенцам стоючы,
Гаручыя слёзы льючы.
Слёзы мае гаручыя,
Не падзіце ж вы на мне,
А падзіце ж вы на той,
На разлучніцы маёй,
А што б яе разлучыла
З маім мілым магіла.



Была ў маткі,
Была ў маткі адна дачка.
Адсюль, адтуль,
Адсюль, адтуль сваты слалі.
Матка дачкі,
Матка дачкі не давала.
Сабе служку,
Сабе служку гадавала.
Прыйшла й вясна,
Прыйшла й вясна — дачку ўзяла.
Гарэлачкі,
Гарэлачкі не насіла.
Дачкі ў маткі,
Дачкі ў маткі не прасіла.
«Дзіця ж маё,
Дзіця ж маё маладое,
Дзе мне дары,
Дзе мне дары падзяваці?
Ці мне дубы,
Ці мне дубы абвязаці?
Што й дубочак,
Што й дубочак — то й сваточак.
Што й бярозка,
Што й бярозка — то й сватачка.
Што грушачка,
Што грушачка — то й дружачка».



Чорная галачка грэчку клявала,
На цябе, Іванька, няслава пала,
Што твая Манечка зелле капала.
Капала зелейка, капала расаду —
З табой, Іванька, на перасаду.
Капала зелейка, капала пятрушку —
З табой, Іванька, весяліць душку.



Салавейка маленькі, ты не шчабячы,
Ты не шчабячы угору летучы,
Не абівай росы на маём просі.
Няхай абаб'е мая мамачка
Ка мне ходзячы, адведаючы,
Як я тут жыву, як я гарую.
Што ліхая сям'я абедаць села,
А мяне, маладую, шлюць па ваду.
Я па ваду йшла — горка плакала,

А дадому йшла — уціралася,
На парог узышла — засмяялася,
Штоб ліхая сям'я не дагадалася.
Свёкарка кажа: «Вадзіцы падай!»
Свякруха кажа: «Свінням замяшай!»
Ятроўка кажа: «З стала прыбяры!»
Залвіца кажа: «Касу запляці!»
А міленькі кажа: «Садзісь абедаць,
Бо ўжэ йдзе твая маць цябе адведаць».



«Зязюлечка баравая,
Дзе ж ты ночку начавала?
Зязюлечка баравая,
Дзе ж ты ночку начавала?»
— Адну ночку — на дубочку,
Адну ночку — на дубочку.
А другую — на бярозе,
А другую — на бярозе.
А там ішлі скамарохі,
А там ішлі скамарохі.
Адрэзалі па пруточку,
Адрэзалі па пруточку,
Дый зрабілі павучочка,
Дый зрабілі павучочка. —
«Павучочак, не гудзі ж ты,
Павучочак, не гудзі ж ты.
Шэрай зязюлькі не будзі ж ты,
Шэрай зязюлькі не будзі ж ты».



Ты, зязюлечка, ты, зязюлечка,
Шэрая кукушка, шэрая кукушка,
Чаго раненька, чаго раненька
На зарэ кукуеш, на зарэ кукуеш?
А ці ты сабе, а ці ты сабе
Гняздзечка любуеш, гняздзечка любуеш?
А ты, дзевачка, а ты, дзевачка,
Горкая сіротка, горкая сіротка,
Чаго раненька, чаго раненька
За вароты вышла, за вароты вышла?
Ці ты сваю, ці ты сваю
Мамачку будзіла, мамачку будзіла?
«Устань, устань, устань, устань,
Радзімая маці, радзімая маці.
А пакажы мне, а пакажы мне

Дзелечка ў хаце, дзелечка ў хаце».
— А няхай пакажа, а няхай пакажа
Да й няродна маці, да й няродна маці.



Ты, зазуленька, ты сівенькая была,
Не выбрала сабе харошага дзераўца,
Да выбрала ўсё сухую асіну.
На асіне нет ні лісця, ні галля,
Да ўсё тая, усё сухая галіна.
Ах ты, дзеванька, ты бялявага ліца,
Не выбрала сабе харошага малайца,
Да выбрала прагоркую п'яніцу.
А ў той п'яніцы ні маткі, ні атца,
Толькі тая прагоркая п'яніца.



Сярод Дуная дзевачка сядзіць,
Дзевачка сядзіць, красачкі рве,
Красачкі рве, вяночкі ўе.
Адзін савіла — на бярозу ўшчапіла,
Другі савіла — на галовачку,
Трэці савіла — у Дунай пусціла.
А там жа ехаў удалы маладзец,
Удалы маладзец жаніцца.
Прывязаў каня к белай бярозе,
К белай бярозе, к бітай дарозе.
«Удалы маладзец, падай мне вянец».
Удалы маладзец палез па вянец.
Ступіў жа раз — па пояс увяз,
А другі ступіў — і сам паплыў.
«Бяжы ж ты, кося, бітай дарогай,
К таму сялу, к татульку майму.
Выйдзе з хаты родная маці,
Цябе рассядлае і спытае:
«Скажы, канёк, дзе мой сынок?»
Не кажы, кося, што я ўтапіўся,
А кажы, кося, што я жаніўся:
Мае дружкі — круты беражкі,
Мая сваціца — рыба-плаціца,
Мая жонка — глыбока вада —
Маёй матульцы да веку бяда».



Ў чыстым полі пад белай бярозай,
Там малойчык асочаньку косіць,
Пакасіўшы, памостачак мосціць,

Памасціўшы, пасцелечку сцеліць,
А паслаўшы, ён спаці кладзецца.
Як узняліся буйныя ветры
І зламалі ў бярозе вярхушку,
І забілі малайца ў пасцелі.
А хто над ім будзе кукаваць?
Прыляцела з бору тры зязюлі:
Адна мамка, другая сястрыца,
А трэцяя — яго жонка.
Мамка села ў малойца ў галоўцы,
Сястра села ў малойца на грудзях,
Жонка села ў малойца на ножках.
Мамка плача ад веку да веку,
Сястра плача ад году да году,
Жонка — ад абеду да абеду.
Па абедзе пайшла ў сад гуляці
І стала сабе другога шукаці.



Трава балота красіла,
Дзевачка сужаньку прасіла:
«Адвядзі мяне, дзе ты браў,
Каб мой вяночак тут не звяў».
— Не бойся, дзевачка, не звянець,
Прыдзець мамачка — схаваець.
У пухову падушачку паложыць,
Залатой іголкай уколець,
Шаўковай ніткаю зашыець.



Ой, выду, выду на гару,
Ой, удару, удару ў далоні,
Штоб у майго свякраткі сад зацвіў,
Віннае яблычка назрэла.
Да каму — яблычка, каму — два,
А сваёй свякроўцы дам пяць,
Каб даўжэй давала спаць.
І свайму свякрутку — пяць,
Каб даўжэй даваў гуляць.
«Гуляй, дачушка, да абеду,
Залажу коніка — прыеду».



Не калышыся, асіначка,
Не калышыся ты горкая.
Мая долячка гарчэй цябе —

Прыду дадому, мужык наб'е.
«Свёкарка-татка, ратуй мяне».
Свёкарка-татка не ратуе,
Бліжы к сыночку падступае,
Свайго сыночка навучае:
«Не бі, сыночак, жонку п'яны,
А бі, сыночак, цвярозанькі».



Як пайду я ў зялёны садочак,
Да ўвіджу я мілага слядочак
І закрыю яго вішнёвай карою,
Каб не запаў сцюдзёнай расою.
Як увідзіў мой родны татулька:
«За што, пра што, дзіця, накрываеш?
Ці не за тое, што горачка маеш?
За што, пра што, дзіцятка, шануеш?
Ці не за тое, што гора гаруеш?»
— А каб жа я горачка не знала,
Я ж бы яшчэ болей шанавала.



Не сячы, мой татулька,
Ля дарожкі бярозкі *.
Не бяры, мая мамулька,
У крыніцы вадзіцы.
Не шчыпі, мая сястрыца,
У садочку квяточкі.
Не касі, мой брацетка,
У лужочку асочку.
Ля дарожкі бярозка —
Я сама маладзенька.
У крыніцы вадзіца —
Мае дробныя слёзкі.
У садочку квяточкі —
Мае сінія вочкі.
У лужочку асочка —
Мае русыя коскі.



А ў нядзельку рана, параненьку
Ходзя Дунай ціха, паціхеньку.
На Дунаі беражкі крутыя,
На беражках трава зялёная,
На травіцы конік вараненькі,

На коніку сядло залатое,
На сядзельцы казак маладзенькі.
Ён жа едзе ды ў вуселькі грае,
Сваей мамцы жалі задавае:
«Жані мяне, маці, жані маладога,
Калі ж не ажэніш, я ў салдаты пайду,
Буду цябе, маці, ўвесь век праклінаці».



Каб табе, рэчачка, круты берагі —
Не так бы вадзіцай разлівалася,
Не так бы рыбачка разбівалася.
Каб табе, Любачка, родна мамачка —
Не так бы слёзкамі разлівалася,
Не так бы сэрданька разбівалася.



Ой, ляцела пава цераз паплавы,
Назбірала пава ўсялякага пер'я.
Звіла там пава сабе гняздзечка,
І знесла пава сабе тры яечкі.
Сядзела пава там тры гадочкі,
Высядзела пава тры сакалочкі:
Першы саколік — на імя Толік,
А другі саколік — на імя Андрэй,
А трэці саколік — на імя Болясь.
Ой, ляцела пава цераз паплавы,
Назбірала пава ўсялякага пер'я,
Звіла там пава сабе гняздзечка,
І знесла пава сабе тры яечкі.
Сядзела пава там тры нядзелькі,
Высядзела пава тры цяцеркі:
Першая цяцерка — на імя Барбара,
Другая цяцерка — на імя Сабіна,
Трэцяя цяцерка — на імя Міхаліна.



На гары садочак падмецен,
Зялёнаю рутай аплецен.
Да ніхто ў садочку не бывае,
Малады малойчык ў карты грае
Да сабе дзевачку намаўляе:
«Да ідзі, дзевачка, за мною,
Будзеш маёй матцы слугою,
А мне, маладому, жаною.

Будзеш маёй матцы кашульку мыць,
А мне, маладому, пасцельку слаць.
Будзе маёй матцы кашуля бяленька,
А мне, маладому, пасцелька мякенька».



«Ты, бяроза, кудравая,
Як табе не здакучыцца,
За сухім лесам стаючы,
На зялёненькі гледзючы?
Маладзіца маладая,
Як табе не здакучыцца,
За ліхім мужам жывучы,
На харошанькіх гледзючы?»
— Вы, жоначкі-лябёдачкі,
Парайце мне парадачку,
Што з ліхім мужам зрабіці? —
«Маладзіца маладая,
Ідзі ты ў чыстае поле,
Нарві ты хмелю ярога,
Навары піва п'янога,
Напаі мужа ліхога,
Палажы сярод двору спаці.
Аблажы ж ты саломкаю,
Запалі ты лучынкаю,
Сама выйдзі на вулачку,
Крыкні, войкні ратуначку:
— Здаецца ж, і гром не быў —
Майго мужа пярун забіў,
Здаецца, маланння не была —
Майму мужу вочкі выжгла».



Ой, белы-белы рамон
У падвор'ейку паслаўся.
Па тым жа рамоне
Дзевачка хадзіла,
Дзевачка хадзіла,
Рамон сабірала,
У пучочкі вязала.
Прышоў к ёй малойчык.
«Што робіш, дзевачка?»
— Гэта ж я табе, малойчык,
Табе сабіраю,
На тваё вяселейка
З рамону букет пастаўлю.



На первы дзень, на вялікдзень,
    Зялён явар, зялёны *.
Валачобнікі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся:
«А куды пойдзем, а куды зайдзем?»
— Пойдзем, пойдзем ўсё дарогаю,
Ўсё дарогаю, ўсё шырокаю.
Зайдзем, зайдзем к пану Івану. —
«А ці дома, дома пане Іване?»
— Хоць жа ён дома — не акажыцца:
У новай каморы прыбіраецца,
Адзяе майтачкі гарнатовыя,
Адзяе боцікі ўсё казловыя,
Адзяе шубачку сабалёвую,
Адзяе шапачку ўсё бабровую,
Выводзіць каня вараненькага,
А кладзе сядло залаценькае.
Садзіцца, едзе ў роўнае поле,
У роўнае поле ды к свайму жыту.
А яго жыта ядраністае,
Ядраністае, каласістае.
К адной мяжы нахілілася,
Свайму гаспадару пакланілася.

Песенька спета напроці лета,
А будзь жа весел, як вясна красна,
А будзь жа ціхі, як ціха лета,
А будзь жа багаты, як багата восень.
А ты, гаспадынька, ўсё дагадайся:
Скавародку — ў печ, па яечкі — ў клець,
Кусок сала пакрышыці,
А калбаскаю абгарадзіці,
Кварту гарэлкі і сыр на талеркі,
    Зялён явар, зялёны.



Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
    Зялёны сад, вішнёвы *.
А ў гэтым даму гаспадарочак,
Гаспадарочак, слічны паночак.
Слічны паночак, молад Васілька,
Адчыні вакно, паглядзі ў гумно.
А ў тваім гумне праява стала,
Праява стала, праявілася:
Сорак каровак ацялілася.
Ацялілі яны па цялушачцы,
Па цялушачцы, па рабушачцы.

А будзі ж ты сваю гаспадыньку,
А няхай ідзець каровак даіць,
А няхай бярэць ды па дубчыку,
А няхай гоніць каровак у поле.
Зялёны сад, вішнёвы.



Добры вечар, пане гаспадару!
Вясна красна на ўвесь свет.
Прыйшлі мы да пана як да багача,
Хочам пана да й павітаць,
Яго панскае здароўе спытаць:
Ці здароў пан, ці вясёл пан?
Ці здарова панская жонка?
Ці здаровы панскія дзеткі?
Панская жонка будзе падвышона,
Панскія дзеткі — як у садзе кветкі.
А панскі двор, як у вянку.
На панскім ганку крэслы стаяць,
На тых крэслах сам бог сядзіць.
«Увайдзі, божа, у панскія пакоі».
— Я не пайду ў панскія пакоі,
Але пайду ў роўнае поле,
У роўнае поле па мяжах хадзіці,
Па мяжах хадзіці — жыта радзіці. —
А ўсіх жыта харашусенька —
Нашага пана ўсё найлепшае,
Найлепшае ядрынейшае.
Яно сцяблом сцяблыністае,
А коранем караністае
І коласам каласістае,
Яно пад гару пахіліўшыся.
Як пан араў — валы бушавалі,
Як пан барнаваў — конікі іржалі.
Жнуць яго жнейкі маладзенькія,
Іх сярпочкі залаценькія.
Яны самі, як ластаўкі,
Іх галоўкі, як макаўкі.
Як яны жалі — сярпы зажалі,
Як яны селі — сярпы зазвінелі,
Як яны сталі — сярпы зажалі.
Часты, густы зоры на небе —
Часцей, гусцей снапы ў полі.
Як на небе высок месяц —
Так за імі вышэй копы.
Як пан звозіў да сваё жытцо
У цёмныя гумны да з светлага поля,

Яно ў тарпе прылежыста,
А на таку прымалоціста,
А ў арудзі прысыпіста,
А у млыне прымеліста,
А у дзяжы падыходзіста,
А у печы румяніста,
А на стале, як сыр белы.

Сыр бяленькі — для коласа,
Кварту гарэлкі — для голаса.
Мы свае боты патаптаді,
Пакуль пана запыталі.



А йшлі, пайшлі валачэбнікі,
Зялёны сад, вішнёвы *.
Валачыліся, памачыліся.
Прыйшлі яны к сялу, к двару,
К сялу, к двару, к чэснаму мужу.
А ці дома, дома чэсны муж?
Ой, дома, дома, ды не кажацца,
Ды не кажацца, прыбіраецца:
Надзяе боты казловыя,
Панчошачкі бялёвыя,
Падвязачкі шаўковыя.
Суча свечы тры частыя,
Тры частыя, васковыя:
Первую суча святому Вялічку,
Другую суча святому Юр'ю,
Трэцюю суча святому Міколу.



Ішлі, прайшлі валачобныя,
Зялён явар, зялёны *.
Іграючы, спяваючы,
Багатага двара шукаючы.
Па чым пазнаць ды багаты двор,
Багаты двор — жалезны тын?
А вароцікі ды чысовыя,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
А лясь, пабразь у ваненачка:
Ці не пачуе нас пан гаспадар?
Ці не возьме залатыя ключы?
Ці не адамкне залатыя замкі?
Ці не пусце гасцей на двор?
На двор іду, лістамі сцялю,

Пад акном іду — чалом даю,
Чалом даю, пане гаспадар.
Ці спіш, ці ляжыш, ці не акажашся?
Ці да цэркаўкі сабіраешся?
А калі спіш, бог з табою,
А калі не спіш, гавары са мною.
Адчыні вакно высокае,
Паглядзі ў гумно далёкае,
Што ў тваім гумне за праява стала,
За праява стала, праявілася:
Там цэркаўка станавілася.
У той цэркаўцы прыстол стаіць,
Каля прыстола залатое крэсла.
На тым крэсле сам бог сядзіць,
Пяро дзяржыць, святкі піша,
Катораму напярод пайсці.
Святое раждзество напярод пайшло,
Новы гадок — за ім у слядок.
Святы крашчэннік ваду пасвянцае,
Святыя грамніцы свечы сучаць,
Святая масленіца бліны пячэ,
Святое благавешчанне заворвае,
Чысты чацвер ячмень сее.
Святое вялічка — з красным яечкам,
З красным яечкам, з цёплым лецечкам.
На первы дзень пірагі маеш,
А на сярэднім дні пагуляеш.
Святы Юрый — божы пасол,
Божы пасол за мора пайшоў.
Адтуль ідучы, узяў ключы,
Узяў ключы залатыя,
Адмыкнуў зямлю сырэнькую,
Пусціў расу цяпленькую.
Пусціў расу на ўсю вясну,
На ўсю вясну, на ўсё лецечка,
На ўсё лецечка, на ўсё цёплае.
Святы Мікола па межах ходзя,
Па межах ходзя і ўсё родзя,
І траву расціць, і скоць пасціць.
Святое ўшэсце жыта раўнуе,
Святая тройца — жыта красуе,
Святая дзевятка — у жыце пятка,
Святы Пятро — у жыце ядро.
Святая Ілья жыта зажынае —
З белым сырам, з малым сынам.
Ільёва жана — добрая жняя:
Што раз разне — то і сноп нажне.
Сноп ад снапа — паўтара ступня,

Капа ад капы — толькі дзве ступні.
Дай жа божа, каб было спорна:
На таку ўмалотам, а ў млыну намолам,
А ў дзяжы падходам, а ў печы ростам,
А на стале сыццю — к добраму жыццю!

Гаспадарочак, мой паночак,
Вазьмі сітца, насып жытца,
Дзяржы роўна, насып поўна.
Не будзем клясці, што цяжка нясці,
А будзем хваліць, што ўмееш дарыць:
Запявальнічку — капу яечак,
Памагальнічку — дзесятачак,
А механошу — жыта калошу.
А музыкі — горкая доля;
А што даюць — бярэ і тое:
Кварту гарэлкі, сыр на тарэлцы.
А мы госцейкі нехажалыя,
Нехажалыя, небывалыя.
Мы не часта дакучаем;
А ў гадочку па разочку.
Дзякуй табе, пане, за добрыя дары.
Каб дажыць да лета ды лепей за гэта,
Каб вы добра жылі і лепей нас дарылі.
Зялён явар, зялёны.



А на першы дзень, на вялікадне.
Вясна красна на ўвесь свет! *
Сабіраліся ўдалыя малойцы.
— А мы братцы ды суборныя,
Мы суборныя, мы няродныя,
Нашы шапкі ды няроўныя.
А як пойдзем мы дарогаю,
Ды дарогаю шырокаю,
Каго ўстрэнем, папытаем.
Сустрэлі малойчыка,
Шапкі знялі, пакланіліся,
Пакланіліся, папыталіся.
Папыталіся чэснага мужа.
«Ці ж вы яго не знаеце,
Што вы ў мяне пытаеце?
Каля яго двара крутая гара,
Есць прыметка — з вінаграду кветка,
А жалезны тын — медзяны вароты,
Падваротнічка — рыб'я костачка,
А двор выбіты ды талерамі,

Каля ганачка — ды капейкамі.
У сенях — як жар гарыць,
У яго святліцы — прыстол стаіць.
За прыстолам сам бог сядзіць,
Кніжку дзяржыць, святкі лічыць».
Святкі лічыў, лічыў, улічыўся —
На святога Юр'я пазабыўся.
«Сляты Мікола, садзіся на коня
Ды едзь, шукай Юр'я святога».
Мікола яму дый адказвае:
«Я каня не маю, я Юр'я не знаю».
— Бяры ключы, ключы залатыя,
Адмыкай вароты дый медзяныя,
Ідзі ў стайню, выбірай каня
Найсівейшага, найсільнейшага. —
Толькі Мікола і к варотам —
Ажно Юрый у вароцечках.
«Дзе ж ты, Юрый, валачыўся,
Што па пояс умачыўся?»
— Па бару хадзіў, пчолкі садзіў,
Ды раістыя, медзяністыя. —
«Дзе ж ты, Мікола, валачыўся,
Што па пояс урасіўся?»
— Па полю хадзіў, жытцо радзіў,
Жытцо радзіў і пшаніцу,
Чэснаму мужу ўсякую пашніцу.
Вясна красна на ўвесь свет!



Добры вечар, пане гаспадару!
Да віно ж нашо зеляноё! *
Ці ёсць дома, ці акажашся?
Хоць і дома — не акажацца:
К святому дню прыбіраецца.
Стаўляе сталэ ўсё чэсовыя,
Засцілае сталэ ўсё кітайкамі,
Усё кітайкамі, ўсё зялёнымі.
Стаўляе чашы надзіманыя,
Налівае чашы чорнага піва,
Чорнага піва, зялёнага віна,
Зялёнага віна, саладком мядком.
Сам гаспадар да на покуці,
Жана ж яго да кала яго,
Дзеткі яго па-за стулайком.
Чорнае піва пану гаспадару,
Зялёнае віно для яго жаны,
Саладок мядок для яго дзетак.

Дай табе ўсяго, пане гаспадару,
І ў каморы, і ў аборы,
А на стайні вараныя коні,
Авечкі касматыя, каровы брухатыя,
Каровы брухаты ды валэ рагатыя.
Дай табе ўсяго, пане гаспадару,
Курэй падпечак і яец засечак.
Вынясь, вынясь, пане гаспадару,
Копу яец на палміску,
Белым сырам налажыўшы,
Калбасою абкруціўшы.
Да віно ж нашо зеляноё!



Гаспадарочак, слічны паночак,
Зялёны сад, вішнёвы *.
Устань раненька, ўмыйся беленька,
Умыйся беленька, утрыся суханька.
Надзень боцікі ты казловыя,
Надзень шубачку ты бабровую,
Надзень шапачку-завіваначку.
Адчыні вакно, паглядзі ў гумно,
А ў тваім гумне праява стала,
Праява стала, праявілася:
Новая цэркаўка станавілася,
Станавілася, муравалася,
Муравалася, пазалачалася,
Пазалачалася, асвяшчалася.
А ў тэй цэркаўцы прэстолы стаяць,
За прэстоламі сам гасподзь сядзіць,
Сам гасподзь сядзіць, кніжачку дзяржыць,
Кніжачку дзяржыць, а сам чытаець,
А сам чытаець, святых ззываець.
Свято раджджаство наўпярод пайшло,
Новенькі гадок — за ім услядок.
Свято хрышчэнне ваду хрысціла,
Ваду хрысціла, на свет пусціла.
Святыя дзяды — на тры дні яды,
Святы Аўлас — ён на сыры лас.
Святы грамнічкі свечы сучылі,
Свечы сучылі, ой, пасвяцілі.
Свята масленка — гавенны дзянёк,
Гавенны дзянёк — на сем нядзелек.
Святы Узбор гоніць снег з гор,
Святы саракі скоблюць буракі.
Святы Аляксей каня гадуець,
Каня гадуець, саху гатуець.

Благавешчанне заворываець.
Шаўковы гужы, божа, памажы!
Свята вербніца вербу ламала,
Вербу ламала, ой, пасвянцала,
Ой, пасвянцала, к Юр'ю паклала.
Святое Юр'я запасывала.
«Я цябе наўчу, як скацінку жалець.
Не гані дубцом, а кармі аўсом».
Святы Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыта раўнуець.
А святы Пятрок адшчыкнуў лісток.
А святая Ілля кінула лядня,
А святы пакроў — і з поля дамоў.
Зялёны сад, вішнёвы.



Добры вечар гэтаму дому!
Вясна красна на ўвесь свет! *
Гэтаму дому свянцонаму,
Гаспадарыку вясёламу.
Гаспадарочак, мой сакалочак,
Ці спіш, ці ляжыш, што не пакажашся?
Ці да цэркаўкі сабіраешся?
Калі спіш, то бог з табою,
Калі маўчыш, моў са мною.
Гаспадарочак, мой сакалочак,
Адчыні вакно цясовае,
Паглядзі ў гумно ў свянцонае:
Што ў тваім гумне за праява?
За праява стала — цэркаў стала,
Меддзю літа, срэбрам крыта.
У той цэркаўцэ прэстол стаіць,
За тым прэстолам сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, пісьмы піша,
Пісьмы піша, святкі ліча,
Катораму святцу напярод ісці.
Першае раство напярод пайшло —
З Новым годам і з Васіллем.
Святое кшчэнне ваду ксціла,
Ваду ксціла, свет ачысціла.
Святыя грамніцы свечы сукалі,
Свечы сукалі, ў цэркаў стаўлялі.
Святы Аўдакей бычкоў пое,
Святы Аляксей хамуты строе,
Святыя саракі ў поле саху валаклі.
Благавешчанне да заворвае
Вараным канём, залатой сошкай:

Правай рукой сошку дзяржыць,
Левай ножкай роль праступае,
Там жа яму бог памагае.
Чысты чацьвер булкі чысце,
Дваркі мяце, слядкі кладзе,
Слядкі кладзе к святому вялічку.
Святое вялічка ды гуляць вяліць
Малым дзеткам з красным яечкам,
Старым мужам — мужываннейка,
Старым бабкам — пагуканнейка,
Маладым малайцам — паляваннейка,
Маладым паненкам — пагуляннейка.
Святы Юрый, з неба ідучы,
З неба ідучы, вазьмі ключы,
Адамкні зямлю сырусеньку,
Пусці расу цяплюсеньку.
Пусці расу на ўсю вясну,
На ўсю вясну, на ціхае лета,
На ціхае лета, едранае жыта,
На гэты свет, на ўсякі цвет.
Святое ушэсце пшонку сее,
Пшонку сее ў ярной змене.
Святы Мікола па межах ходзе,
Па межах ходзе, жыта аглядае,
Якое малое, тое падымае.
Святая тройца краску накладае,
А дзесятуха — жыта паспявае.
Святы Пётра сярпы востра,
Святы Ілля — зажынае,
Там жа яму бог памагае:
Што раз разане — вязьмо нажне,
Што другі разок, то і снапок.
Густы, часты на небе зоркі —
Гусцей, часцей на ніве снапы,
Шырок, вялік на небе месяц —
Шырэй, вышэй стагі ў гумне.
Дай жа божа, умалоту:
На полі вазамі, у гумне стагамі,
А на таку бальшымі грудамі.
Дай жа божа, у прудзі намолу,
У прудзі намолу, у дзяжы — спору,
А на сталe — хлебам, сыццю.

Гаспадарочак, мой сакалочак,
Дары, дары валачобнікаў.
Валачобнікі — не дакучнікі,
Не часта ходзім, не дарага просім:
У гадочак адзін разочак.

Пачынальнічку — рублёвачку,
Падхватнічкам — па палцінaчку,
А музыку — горкую долю,
Горкую долю — кварту гарэлкі,
Кварту гарэлкі і сыр на тарэлкі.
Механошу — жыта калошу,
Няхай нясе — хоць парвецца,
Хоць жа з яго бог насмяецца.
Гаспадарочак, мой сакалочак,
За бутылачку — ды ў клетачку,
У клетачку па гарэлачку.
Гаспадынька-журавінка,
Скавародку ў печ, па яечкі ў клець.
Вясна красна на ўвесь свет!



Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Вясна красна на ўвесь свет! *
Гаспадарочак, чудны паночак,
Ці спіш, ці ляжыш, ці ў вакно глядзіш?
А калі спіш — бог з табою,
А калі не спіш — гукай са мною.
Па двару ідзём і «дзень добры» даём.
Дзень добры таму, хто ў гэтым даму.
Устань раненька, мыйся бяленька.
Мыйся бяленька, трыся сухенька
Да й сядзь за сталом на сваім куце.
Адчыні вакно і паглядзі на двор.
На тваім дварэ праява стала,
Праява стала — праявілася:
Новая цэркаўка станавілася,
Маляваная, пабяляная.
А ў той цэркаўцы прыстолы стаяць,
За прыстоламі — госпад бог сядзіць,
Госпад бог сядзіць ды кнігу дзяржыць.
Ды кнігу дзяржыць і кнігу чытаець,
Кнігу чытаець і святкі збіраець,
Святы збіраець, рахуець, шчытаець:
Катораму святку наўпярод пайсці.
Наўпярод пайсці ды повад павясці.
Ды свято раство ды наўпярод пайшло.
А после свята раства — свято Васілля,
А после Васілля новенькі гадок.
Свято хрышчэнне — ваду хрысціла,
Ваду хрысціла і на свет пусціла.
А после таго — святы грамніцы,
Святы грамніцы з грамнічнай свячой.

А после таго — ды чудак Улас,
А после таго — ды святы Ізбор,
А святы Ізбор гоніць ваду з гор.
А после таго — ды святы Еўдакім,
Ды святы Еўдакім той стары рыбалоў:
Лодачку смаліў, рыбачку лавіў.
А после таго — ды святы Аляксей,
Ды святы Аляксей — заворываець
Вараным канём, новенькай сахой.
Шаўковы гужы — божа, памажы!
А после таго — свято благавешчанне,
Свято благавешчанне — пчала ручаіць:
На работу ідзець і работу нясець.
А после таго — свята вербніца,
Свята вербніца і з вярбовым дубцом.
А после таго — свято вялічка:
Ідзець з красным яйцом і з божым слаўцом.
А после таго — свята правадніца,
Свята правадніца святы праводзіць.
А после таго — святое Юр'е,
Ды свято Юр'я выводзіць коней,
Выводзіць коней ды ўсё сівых,
Ды ўсё сівых, ды белагрывых,
У чыста поле ды на даліну,
Ды на даліну, ды на шырокую,
А там на землю пусціў расу
Ды ўсё цёплую, а каб і мокрую.
А после таго — свято Барыса,
Ды святы Барыс, ён коні пасець,
Ён коні пасець і папасываець,
Праваю рукою паглажываець,
А вячэрняй зарой дамоў гоніць,
Дамоў гоніць, у хлеў заганяець.
А пасля таго — святы Мікола,
Святы Мікола пайшоў у поле,
Пайшоў у поле і па мяжах ходзіць,
Па мяжах ходзіць, бога просіць:
«Дай жа божа, і жыта й ярыны,
І жыта й ярыны — горы і даліны».
А после таго — святая троіца,
Святая троіца жыта раўнуець.
А после таго — святы дзевятнік,
Святы дзевятнік гнаі вывозіць.
А после таго — святы Іван,
Святы Іван — жыта красуець.
А после таго — свято Пятро,
Свято Пятро ды ўлузала ядро.
А после таго — святая Ілья,

Святая Ільля — крутая жняя.
А после таго ды святы Іспас,
Ды святы Іспас жыта пасвяцаў.
А после таго ды свята прачыста,
Свята прачыста жыта засявала,
Менша прачыста ды й жыта ўпахала.
А после таго свята звіжанне,
Свято звіжанне бульбу выбірала,
Бульбу выбірала, у капцы ссыпала.
А после таго ды святы пакровы,
Ён з поля дамоў гнаў каровы.
А после таго ды святы Макавей,
Ён на возе сядзеў ды восець тапіў.
А после таго ды святы Дзям'ян,
Святы Дзям'ян — ён жыта сушыў.
А после таго — дробныя сяткі:
Бярыце цапкі — жыта малаціць.
А дай жа ж божа, на таку ўмалот,
На таку ўмалот, у жорнах намол,
У жорнах намол, у дзяжы падход.
У дзяжы падход, у печы падрост!

А мы госцейкі ды небывалыя,
Ды небывалыя, ды нехаджалыя.
Нячаста мы ходзім, нямнога мы просім:
Пачынальнічку — сорак пар яец,
Падгалоснічкам — хоць па дзесяць пар,
Хоць пар па дзесяць, хай душу пацешаць.
Майму музыку — чырвоны злоты.
Хай будзе для яго на новыя боты!
Механошу — кварту гарэлкі,
А як жонка ня любіць — дык сыр на тарэлке.
Просім даваць — не шкадаваць,
Каб было за што пану дзякаваць.
Вясна красна на ўвесь свет!


Пахвалёны ў дом свянцоны,
Хрыстос, сын божы, Хрыстос!
Гаспадарочак, слаўны паночак,
Устань рана, ўмыйся бела.
Бела ўмыйся, суха ўтрыся.
Вазьмі грэбень — слізка ўчашыся.
Надзень боцікі казловыя,
Надзень шубачку з сямі сабалёў,
Надзень шапачку-барановачку,
Вазьмі лесачку маляваную,

Выйдзі на двор на свой новенькі.
У тваім дварку — як у вянку:
Пасярод двара — шацёр стаіць,
А ў тым шатры — прастол залаты,
За прастолам сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, кветку дзяржыць.
Каля кветкі пчолкі ўюцца.
То ня пчолкі — ўсе святочкі,
Шыкуюцца, рахуюцца,
Катораму ўперад ступіць.
Свято ражство ўпярод пайшло,
Святы новы год — па следу яго,
Святое хрышчэнне ваду хрысціла,
Ваду хрысціла, на свет пусціла.
Святыя грамніцы свечы сукалі,
Свечы сукалі, у царкву насілі.
А святы Ізбор, пагнаў ваду з гор,
Зрабіў лужы, зіму рушыў.
Аўдакею — саху ладзіць,
Аляксею — каня гладзіць.
Благавешчанне заарала
Новай сахой, вараным канём.
А вербніца вербу ломіць,
Вербу ломіць, пасвянцаець,
Чысты чацвер падчышчаець,
К святому вялічку прыбіраець.
Святы вялічка разгаўляець —
Красным яйкам, божым слоўцам.
Праводніца праважаець,
Радаўніца сады садзіць,
А другая — памінаець.
Святы Юр'е, сядлай каня,
Сядлай каня варанога,
Едзь у поле, атамкні зямлю,
Пусці расу на ўсю вясну.
Святы Барыс ляды паліць,
Ляды паліць — ячмень сеіць.
А Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыта правіць.
Дзе высахла — там падмочыць,
Дзе вымакла — там падсушыць.
Святы шоснік — стаўкі ставіць,
Савята троіца маі ставіць.
А дзевятнік раі ловіць,
Дзесятуха краску даець.
Святы Іван — слаўны каваль:
Аж да Пятра косы точыць.
Пятра, Паўла сена косіць,

Ў пунькі возіць, стагі ставіць.
А Пяценка сярпы зубіць.
Свята Ілля — стара жняя —
Жыта ў полі зажынаець.
А святы Спас жыта свенціць.
Прачыстая жыта сеіць,
Жыта сеіць, пчолак ладзіць,
Кадкі мёдам наліваець,
А другая — усеваець.
Уздзвіжанне з поля збіраець.
Святы пакроў пакрываець:
Зямлю лісцем, ваду лёдам,
Ваду лёдам, пчалу мёдам,
Рыбу луской, дзевак таской.
Святы Змітра піва варыць,
Сыноў жэніць, надзяляець:
Што сыночку — па канёчку,
Што дачушцы — па цялушцы.

Гаспадару, слаўны пане,
Ці ўслых табе нашы песні?
А мы госці нечастыя:
У гадочак адзін разочак.
Калі ж не ўслых — бог з табою,
Калі ж услых — моў са мною:
Мне самому — капу яек,
Маім братцам — па дзесятку,
Музыканту — чырван злоты,
Механошу — хоць на боты.
Кладзі кладку, прасі ў хатку.
Калі ласка — водкі пляшку,
Калі сіла — масла й сыра,
Коль нязмога — хоць пірога!
Хрыстос, сын божы, Хрыстос!



Пойдзем, братцы, па вулачцы,
Зялёны явар, зялёны *.
Па вулачцы па шырокай,
Пойдзем, зайдзем у хазяйскі двор.
Хазяйскі двор — шырок, вясёл,
Шырок, вясёл, на сем сажон,
На сем сажон тыном тынён.
Каля тыну трава расцець,
Трава расцець шаўковая,
На ей раса мядовая.
Хазяюшка, наш бацюшка,

Ты спіш, ляжыш, ці ўсё чуеш?
Устань, прачнісь, глянь ў аконца,
Глянь у аконца на ўсход сонца,
Ў тваім двары што дзееццa,
Што дзеецца, лялееццa?
Ў тваім двары звязда спала,
Звязда спала — царква стала.
А ў той царкве прыстол стаіць,
За прыстолам сам бог сядзіць.
Каля бога ўсе празнічкі —
Шыкуюцца, рахуюцца:
Катораму ўперад ступіць?
Першы празнік — святы Юра,
Святы Юра ўперад пайшоў,
Асядлаў каня варанога
І паехаў аж да бога.
Узяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю, пусціў расу,
Пусціў расу на ўсю вясну,
Вільготную, выгодную.
Другі празнік — святы Мікалай,
Святы Мікалай яр засяваў:
Авёс-барадач, ячмень-шасцярэнь,
Грэчку-чарнушку, святую іллюшку.
Трэці празнік — святы Андрэй,
Святы Андрэй за ўсіх мудрэй:
Саху ладзіць, каня гладзіць.
Чацверты празнік — святая Ілля,
Святая Ілля, крутая жняя.
Пайшла ў поле жыта жаці,
Жыта жаці, зажынаці
З белым сырам, з белым сынам.
Што раз махне — то сноп кладзе,
Снапы вяжыць, ў мыдлі ставіць!
У мыдлі ставіць, копы лічыць,
Копы лічыць, на воз кладзець,
На воз кладзець, ў гумно вязець,
У гумно вязець, у тарпы кладзець:
Адна тарпа — на семячка,
А другая — на емечка,
А трэцяя — піва варыць.
Піва варыць, сыноў жаніць,
Дачок замуж аддаваці,
Дай божа, і нам даждаці!

Хазяюшка, наш бацюшка,
Ці спіш, ляжыш, ці ўсё чуеш,
Ці з жаною маладою,

Ці з дзеткамі маленькімі?
Калі з жаною, дык бог з табою.
Устань, прачнісь, глянь у акно:
У тваім двары што дзеецца!
Ў тваім двары гасцей многа.
Гэтыя госці нехаджалыя —
У гадочку адну ночку.
Масці кладку цясовую,
Прасі ў хату у новую.
Калі змога — паўпірога,
Калі ласка — водкі пляшка,
Калі сіла — дык паўсыра,
Гэта Хрыстос хазяіну.
Песня спета проці лета,
Каб камары не кусалі,
Каб жанчыны абымалі.



Борам, борам, баравінкаю,
    Вясна красна на ўвесь свет! *
Сённяшнім дзяньком, вечарынкаю
Збіраліся хлопцы — ўдалыя малойцы.
А сабраўшыся, рахаваліся:
«Куды мы, братцы, да павернемся?
Ці ў дуброву, ці ў роўна поле?
А ў дуброве мы наросімся,
А ў роўным полі мы папылімся».
Ой, пайшлі ж яны да й дарогаю,
Да й дарогаю ўсё й шырокаю.
Сустрэлі яны госпада бога.
Прыпыніліся, сукланіліся.
«Госпадзі божа, ўкажы нам дарогу
Да к таму сялу, сялу старому,
Да к таму дзядзьку, дзядзьку слаўнаму».
Ой, чым жа па чым гэты дзядзька славен?
А славен ён тым — усім сваім добрым:
Да сваім гумном зелянесенькім,
Да сваім дваром круглесенькім.
Да ў яго на гумне да ляжаць снапы,
А ў яго на дварэ да стаяць сталы,
Да стаяць сталы муляваныя,
Да ляжаць абрусы шаўковыя.
Да на тых абрусах да ляжаць хлябы,
Да ляжаць хлябы пытляваныя.
За тымі сталамі да сядзяць святцы,
Да сядзяць святцы, да лікуюцца.
Лічылі, лічылі, аблічыліся:

Аднаго свята прызабыліся.
«Да якога ж свята?»
— Святога Юр'я. —
«А каго ж адабраць па яго паслаць?»
— Святая Мікола, садзіся на каня,
Едзь у роўна поле Юр'я шукаці. —
Юрай у варота — Мікола ў другія.
«Дзе ж ты, Юр'я, прызабавіўся?»
— Каля меж хадзіў да жыта глядзеў,
Жыта і пшаніцу, усякую пашніцу:
А ў коласе да ці каласіста?
А ў саломе да ці саламіста?
А ў корані да ці караніста?
Вясна красна на ўвесь свет!



Ой, лугам, лугам калінавым,
Віном, віном зялёным! *
Ішлі ж тудой валачэбнікі
Іграючы, спяваючы,
Слаўна пана пытаючы.
Ой, ці дома, пане гаспадару?
Хоць і дома — не акажацца:
У каморы прыбіраецца.
Выйдзі ў ганак танюсенькі
Ды глянь вочкам весялюсенькім:
Па тваім полі сам бог ходзя,
Сам бог ходзя, жыта родзя.
Урадзі ж, божа, жыта і пшаніцу,
Пабі, божа, гуголь і мятліцу!..
Там жнуць жнейкі маладзенькі,
Ў іх сярпочкі залаценькі.

Ото ж табе, пане гаспадару,
Палажы кладку, пазаві ў хатку.
Сярмяжку на пашку ды ў свіран па пляшку,
А й шчэ да тэго — трошкі свянцонэго!



А з-пад лесу, лесу цёмнага,
Вясна красна на ўвесь свет! *
А з-пад гаю, з-пад зялёнага
Ці не тучка йдзець, ці не воблачка?
А йшлі ж тудой валачобнічкі,
Валачобнікі — людзі добрыя.
А йшлі ж яны, шаталіся,

Вялікага сяла пыталіся,
Вялікага сяла, багатага двара,
Багатага двара, пана Іванькі:
«Ці ты дома, пане Іванька?»
Хоць ён дома, ён ні акажыцца —
К вялікаму святу прыбіраецца:
Абуваець боты шаўровыя,
Надзяець шаты па самыя пяты,
Падпіразаіць ды каван пояс.
Прыбраўшыся, ён сеў сабе
За столікам, за цясовенькім,
За скацерцю за бялёвенькай.
Перад ім стаяць чатыры кубкі,
Маляваненькіх, наліваненькіх:
У адным кубку — зеляно віно,
У другім кубку — пшоннае піва,
У трэцім кубку — саладок мядок,
У чацвёртым кубку — горка гарэлка.
Зеляно віно — для самога пана,
Пшоннае піва для жаны яго,
Саладок мядок для дзяцей яго,
Горка гарэлка для суседзь яго.
Вясна красна на ўвесь свет!



Гаспадарочак, мой сакалочак,
Вясна красна на ўвесь свет! *
А бяры лубку хоць чорную,
А насып яе хоць поўную.
Няхай механош падарвецца —
Гаспадарочак насмяецца.
Дай табе божа, гаспадарочак,
І ў каморы, і ў аборы.
А дзе гара — там жыта капа,
А дзе лагчынка — там жыта сціртa,
А дзе лог — там сена стог.
Дай табе божа, гаспадарочак,
Піва варыці, сына жаніці,
Гарэлачку гнаці — дачку аддаваці.
Вясна красна на ўвесь свет!



Чый гэта дамок, а ён новенькі,
Вясна красна на ўвесь свет! *
А ён новенькі, ўвесь дубовенькі.
А здраства таму, хто ў гэтым даму:

Гаспадынячцы і гаспадару.
Гаспадынечка — журавіначка,
Гаспадарочак — слічны паночак,
А ці ўслых табе мае песенькі,
Мае песенькі валачобныя,
Валачобныя, велікодныя?
А калі няўслых, дык бог з табою.
А калі ўслых — гукай са мною,
Масці кладачку, заві ў хатачку.
А мы госцейкі небывалыя,
Небывалыя, нехаджалыя.
Нячаста ходзім, нямнога просім,
Толькі ў гадочак адзін разочак.

Ай, нясі, нясі кварту гарэлкі
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі,
К таму сырчыку — пшонны піражок,
К таму піражку місу тваражку.
Кварта гарэлкі, ой, для смеласці.
Сыр на талеркі, ой, для голасу,
Пшонны піражок, ой, для коласу,
А міса тваражку для нажытачку.
Вясна красна на ўвесь свет!



Як на горцы, на жоўтым пяску,
Зялёна елка, сасонка *.
Стаіць цэрквачка з трыма акнамі,
З трыма акнамі, з трыма крастамі:
У адно акно сонца ўваходзіць,
Ў другое акно салавей ляціць,
У трэцяе акно сам бог паглядзеў,
Сам бог паглядзеў, слязіну ўраніў.
А з той слязіны стала рэчанька,
А па рэчаньцы селязень плывець,
А за селязнём — шэра вуціца,
А за вуціцай — вуцянятачкі.
Сізы селязень — малады Пеценька,
Сера вуціца — яго Анечка.
Вуцянятачкі — яго дзетачкі,
Зялёна елка, сасонка.



На вуліцы на шырокай,
Зялёны сад, вішнёвы *.
На мураўцы на зялёнай

Ляжаць бруcся ўсе цясовыя,
На тым бруссю ды мужы сядзяць,
Мужы сядзяць, мужы чэсныя,
Радуюць раду ды вялікую,
Вялікую ды не малую:
А каго ж нам ababraці?
Ababraці, начальству даці?
Ababяром пана Піліпа —
Ў яго на дварэ агні гараць,
Агні гараць, катлы вісяць,
Піва варыцца, сыта сыціцца,
Пірагі пякуць, у карабе кладуць,
У карабе кладуць —
Зяця ў госці ждуць.
    Зялёны сад, вішнёвы.



Да дзенькую пану за яго сталы,
За яго сталы за цясовыя,
За яго абрусы сурватовыя,
За яго тарэлкі фарфуровыя,
За яго пячонкі за сыцюсенькія,
Да за яго сыры да бялюсенькія,
За яго калбаскі да крывавенькія,
За яго бутылкі да віновыя,
За яго стаканы маліновыя.



Чуваць: зверы равуць,
Нас у хату пазавуць.
    Вясна красна на ўвесь свет! *
Сыр на талерку,
Закусіць гарэлку.
Сем пар кілбас —
Дык і хваціць для нас.
Парася з хвастом
Валачы на стол.
Па шклянцы піва
Для свайго дзіва.
Па шклянцы рому
Для свайго дому.
Чуваць: хату мятуць,
Нас у хату пазавуць.
    Вясна красна на ўвесь свет!



А ў нашага пана гаспадара
Вясна красна к нам прыйшла *.
Пасярод двара залатая гара.
А на той гары да на залатой
Тыны-прытыны папрытынены,
Сады-прысады панасаджваны,
Райскія пташкі папрынаджваны.
Да завінулась шура да й бура.
Усю тую гору да й раздула,
Тыны-прытыны паварочала,
Сады-прысады павырывала,
Райскія пташкі паразганяла.
Да зажурыўся пан гаспадар
Да на той гары пахаджаючы,
Белыя ручкі да ламаючы.
Да яго жана разважна была.
«Да не журыся, пан гаспадар,
Да калі будзем жыці да быці,
Мы тую гару зноў насыпляем,
Тыны-прытыны папрытынваем,
Сады-прысады панасаджваем,
Райскія пташкі папрынаджваем».
Вясна красна к нам прыйшла.



Пад застрэшкам галубы буркуюць,
Віно маё зялёнае! *
А ў каморы краўцы шыюць,
Яны шыюць шубу гаспадыні.
Пані гаспадыня панашаць будзе,
Сваіх дзетак пабуджаць будзе:
«Уставайце, дзеткі, умывайцеся,
Белым рушнікам выцірайцеся
Ды запаліце ліхтарыкі,
Ды ідзіце ў хлявок глядзець.
Ды ідзіце ў хлявок глядзець.
Там кароўкі пацяліліся,
Там кароўкі пацяліліся,
Цялушкі, бычкі нарадзіліся.
Цялушачак гадаваць будзем,
А бычочкі прадаваць будзем.
Дзевак замуж аддаваць будзем,
А хлопчыкаў жаніць будзем.
Дай жа божа, прычакаці,
Вяселіца пагуляці».
Віно маё зялёнае!



Гаспадынечка, журавіначка,
　Зялёна елка, зялёна *.
Устань раненька, умыйся бяленька,
Умыйся бяленька, утрыся сухенька,
Запалі свячу ўсё яснюсеньку,
Запалі ліхтарэц, схадзі ў хлявец.
Што ў тваім хляўцу за праявачка,
За праявачка праявілася:
Дзевяць каровак ацялілася,
А дзесятая — назначылася.
Пацяліліся ўсе дравушачкі,
Параджаліся ўсе цялушачкі,
А на пасагу ўсё дачушачкам.
Дачок аддаваць — свіран вымятаць,
А сыноў жаніць — дык свірны паўніць.
　Зялёна елка, зялёна.



На вялічачка, а на першы дзень,
　Зялёны сад, вішнёвы *.
Ці не ластавіца ў вакно біла,
Ў вакно біла, гаспадыню будзіла:
«Устань, пані гаспадыня,
А ўмыйся ты бялютачка,
Запалі свячу грамнічную,
А ідзі ў хлявок, зірні ў куток.
Што ў цябе ў хляўку паявілася?
Колькі каровак ацялілася,
А йшчэ столькі назначылася».



Ой, ляцела сойка ды на тераплоты,
　Зялёны явар, дубровы *.
Ой, ухапіла суседзькаву жонку,
А суседзька за ёй з качаргою.
«Ах, ты, сойка, нявольніца,
Мая жонка работніца,
Тонка прала, звонка ткала,
Бела бяліла, ў золаце хадзіла».
　Зялёны явар, дубровы.



Добры вечар, паненачка!
　Зялён явар, зялёны *.
Проша адамкнуць нам акеначка.

Мы ж табе ды шчабятаць будзем,
Як салавейка ў цёмным лузе,
Ў цёмным лузе ды на былінцы,
Ды на былінцы, ды на тоненькай.
Тонкая былінка, ды не гібліся,
Малада паненка, развесяліся.
Выйдзі, паненка, к нам на ганачак,
Вынесь, паненка, свой падарачак:
Свой падарачак — сорак яек.
Сорак яек сорам даці —
Пятага дзесятка трэба пашукаці.
    Зялён явар, зелёны.



Добры вечар, ды паненачка!
    Зялён явар, зялёны *.
Просім адамкнуць нам акеначка,
Просім пабачыць свайго каханага.
Твой жа каханы на коніку едзе,
На коніку едзе, бліжай пад'яжджае.
Бліжай пад'яжджае, тры падаркі мае:
Першы падарак — руцвяны вянак,
Другі падарак — срэбраны кубак,
Трэці падарак — залаты персцень.
Руцвяным вянкам павянчаціся,
Срэбраным кубкам мёд, віно піці,
Мёд, віно піці — не ўпіваціся,
Залатым перснем абмяняціся.
Просім выйсці к нам на ганачак,
Просім вынесці нам ды падарачак:
Сыр на тарэлку — закусіць гарэлку,
Парасё з хвастом валачы на стол,
Слаўная паненка, бывай здарова,
Бывай здарова, жыві багата!
    Зелён явар, зелёны.



Добры вечар, красна паненка!
    Ды ж віно, віно зялёнае! *
Красна паненка, маладая дзеўка,
Адчыняй сваё акенца,
Я скажу табе добрую весь,
Я скажу табе добрую весь,
Хто ў цябе на дварэ есць:
Той прыехаў, каго ты жадала,
Кавалер харошы, даўганосы,

Даўганосы, вельмі слічны,
Не тутэйшы — загранічны,
Ды ж віно, віно зялёнае!



А ў Гэлечкі двор шырокі,
Зялёны явар, зялёны *.
Там Гэлечка трэсачкі збірае,
Трэсачкі збірае, сватоў дажыдае —
А ці з югу, ці з валстоку,
Ліжбы толькі іздалёку.
Едзе паніч маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі,
Сядло чорным сукном крыта,
Аксамітам, срэбрам біта.
На ім шапачка, як жар, гарыць,
На ім боцікі лакавыя.
На ім світка атласовая,
На ім штаны саціновыя.
Ён паўсюды паязджае,
Красных дзевак выбірае,
На Гэлечку заглядаецца.
Пэўна, будзеш яго жонаю.
Дзяўчыначка, не пужайся,
Выйдзі з хаты павітайся.

Табе, Гэлечка, песенька спета,
Песенька спета напроць лета,
Напроць вясны — жаніх красны,
Каб камары не кусаліся,
Каб хлопчыкі уцяшаліся,
А з валачобнікамі расшчыталіся.
Зялёны явар, зялёны.



У новай каморы — што там стучала?
Сад зялёны, вішнёвы *.
Малада паненка абрусы ткала,
Абрусы ткала, сталы засцілала,
Сталы засцілала,
сватоў дажыдала.
Ой, вы сваточкі,
вы галубочкі,
Прыязджайце ў гэту ночку.
Сад зелёны, вішнёвы.



Малада паненка рана устала,
Ой, віно ж маё зеляно! *
У зялёным саду цвяточкі рвала,
Цвяточкі рвала, вяночкі віла:
Адзін вяночак ды з руты-мяты,
Другі вяночак з чырвонай ружы,
Трэці вяночак з усяго зелля.
Да з руты-мяты — заручаціся,
З чырвонай ружы — павянчаціся,
З усяго зелля — на ўсё вяселле.
Ой, віно ж маё зеляно!



Паненачка, як лялея,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Ране ўстаеш, кладзешся позна.
Цяпер пяём — паненкай завём,
А дай божа, восені даждаці,
Восені даждаці — паняю назваці.
Хрыстос васкрэс — сын божы!



Ясна, красна да на небе зорка,
Вясна красна к нам прыйшла *.
Яшчэ красней слічная паненка,
Па сенях ходзіць — усе сені ззяюць.
Да выйшаў, выйшаў слічын панічак.
«Сядзьма, паненка, да пагаворым».
— Ой, рада б я з вамі пагаварыці,
Да баюся ж я да пана айца,
Да пана айца і пані мамачкі. —
«Мы пана айца ды перапросім,
Паню мамачку ды зусім згодзім».
Вясна красна к нам прыйшла.



Малада Манечка скуты бяліла,
Зялёна елка, сасонка *.
Скуты бяліла, ключы згубіла.
Як дала чалом за мамачкай дамоў:
«Маманька, хадзі, ключыкі знайдзі!»
Маманька пайшла, ключы не знайшла.
Як дала чалом за татанькам дамоў:
«Татанька, ідзі, ключыкі знайдзі!»
Татанька пайшоў, ключы не знайшоў.

Як дала чалом за міленькім дамоў:
«Міленькі, хадзі, ключыкі знайдзі!»
Міленькі прыйшоў, ключыкі знайшоў.
Зялёна елка, сасонка.

А на рэчаньцы на быстранькай,
Зялён явар, зялёны *.
На кладачцы на гібчанькай,
Там дзевачка бель бяліла,
Бель бяліла, хустку мыла,
Золат персцень ураніла.
Прыйшла дамоў — к татульку чалом:
«Едзь, татулька, па золат персцень».
Татулька кажа: «Я не паеду.
Мой конічак не кованы,
На бел камень ён не станіць,
На сіне мора ён не ўзгляніць,
Золат персцень не дастаніць».
Прыйшла дамоў — міламу чалом:
«Табе, мілы, ехаць па золат персцень».
Мілы кажыць: «Я й паеду:
Мой конічак падкованы,
На бел камень ён жа станіць,
На сіне мора ён узгляніць,
Золат персцень ён дастаніць».
Зялён явар, зялёны.

Ой, на моры на сіненькім,
Да віно ж маё зеляно! *
На той кладцы цудоўна паненка
Бель бяліла, персцень ураніла.
Пайшла ж яна беражочкам,
Напаткала трох рыбалоўнічкаў.
«Рыбалоўнічкі, вы малойчыкі,
Вы закіньце шаўковы невад
Ды злавіце залаты сыгнэцік».
— А што ж ты нам за дар дасі? —
«Мае дары невялікія,
Мае дары — жывыя тавары:
За першага сама пайду,
За другога сястру аддам,
За трэцяга — таварышку.
Сама буду панаваці,
Сястра будзе пасцель слаці,
Таварышка жыта жаці».

Песня спета проціў лета,
Проціў цёплага, велікоднага.
Да віно ж мае зеляно!



А над морам да над беражочкам,
Да віно ж, віно зеляно! *
Красна паненка бель бяліла,
Залаты персцень утапіла.
А пайду ж я да рыбалоўцаў,
Рыбалоўцы — добрыя хлопцы.
Яны мяне паслухалі,
Шаўкоў невад закідалі,
Залаты персцень даставалі
Да злапалі шчуку-рыбу.
На той рыбе луска залаціста.
А хто ж яе сабіраць будзе?
Красна паненка, маладая Аленка,
Яна тую луску сабірала
Да у сваю хустачку завівала,
Да к свайму ліцу раўнавала.
«Да дай божа, мне такое ліца,
Як гэта луска залацістая».
Просім паненку слаўнаю быці,
Атцу і матцы спакарыцца,
Харашэнька расплаціцца.
Наша плата невяліка:
Сорак яек на падмісак,
Кілбасою акружыці,
Белым сырам завяршыці,
Саракоўку на падкоўку.
Эх, выйдзем мы да на вулачку,
Да пасядзем мы на горачку,
Да раскоцім па яечку,
Да раскоцім, да палічым,
Млоду Аленку да звялічым,
Што Аленка слаўная была,
Харашэнька заплаціла.
*(Далей прымаўляюць)*
Каб на правадной нядзелі,
За сталом госцікі сядзелі,
Мёд і віно папівалі,
Млоду Аленку замуж аддавалі.
З добрым бытам,
З буйным жытам!
З млодым жаўнерам,
З найлепшым кавалерам!



Ой, ляцела пава павістая,
    Сад зялёны, вішнёвы *.
Папускала пер'е бахмістае.
Выйшла, пайшла млода дзевачка,
Яна тое пер'я пазбірала,
У шаўкову хустачку ўвязала,
Сама пашла на высок церамок,
На высок церамок да трох кавалёчкаў.
«Скуйце, звіце мне тры вяночкі:
Першы вяночак — з пад'яленейку,
З пад'яленейку, што к вяселейку.
Другі вяночак — з руты, з мяты,
З руты, з мяты, каб свёкар багаты.
Трэці вяночак — з чырвонай рожы,
З чырвонай рожы, каб быў міл прыгожы».
    Сад зялёны, вішнёвы.



Ляцела пава па саду, па саду,
    Зялёна ёлка, зялёна *.
Пушчала пер'е ў зялёну траву.
А там Танечка каровак гнала,
Каровак гнала, пер'е збірала.
Большае пер'е — у прыпалочак,
Меншае пер'е — у рукавочак.
З прыпалка брала — вяночак віла,
А з рукаўка брала дый надвівала.
Завіла вяночак дый пуховенькі,
Пуховенькі дый руцявенькі.
Пайшла ў садок к дзеўкам у радок,
Усім дзеўкам пакланілася,
Пакланілася дый пахвалілася:
«А мой вяночак вятры не знясуць,
Вятры не знясуць, дажджы не змочуць».
А як пайшлі буйныя дажджы,
А як узняліся буйныя вятры —
І падхвацілі, і пакацілі
У чыста поле, на сіне мора.
Ідзець Танечка, ручанькі ломіць.
Ручанькі ломіць, рыбаловаў просіць:
«Рыбалоўчыкі, вы малойчыкі,
Закіньце ж вы невад шаўковы,
А злавіце мне вянок пуховы».
— А што ж ты нам за гэта дасі? —
«Я так не хачу, я вам заплачу:
Аднаму я дам кубак медзяны,
А другому дам рушнік бялёвы,
А за трэцяга я й сама пайду.

Кубак медзяны — умывацiся,
А ручнiк бялёвы — уцiрацiся,
А са мной, з маладой, павянчацiся».
Зялёна ёлка, зялёна.



Ой, рана, рана соўнейка грала,
Зялён явар, зялёны *.
А раней таго пава лятала.
Пава лятала павуцiстая,
Уранiла пер'е пазлацiстае.
А там iшла слiчна паненка,
Слiчна паненка, малада дзеўка.
Тое пер'е дый пазбiрала,
Зайшла ў садок ды звiла вянок.
Ды звiла вянок з лiпавых цвятоў,
З лiпавых цвятоў, з кляновых лiстоў.
Дый надзела на галовачку.
Адкуль узялася шура ды бура —
З маладой дзеўкi венчык сарвала
I панесла з гары на гару.
З гары на гару — к новаму двару.
А наўстрэчу яму тры малойчыкi,
Тры малойчыкi-рыбалоўчыкi
Той венчык дый падабралi.
«Ой, вы хлопчыкi-рыбалоўчыкi,
Вы аддайце мой вяночак.
Перваму буду за суседачку,
Другому буду за братовачку,
Трэцяму буду сама малада.
Да суседа я агню пайду,
А свякроўку разуваць буду,
А мiламу пасцель слацi буду.
Ой, вы хлопчыкi-рыбалоўчыкi,
Вы аддайце мой вяночак!»
Першы кажа: «Я вiдзець, вiдзеў,
Я вiдзець, вiдзеў, а ў рукi не браў».
Другi кажа: «Хоць у рукi браў,
Хоць у рукi браў — на зямлю кiдаў».
Трэцi кажа: «Я i ў рукi браў,
Я i ў рукi браў, i на галовачку клаў».
Зялён явар, зялёны.



Ой, рана, рана сонца iграла,
Зялёна елка, сасонка *.
А раней таго пава лятала,

Пава лятала, пер'е губляла.
Малада Манечка ў поле ганяла,
У поле ганяла, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў рукавы клала,
З рукаўкоў брала, вяночкі віла.
Ой, звіла, звіла тры вяночкі:
Адзін вяночак — у будзен дзянёчак,
Другі вяночак — у святы дзянёчак,
А трэці вянок — на хрыстоў дзянёк.
Як узняліся шуры ды буры —
Вянкі схвацілі і пакацілі.
Пайшла Манечка каля Дуная,
Каля Дуная вянкі шукае.
Спаткала яна трох малойчыкаў.
«А ці відзелі мае вяночкі?
А ці бачылі ды цярновыя?»
Адзін жа кажа: — Мы не відзелі.
Другі кажа: — Мы не бачылі.
Трэці кажа: — А што нам дасі? —
«Аднаму я дам платок шаўковы,
Другому я дам персцень залаты,
Трэцяму я дам правую руку,
За правай рукой я сама пайду».
    Зялёна елка, сасонка.



Ў канцы сяла стаіць вярба,
    Да віно ж, віно зеляно! *
Карчыстая, залацістая,
На ей лісця шырокія.
Прыляцелі пташкі-мурашкі,
Крыльцамі махнулі, лісце страхнулі.
Вышла да выбегла красна паненка,
Фартушок пасцілала, лісце пазбірала
Да й занесла да кавалёчкаў.
«Ой, вы хлопцы-кавалёчкі,
Да вы скуйце мне тры рады:
Першая рада — злоты персцень,
Другая рада — злоты вянец,
Трэцяя рада — злоты кубак.
Злоты персцень — з мілым мяняцца,
Злоты вянец — з мілым вянчацца,
Злоты кубак — мёд, віно піці,
Мёд, віно піці, свёкра дарыці».

Просім паненкі не згардзіцца,
Атцу і матцы пакланіцца,

Каб яны намі не згардзілі —
Харашэнька заплацілі:
Сорак яек на паўмісак,
Калбасою акружыці,
Пшонным піражком налажыці,
Белым сырцам завяршыці.
Ой, выйдзем мы на вулачку,
Ой, раскоцім па яечку,
Ой, раскоцім, пералічым —
Красну паненку мы звялічым.
Бадай жа ты замуж выйшла
Да за пана, што суд судзіць,
Што суд судзіць дый перасуджвае.
Да віно ж, віно зеляно!



А ў матулькі адна дочка,
Сад зялёны, вішнёвы *.
Як вішанька ў садочку.
Пайшла ж яна у садочак,
У садочак пагуляці,
Сабе грушку выбіраці.
Ды выбрала сабе грушку
Ды такую высокую.
На ей суччa срэбранае,
На ей лісце залатое.
Як напалі сільны ветры —
Сучча й лісце абарвалі.
Паненачка рана ўстала,
Умылася бялюсенька,
Зачасалася слізюсенька.
Пайшла ж яна у садочак,
Гэту шкоду забачыла,
Шоўкаў платок разаслала,
Сучча, лісце пазбірала,
У пучочкі павязала,
Пашла яна да злотнічкаў.
«Вы, злотнічкі-работнічкі,
Ды зрабіце мне тры выгоды:
Перша выгода — злоты кубак,
Друга выгода — злоты персцень,
Трэцяя выгода — злоты венец.
Злоты кубак — віно піці,
Злоты персцень — на мянянне,
Злоты венец — на вянчанне».

Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна,

На малойцаў агляніся,
Нам, малойцам, аддарыся:
Ці серабром неважоным,
Ці золатам незлічоным,
Добрым часам, перад кірмашам!
Серабро сваё мы зважым —
Мы паненку не зняважым,
А золата самі злічым —
Мы паненку падвялічым.
Чырван злоты нам на боты,
Бо мы боты патапталі,
Пакуль панну дапыталі.
Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна,
Татку з мамкай пакланіся,
Нам, малойцам, адгадзіся.
Як не хочаш аддарыцца —
Пойдзеш з намі валачыцца.
Нашы сцежкі далёкія,
Нашы росы халодныя,
Нашы рэкі глыбокія:
Заросішся, замочышся.
Тады ты нам аддарышся,
Нейдзе ж нанач папросішся.
Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна.
На малойцаў агляніся,
Нам, малойцам, аддарыся:
Сыр на талерку, водкі бутэльку,
Пірог на стол і нас за стол.
    Сад зялёны, вішнёвы.



Сіва, раба ды й зязюленька,
    Ой, віно ж, віно зеляно! *
Усе лясочкі пааблётала,
У адным лясочку да не бывала,
А ў тым лясочку стаіць кузенька,
А ў той кузеньцы тры кавальчыкі.
Выйшла, выбегла красна дзеўчына:
«Вы, кавальчыкі, тры брацейкі,
Выкуйце мне тры радасці:
Перша радасць — залаты персцень,
Друга радасць — залаты вянец,
Трэця радасць — залаты кубак».
— Дзяўчыначка, наша панначка,
Дорым табе мы тры радасці:

Залаты персцень — з мілым мяняцца,
Залаты вянец — з мужам мэнчыцца,
Залаты кубак — мёд, віно піці,
Мёд, віно піці, свёкра дарыці.

Просім, паненкі, не згардзіцца,
Айцу й матцы пакланіцца,
Каб яны намі не згардзілі,
Харашэнька заплацілі:
Сорак яек на талерачку,
А каўбаскаю акружыці,
Пшонным піражком налажыці,
Белым сырцам завяршыці.
Ой, віно ж, віно зеляно!


Пасярод двара стаяла вярба,
Вясна красна к нам прыйшла *.
А на той вярбе — залатая кара.
Да наляцелі райскія пташкі,
Усю тую кару абшчыкіталі.
А прышла маладая дзевачка,
Усю тую кару пазбірала
Да панесла ж да к тром злотнічкам:
«Ой, мае ж вы тры злотнічкі,
Да скуйце мне тры надобачкі:
Першы надобак — залаты кубак,
Другі надобак — залаты персцень,
Трэці надобак — залаты вяночак.
Залатым кубкам запівацiся,
Залатым перснем мяняцiся,
Залатым вяночкам вянчацiся».
Вясна красна к нам прыйшла.


У гародчыку, частакольчыку,
Яркае сонца ў ваконца! *
Чырвона рожа расцвітала.
А туды ж пашла слічна паненка,
Яна тую рожу сашчыпала,
К свайму ліцу раўнавала:
«Каб маё ліцо такаво было,
Такаво было, як гэтая рожа.
Як гэта рожа — чырвона, прыгожа,
Не пашла б я за мужыка замуж,
А пашла я за таго пана,

За таго пана, што ў Магілёве,
Што ў Магілёве суды судзіць,
Суды судзіць, перасуд бярэць,
А мне, моладзі, ўсе падаркі шлець:
Майму татульку стальны горад,
Маёй матульцы лісею шубу.
Маім братулькам ды па шапачцы,
Маім сястрыцам ды па венчыку.
А мне, моладзі, залаты персцень,
Залаты персцень у паперачцы,
У паперачцы, на талерачцы».
Яркае сонца ў ваконца!



Ва гароднічку да на тачыльнічку,
Да віно ж наша зялёнае! *
Там мак-рожа расцвітала.
Там, там Танечка пахаджала,
Тую мак-рожу сашчыпала,
К свайму лічыку раўнавала:
«Каб маё ж ліцо да тако было,
Як гэта мак-рожа чырвоная,
Не пашла б я ні за селяніна,
Ні за селяніна, ні за двараніна.
Ды пашла б я за крулева сына,
Што з коніка не ссядае,
Мяча з пляча не знімае».
Цераз поле едзе — поле ззяе,
Цераз место едзе — место йграе.
Падыходзілі ўсе паненачкі,
Ўсе паненачкі, ўсе мяшчаначкі,
Сталі таму дзіву дзівавацiся.
Адна кажа: «Слаўны, ды чый жа сын будзе».
Друга кажа: «Яшчэ слаўней, чый зяць будзе».
Трэця кажа: «Яшчэ слаўней, чый муж будзе».
Да віно ж наша зялёнае!



У гародчыку, у красотчыку,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Чырвона роза расцвітала.
Там паненка ўмывалася,
Свайму ліцу дзівілася:
«Каб маё ліцо, як гэта роза,
Не пайшла б я ні за селяніна,

Ні за тога дваровага сына.
А пайшла б я да за таго пана,
Што суды судзіць, перасуджвае.
Купіў бы пан жане да шубачку,
А дачушцы — да сукеначку,
А сыночку — да коніка.
Жана ў шубцы пахаджаць будзе,
Дачушка ў сукенцы танцаваць будзе,
Сынок на коніку паязджаць будзе».
Вясна красна на ўвесь свет!



А ў садзе, ў садзе на вінаградзе,
Зялён явар, кудравы *.
Стаіць вішанька вельмі нізенька.
Пад той вішанькай млода паненка
Вішанькі шчыпліць, у карманчык сыпіць.
Прыйшло да яе тры паповічы,
Тры паповічы, каралевічы,
Загадалі ей сем загадак,
Сем загадак — сем разгадак.
«Калі адгадаеш — за сябе возьмем,
А не адгадаеш — за слугу свайго:
«А што й гарыць ды без полымя?»
«А што й расцець ды без кораня?»
«А што й бяжыць ды без повада?»
«А хто ж іржэць ды без голасу?»
«А хто ж і белы ды не белены?»
«А хто ж і рабы ды не раблены?»
«А хто ж і цвіціць, ды ніхто не відзіць?»
— Ды я ж бы была не таткава доч,
Не таткава доч і не мамкава,
Каб не адгадала гэтых загадак:
«Гарыць зара ды без полымя».
«А расцець камень ды без кораня».
«А бяжыць вада ды без повада».
«А конь іржэць ды без голаса».
«А белы лебедзь ды не белены».
«А рабы дзяцел ды не раблены».
«А папараць цвіціць ды ніхто не відзіць». —
Зялён явар, кудравы.



Пасвіла дзеўка стада коней,
Яркае сонца ў ваконца! *
Стада коней, стада вараненькіх.
Легла ж яна, задрамала.

Задрамала — коней пацірала.
Пашла ж яна дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Стрэла ж яна трох малойчыкаў,
Трох малойчыкаў-валачобнічкаў.
«Валачобныя, людзі добрыя,
Ці відзелі стада коней?»
— Хоць відзелі, дык не скажам.
Адгадай, дзеўка, шэсць загадак.
Адгадаіш, коней скажам:
«А хто бяжыць без повада?»
«А што іржэць без голаса?»
«А што расцець без кораня?»
«А што гарыць без полымя?»
«А што бела ды нябелена?»
«А што чорна ды нячэрнена?» —
«Вада бяжыць без повада»,
«А конь іржэць без голаса».
«Камень расцець без кораня».
«Сажа гарыць без полымя».
«Белы лебедзь ды нябелены».
«Чорны воран ды нячэрнены».
— Твае коні ў чыстым полі.
А ядуць яны шаўкову траву,
А п'юць яны ключаву ваду.
Яркае сонца ў ваконца!



Пайшоў казак дарогаю,
Дарогаю шырокаю.
Сустрэў дзеўку-сямілетку,
Загадаў ёй сем загадак.
«Адгадаеш — мая будзеш,
Не адгадаеш — дурна будзеш:
«Што гарыць без полымя?»
«Што расце без кораня?»
«Што цвіце, а цвету нету?»
«Што калышацца без ветру?»
«Што свеціць ўсяму свету?»
«Што бяжыць без ножачак?»
«Што плача без слёзачак?»»
— «Сонца гарыць без полымя».
«Камень расцець без кораня».
«Грыбы цвітуць, цвету нету».
«Трава калышацца без ветру».
«Месяц свеціць ўсяму свету».
«Вада бяжыць без ножачак».

«Скрыпка плача без слёзачак».
Скрыпка плача — голас мае,
Казак дурань, што пытае.



Ой, на рэчцы дый на быстрай
Ляжала кладзь маляваная,
Маляваная, пазалочаная.
А па той кладзі ніхто не ходзя,
А ходзя толькі слічна паненка,
А за ей ідзе генеральскі сын.
А яна назад аглянулася,
А з таго дзіва ўсміхнулася:
«Генеральскі сын, не ідзі за мной,
Ты не йдзі за мной, ты не ровен са мной.
Не дам кубачка ўмываціся,
Платка белага ўціраціся».
Ой, ляжала кладзь маляваная,
Маляваная, пазалочаная.
А па той кладзі ніхто не ходзя.
А ходзя толькі слічна паненка,
А за ей ідзе ды прыгожы паніч.
А яна назад аглянулася,
А з таго паніча здзівілася:
«Прыгожы паніч, ты ідзі за мной,
Ты ідзі за мной, ты ровен са мной.
Я дам кубачка умываціся,
Платка белага уціраціся».



А на рэчачцы на быстрай,
А на рэчачцы на быстрай,
А на кладачцы на гібкай,
А на кладачцы на гібкай —
Там малодка бяллё мыла,
Там малодка бяллё мыла
Дый мыючы баўтанула,
Дый мыючы баўтанула,
Ды ў рэчачцы утанула,
Ды ў рэчачцы утанула.
Прыйшлі слыхі да свякрухі,
Прыйшлі слыхі да свякрухі.
«Вот мне не жалка нявехначкі,
Вот мне не жалка нявехначкі,
А толькі жалка адзежачкі,
А толькі жалка адзежачкі.

Нявехначка другая будзе,
Нявехначка другая будзе,
А мне адзежы не прыбудзе,
А мне адзежы не прыбудзе».
Прыйшлі слыхі да мамачкі,
Прыйшлі слыхі да мамачкі.
«Вот мне не жалка адзежачкі,
Вот мне не жалка адзежачкі,
А толькі жалка дзіцятачкі,
А толькі жалка дзіцятачкі.
Адзежа ў мяне будзе,
Адзежа ў мяне будзе,
А дзіцяткі не прыбудзе,
А дзіцяткі не прыбудзе».



Ой, вясна, вясна, вясеннячка,
Ой, вясна, вясна, вясеннячка,
Дзе твая дачка міленечка,
Дзе твая дачка міленечка?
У каморцы спала, рана ўстала,
У каморцы спала, рана ўстала,
Цябе, дзяцінкі, дажыдала,
Цябе, дзяцінкі, дажыдала.



Добры вечар, слічны панічок!
Вясна красна на ўвесь свет! *
Хоць і дома — не акажацца,
У каморы прыбіраецца.
Ён сеў сабе за столікам,
Піша пісьмы ў тры зямлі,
Піша пісьмы, размячае,
У тры зямлі раскладае:
У першую — па коніка,
У другую — па золата,
У трэцюю — да паненкі.
Па коніка пасла пашлю,
Па золата — таварыша,
Па паненку сам паеду.
На коніку пад'язджаць буду,
А золатам шанаваць буду,
А з паненкай векаваць буду.

Табе, панічок, песня спета,
Песня спета проці лета,

Лета цёплага і вясёлага.
Дай жа божа, зорак дачакаці,
Гэтага паніча панам назваці.
    Вясна красна на ўвесь свет!



У ляску, ляску на жоўтым пяску,
    Зялён явар, кудравы *.
Там жа ляжала брусся часана.
А на тым бруссі мужы сядзелі,
Мужы сядзелі, раду радзілі,
Раду радзілі, як піва варыць,
Як піва варыць ды каго жаніць?
«Ну, будзем жаніць маладога Йванку».
— Ой, жаніць, жаніць, чым яго дарыць?—
«Падарым яго вараным канём,
Вараным канём, залатым сядлом,
Залатым сядлом, слічнай паненкай,
Слічнай паненкай—маладой Аленкай».
    Зялён явар, кудравы.



Ай, лятуць, лятуць ды два галубкі,
    Зялёна траўка-мураўка *.
Ай, нясуць, нясуць ды два жалудкі.
Ой, вышаў, вышаў млоды панічок,
Млоды панічок, млоды Ванечка.
Ой, выняс, выняс стрэльбачак пучок,
Ой, меціць, меціць галубку убіць.
«Млоды панічок, млоды Ванечка,
Не страляй мяне—прыгажусь табе.
Ды будзеш жа ты ды жаніціся,
Будзеш браць паненку ды аж за вадою,
Я тваіх сватоў усіх перавязу.
Тваіх сваточкаў—на караблёчку,
Цябе з паненкай—у новым чаўночку.
Твайго музыку—хоць на языку,
Твайго вазілу—хоць на хвасцілу».
    Зялёна траўка-мураўка.



Па сенажаці, па поплаве,
    Зялён явар, кудравы *.
Там хадзіла стада курапатаў,
Між тых курапатаў шэрая зязюлька.

Адкуль, адсюль сіні селязенька
Усіх курапат паразганяў,
Шэрую зязюльку да сябе ўзяў.
Стала яна ў яго ды прасіціся,
Ды прасіціся, ды маліціся.
Адкуль, адсюль молад Іванка
Хацеў яго ды застрэліці,
Застрэліці ды забіці.
Стаў ён у яго ды прасіціся:
«Не бі мяне, не страляй мяне,
Я табе, молад, знадоблюся:
Будзеш, молад, ды жаніціся,
Будзеш панну браці за гарамі,
За гарамі ды за вадамі,
Будзеш клікаць перавознікаў,
Будзеш клікаць, не даклічашся.
Я к табе, шэры, сам прылячу,
Коні твае ў плаў пушчу,
Дружыну тваю перасвішчу,
Свата на галовачцы павязу,
А музыку на хвасточку,
Тваю маладую — побач з табою».
    Зялён явар, кудравы.



Ой, у полі, полі ды хадзіло стада,
    Вясна красна к нам прышла *.
Між таго стада конь нелавушчы,
Нелавушчы і неасядлушчы.
«Адкуль узяўся злічны панічык?»
— Я ж таго каня ды сам спаймаю,
Ды сам спаймаю ды асядлаю —
Сяду, паеду да жаніцеся. —
Ехаў масткамі — масты гіблюцца,
Уехаў у дзярэўню — людзі дзівяцца:
«Чый гэта сын едзе, каму зяцем будзе?»
— Міхалёў сын едзе, Мар'і зяць будзе. —
    Вясна красна к нам прышла.



У цёмным лесе стучыць, гручыць,
    Вясна красна на ўвесь свет! *
Мы ж думалі, што гром грыміць,
Аж моладзец борць дзяўбаіць,
Борць дзяўбаіць, пчолак садзіць,
Пчолак садзіць, бога просіць,

Каб пчолачкі зляталіся,
Зляталіся, звіваліся,
Дый молайцу асталіся —
Дый за працу мядок насіць.
    Вясна красна на ўвесь свет!



А ў полі, ў полі два дубочкі,
    Зялёны явар, дуброва *.
Між тых дубоў Дунай цячэ,
Па Дунаі чаўнок плыве.
У тым чаўнаку паніч гукае,
Сабе дзевачку выклікае.
Малада дзеўчына не выходзіць,
Да ўсё слугі высылае,
Маладога паніча не прымае,
Не прымае, адсылае.
Як выводзяць каня варанога —
Ён на яго не спаглянуў,
Ён за яго не падзякаваў.
Як выводзяць маладу дзяўчыну —
Ён на яе да й спаглянуў,
Ён за яе да й падзякаваў:
«Дзякуй, дзякуй за паненачку,
За яе сукню шаўковую,
За яе хустку парчовую!»
    Зялёны явар, дуброва.



Валачоннікі валачыліся,
    Вясна красна к нам прыйшла *.
Ды па пояс памачыліся,
Прыйшлі к бабцы, абсушыліся.
Дала бабка ўсім па яечку,
Усім па яечку і па піражку.
Аднаму сіраце ды не стала,
Пайшоў сірата за новыя варата.
«Вярніся, сірата, дам табе яечка!»
Сірата не ўзглянуў, не падзякаваў.
«Вярніся, сірата, дам табе дачку,
Дачку-швачку і работнічку».
Сірата ўзглянуў і падзякаваў:
«Дзякуй табе, бабка, за дачку-швачку,
Цяпер будзем хадзіць ўдваём ў тваю хатку»,
    Вясна красна к нам прыйшла.



Ды была ў бабкі курка-рабушка,
Ой, віно, віно, жыта зеляно! *
Ды нанесла бабцы яец карабец.
Ды і прышлі к бабцы ў год госці,
Ды ў год госці ды кукольнічкі,
Ды кукольнічкі-сваявольнічкі.
Ды й дала бабка ўсім па яечку,
Ды ўсім па яечку і па піражэчку.
Адной сіраце ды не стала яйка.
Пайшлі кукольнічкі падскакваючы,
А за імі сіротка — паплакваючы.
«Вярніся, сіротка, бог цябе кліча,
Бог цябе кліча ды дарыць будзе.
Не вялікім дарам — вараным канём,
Вараным канём, залатым сядлом,
Залатым сядлом, маладым мужам».
Ой, віно, віно, жыта зеляно!



Была ў бабкі курка-рабушка,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Нанесла яец поўны карабец.
Валачобнікі валачыліся,
Валачыліся, памачыліся,
Прыйшлі к бабцы перасушвацца.
Дала бабка ўсім па яечку,
Адной сіраце да не высталася.
Пайшла сірата не падзякаваўшы.
«Вярніся, сірата, на табе парася!»
— Не вярнуся, бабка, не дала яечка. —
«Вярніся, сірата, на табе вала!»
— Не вярнуся, бабка, не дала яечка. —
Вясна красна на ўвесь свет!



Да была ў бабкі курка рабенька,
Кудах, кудах —
Назаўтра з яйцом *.
Дый нанесла бабцы яец карабец.
Прыйшлі к бабцы валачобнічкі.
Валачобнічкі валачыліся,
Валачыліся, абмачыліся,
Прыйшлі к бабцы — абсушыліся.
Да дала бабка ўсім па яйцу,
Адной сіраце не хваціла яйца.
Ды дала бабка рэшата бобу —

Сірата прымае ды не дзякуе.
Ды дала бабка ды каня ў золаце —
Сірата прымае ды не дзякуе.
Ды дае бабка маладога пана —
Сірата прыняла ды й падзякавала.

Я не бачыла гасцьбы,
Як у свае бабкі.
    Вясна красна на ўвесь свет! *
Як я к бабцы ка двару —
Бабка мяне ў двор.
Ой, я к бабцы ў двор —
Бабка мяне ў сені.
Ой, я к бабцы ў сені —
Бабка мяне ў хату.
Ой, я к бабцы ў хату —
Бабка мяне за стол.
А у мае бабкі
Віно наліваюць,
Віно наліваюць.
Гасцей зазываюць.
    Вясна красна на ўвесь свет!

Пасвіла бабка казла ў полі,
    Яркае сонца ў ваконца! *
Лягла ж яна, задрамала,
Задрамала, казла пацірала.
Пашла ж яна дарогаю,
Дарогаю шырокаю.
Сустракае валачобнічкаў.
«Ці відзелі вы казельку?»
— Ідзі, бабка, за круту гару,
Там ты найдзеш казла свайго.
Сабяры, бабка, рожкі ды ножкі,
Навары, бабка, сем місак кашы,
Сабяры, бабка, папоў ды дзякоў —
Папоў ды дзякоў, ды шэрых ваўкоў. —
    Яркае сонца ў ваконца!

Вялічка ідзець — няма чаго надзець,
    Ой, божа ж мой, божа ж мой! *
Лапці, аборы — ўсе мае прыборы,

Рубашка зрэбна, спадніца патрэпна,
Шапка-набірка — пасярод дзіркa.
Ой, божа ж мой, божа ж мой!



Дзень вялік, дзень вялік,
А лустачка мала:
Не свая мамка
Лустачку давала.
Ў каго свая мамка,
Дык дала краюшку,
Дык дала краюшку.
«Напасі цялушку!
Калі не з'ясі —
Пастушкам дасі,
А калі мала —
Дамоў прыбяжы».
А мне мачыха
Дык дала скарынку,
Дык дала скарынку.
«Напасі скацінку!
Калі не з'ясі —
Дык дамоў нясі,
А калі мала —
Дык каб парвала».



Юр'я, устань рана,
Юр'я, умыйся бела,
Юр'я, прычашыся,
Юр'я, прыбярыся,
Юр'я, вазьмі ключы,
Юр'я, ідзі ў поле,
Юр'я, адамкні зямлю,
Юр'я, выпусці расу.
Раса на кароўкі,
Трава на конікі,
Гігель на свіначкі,
Мурог на авечачкі,
А жвірок на вутачкі
І на гусачкі.



Божа наш, святое Юр'я,
Ідзі да бога, вазьмі ключы,
Вазьмі ключы, адамкні зямлю,

Адамкні зямлю, выпусці расу.
На Юр'я расу бычка напасу.
«Бычок-трацячок, ці поўны бачок?
Цялушачка-дравушачка,
Ці поўнае ў цябе брушачка?»

«Чаму ты, маю, ды невясёлы?
  Гэй, у-ля-лё, гэй, у-ля-лё! *
— Як жа мне, маю, вясёламу быць,
Шэра зязюля ў бор паляцела,
Ў бор паляцела, бор весяліла,
А мяне, беднага, засмуціла.
  Гэй, у-ля-лё, гэй, у-ля-лё!

«Кляновая лісцінaчка ты мая,
Ды ці будзеш зімой зялёна, як цяпер?»
— Хоць я буду на сонейку стаяці,
Я не буду зімой зялёна, як цяпер.
Зімовае мяне сонца не грэла,
Лісцейка маё зялёнае паела.—
«Ой, ручанькі беленькія вы мае,
Ці будзеце ў свякроўкі белы, як цяпер?
Хоць я буду ў тры мылы вымываці —
Ды не будзеце ў свякроўкі белы, як цяпер.
Свякроўчына вадзічачка із хрэна,
Ручкі ж мае беленькія паела».

Там, за Дунаем, там, за зялёным,
  Ой, рана, рана, там за зялёным.
Малада дзеўка кубачкі мыла,
  Ой, рана, рана, кубачкі мыла.
Кубачкі мыла, вянка чакала,
  Ой, рана, рана, вянка чакала.
Вянка чакала — вянок згубіла,
  Ой, рана, рана, вянок згубіла.
А хто паедзіць па той вяночак?
  Ой, рана, рана, па той вяночак.
Татачка кажыць: «Я не паеду,
  Ой, рана, рана, я не паеду.
Каня не маю, вянка не знаю,
  Ой, рана, рана, вянка не знаю».
Мамачка кажыць: «Я не паеду,
  Ой, рана, рана, я не паеду.

Каня не маю, вянка не знаю.
    Ой, рана, рана, вянка не знаю».
Брацятка кажыць: «Я не паеду,
    Ой, рана, рана, я не паеду.
Каня не маю, вянка не знаю,
    Ой, рана, рана, вянка не знаю».
Васілю кажыць: «А я паеду,
    Ой, рана, рана, а я паеду.
Каня я маю, вяночак знаю,
    Ой, рана, рана, вяночак знаю».



На граной нядзелі
Русалкі сядзелі,
Русалкі сядзелі,
На дзевак глядзелі.
«Дзевачкі-сястрыцы,
Падайце вадзіцы,
Падайце вадзіцы
З халоднай крыніцы».



Правяду русалку, правяду,
Да й асінкаю заламлю,
Каб тая русалка
Па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.
Маё жыцейка дробнае,
Да ў каласкі буйнае.
Правяду русалку, правяду,
Да й асінкаю заламлю.



Ходзіць русалка па вуліцы,
Заве Пятрышчу к сабе на гулі:
«Хадзі, Пятрышча, ка мне на гулі».
— А не пайду я, русалачка,
А не пайду: цёмна ночка.
А буду жыцейка пільнаваці,
Каб русалачцы не ламаці.



Ды хадзіў карагод
Каля нашых варот.
    Ой, люлі, ой, люлі,
    Каля нашых варот.

Я чула, бачыла,
Не паспела сказаць,
    Ой, люлі, ой, люлі,
    Не паспела сказаць,
Карагодам назваць
Ды ў хату пазваць,
    Ой, люлі, ой, люлі,
    Ды ў хату пазваць.
Ды ў хату пазваць
І вінам частаваць,
    Ой, люлі, ой, люлі,
    І вінам частаваць.

Вуліца мала, карагод вялікі,
    Люлюшкі, люлі, карагод вялікі.
Некуды ветру раскалыхацца,
    Люлюшкі, люлі, раскалыхацца.
Ўсё за старымі ды за малымі,
    Люлюшкі, люлі, ды за малымі.
Мрыце вы, бабы, мрыце, старыя,
    Люлюшкі, люлі, мрыце, старыя,
Па дзве і па тры, ў чот па чатыры,
    Люлюшкі, люлі, ў чот па чатыры.
Ў чот па чатыры, каб чэрві тачылі,
    Люлюшкі, люлі, каб чэрві тачылі.

Што за садам, за садом, за садом
Расла трава шаўкова, шаўкова.
Па той траве пава йшла, пава йшла,
А за ёю паў ляцеў, паў ляцеў,
Крычыць: «Пава ты мая, ты мая!»
— Не, яшчэ я не твая, не твая,
Цалуй мяне тры разы, тры разы —
Тады буду я твая, я твая.

Царэўна-каралеўна
Па-за гародам хадзіла,
Вароты адпірала,
Жаніхоў выбірала.
Адчыніцеся, вароты,
Адчыніцеся, шырокі.
Выйдзі, выйдзі ў карагод.
Стань тут — падапрыся,

Каго любіш — пакланіся,
Харошанька прытанцуй,
Каго любіш — пацалуй.



Пойдзем мы, пойдзем мы, дзевачкі,
А за мора ў красачкі,
А за мора, а за мора ў красачкі,
У сінія васілёчкі,
У сінія, у сінія васілёчкі,
Баравыя цвяточкі.
Аглянемся, аглянемся, дзевачкі,
Хто за намі гоніцца.
Гоніцца, гоніцца за намі —
А стары ды нядужы.
Возьмем мы, возьмем мы, дзевачкі,
Старога за рэбры,
Кінем мы, кінем мы, дзевачкі,
Старога ў крапіўку.
Калодаю, калодаю закоцім,
Мятлою замяцем.
Мятлою, мятлою замяцем,
Самі ў красачкі пойдзем.
Пойдзем мы, пойдзем мы, дзевачкі,
А за мора ў красачкі.
А за мора, за мора ў красачкі,
У сінія васілёчкі.
У сінія, сінія васілёчкі,
Баравыя цвяточкі.
Аглянемся, аглянемся, дзевачкі,
Хто за намі гоніцца.
Гоніцца, гоніцца за намі
Малады ды прыгожы.
Возьмем мы, возьмем мы, дзевачкі,
Маладога пад ручкі,
Маладога, маладога пад ручкі,
Кінем яго ў падушкі.
Пярсцёнкам, пярсцёнкам закоцім,
Хусцінкай замяцем,
Хусцінкай, хусцінкай замяцем,
Самі ў красачкі пойдзем.



Ды на гары мак, мак
Салавейка топча,
Ой, люлі, палюлі,
Салавейка топча.

Салавейка топча,
Паляцеці хоча,
    Ой, люлі, палюлі,
    Паляцеці хоча.
Паляцеў салавей
На сіняе мора,
    Ой, люлі, палюлі,
    На сіняе мора.
Да сеў і слухае,
Як паненкі плачуць,
    Ой, люлі, палюлі,
    Як паненкі плачуць
За старога ідучы,
Белу ложку сцелючы,
    Ой, люлі, палюлі,
    Белу ложку сцелючы.
Бадай гэта ложа
У агні згарэла!
    Ой, люлі, палюлі,
    У агні згарэла!
Як мне і з старэнькім
Ночачка дадзела,
    Ой, люлі, палюлі,
    Ночачка дадзела.
Распасцёр ён бараду
Па маей падушы,
    Ой, люлі, палюлі,
    Па маей падушы.
Па маей падушы,
Ды ні к маей душы,
    Ой, люлі, палюлі,
    Ды ні к маей душы.





## КУПАЛЬСКІЯ І ПЯТРОЎСКІЯ ПЕСНІ

Купалле—самае значнае і самае прыгожае старажытнае свята летняй пары. Яно прымеркавана да так званага летняга сонцавароту (святкуецца ў ноч з 6 на 7 ліпеня). У гэты перыяд раслінны свет дасягае найбольшага росквіту, наліваецца і пачынае выспяваць збажына. Селянін цяпер клапоціцца, каб сабраць і давесці да ладу плён сваёй працы — ураджай, каб ніякія нядобрыя сілы не перашкодзілі яму ў гэтым. Адсюль аграрна-магічнае назначэнне некаторых купальскіх абрадаў, якія суправаджаліся песнямі заклінальнага характару. Але такіх песень, вельмі старажытных паходжаннем, дайшло да нашага часу небагата. Непараўнана большае месца ў купальскім святе займалі песні з любоўнымі і шлюбнымі матывамі. Справа ў тым, што час перад купаллем быў найбольш спрыяльны і гаспадарча мэтазгодны для шлюбавання: якраз напярэдадні касавіцы і жніва—гарачага летняга прыпару—у сям'ю прымаўся новы работнік—маладая гаспадыня. Любоўныя і сямейна-бытавыя купальскія песні часта маюць жартаўлівы характар, прасякнуты насмешкай, іроніяй. Асабліва гэта датычыць з'едліва-кплівых песенных «паядынкаў» паміж хлопцамі і дзяўчатамі—своеасаблівага спаборніцтва ў дасціпнасці, з якога пераможцамі часцей выходзілі дзяўчаты.

Хрысціянская рэлігія да старажытнага народнага свята купалля дастасавала царкоўнае свята ў гонар міфічнага Іаана Хрысціцеля, і таму ў некаторых купальскіх песнях сустракаецца імя Ян, або Іван («На купалле, на Яна, дзеўкі зелле капалі...»). Песні пятроўскія, названыя так за тое, што спяваліся на Пятра (царкоўна-хрысціянскае свята, якое супадала ў нас з пачаткам касавіцы), з'яўляюцца непасрэдным працягам купальскіх. Змест іх, можна сказаць без выключэння, складаюць матывы кахання і шлюбу.

Варта падкрэсліць, што народныя песні гэтай летняй пары вызначаюцца глыбокай лірычнай пранікнёнасцю і незвычайным хараством паэтычных вобразаў. Асабліва прывабным паўстае з іх вобраз маладой дзяўчыны, Купалачкі, духоўны свет якой раскрываецца ў эмацыянальнай атмасферы якойсці першароднай чысціні, пяшчоты і замілавання. Светлыя і жыццерадасныя па настрою, гэтыя песні гучаць як гімн несмяротнаму пачуццю кахання, як гімн хараству жыцця і маладосці.

Для сучаснікаў купальскія і пятроўскія песні цікавыя і каштоўныя яшчэ і тым, што ў іх надзвычай хараша і пераканаўча выражана арганічная еднасць чалавека працы з прыродай. У наш тэхнічны век праблема духоўнай сувязі чалавека са светам прыроды набывае, як вядома, асаблівую вастрыню. І таму песні, якія гучаць узнёслым гімнам хараству жыцця ў прыродзе і тым самым заклікаюць шанаваць яе, даражыць ёю, могуць саслужыць сёння добрую службу ў справе духоўнага развіцця асобы. І не выпадкова купалле як свята, у якім здаровая народная аснова і шмат паэтычнай прыгажосці, рэкамендуецца сёння выкарыстоўваць (абнаўляючы і ўзбагачаючы яго змест, безумоўна) як цікавую форму забавы і ўвесялення, як эфектыўны сродак ідэйна-эстэтычнага выхавання працоўных.



Ой, соўнейка, соўнейка,
  Каліна *.
Разлажы, купаллейка:
Дзеўкам — на спяваннейка,
Хлопцам — жартаваннейка.



Ой, месячык, месячык,
  Каліна *.
Узыдзі ты раненька,
Развядзі купаллейка,
Развядзі купаллейка,
Дзеўкам на пяяннейка,
Хлопцам на гуляннейка,
Музыкам на йграннейка,
Бабкам на сядзеннейка,
Дзеткам на глядзеннейка.
Дзеўкі напяяліся,
Хлопцы нагуляліся,
Музыкі найграліся,
Бабкі насядзеліся,
Дзеткі наглядзеліся.



«Узыйдзі, узыйдзі, месячык,
Узыйдзі, узыйдзі раненька,
Разлажы купаллейка:
Дзевачкам — спяваннейка,
Малайцам — гуляннейка».
— А мне, ўзышоўшы, многа трэба:
Я з вечара неба абайду,
А з поўначы зоркі палічу,
Тады я к вам, дзевачкі, прыду,
Тады на купалле к вам прыду,
Тады вам купалле разлажу.



Кладзіце агні вялікія,
  Божа наш! *
Паліце ведзьму лятучую,
Каб яна па полі не лятала,

** У многіх купальскіх і пятроўскіх песнях словам «Каліна» (або «То-то-то!», «Божа наш!») пачынаецца і заканчваецца кожны радок.*

Каб яна заломаў не ламала,
Каб яна па хлявах не хадзіла,
Каб яна каровак не даіла.



Купальскай ночы
Выпяклі ведзьме вочы,
Каб уночы не хадзіла,
Каб і расы не збірала,
Каб у печы не сушыла,
Каб у жорнах не малола,
Каб і кашы не варыла,
Каб дзяцей не карміла,
Каб вядзьмят не пладзіла.



Ішла Купала сялом, сялом,
Сустрэла Івана чалом, чалом.
«І дзе ж ты, Купала, ноч начавала?»
— Начавала ночку ў ярым жыцечку.
Сцерагла жыта сялянскае
Ад таго звяр'я лятучага,
Ад таго вужа паўзучага,
Ад тае бабы заломшчыцы.
Заламі, божа, ей рукі і ногі,
І ярыя вочы ў патыліцу!



Купалка Івана на вулку звала,
    То-то-то! *
«Іван, Іванішча, хадзі на ігрышча».
— Купалка-сястра, мне часу няма,
Пільную сяла, новага двара,
Каб ведзьмішча не хадзіла,
Чужых кароў не даіла.



Купала на Івана!
Дзе Іван ходзе —
    Купала на Івана *...
Там жыта родзе.
Дзе Іванава жонка —
Там родзе пшонка.
Дзе Іванавы дзеці —
Люба паглядзеці.



Купалачка Іллю прасіла на йгру,
Каліна *.
«Ілля, Іллішча, прыйдзі на йгрышча».
— Не прыду, Купалка, не маю часу:
Пайду на межы кветкі сабіраці,
Кветкі сабіраці, дзетачак купаці.



Купалка Івана на вулку звала:
«Іван, Іванішча, хадзі на йгрышча».
— Гуляй, Купалка, здаровенька,
Некалі ігрышча мне гуляці:
Нада жыта пільнаваці,
Каб дзевачкі не хадзілі,
Майго жыта не таптали
І красачак не шчыпалі,
І вяночкі не звівалі,
На галовачцы не насілі,
Па вулачцы не хадзілі,
Малойчыкаў не звадзілі.



А ў нас сёння Купалачка,
А заўтра будзець Іваначка.
Звала Купалка Іллю на ігру:
«Хадзі, Іллішча, к нам на ігрышча».
— Не маю часу, Купалачка,
Не маю часу, цёмная ночка.
А мне некалі на ігрышча ісці,
А ў мяне, Іллі, работы многа:
Мне нада па полі пахадзіці,
Мне нада жыта паглядзеці:
Ці скора будзець красаваці,
Ці будзець жыта паспяваці?
Не будзець жыта паспяваці,
А будуць людзі галадаці.
А ка мне, Іллю, хадзіць будуць,
А ў мяне хлеба прасіць будуць.
А ў мяне хлеба малавата.
Чым жа мне іх надзяляці,
Куды мне іх адпраўляці?
Ці іх адпраўляць у цёмныя лясочкі,
Ці іх адпраўляць у зялёныя лужочкі:
У цёмныя лясочкі — па ягадкі,
У зялёныя лужочкі — па красачкі.
Будуць красачкі сабіраці,
Будуць мяне, Іллю забываці.



А сягоння ў нас купалле,
А хто на вулку не выходзіць,
Абярні, божа, калодаю,
Калодаю дубоваю,
А жоначку — бараною,
Бараною лазоваю,
А дзетачак — цельпучкамі,
Цельпучкамі альховымі.



А хто не ідзець купалле глядзець,
Каліна *.
Няхай той ляжыць калодаю,
Ой, калодаю бярозавай:
Як сонца грэець — калода прэець;
Як дожджык ідзець — калода гніець.



Купалка Івана на вулку звала:
«Ваня, Ванішча, пайдзём на йгрышча».
— Купалачка, гуляй адна,
А мне нада жыта пільнаваць,
Ды каб бабы не ўляцелі,
Жыта-калоссе не паразалі
Ды самагонку каб не гналі.



Сядзела Купалка на плоце,
Яе галоўка ў злоце.
Ручкі ўніз апусціла,
У бога пагодкі прасіла:
«А дай жа божа, пагодку
На гэту ночку-вясёлку:
Будуць музыкі іграці,
Будуць дзевачкі спяваці,
Будуць зеллейка збіраці,
Будуць зеллейка збіраці,
У старога дзеда пытаці:
«Ой, дзеду, дзеду, а што ж за зелле,
Ці не дзявоцкае насенне?»»



Ходзіць Купалка па вуліцы,
Просіць у бога пагодачку,
На гэту ночку — выгодачку:

Будуць музыкі іграці,
Будуць дзевачкі гуляці,
А малодачкі спяваці,
А старыя бабы сядзеці
Ды на гэта дзіва глядзеці.



Гарэла купала ясненька,
На купале дзевачак паўненька.
А хто гэта купала разлажыў —
Каб яму бог жыта зарадзіў.
А хто гэта купала патушыў —
Каб яму чорт жонку задушыў.



Сёння купала — заўтра Ян,
Узыдзі, узыдзі, сонейка, зайграй нам.
Калі будзе сонейка нам іграць,
Будзем, купала, мы спяваць.
А калі ж ня будзе нам іграць,
Ня будзем, купала, мы спяваць.



Ой, рана, рана ды на Яна,
Да ўся зямля дрыжала з купалы.
Да зямля дрыжала з купалы,
Да лясы звінелі, як мы пелі.
Да лясы звінелі, як мы пелі,
Сяло разлягалась з музыкі.



Дзеўкі на тройцу вянкі вілі,
А на купала развівалі,
На сваю долю загадалі:
«Ой, калі мая добрая доля,
Звіся, вяночак, як гаёчак.
А калі маё бяздолейка —
Ссохні, вяночак, на сухарочак».



А на гары — карыта
Поўна вады наліта.
Там дзевачкі ваду бралі,

Прыгожы кветачкі рвалі,
На малойчыкаў гадалі,
На малойчыкаў гадалі,
З-за гары хлопцы паглядалі.



А ў нас сёння купала, купала,
Пойдзем, дзевачкі, цвяточкі рваць,
А вечарам — у чыстае поле,
У жыта купалачку сабіраць.
А ў жыце касцёр будзем раскладаць,
Купальную ночачку праважаць.



На святога Іваначку
Хадзілі дзеўкі ў купалачку.
Яны купалкі не нарвалі —
Хмелю-карэння накапалі,
Накапалі і не зналі,
Дый да кроля адаслалі.
«А кроля, кроля, што за зелле?
Што за зелле — хмель-карэнне?»
— Гэто зелле — хмель-карэнне:
Дзявочае каханнейка,
А мальцава насміханнейка.



На святога Івана
Дзеўкі зёлкі збіралі.
А назбіралі — не зналі
Ды й да цара паслалі.
І цар зёлак не пазнаў,
Да царыцы адаслаў.
А царыца пазнала,
Цара дурнем назвала.
«А што ж гэта за зёлка?»
— Іванькава галоўка.



На купалле, на Яна,
Дзевачкі зелле збіралі.
Яны збіралі й не зналі,
Старога дзедку пыталі:
«А дзедка, дзедка, дзядулька,
Да што гэта за зелле,

Што ў ім чорнае насенне?»
— Гэта, дзевачкі, любезнік:
Каб вас хлопчыкі любілі,
За вамі роем хадзілі.



Як па жыту луны ходзюць,
А каля жыта дзеўкі ходзюць.
Дзеўкі ходзюць, цвяточкі ірвуць,
Цвяточкі ірвуць, вяночкі ўюць.
Большым дзеўкам па вяночку,
Меншым дзеўкам па цвяточку.
Большыя дзеўкі замуж пойдуць,
А меншы дзеўкі гуляць будуць.
Большы дзеўкі — люлі, люлі,
А меншы дзеўкі — гулі, гулі.



Ой, рана, рана,
Ой, рана на Івана
Выйшлі дзеўкі на луг,
Ой, ды сталі ў круг.
Ой, рана, рана,
Ой, рана на Івана
Выйшлі хлопцы на луг,
Ой, ды сталі ў круг.
Ой, рана, рана,
Ой, рана на Івана
Распалілі касцёр,
Ой, ды гулялі да зор.



Сёння — купало, заўтра — Ян,
Пайшлі нашы дзевачкі ў зялёны гай.
Пайшлі нашы дзевачкі кветкі рвучы,
А за імі хлопчыкі Пятра ждучы.
«Памажыце, хлопчыкі, кветак рваць,
А мы вам паможам Пятра ждаць.
Памажыце, хлопчыкі, вянок віць,
А мы вам паможам піво піць».



А ў бару, бару ель гарэла,
    Божа мой! *
Не так гарэла, як зелянела.

А там дзевачкі краскі збіралі,
Краскі збіралі, вяночкі вілі.
Вяночкі вілі, ў Дунай кідалі.
Палез Ванечка вянкі даставаць:
Ён разок ступіў — па калена ўвяз,
Другі раз ступіў — па пояс увяз,
Трэці раз ступіў — і сам паплыў.
«Вузкі беражкі, вы мае дружкі,
Рыба-плаціца, мая сваціца,
Светла вадзіца, мая дзявіца».



«А дзе была, Купалачка?»
— Ў Крыўцы была, Іванечка. —
«Што рабіла, Купалачка?»
— Боб палола, Іванечка. —
«Чым паілі, Купалачка?»
— Цэт цадзілі, Іванечка. —
«Чым кармілі, Купалачка?»
— Пірагамі, Іванечка.



«А дзе была, Купалачка?»
— У Слабодцы, Іванечка. —
«Што рабіла, Купалачка?»
— Лён палола, Іванечка. —
«А што ела, Купалачка?»
— Калатушку, Іванечка.



«Дзе, Купала, начавала?»
— Начавала ў Івана. —
«Што, Купала, вячэрала?»
— Вячэрала галушачкі.
Вячэрала галушачкі,
Легла спаць у падушачкі.
Вячэрала рыбку з перцам,
Легла спаць са шчырым сэрцам.



Ішла Купалка сялом, сялом,
Давала дзеўкам чалом, чалом.
Дзеўкі Купалку не пазналі,

Нанач Купалку не пазвалі.
Стала Купалка бедаваці:
«Дзе ж мне ночку начаваці?
Начаваць ночку мне ў Іваньні,
Прасіць вячэрку — у Аксіньні.
У іх бочка піва наварона
І купа гарэлкі нагнёна,
Іхняя Марылька заручона.
Яе купчык будзе купчуваці,
А Марылька будзе памагаці.
Як купчык будзе грошы лічыць,
А Марылька будзе сукны насіць».



Ішоў вечар па вулачцы,
З Купалкай жартуючы:
«А дзе нам спаць, начаваць?»
— А ты, вечар, ў канцы сяла,
А я, Купалка, сярод сяла,
А дзе вулачка мяцёная,
Дзе дзевачка заручоная,
За купчына аддадзёная.
Купчык будзе купчаваць,
А дзевачка — панаваць.



Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала мальцам: «Чалом, чалом».
А мужчынам наругалася:
«Нашто з Купалкі дзівіліся,
А што ў Купалкі сыноў многа.
А што за многа — тры сыночкі:
Першы сыночак — Васілёк,
Другі сыночак — Іванька,
Трэці сыночак — Дзям'янка».
Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала дзеўкам: «Чалом, чалом».
А бабачкам наругалася:
«Нашто з Купалкі дзівіліся,
А што ў Купалкі дачок многа.
А што за многа — тры дачушкі:
Першая дачушка — Аксіннячка,
Другая дачушка — Наталачка,
Трэцяя дачушка — Валячка».



Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыла вочкі пяром, пяром.
Ішла Купалка нявесела,
Краскамі вочкі завесіла.



Ішла Купалка па вуліцы,
З сваім Іванам жартуючы.
Людзі стаялі, дзівіліся,
Што Іван з Купалкай злюбіліся.



Ішла Купалка сялом, сялом,
На ей кашуля шатром, шатром.
Сталі ўсе людзі дзівіціся,
Стала Купалка сварыціся:
«Якія, людзі, вы дзіўныя,
Ці вы на купалцы не бывалі,
Ці большага дзіва не відалі?
Рыба-асятрынка кросны тчэ,
А рыбка-сілява чаўночак кідае,
А рак-небарак цэўкі сучыць,
А жаба-кватуха на панажы ціснець,
А муха-звінуха печку топіць,
А камар пішчыць — ваду ташчыць».



«Дзе ты, Купала, ноч начавала?»
— Ў чыстым полі пад елкаю
З маладою Аленкаю.—
«Дзе ты, Купала, ноч начавала?»
— Ў цёмным лесе пад асінкаю
З маладою Аксінкаю.



Лугам, берагам коні хадзілі,
Коні хадзілі, усё гаварылі:
«Жылі мы былі у дрэннага пана,
Ён нас позненька на луг вывадзіў,
Ён нас раненька з луга прывадзіў.
Забрытваў аброткай вяроўчатай,
Путаў пяньковымі путамі».
Лугам, берагам коні хадзілі,
Коні хадзілі, усё гаварылі:

«Жылі мы былі ў добрага пана:
Ён нас раненька на луг выводзіў.
Ён нас позненька з луга прыводзіў,
Забрытваў аброткай раменнаю,
Путаў шаўковымі путамі».



«Чаму, зязюлька, не кукуеш?
Чаму гняздзечка не гатуеш?
А пройдзе лета, прыйдзе зіма —
А дзе ж ты зімаваць будзеш?
А дзе ж дзетак гадаваць будзеш?»
— А мая доля бяздомніцы,
У шырокім полі прасторная.
Усім людзям я весніца,
Любому гору я равесніца.



«Ой, ды над ракою, каліна,
Чаму тваё голле павісла?
Ці вада карэнне падмыла?
А ці вецер голлейка паламаў?»
— Ні вада карэнне падмыла,
І ні вецер голлейка паламаў.
Паламаў хлопчык малады,
Да сваёй дзевачкі ходзячы,
Дарагі гасцінцы носячы:
Салодкі цукеркі ў паперы
І вінныя яблыкі ў кішэні.



Хадзіла дзевачка па лужку,
Насіла калінку ў хвартушку.
За ёю малойцы хадзілі,
Ў яе калінкі прасілі.
«Не дам калінку нікому,
Панясу калінку дадому.
Пастаўлю калінку ў куце,
Хай мая калінка расцвіце,
Хай мая долечка падрасце,
Хай маёй матцы жаль будзе,
Што мяне, маладой, не будзе».



Каліна на лузе стаяла,
А з луга пайшла — зайграла.
Мостам ішла — грымела,
А полем ішла — лялела,
А к сялу прыйшла — зайграла,
У сяло ўвайшла — гуляла,
К варотам прыйшла — грукнула,
Пад ваконца прыйшла — гукнула:
«Адчыні, Тацянка, новы двор».
А Тацянка ёй адказала:
«Некалі, калінка, некалі:
У садзе вінаград перапспеў,
Трэба яго пашчыпаць,
Да свайго мілога паслы слаць.
Я б паслала пасол — не смею,
Напісала б лісток — не ўмею,
І пайшла б я сама — баюся,
Доўгая дарога — стамлюся.
Дык прабачай, калінка, прабачай».



У новай каморы
Роза дачку чэшыць,
Чэшыць, навучае:
«Ня стой, мая дочка
Ля Кузёмкі блізка:
Кузёмка ды Ванька —
Дзявоцкі падманка:
Ён ручачку ціснець,
І вусікам свіснець».



Купалачка, дзе твая дачка?
Каліна! *
На сенажаці кветкі рвець,
Кветкі рвець, вянкі ўець.
Адзін звіла з чырвонай ружы,
Другі звіла з зялёнай руты,
Трэці звіла з жоўтай крапівы.
З чырвонай ружы — любіліся,
З зялёнай руты — жаніліся,
З жоўтай крапівы — разышліся.



«Ляці, ляці, пчолка,
На зялёны луг».
— Суха будзе — палячу,

Мокра будзе — пасяджу. —
«Аддай, аддай, Іванька,
Сваю дачку Галечку».
— Добра будзе, дык аддам,
Дрэнна будзе — не аддам.



«Ой, бяда ж мая, бяда,
Што мой дом пры дарозе.
Часта госці на парозе:
Што дзянёчак — то гасцёчак.
Не далі мне ды вырасці,
Русую касу ды выплесці».
— Ой, расці, дзеўка, расці
Ды русую коску пляці.



«А калінaчка, а маліначка,
Божа наш! *
А чаму ж ты незялёная?»
— А як жа зялёнай мне быць?
Калі пада мной агонь гарыць.
Калінне маё папалілі,
Лісцейка маё пасмалілі. —
«А дзяўчыначка маладзенькая,
А чаму ж ты невясёлая?»
— А як жа мне вясёлай быць?
Калі да мяне сваты ездзяць:
Кожны дзень па два, па тры,
А ў суботу — па чатыры.



Навокала балоцейка,
Эй, навокала балоцейка,
Там хадзіла паненачка,
Эй, там хадзіла паненачка,
Да й сеяла красу сваю,
Эй, да й сеяла красу сваю.
Расці, расці, краса мая,
Эй, расці, расці, краса мая,
Да тонкая, высокая,
Карэннейкам глыбокая.
Калі ж буду ў мамачкі,
Эй, калі ж буду ў мамачкі,
Дык я цябе палоць буду,

Эй, дык я цябе палоцць буду.
Калі ж буду ў свякровачкі,
Эй, калі ж буду ў свякровачкі,
Дык я цябе з карэннем вырву,
Эй, дык я цябе з карэннем вырву,
З карэннем вырву, за тын кіну.
Няхай цябе валы з'ядуць,
Эй, няхай цябе валы з'ядуць,
Валы з'ядуць, бушуючы,
Эй, валы з'ядуць, бушуючы,
Коні саб'юць, гарцуючы,
Эй, коні саб'юць, гарцуючы.



Купальная ночка невялічка
Ды не выспалася дзевачка.
Кветкі сабірала, ў вянок сплятала,
У вянок сплятала, мілога чакала.
Ці ж ён прыйдзе, ці ж ён не прыйдзе,
Ці ж ён абрадуе сэрцанька мне?
Ой, не прыйшоў, ой, не абрадаваў,
А толькі гора ён мне падараваў:
З другой дзеўкай ён ажаніўся,
На мяне, маладую, забыўся.



Гарэла купалле, гарэла,
На купаллі дзяўчына сядзела.
Прыйшоў па яе бацька яе.
«Хадзем, маё дзіцятка, дадому.
Наехала сватоў цэлы двор».
— Няхай едуць — гэта не мае,
А як будуць ехаці мае —
Да будзе дарожка звінеці,
Да будзе музыка іграці,
Да будзе свахначка спяваці.



Купала, дзе твая дочка?
Купала на Йвана! *
А ў гародзе чабор поле,
Чабор поле, ручкі коле,
Чабор рве, за плот кідае.
Няхай чабор свінні з'ядзяць,
Свінні з'ядзяць, валы згудзяць,

Валы згудзяць, коні стопчуць.
Коні стопчуць капытамі,
Малойчыкі чабатамі.



А як я ў зёлачкі пашла[1],
Шэру зязюльку нашла.
Шэра зязюлька кукавала,
На мяне, младу, вешчавала,
Сем гадоў замуж не зайсці.
А як я з зёлачак прышла,
Дома парадачак нашла:
Татулька піва варыць,
Мамулька пірагі пячэць,
А сястрыца станы кроіць,
А брацішка каня строіць.
«Нашто, татулька, піва варыш?»
— А ўсё к твайму вясельліку.—
«Нашто, мамулька, пірагі пячэш?»
— Дачушка, к твайму вясельліку.—
«Нашто, сястрыца, станы кроіш?»
— Сястрыца, к твайму вясельліку.—
«Нашто, брацітка, каня строіш?»
— Сястрыца, к твайму вясельліку.



Каціўся туман па сенажаці,
Божа наш! *
Хацеў хлопец дзяўчыну ўзяці,
Дзяўчыну ўзяці, дый пашанаваці.
Купіў сярпок — выправіў жаці.
Нажала снапок — кінула сярпок,
Нажала другі — вялікі тугі.
«Не жала ў мамкі — не буду ў цябе.
Гуляла ў мамкі, буду і ў цябе».
— Ляжы, дзяўчына, каб ты не ўстала,
Як мне, малойцу, свет завязала.



Ой, рожа мая чырвона,
Не садзіся блізка плоту,
Блізка плоту, майго агароду.
Ды не выведзі чырвону рожу,

[1] *Кожны радок пры спяванні паўтараецца двойчы.*

Ды не выведзі чырвону рожу
Ды з майго агароду.
Ой, малады малойчык,
Ды не выведзі дзевачку з карагоду.
«А калі выведу, папытаюся,
А калі выведу, папытаюся:
«Манечка малада, ці будзеш мая?»»
А калі бог судзе — дык будзе.



Як узлезу на гару,
Як удару ў ладаню.
Няхай мая мамка чуіць,
Вячэру гатуіць
А й для мяне, маладой.
Як узлезу на гару,
Як удару ў ладаню.
Няхай мяне сястра чуіць,
Пасцельку гатуіць
А й для мяне, маладой.
Як узлезу на гару,
Як удару ў ладаню.
Няхай мяне брацік чуіць,
Конікі гатуіць
А й для мяне, маладой.



А ў лузе каліна гаварыла:
«Чаго ка мне Манечка не хадзіла?
Чаму маіх цвяточкаў не шчыпала?
Чаму сабе вяночак не звівала?»
— Каліна-маліна, некалі было.
Загадаў міленькі работачку:
З крыніцы вадзіцу выліваць,
У садочку вішаньку паліваць.



На вуліцы скрыпка грае,
    Каліна *.
Кароль дачкі не пускае.
Яна ў яго прасілася,
Прасілася, малілася:
«Пусці мяне, мой татачка,
Я ж тамака не забаўлюся,
Хуценька дамоў вярнуся».

А на дварэ петушкі пяюць —
Каралёвай дачкі з вулачкі не чуць.
Ўжо на дварэ сонейка ўзыходзіць —
Каралёва дачка з вулачкі прыходзіць.
Яе шаты сцерты, змяты,
Яе косачка растрапана,
Яе вочачкі заплаканы.



Кукуй, зязюленька, не ўпікай,
    Ой, люлі, не ўпікай.
Нямнога будзеш кукаваць,
    Ой, люлі, кукаваць.
На Юр'я рана пачынаць,
    Ой, люлі, пачынаць.
На Пятро позна пакідаць,
    Ой, люлі, пакідаць.
Заплач, Анэтка, жалосна,
    Ой, люлі, жалосна.
Нямножка будзеш плакаці,
    Ой, люлі, плакаці.
У нядзельку рана пачынаць,
    Ой, люлі, пачынаць.
У аўторак позна пакідаць,
    Ой, люлі, пакідаць.



Чыя рутачка за ракою,
    Божа наш! *
Зарасла яна лебядою.
А хто яе палоць будзе,
Белыя ручкі калоць будзе?
Млада дзевачка апалола,
Белых ручачак не пакалола.



Цераз рэчачку цераз быструю
Маставіначка ляжыць.
Маставіначка — гібка кладачка.
А мой мілы затануў.
Вы, малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Закідайце невады:
Мо паймаіце, мо зловіце
Майго мілага дружка.
Як спаймаіце, да зловіце —
Буду рэчку ўспамінаць.

А не зловіце, не спаймаіце —
Буду рэчку праклінаць:
«Бадай рэчачку, бадай быструю
Жоўтым ілем заняло,
Майго мілага, чарнабрывага,
Ў край Дуная загнало».



На гарэ лён — белы кужаль.
Не з кім стаці, лён парваці.
А татачка родны кажа:
«Мы з табою, з маладою».
— З табой, татачка, не рванне,
Не рванне, а гараванне. —
А мамачка родна кажа:
«Мы з табою, з маладою».
— З табой, мамачка, не рванне,
Не рванне, а гараванне. —
Мілы кажа: «Мы з табою,
Мы з табою, з маладою».
— З табой, міленькі, не рванне,
Не рванне, а любаванне.
Я дзіця закалышу,
А мілога перапрашу.



Купалачка, дзе твая дачка?
Каліна *.
Мая дачушка ў гародзе.
У гародзе лянок поле,
Лянок поле, краскі шчыпле,
Краскі шчыпле, вянкі ўе,
Вянкі ўе, на сябе кладзе.
На сябе кладзе, да шлюбу ідзе.



А за гарою, за крутою,
Каліна *.
Зарасла рутачка лебядою.
«Ідзі, дзевачка, рутачку палоць».
— А мне, маладой, не да рутачкі:
Узялі мяне цяжкі смутачкі.
Паехаў мілы на ваяванне,
Пакінуў мяне на гараванне.
Пакуль мілы мой наваюецца,
Дык я, дзевачка, нагаруюся.



На небе зорачка ясна,
У суседа дзевачка красна,
У суседа дзевачка красна.
Хоць жа я ў бяду ўпаду —
У суседа дзевачку ўкраду,
У суседа дзевачку ўкраду.
Хоць жа я коніка прадам —
Суседу дзевачку не аддам,
Суседу дзевачку не аддам.



Еш, паеш, конь, траву,
Сіненькую васільку.
Я ў татульні не буду,
Вянка віці не буду.
Адзін была звіла,
Павешала ў каморы,
А ў каморы ў куточку,
На жалезным пруточку.
Там мамулька хадзіла,
Той пруточак зламіла —
Мой вяночак зваліла.



На святую купалачку
Выйду я на вулачку,
Выйду я на вулачку,
Да сяду я пад вярбою,
Пад вярбою зялёнаю.
Буду сядзець, буду глядзець,
Буду глядзець, што будзець ляцець.
Аж ляцелі два лебедзі.
Ах вы, лебедзі, вы белыя,
А скіньце мне па перыне,
Па перыне, па адной касе.
Я русу касу ў таткі знашу,
У таткі знашу пад венчыкам,
А ў свякратачкі — пад чэпчыкам.



Цёмная ночка — купалічка,
Наша малада няўдалічка.
Усю ноч не спала, свечы сукала,
Сукала свечываскавыя.
Таму-сяму распрадавала,

Маладому свайму дарам давала:
«На табе свечы не весячы,
А ты мне — грошы не лічачы».



На Івана дзеўкі купаліся,
На Івана дзеўкі купаліся,
А ўсе дзевачкі ўплынь плывуць,
А ўсе дзевачкі ўплынь плывуць.
Адна дзевачка й патанула,
Адна дзевачка й патанула.
А яе міленькі па беражку ідзець,
А яе міленькі па беражку ідзець.
«Не жаль жа мне дзяўчоначкі,
Не жаль жа мне дзяўчоначкі,
А жаль жа мне русыя косачкі,
А жаль жа мне русыя косачкі».



За борам, борам круглае поле,
Каліна *.
А там дзевачка пшанічку поле.
Ой, поле, поле, перабірае,
Гугаль-мятлічку на мяжу кідае,
Гугаль-мятлічку на мяжу кідае,
Чысту пшанічку сабе пакідае.
Гугаль-мятлічка — чортава насенне,
Чыстая пшанічка — мне на вяселле.



У гародзе лебяда, лебяда,
Пад лебядою прынада.
Прынадзіла дзеўка малайца
Ад роднай маці, ад айца:
Да цёмнай ночы вадзіла,
Горкай гарэлкай паіла,
У мяккай пасцелі спаць клала.



На вуліцы купалле,
Дзевачка сына купала.
Яна купала, плакала:
«Дзе я малое папала?
Ой, кіну, рыну, кіну, рыну,

Сама паеду на Ўкраіну.
Там мяне людзі не знаюць,
За дзевачку пашчытаюць».



Ой, кіну, кіну стрэлачку
Пад зяленую елачку.
«Ой, ляжы, ляжы, стрэлачка,
Пад зяленаю елачкай».
— Калі суха будзе — ляжаць буду,
А мокра будзе — гніць буду. —
Аддала мамка дачушку
Да й на чужую старонку.
«Ой, жыві, жыві, дзіцятка,
Да й на чужой старонцы».
— Калі добра будзе — жыць буду,
А блага будзе — проч пайду,
Горку калінку заламлю.
Горку калінку заламлю,
Усім дзевачкам я скажу:
«Ах вы, дзевачкі-сястрыцы,
З руты вяночкаў не віце,
З руты вяночкаў не віце,
Ніколі замуж не йдзіце».



Ой, бела, бела бяроза,
Чаго на моры палягла?
Чаго на моры палягла,
Дзеўкам дарожку заслала?
Ішла дзяўчыначка з каморы,
Несла золата ў прыполе,
Шчыра срэбра ў рукаве, —
Парассыпала па моры,
Кліча мамачку з каморы:
«Ідзі, ідзі, мамачка, з каморы,
Памажы золата сабраць,
Шчырае срэбра падняць —
Да на стальную іголачку,
Да на шаўковую нітачку».
— Не пайду, дзетачка, не магу:
Жаласных ручак не ўзніму,
Жаласных ручак не ўзніму,
Што цябе, маладую, аддаю,
Што цябе, маладую, аддаю
Да ў чужую дальнюю старану,

Да ў чужую дальнюю старану,
К чужому татачку — не свайму,
К чужому татачку — свекарку,
К чужой мамачцы — свякроўцы.



«Чаму барок ды не званок,
Чаму барок ды не званок?»
— А як мне, барку, быць званку,
А як мне, барку, быць званку,
Калі ў мяне пташак няма,
Калі ў мяне пташак няма?
Адна была зязюлечка,
Адна была шэранькая,
І тую арлы забралі,
І тую арлы забралі
І ястрабам аддалі,
І ястрабам аддалі. —
«Чаму дварок не мяцён,
Чаму дварок не мяцён?»
— А як мне мяцёным быць,
А як мне мяцёным быць,
Калі ў мяне дзевак няма,
Калі ў мяне дзевак няма?
Адна была Ніначка,
Адна была малада,
І тую сваты забралі,
І тую сваты забралі —
Таму-сяму на муку,
Таму-сяму на муку,
А Генечку — давеку,
А Генечку — давеку.



На сенажаці мядуначка,
Божа наш! *
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала — праўду казала,
Што мой татулька мовіць, гаворыць,
Мовіць, гаворыць аддаці хочыць,
Аддаці хочыць ды за старога.
А я старога ды не любіла
І за вароты не правадзіла.
А я з старым адну ночку начавала,
Як за гнілой калодай праляжала.
На сенажаці мядуначка,

Там кукавала зязюлечка,
Кукавала — праўду казала,
Што мой татулька мовіць, гаворыць,
Мовіць, гаворыць, аддаці хочыць,
Аддаці хочыць ды за роўніцу.
А я роўніцу даўно любіла
І за вароты правадзіла.
А я з роўніцай адну ночку начавала —
Як вішанька ў садочку расцвітала.



А ў бару, бару, на баравіне,
Ай, рана, рана, на баравіне.
Там Аленка ягадкі брала,
Ай, рана, рана, ягадкі брала.
Ягадкі брала, цяжка ўздыхала,
Ай, рана, рана, цяжка ўздыхала:
«Бярозкі мае, невядомыя,
Ай, рана, рана, невядомыя.
Дарожкі мае, незнакомыя,
Ай, рана, рана, незнакомыя.
А з некім сесці лустачку з'есці,
Ай, рана, рана, лустачку з'есці.
А з некім стаці, слоўца згукаці,
Ай, рана, рана, слоўца згукаці».
Прыйшоў да яе міленькі яе,
Ай, рана, рана, міленькі яе.
«Чаго, Аленка, цяжка ўздыхаеш,
Ай, рана, рана, цяжка ўздыхаеш?
Мы з табой сядзім, лустачку з'ядзім,
Ай, рана, рана, лустачку з'ядзім.
Мы з табой станем, слоўца згукаем,
Ай, рана, рана, слоўца згукаем».



А Купалачка дачку біла,
Каліна *.
«Дзе ж ты, шэльма, вянок дзела?»
— Ішла, мамачка, дарогаю,
Тудой ішоў бялявы хлопец,
Узяў, мамачка, мой вяночак,
Панёс, мамачка, бялявым дзеўкам. —
Купалачка дачку біла.
«Дзе ж ты, шэльма, вянок дзела?»
— Ішла, мамачка, дарогаю,

Туды ішоў красен моладзец,
Узяў, мамачка, мой вяночак,
Аддаў, мамачка, красным дзевачкам.



На сенажаці мядуначка,
Божа наш! *
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала, праўду казала:
«Чаму, Пётрачка, не жэнішся?»
— А як жа мне жаніціся:
Хамут ў страсе, дуга ў лесе,
Конь на папары, мне няма пары.
Няхай мой конік напасецца,
Няхай паненка нагуляецца.



Стаіць каліна над ракою,
Пад той калінай дзяўчыніца
Русую коску там часала,
Белае ліцо вымывала.
Прышоў да яе старусенькі,
Прышоў да яе старусенькі.
«Мыслі да мыслі, дзяўчыніца,
Мыслі да мыслі, дзяўчыніца».
— Не тваіх мысель, старусенькі,
Не тваіх мысель, старусенькі». —
Стаіць каліна над ракою,
Пад той калінай дзяўчыніца
Русую коску часала,
Белае ліцо вымывала.
Прышоў да яе казачэнька,
Прышоў да яе казачэнька.
«Мыслі да мыслі, дзяўчыніца,
Мыслі да мыслі, дзяўчыніца».
— Я тваіх мысель казачэнька,
Я тваіх мысель, казачэнька.



Кукавала зязюля ў зялёным садочку,
Прылажыўшы вушка к лісточку.
Кукавала, кукавала, стала шчабятаці:
«Хто ж мае дзетачке да й пабярэ?..
Хто ж мае дзетачке да й пабярэ,
Хто ж іх лятаць да й навучыць?

Хто ж іх лятаць да й навучыць,
Хто ж іх да пташкаў да й прылучыць?»
Аказаўся салавейка да й ў садочку.
«Я ж твае дзетачке да й пабяру.
Я ж твае дзетачке да й пабяру,
Я ж іх лятаць да й навучу.
Я ж іх лятаць да й навучу,
Я ж іх да пташкаў да й прылучу».



Сцяліся, сцяліся, зялёны спарыш,
Як ліст па вадзе.
Уцешыліся ўсе варожанькі
Аб маёй прыгодзе.
Прыгода ты мая, прыгода,
Як ранняя раса:
Вецер павее, а сонца прыгрэе —
Ападзе уся.



Сама сяду ля варот,
Каня пушчу у гарод.
Я коніка навяжу
І коніку прыкажу:
«Ня еш, конік, травіцу,
А еш, конік, васільку,
Баравую красачку».
Мне ў татулькі неяк быць,
З красачак вянкоў не віць.
Адзін вянок савіла
І той сястрыцы аддала.
«Насі, сястра, здарова,
Сабе саўю да ўзнова».



Купалка Яна на вулку звала:
«Ой, выйдзі, выйдзі, пане Іване,
На вулку дзіва паглядзець,
Дзіва паглядзець, падзівіціся:
Едзе Мішачка жаніціся.
Чатыры кані паперадзе ідуць,
А на пятым — Манячку вязуць,
А на шостым — ён сам едзе,
А на сёмым — дружыначка,
А на восьмым — радзіначка».



На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка.
Яна кукавала, праўду казала:
«Чаму, Валодзька, не жэнішся?»
— А як жа мне жаніціся?
На тачыне хмель не развіўся,
На ніўцы ячмень не наліўся,
У таткі дзевачка не вырасла,
Русую коску не выплела,
Шчасце, долі не вынесла.—
На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка.
Яна кукавала, праўду казала:
«Чаму, Валодзечка, не жэнішся?»
— Цяпер буду жаніціся.
На тачыне хмель ужо развіўся,
На ніўцы ячмень ужо наліўся,
У таткі дзевачка ўжо вырасла,
Русую коску ўжо выплела,
Шчасця і долі ўжо вынясла,
Цяпер буду жаніціся.



Ходзе павук па вуліцы,
Каліна *.
Заве дзевак на вуліцу:
«Ідзіце, дзеўкі, дзівіцеся,
Едзе хлопец жаніціся.
Сам ён едзе на коніку,
Вязе дзевачку ў возіку.
Яго шапачка, як жар гарыць,
Яго дзевачка, як мак цвіціць».



А на вуліцы на шырокай,
А на мураўцы на зялёнай
Там хадзілі купальнічкі,
Усе купальнічкі, ўдальнічкі.
Няма лепшага купальнічка,
Як маладзенькі Іванька:
Пяшком на вулку не выходзіць,
Ён на коніку выязджаець.
Ён сам едзіць на коніку,
А дзевачку вязець у возіку.
Сам ён едзіць, як жар гарыць,

Дзевачку вязець, як мак цвіціць.
А жар жа гарыць — атухаець,
А мак жа цвіціць — ападаець.



Ды плаваў чаўночак па рэчцы,
Ды плакаў малойчык па дзеўцы:
«Дзе ж мне, маладому, падзецца?
Ды ці пайсці ў рэчку ўтапіцца,
А ці ў багавінне ўваліцца?
Ды ці сарваць лыка з крапівы,
Ды павесіцца на бацвінні?
А прыйдзе ў гарод стара маці,
Ды будзе бацвінне ламаці,
Да будзе думаць, што кацішча,
Ажно ж яе роднае сынішча».
— Ой, сынку, сынку, сыночак,
За каго ты галоўку палажыў?
Ці за татачку старога,
Ці за мамачку родную,
Ці за сямейку дробную? —
«Не клаў я галоўкі ні за кога:
Ды ні за татачку старога,
Ні за мамачку родную,
Ні за сямейку дробную.
А палажыў я галоўку за дзеўку,
За яе ціхія паходы,
За яе нізкія паклоны,
Што яна ціхенька хадзіла,
Нізенька галоўку насіла».



А за гарой ветрык вее,
Божа наш! *
Там малойчык лянок сее.
За ім дзевачка ўслед ходзе,
Услед ходзе, бога просе,
Каб ляночак вялік радзіў,
Каб малойчык весялей хадзіў.



Ой, тынок высок, Дунаёк шырок,
Божа ж мой! *
Хто ж гэты тынок пераскочыць?
Хто ж гэты Дунай пераплыве?

Каралеўначку за сябе возьме?
Колечка тынок пераскочыць,
Колечка Дунай пераплыве,
Каралеўначку за сябе возьме.
А як жа скочыў — не пераскочыў,
А як жа паплыў — не пераплыў,
Каралеўначкі за сябе не ўзяў.



Чырвоненькі вінаград,
Ці ты ўдаўся на пагляд?
Як Іванька паглядзеў,
Аж вінаград паблёднеў.
Бадай жа ты бедзен стаў,
Як ад цябе бледзен стаў.
Чырвоненькі вінаград,
Ці ты ўдаўся на пагляд?
Як Іванька паглядзеў,
Аж вінаград пакраснеў.
Бадай ты багатым стаў,
Як ад цябе красен стаў.



Ой, у лесе, лесе на клянку
Да вісела калыбелька на шаўку,
А ў той калыбельцы да дзяціна,
Калыхалі яго два брацейкі.
«Калышэце мяне да высока,
Каб чуў да бачыў далёка.
Калышэце мяне вышэй гор,
Каб я бачыў цесцеў двор,
Да дзе мая мілая пахаджае,
Да што яна, маладая, парабляе».
— Ой, шые, шые, вышывае,
К свайму вяселлю прыбірае.
Ой, шые, шые ды гаптуе,
К свайму вяселлю ды гатуе.



У полі садочак падмецен,
Зялёнаю ружаю аплецен.
Ніхто ў тым садочку не бываў,
Адзін Іванко ў карты іграў,
Сабе Манечку падмаўляў:

«Ідзі, ідзі, Манечка, са мною,
Будзеш маёй, Манечка, жаною,
А маёй мамачцы — слугою».



На сенажаці мядуначка,
Божа наш! *
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала, праўду казала:
«Чаму ж, Грышка, не жэнішся?»
— А як жа мне жаніціся:
Куры ячмень павыдзіралі,
Дзецюкі дзевак павыбіралі.
А прыдзіць восень — хоць разам восем,
А прыдзіць вясна — хоць адна б прыйшла.



Хадзілі дзеўкі па балоту,
Хадзілі дзеўкі па балоту,
Рабілі ліха — не работу,
Рабілі ліха — не работу.
Лавілі рачка за клюняшэньку,
Лавілі рачка за клюняшэньку,
Пасадзілі рачка на калодзе,
Пасадзілі рачка на калодзе.
Сталі думаць, гаварыць,
Сталі думаць, гаварыць:
«Як нам рачка падзяліць?
Як нам рачка падзяліць?»
— Таму-сяму па клюняшэньцы,
Таму-сяму па клюняшэньцы,
Маладому Віцечку — сярэдзінку,
Маладому Віцечку — сярэдзінку.
Таму-сяму па дзевачцы,
Таму-сяму па дзевачцы,
Маладому Віцечку — паненачку,
Маладому Віцечку — паненачку.



Шумела дуброўка, шумела,
Ідучы дарожкай — звінела.
Пайшла, ў вароцейках стала,
Слаўнага малойца пытала.
Слаўны малойчык Яначка,
Па месяцы коні сядлае,

Па зары дружынку збірае,
Да свету ў цесцяткі гуляе,
Раннія абеды з'ядае.
«Я абедаў ці не абедаў,
А сваю Ганначку адведаў».



Каціліся ды два яблычкі —
Абудва садовыя.
Любілі мяне малойчыкі —
Абудва маладыя.
Любіў адзін з паўдарожачкі,
А другі з Украіны.
Расшчапілася маё сэрцайка
На дзве палавіны.



«Бяда мая над бядою,
Што дзяўчына за вадою.
Плыў бы рэчку — ды баюся:
Маладзенькі — утаплюся».
— Не тапіся — душу згубіш,
Мяне, моладу, забудзеш.



Сядзеў саколе на клёне,
Папускаў крылейка да долу.
Да яго пташачкі шчабечуць:
«Падымі, саколе, крылейка».
— Тады я крылейка падыму,
Як з гэтага клёну паляту,
За сабой зязюлю павяду. —
Сядзеў Міхале на кані,
Папускаў сукенкі да зямлі.
Да яго дзевачкі гавораць:
«Падымі, Міхале, сукенкі».
— Тады я сукенкі падыму,
Як з гэтага падвор'я паеду
І з сабою Верачку павязу.



Дарожка, дарожка шырокая,
А на той дарожцы — жоўтыя пясочкі.
А на тых пясочках — тры сады зялёны:

А ў первым садочку зязюлі кукуюць,
А ў другім садочку салаўі шчабечуць,
А ў трэцім садочку, маць сына ўбіраець,
Маць сына ўбіраець, праўду пытаіць:
«Ай, сынку, мой сынку, скажы ты мне
праўду,
Хто табе найлепей, каго табе найжальчэй:
Ці цешча, ці жонка, ці родная маці?»
— Ах, мамка, ты мамка, скажу табе праўду:
Жонка для савету, цешча для прывету,
А родная маці мілей ўсяго свету.
Памрэць мая цешча — гарэлкі нап'юся,
Памрэць мая жонка — з другой ажанюся,
Памрэць родна мамка — слёзкамі залься,
Слёзкамі зальюся, ні век ні ўватруся.
Няма такой крамкі, дзе прадаюць мамкі.



Іван-балван па рацэ плывець,
Купала на Івана *.
Ён сваю сястру па галоўцы б'ець.
«Не бі мяне па галовачцы,
А бі мяне проціў сэрцачка,
Пахавай мяне пры дарожаньцы,
Пры дарожаньцы, пры бярозаньцы.
Пасадзі на мне дзве красачкі:
Першая красачка — нагодачка,
Другая красачка — пралесачка.
Нагодачка — для прыгодачкі,
Пралесачка — для прыветачкі».



Між гор, між даліны — тры ручаіны,
Каля тых ручайкоў малойчык праязджае,
Малойчык праязджае, ручайкі аглядае:
Адзін ручаёчак — салодкі мядочак,
Другі ручаёчак — ячменнае піва,
Трэці ручаёчак — крынічна вада.
Салодкі мядок — для любай яго,
Ячменнае піва — для яго самога,
Крынічна вада — для варана каня.



Было ў Купалкі да тры дачушкі,
Каліна *.
Першая была бела, румяна,
Другая была тонка, высока,
Трэцяя была нізка, гарбата.

Бела, румяна выйшла за пана,
Тонка, высока — за капітана,
Нізка, гарбата — за караля.
Сталі швагры з'язджаціся,
Сталі з караля смяяціся:
«Кароль, кароль, велькі пан!
Чаму ты не браў такую, як сам?
Чаму ты не браў белу, румяну?
Чаму ты не браў тонку, высоку?
Чаму ты ўзяў нізку, гарбату?»
— Бела, румяна — ліцо зліняе,
Тонка, высока — пераломіцца,
Нізка, гарбата — будзе багата.
Нізка, гарбата сыноў навядзе,
Сыны пойдуць ваяваці,
Кароль будзе панаваці.



А ў садочку тры сцежачкі,
Каліна *.
Ой, там ішлі тры дзевачкі.
Туды ішоў удал малойчык,
З дзевачкамі сустракаўся,
З дзевачкамі сустракаўся,
На усіх трох углядаўся:
Адна была ў чорным шоўку,
А другая — у золаце,
А трэцяя — у розуме.
Прыйшоў дамоў і хваліцца:
«Ой, татачка, што ж я відзеў за дзівачка:
У садочку тры сцежачкі,
Тудой ішло тры дзевачкі.
А я з імі сустракаўся,
На ўсіх на іх заглядаўся:
Адна была ў чорным шоўку,
А другая — у золаце,
А трэцяя — у розуме.
Пазволь, татка, каторую ўзяць:
Ай ці тую, ў чорным шоўку?
Ай ці тую, што ў золаце?
Ай ці тую, што ў розуме?»
— Не бяры, што ў чорным шоўку,
І не бяры, што ў золаце,
Бяры тую, што ў розуме.
Чорнага шоўку мы купім,
І золата мы дабудзем,
А розуму мы не ўставім.



На сенажаці мядуначка,
    Каліна *.
Там кукавала зязюлечка,
Там кукавала, праўду казала:
«Не йдзіце, дзеўкі, за старых замуж,
І не ідзіце за маладых,
А йдзіце, дзеўкі, роўна сабе.
За старым мужам удавой будзеш,
За маладым — жабраваць будзеш,
А роўна сабе — панаваць будзеш».



А ў лузе, ў лузе каліна,
Пад калінаю маліна,
Пад малінаю дзяўчына
Русу касіцу часала,
Бела лічэнька ўмывала.
«Ліцо маё ты бяленька,
А каму ж ты застанешся:
Ці старому, ці маладому?»
Ехаў, паехаў стары дзед,
Пачаў каліну ламаці,
Пачаў дзяўчыну чапаці.
«Ламай не ламай, стары дзед,
Не твайго лугу калінка,
Не тваіх мысляў дзяўчынка».
А ў лузе, ў лузе каліна,
Пад калінаю маліна,
Пад малінаю дзяўчына
Русу касіцу часала,
Бела лічэнька ўмывала.
«Ліцо маё ты бяленька,
А каму ж ты застанешся:
Ці старому, ці маладому?»
Ехаў, паехаў малойчык,
Пачаў калінку ламаці,
Пачаў дзяўчынку чапаці.
«Ламай, ламай, бел малойчык,
Ды твайго лугу каліна,
Ды тваіх мысляў дзяўчына».



А ў сітнічку-капытнічку,
    Ой, то-то! *
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, сядланыя —

Толькі сесці, паехаці
За горачку па ўдовачку.
А ўдовачку лёгка браці,
Лёгка браці, цяжка жыці:
Вячэрку варыць — не гукаіць,
Пасцельку сцеліць — не ўсміхнецца,
Спаць кладзецца — к сцяне хінецца,
Ка мне плячамі, к сцяне вачамі,
Рана ўстаець — а ўсё клянець.
А ў сітнічку-капытнічку
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, сядланыя —
Толькі сесці, паехаці
За рэчачку па дзевачку.
А дзевачку цяжка браці,
Цяжка браці, лёгка жыці:
Вячэрку варыць — усё гукаіць,
Пасцельку сцеліць, а ўсё смяецца,
Спацькі кладзецца, ка мне хінецца,
Ка мне вачамі, к сцяне плячамі,
А рана ўстаець — а ўсё пяець.



У садочку, у халадочку
Стаіць конік укаваны,
Укаваны, асядланы,
Асядланы, пекна ўбраны —
Толькі сесці, паехаці,
Паехаці за рэчачку,
За рэчачку па дзевачку.
А дзевачку цяжка ўзяці,
Цяжка ўзяці — лёгка жыці:
А дзевачка пасцель сцеле,
Пасцель сцеле і смяецца,
Ляжа спацькі — прыхінецца.
У садочку, у халадочку,
Стаіць конік укаваны,
Укаваны, асядланы,
Асядланы, пекна ўбраны —
Толькі сесці, паехаці,
Паехаці за горачку,
За горачку па ўдовачку.
Удовачку лёгка ўзяці,
Лёгка ўзяці — цяжка жыці:
Удовачка пасцель сцеле,
Пасцель сцеле і ўздыхае —
Першага мужа ўспамінае.



А ў Івана ў вароціках,
Ой, рана, на Івана *.
Стаяць коні запражоны,
У вожачкі заважоны —
Толькі сесці ды паехаць
За рэчачку па дзевачку,
За крыніцу па ўдавіцу.
Дзеўку вязуць — музыкі іграюць,
Удоўку вязуць — дзеткі плачуць:
«Бадай, мамачка, прапала,
Як нас, малых, пакідала,
Бадай, мамачка, не зжылася,
Як нас, малых, адраклася».



А сягоння ў нас купаллейка,
Каліна *.
Ой, купаліся тры сястрыцы.
Пакупаўшыся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшлі, гаварылі:
«А мы жылі, як лябёдачкі,
Раскаціліся, як ягадачкі.
Кароўкі нашы развядзёныя,
Куфэркі нашы развязёныя,
А мы сястрыцы разабраныя».
А сягоння ў нас купаллейка,
Ой, купаліся тры ятровачкі.
Пакупаўшыся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшлі, гаварылі:
«А мы жылі, як ягадачкі,
А сышліся, як лябёдачкі.
Кароўкі нашы ўсе звядзёныя,
Куфэркі нашы ўсе звязёныя,
Мы, ятровачкі, ўсе сабраныя».



А там за гарой за камянной,
Ой, то-то! *
Ды зарасла рута лебядой.
«Чаму, Манечка, руту не поліш?»
— А мне, маладой, не да рутачкі,
А мне, маладой, многа смутачкі:
Мяне, маладу, кінуў мілы,
А й кінуў мілы без прысаду.
А й пакінуўшы мяне, маладу,
Дый яшчэ ж мяне не зусім адну,
Дый яшчэ са мной дзіця малу.



Дзяўчыначка, чырвоная рожа,
Дзяўчыначка, чырвоная рожа,
Не йдзі замуж, барані цябе божа.
Ня ўмела ж ты цукерачкі есці,
Ня ўмела ж ты цукерачкі есці,
Умей жа каля люлечкі сесці.
Не ўмела ж цукерачкі ссаці,
Не ўмела ж цукерачкі ссаці,
Умей жа цяпер дзіця гадаваці.



А на Пятро сонца пякло,
    Люлі, рана, люлі, рана, сонца пякло.
І на Івана сонца іграла,
    Люлі, рана, люлі, рана, сонца іграла.
Хадзіў чыжык па вуліцы,
    Люлі, рана, люлі, рана, па вуліцы.
Збіраў дзевак на купалле,
    Люлі, рана, люлі, рана, на купалле.
А дзевачкі, ваша воля,
    Люлі, рана, люлі, рана, ваша воля.
Малодачкам волі нету,
    Люлі, рана, люлі, рана, волі нету:
Мала дзіця ў калыбелі,
    Люлі, рана, люлі, рана, ў калыбелі,
А злы мужык на пасцелі,
    Люлі, рана, люлі, рана, на пасцелі.
І кароўкі нядоены,
    Люлі, ра́на, люлі, рана, нядоены,
І цяляткі няпоены,
    Люлі, рана, люлі, рана, няпоены,
І свіначкі някормлены,
    Люлі, рана, люлі, рана, някормлены.
Пакуль млода сабралася,
    Люлі, рана, люлі, рана, сабралася,
Усё купалле разышлося,
    Люлі, рана, люлі, рана, разышлося.



Ходзіць чыжык па вуліцы,
Завець дзевак на купаллю:
«Вам, дзевачкі, свая воля,
Маладзіцам волі нету:
Дзіця плачыць ў калыбелю,
А міленькі — ў белай ложы.
Свёкар журыць у запечы,

А свякроўка — процi печы,
А залвiца — у каморцы,
А дзеверка — на падворку».
— Я й дзiцятка прыкалышу,
Я й мiлога перапрашу,
Я й свёкра таткам назаву,
Я й свякроўку мамкай назаву,
Я й залвiцу — ды сястрыцай,
Я й дзеверку — ды брацейкам, —
Сама пайду на гулянне.



Хадзiў чыжык па вулiцы,
Збiраў дзяўчат на купала:
«Пойдзем, дзеванькi, на купала,
Бо цяпер жа ваша воля,
А замужнiм усё бяздолле:
Дзiця плача ў калыбелi,
А муж крычыць на пасцелi,
А свякроўка — пасцель слацi,
А свёкарка — разувацi,
А залоўка — касу плесцi,
А дзевiрка — ў танец iсцi».
— Я, молада, ўсiм гадзiла,
Цёмнай ночкi не даспала:
I дзiця я калыхала,
I мiлога спацi клала,
I свякроўцы пасцель слала,
I свёкарку разувала,
I залоўцы касу пляла,
I з дзевiркам ў танец iшла.



Ой, цяжка, цяжка для мужа,
Што я у залёты дасужа.
А я у залётах запiла,
Пад лiпiнкаю спаць легла.
Лiпа Фiлiпа прывяла,
Другога брата — Кандрата,
Трэцю сястрыцу — Рыпiнку,
Што палiвала калiнку.



Купалка сялом кацiлася,
    Калiна *.
Манечка ў свёкра прасiлася:
«Свякратка-татка, пусцi ў купалку!»

— Я сам не пайду, цябе не пушчу,
Прасіся сабе ў свякроўкі. —
Купалка сялом каціласе,
Манечка ў свякроўкі прасілася:
«Свякроўка-мамка, пусці ў купалку».
— Сама не пайду, цябе не пушчу.
Прасіся сабе ў залвіцы. —
Купалка сялом каціласе,
Манечка ў залвіцы прасілася:
«Залвіца-сястрыца, пусці ў купалку».
— Сама не пайду, цябе не пушчу.
Прасіся сабе ў дзеверкі. —
Купалка сялом каціласе,
Манечка ў дзеверкі прасілася:
«Дзеверадка-братка, пусці ў купалку».
— Я сам не пайду, цябе не пушчу. —
Пакуль ва ўсіх напрасілася,
Купалка сялом раскацілася.



А ель мая зялёная,
Каліна *.
Свякроў мая шалёная:
Загадала мне работачку,
Работачку ды ў суботачку.
У суботку позна адзежку мачыць,
У нядзельку рана адзежку жлукціць.
Адзежку жлукціць, на моры бяліць,
На моры бяліць, верх лесу сушыць,
Верх лесу сушыць, на небе качаць,
На небе качаць, у борці складаць.
«Свякроўка, мамка, я не татарка,
Я не татарка — ў суботу мачыць,
Я не яўрэйка — ў нядзельку жлукціць,
Я не вутачка — на моры бяліць,
Я не птушачка — верх лесу сушыць,
Я не зорачка — на небе качаць,
Я не пчолачка — у борці складаць».



Ой, выйду, выйду я на гару,
Ой, удару, удару я ў ладоні,
Каб мае ладоні шчымелі,
Залатыя пярсцёнкі звінелі.
Ды каб майго ойчанькі сад зацвіў,
Вінныя яблычкі зарадзілі,
К майму вяселейку паспелі.

Таму-сяму яблыка, а мне два,
Майму свякарку — чатыры,
Каб яго чэрці схапілі.



А на Яна ночка мала,
А я, млада, не даспала,
Усё гарэшкі шчаўкала,
А ядзёркі у мёд клала,
Шалупінкі — у памыйкі.
То ядзёркі — для татулькі,
Шалупінкі — то для свёкра.
Еш, татулька, пажывіся,
А свёкарка — падавіся.



Да ў полі, ў полі на ўзгорку
Рубіць малойчык каморку.
Тудой ішла дзяўчыначка.
«Памажы бог, хлапчыначка!
Рубі каморку шчыльненька,
Сячы акенца нізенька,
Каб да нас сокалы ляталі
Ды нас раненька будзілі,
Бо ў нас мамка чужая —
Яна раненька не ўзбудзе,
Выйдзе на вулку — абсудзе».
— Мая нявеста лянiва:
Сонца не зайдзе — спаць ляжа,
Сонца узойдзе — яна спіць,
Каб па вадзіцу не хадзіць,
Белых ножак не памачыць.



Ішла я, малада, лугом, берагом,
Ламала каліну правай рукою.
А тая каліна на руках звяла,
Я свайго татульку ў госцейкі ждала.
І піва варыла, і мёдам саладзіла,
Я свайму татульку ўсё не ўгадзіла.
Ішла я, малада, лугом, берагом,
Ламала каліну правай рукою.
А тая калінка на руках звяла,
Я свайго мілога ў госцейкі ждала.
І піва варыла, і мёдам саладзіла,
І свайму міламу усім угадзіла.



Нядоля, нядоля, няшчасце маё:
Не любіць свякроўка імення майго,
Шлець мяне, маладу, у Дунай па ваду.
Стукнула, грукнула аб Дунай судмі.
Як зачуў міленькі, коні пасучы.
«Не стукай, не грукай, мілая, судамі,
Я коні напасу і вады прынясу».
— Я цябе, нявестка, не вады слала,
Я цябе, нявестка, са свету збаўляла.



Не трапячыся, асіна,
Да не адной табе дадзела.
І мне дадзела, маладой,
На чужой старане жывучы,
Да ліхой свякроўцы наровячы.
Прынясу вадзіцы — яна не п'е,
Памыю лыжачкі — не бярэ,
Пасцялю пасцельку — не ляжа,
Папытаю праўды — не скажа.
Есць у мяне міленькі вярненькі:
Пасцялю пасцельку — ён ляжа,
Чаго папытаю — ўсё скажа.



Хадзіў чыжык па вуліцы,
  Каліна, каліна-маліна *.
А зваў дзевак на ігрышчайка,
А жоначак — з ігрышчайка.
А ў дзевачак свая воля,
А ў жоначак — тры няволі:
Першая няволя, што ў кравацi,
Другая няволя, што ў калысцы,
Трэцяя няволя, што ў загнеце.
Што ў кравацi — трэба паважацi,
Што ў калысцы — трэба калыхацi,
Што ў загнеце — трэба памяшацi.



А ў гародзе гардовачка,
  Каліна *.
А што ў мяне за свякровачка,
А што ў яе за наровачка:
Сама ўстане ранюсенька,
Мяне ўкрые цяплюсенька.
«Спі, нявехначка, высыпайся,

Болей розуму набірайся,
Каб аб нас людзі не судзілі,
Што мы цябе рана пабудзілі».



«А ты малодка маладая,
Чаму на вулку не выходзіш,
Чаму купалкі не разводзіш?»
— А як я маю выхадзіці:
Я — маладзенька, дзіцяі — маленька,
Свякроўка сядзіць — не падзяржыць,
Свёкарка ляжыць — не пакалышэць.
А няхай сядзіць — хоць не злезець,
А няхай ляжыць — хоць не ўстанець,
К майму дзіцяці бог прыстанець.



Ой, рано, рано ды на Яна
Стагнала зямліца ад купала,
Да бары шумелі ад песень,
Сяло разлягала з музыкі,
Прасілася нявехна ў свякратка:
«Свякратко, мой жа бацюхно,
Пусці мяне, свякратко, пагуляць
Ад маленькага дзіцяняці».
— Ідзі, ідзі, нявехна, ды не баўся,
Малога дзіцяці не цурайся,
Да белага свету не цягайся. —
«Пяюць пеўні — гуляю.
Пяюць другія — не дбаю».
Тут стаў свякратко паслы слаці.
Першы пасёл — нагайка,
Другі пасёл — шабелька,
А трэці пасёл — гострая меч.
«Зніму табе, нявехна, галаву з плеч!»
— Свякратко, мой бацюхно ж,
Панская твая паходка,
Шаўковая твая барадка,
Сакаловы твае вочачкі,
Парловыя твае зубачкі,
Шаўковыя твае губачкі,
Залатыя твае вусікі
Да белыя твае ручанькі. —
«А хоць ты позненька гуляла,
Абы мяне харашэнька назвала,
Гуляла, мая нявехна, да пеўняў,
Ідзі гуляй да белага света».



Я, маладзенька, не ведала,
Ці было лета, ці не было.
Мая свякроўка — не родна матка,
Гуляць на вулку не пускала,
У цёмнай каморачцы запірала,
А ў той каморачцы — ваконачка.
А я ўслончык прымасціла,
І ў ваконачка паглядзела:
А мой мілы па двары ходзіць,
Карагод дзевак за сабой водзіць.
Мне, маладзенькай, да жаль стала,
А я, маладзенька, плакаць стала:
«Ах ты, свякроўка мая злая,
Нашто за сына мяне брала,
Мне, маладой, свет завязала».



Я, маладзенька, не ведала,
Калі лецечка прагуляла,
Калі цёплае прагуляла.
Свякроўка на вулку не пускала,
У цёмну каморачку замыкала.
А ў той каморачцы ды ваконачка,
А на ваконачку кватэрачка.
Як вып'ю, вып'ю кватэрачку,
Ды выб'ю, выб'ю ваконачка,
Ды выйду, выйду на вулачку,
А ўдару, ўдару ў ладонечкі,
А ў залатыя пярсцёначкі.
А выйшаў з дому свякратачка.
«Не пабі сваіх ладонечак,
Не паламай пярсцёначкаў».
— Няма табе дзела, мой свякратачка,
Не ты мне ладонечкі гадаваў,
Не твой сын пярсцёначкі спраўляў.
Гадаваў ладонькі мой татачка,
А спраўляў пярсцёнкі мой брацейка.
Спраўляў пярсцёнкі ў горадзе,
Прыслаў насіць мне, моладзе.



А на гары бычкі ў ярме,
Каліна *.
А мой мілы ў новай карчме
Гарэлачку п'ецць, мяне не завець.
Ідзець дамоў напіўшыся,

Просіць есці не мыўшыся.
А мой жа ты Якубачка,
Стаіць вадзіца ў кубачку.
А мой жа ты саколіку,
Вісіць ручнік на коліку.



А й бела, бела бяроза,
Чаго на мора схілілася,
Дзеўкам дарожку заняла?
Да там хадзіла Настачка,
У кішэні злота насіла,
Свайго татульку прасіла:
«Пасоб, татулька, злота насіць».
— Маё дзіцятка, не магу:
З жаласці ручак не ўзніму,
Што цябе, моладу, выдаю
А на чужую старану.—
А й бела, бела бяроза,
Чаго на мора схілілася,
Дзеўкам дарогу заняла.
Да там хадзіла Настачка,
У кішэні злота насіла,
Свайго Кузёмку прасіла:
«Пасоб, Кузёмка, злота насіць».
— Памагу, Настачка, памагу,
А мне з табой, Настачка, векаваці.



Рутачка мая зялёная,
    Каліна *.
Я ў мамкі перасад мела.
Аддалі мяне за нягодніцу,
За нягодніцу і п'яніцу.
Рутачка мая незялёная,
Долечка мая нягодная.
Рутачка мая, азеляніся,
Маладосць мая, вярніся.



Ці я табе, дзяўчыначка, не казала,
Не ідзі замуж за ўдовінага сына.
Удовін сын — прагоркая п'яніца:
П'е, гуляе, з карчмы не выходзе,
Дамоў прыдзе — сям'ю разганяе.

«Тапі, маці, новую святліцу!
Вары, маці, смачную вячэру!
Сцялі, жонка, мяккую пасцелю!
Кладзі, сястра, крутое ўзгалоўе!
Не цёплая новая святліца!
Не смачная матчына вячэра!
Не мяккая жончына пасцеля!
Толькі круто сястрыно ўзгалоўе!»



Як я жыла сем год удавою,
Ой, нячула зямлі пад сабою.
А на восьмы за старога пашла —
Пад сабою зямельку пачула.
Я старога вельмі не любіла:
За вароты сабакамі правадзіла,
Яго сляды камянём закаціла.
«Кацісь, камень, назад не адкаціся,
Ідзі, стары, назад не вярніся».
Маладога верна я любіла:
За вароты песнямі правадзіла,
Яго сляды персцнем закаціла,
«Кацісь, персцень, назад адкаціся,
Ідзі, малады, назад вараціся».



А ў Полацку на рынку
П'юць малайцы гарэлку.
«Шынкарачка малада,
Павер віна гарцы два».
— Як жа магу не паверыць,
Калі ў цябе злот каптан.
Калі ў цябе злот каптан —
Я за цябе дачку аддам. —
У карчомцы згукалі,
А ў касцёле звянчалі,
А ў каморы спаць паклалі.
«Скажы, скажы, міленькая,
Як па бацьку цябе зваць?»
— А па бацьку я Карпаўна,
Па імені Кацярына.
Скажы, скажы, міленькі,
Як па бацьку цябе назваць? —
«Па бацьку я Карпаў сын,
Па імені Канстанцін.
Не ёсць жа мы муж з жаной,

А ёсць жа мы брат з сястрой!
Пойдзем, сястрыца, у поле,
Рассыпемся там травою.
А на Яна, на Купала,
Выйдуць дзеўкі краскі рваць,
Выйдуць дзеўкі краскі рваць,
Будуць нас успамінаць:
«Гэта ж тая травіца,
Што брацетка і сястрыца.
На брацетку — сіні цвет,
На сястрыцы — жоўценькі»
— Бадай маці прапала,
Што мяне з братам звянчала! —
«Ці не бог нас прысцярог,
Што з сястрою спаць не лёг».



А хто ж у нас да дзевачак лас?
Каліна *.
Мішачка ў нас да дзевачак лас.
Узяў лясачку папірацiся,
Пайшоў дзевачкі даведацiся.
Лясачка яго паламалася,
Дзевачка яго адцуралася.



Ой, борам, борам баравым
Ляцеў конічак вараны,
На ім малойчык малады.
«Пацішай, косю, пацішай,
Паслухай, што ў лесе чуваць».
— У лесе салаўі шчабечуць,
У садзе зязюлі кукуюць,
На вуліцы хлопцы гавораць,
Ад цябе дзевачку адымуць.



Пры дарозе пры шырокай,
Каліна *.
Багатырачка лён палола.
Ішлі дарогай два малойчыкі.
«Памажы божа, багатырачка,
Табе, моладзе, лён палоць».
Багатырачка не адказала.
Пры дарозе пры шырокай
Бядняжачка лён палола.

«Памажы божа, бядняжачка,
Табе, моладзе, лён палоць».
— А дзякую, малойчыкі! —
Бядняжачка адказала.
Ідучы малайцы гаварылі:
«Не бяры, братка, багатырачку:
Багатырачка мовы не маіць.
А бяры, братка, бядняжачку:
Бядняжачка з людзьмі гукаіць».



На вуліцы на шырокай,
    Купала на Івана *.
Там дзевачкі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся,
Каторай наўпярод пайсці?
Мачыхіна дачка наўпярод пайшла.
Як ступіла на сіне мора,
Сіне мора здрыганула —
Сіротачка патанула.
Пайшлі паслы да мачыхі.
«Ідзі, мачыха, дачку бяры,
Твая дачка патанула».
— Не жаль мне чужой дачкі,
А жаль мне дарагіх шатаў! —
На вуліцы на шырокай
Там дзевачкі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся,
Каторай наўпярод пайсці?
Маткіна дачка наўпярод пайшла.
А як стала на сіне мора,
Сіне мора здрыганула —
Маткіна дачка патанула.
Пайшлі паслы да роднай маткі.
«Ідзі, матка, дачку бяры,
Твая дачка патанула».
— Не жаль жа мне дарагіх шатаў.
А жаль жа мне роднай дачкі.



На гарэ ячмень наліваецца,
    Каліна *.
Багатыр дачкой набіваецца:
«Хлопчыкі-зяцькі, бярыце дачку,
Бярыце дачку — дам пасажачку:

Дам цялушачку-рабушачку,
Дам свінačку-перазімачку,
Дам авечачку-пералетачку,
Дам курачку-сакатушачку,
Дам дачушку-шчабятушачку».



Ой, рана на Івана
Устала я рана,
Бо трэба і ў свята
Гнуць спіну на пана.
Пайшла я у поле,
Шырокае поле,
Там жыта я жала,
Ў снапочкі вязала.
І многа нажала,
І многа звязала —
Ўсё пану не гэдак,
Яму ўсё мала.
Ой, вечар на Яна,
Дзяўчаты гуляюць,
А я йду ад пана,
Яго праклінаю:
«Чаму ж мая доля
Такая ліхая,
А панская воля
Без канца і края?
А дзе ж тое поле,
Што мне адной жаці?
Калі ж тая воля
Ад пана ўцякаці?»



А ў нашым жыце перапяліца,
Яна не свішчыць — праўду гаворыць:
«Ай трудна жыці той маладзіцы,
А ў каторае заловак многа,
А дзівярочка ніводнага.
Куды ні пойдуць — нявестку ганюць:
«Наша нявестка не работніца,
К нашаму двору непрыходніца,
Нашаму скоту непрыглядніца,
Нашым гасцём непрыветніца»
А ў нашым лесе зязюлечка,
Яна не кукуіць — праўду гаворыць:
«Харашо жыці той маладзіцы,
А ў каторае дзівяроў многа,

А заловачкі ніводнае.
Куды ні пойдуць — нявестку хвалюць:
«Наша нявестка работніца,
Нашаму двору прыходніца,
Нашаму скоту прыглядніца,
Нашым гасцём прыветніца».



Васілёчак баравенькі,
Не садзіся блізка сяла,
Блізка сяла Студзенскага.
Там дзяўчаты нехарошыя:
Не будуць рана ўставаці,
Не будуць васілька паліваці,
Растопчуць цябе лапцішчамі,
Сатруць цябе спадн ічкамі;
Лапцішчамі лазовымі,
Спадн ічкамі патрэпнымі.
А садзіся, васілёчак,
Вакол сяла Сялецкага.
Тут дзяўчаты харошыя:
Будуць рана ўставаці,
Будуць васілька паліваці,
Не стопчуць цябе чаравічкамі,
Не сатруць цябе спадн ічкамі;
Чаравічкамі шаўровымі,
А спадн ічкамі шаўковымі.



Ты, ялушачка, зелянушачка,
    Каліна *.
Не станавіся блізка ля сяла.
А ля якога? — Ля Зазерскага.
А там дзевачкі перастарачкі,
Перастарачкі да гультаечкі.
Позніька ўстаюць, ель не паліюць,
А паліюць ель бузіцаю,
Абвяжуць ель анучамі.
Ты ялушачка, зелянушачка,
А станавіся блізка ля сяла.
А ля якога? — Ля Мосарскага.
А тут дзевачкі да й дасужыя:
Ранінька ўстаюць і ель паліюць.
Паліюць ель вадзіцаю,
Вадзіцаю крынічнаю,
Абвяжуць ель чорным шоўкам.



Пайшлі дзяцюкі жардзё церабіць,
Божа мой! *
Жардзё церабіць, платы гарадзіць.
Загарадзілі тры гародчыкі
Ды пасеялі тры насеннейкі.
Адно насенне — зялёна рута,
Другое насенне — пахнуча мята,
Трэцяе насенне — чырвоная рожа.
А хто круты — пільнаваць руты,
А хто багаты — пільнаваць мяты,
А хто прыгожы — пільнаваць рожы.
Васілька круты — пільнуй руты,
Коля багаты — пільнуй пяты,
Іванька прыгожы — пільнуй рожы.



Паеду ў поле, высеку колле,
Выгараджу тры гародчыкі:
У першым пасаджу рожу,
У другім пасею маку,
А ў трэцім — канапель.
А хто прыгожы — пільнуй рожы,
А хто ніякі — пільнуй макі,
А хто целяпень — пільнуй канапель.



Хадзіла пава па балоце,
Да, рана, рана, па балоце.
Збірала пава трасцечка.
Да, рана, рана, трасцечка.
Звіла пава гняздзечка,
Да, рана, рана, гняздзечка.
Знесла пава тры яечкі,
Да, рана, рана, тры яечкі.
Выседзела пава тры саколікі,
Да, рана, рана, тры саколікі:
Першы саколік — Ванячка,
Да, рана, рана, Ванячка,
Другі саколік — Юрачка.
Да, рана, рана, Юрачка,
Трэці саколік — Якімка,
Да, рана, рана, Якімка.
А Ванячку торбы насіць,
Да, рана, рана, торбы насіць.

А Юрачку хлеба прасіць,
Да, рана, рана, хлеба прасіць.
Якімку ад сабак бараніць,
Да, рана, рана, ад сабак бараніць.



А што ў полі трашчыць, лушчыць?
Каліна *.
Канюшкі свішчуць, конікаў ішчуць.
А спаткаліся ім дзевачкі.
«Ці не бачылі нашых конікаў?
У нашых конікаў тры прыметачкі:
У першага каня — калясом шыя,
У другога каня — кубачкам капыткі,
У трэцяга каня — шаўковая грыва».



А што па бярэзнічку трашчыць?
Каліна *.
Канюшкі свішчуць, конікаў ішчуць.
Тудою ішлі тры малойчыкі,
Спаткалі яны трох дзевачак.
Яны ў дзевачак дый пыталіся:
«Ох вы, дзевачкі, вы, паненачкі,
Ці не відзелі нашых конікаў?»
— А якія вашы конікі? —
«Адзін конічак — белы капыткі,
Другі конічак — у ілбе месяц,
Трэці конічак — залата грыўка.
Белы капыткі — твой, Яначка,
У ілбе месяц — твой, Віцечка,
Залата грыўка — твой, Васічка.
Белы капыткі — на кірмаш ехаць,
У ілбе месяц — у сваты ехаць,
Залата грыўка — жаніцца ехаць».



Ой, малая ночка на купала,
Каліна *.
Хлопцы-малойцы не выспаліся.
За плугам ідуць хліпаючы,
Слязамі вочы выціраючы.
Ой, вялікая ночка на Купала,
Нашы дзеванькі выспаліся:
Па полю ідуць спяваючы,
Свае хустачкі вышываючы.



«Іван, Іван, брацец мой,
Загарэўся бровар твой!»
— А мальчыкі-брацеткі,
Ідзіце, бровар тушыце,
Ідзіце, бровар тушыце,
Рэшатам ваду насіце. —
А ў рэшаце вады нет,
А ў мальчыкаў праўды нет.
Мальчыская праўдачка,
Як зімняе сонейка:
Хоць жа яно лялеець,
Дык жа яно не грэець.
«Іван, Іван, брацец мой,
Загарэўся бровар твой!»
— А дзевачкі-сястрыцы,
Ідзіце, бровар тушыце,
Кубкамі ваду насіце. —
А ў кубачках вада ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.
Дзявочая праўдачка,
Як летняе сонейка:
Хоць жа яно смутненька,
Але ж яно цёпленька.



А ў гародзе пад лебядою
Стаяў калодзеж з вадою.
Там дзяўчына ваду брала.
Прыйшлі да яе два малайцы,
Сталі з ёю жартаваці,
З вёдзер ваду выліваці.

«Вы, малайцы маладыя,
Кіньце са мной жартаваці,
З вёдзер ваду выліваці.
У мяне няродна маці,
Будзе мяне біць, караці,
Што няскора ваду нясу».

— Ты, дзевачка маладая,
Знай, як трэба адказаці:
«Гусі былі, ваду пілі,
Ваду пілі, збудзянілі.
А я трошку пастаяла,
Пакуль вада чыста стала.
А я й села пасядзела,
Пакуль вада пасвятлела».



А ў гародзе мядуначка,
Купала на Івана *.
Там кукавала зязюлечка.
Кукавала, праўду казала,
Што ў нашым сяле дарага стала:
А дзевачкі — па сто рублёў,
А русы косы — па тысячы.
А ў гародзе мядуначка,
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала, праўду казала,
Што ў нашым сяле дзёшава стала:
Хлопчыкі — па тры грошы,
А шапачкі — па паўгроша.



А на гары карыта
Поўна вады наліта.
А там жукі лягалі,
Рожкі, ножкі макалі.
А мальчыкі хадзілі,
Тую ваду выпілі.
А на гары карыта
Поўна мёду наліта.
Там пчолачкі лягалі,
Крыллі, лапкі макалі.
А дзевачкі хадзілі,
Той мядочак выпілі.



«А ты, зязюля баравая,
Блізка ля торгу кукавала.
А ці была ты на рыначку,
А ці чула навіначку?»
— Ай, была, была на рыначку,
Ай, чула, чула навіначку.
Падзешавелі нашы хлопчыкі:
А за Парфенку шэлег даюць,
А за Ахрэмку — паўшэлега,
А за Адамку — ні шэлега. —
«А ты, зязюля баравая,
Блізка ля торгу кукавала.
А ці была ты на рыначку,
А ці чула навіначку?»
— Ай, была, была на рыначку,
Ай, чула, чула навіначку.
Падаражэлі нашы дзевачкі:

А за Зоську тысячу даюць,
А за Ганначку — тры тысячы,
А за Марылечку — і не лічачы.



Сягоння купайло, а заўтра Ян,
Пойдзем, дзеванькі, у зялёны гай.
Нарвём купайла па пучочку
Да саўем сабе па вяночку.
Ой, уецца нам на душы,
Што нашы хлопцы галышы.



Дзеўкі каліну ламалі, ламалі,
Калінавы мост масцілі, масцілі.
Дваранін ехаў — паламаў, паламаў.
Яго дзевачкі нагналі, нагналі,
Варанога каня аднялі, аднялі
Ды на стаенку завялі, завялі,
І на гарэлачцы прапілі, прапілі,
І на бараначках праелі, праелі.
Як пайшоў дваранін да караля.
«А ты, кароль, наш паночак, паночак,
Дзеўкі мяне нагналі, нагналі,
Варанога каня аднялі, аднялі».
— Было табе дзевачак не ганяць, не ганяць.
Здалеку ехаць, шапку зняць, шапку зняць,
Да іх пад'ехаць, ручку даць, ручку даць.



Ой, вы купчыкі заграгічныя,
Люлі, люлі, заграгічныя.
Вы прыедзьце к нам, патаргуйце нас,
Люлі, люлі, патаргуйце нас.
Нашы дзевачкі стояць дарага,
Люлі, люлі, стояць дарага:
А за Манечку дык і сто рублёў,
Люлі, люлі, дык і сто рублёў,
А за Ганначку дык і тысячу,
Люлі, люлі, дык і тысячу,
А за Ніначку дык не лічачы,
Люлі, люлі, дык не лічачы.
Нашы хлопчыкі вельмі танныя,
Люлі, люлі, вельмі танныя:
А за Ванечку дык капеечку,
Люлі, люлі, дык капеечку,

А за Мішачку дык мех мякіны,
Люлі, люлі, мех мякіны,
А за Пецечку дык кусок гліны,
Люлі, люлі, кусок гліны.



А хто там, хто там за новым плотам,
Ой, то-то! *
Ай, там Іванька богу маліўся,
Богу маліўся, каб ажаніўся.
Не біў бы жаны чатыры гады,
На пяты гадок — што ў бога дзянёк.



На вуліцы, вуліцы
Чабор гарыць, чабор гарыць.
А ў мальчыка, мальчыка
Жывот баліць, жывот баліць.
Няхай гарыць, гарыць,
Разгарыцца, разгарыцца.
Няхай баліць, баліць
Ды збаліцца, ды збаліцца.
Няхай гарыць, гарыць,
Ды не пыхнець, ды не пыхнець.
Няхай баліць, баліць
Ды не сціхнець, ды не сціхнець.
Няхай гарыць, гарыць
Не патухнець, не патухнець.
Няхай баліць, баліць
Ды апухнець, ды апухнець.



Сягоння купальнічак, заўтра — Ян,
Божа наш! *
Мы пагонім дзецюкоў на папар.
А большымі там араць будзем,
Серадушкамі — баранаваці,
Зусім малымі — свінней пасціць.



Ой, у агародзе купарос,
Ды чаму малойцы не рвяце,
Дзявочкам вяночкаў не ўяце?

Ой, уецца, ўецца на душы,
Што нашы дзявочкі харашы,
А нашы малойцы — галышы,
Панадуваліся, як мышы
Да ў жыжкай крапіве седзячы,
Да на нас, дзявочак, гледзячы.



Сёння купалле, заўтра Ян,
Да прыйдзе, хлопчыкі, ліха вам.
Ды якое ж ліха ліхое —
Пагоніце сучак у поле.
Каторая сучка падласка —
Будзе вам, хлопчыкі, мяска.
Каторая сучка рабушка —
Будзе вам, хлопчыкі, падушка.
Каторая сучка рабенька —
Будзе вам, хлопчыкі, паненка.
Каторая сучка звонка —
Будзе вам, хлопчыкі, жонка.



Сёння Купала, заўтра Іван,
Будзіць, мальцы, ліха вам.
Ды якое ліха ліхое —
Пагоніце сучак у поле.
Будзіце іх там даіці
Ды калатушачку бяліці.
Каторая сучка падласа —
Гэта вам, мальцы, на мяса.
Палажыце сучку на пясочку,
Падзяліце, мальцы, па кусочку.



Сягоння Купала, заўтра Ян,
Будзець, мальцы, ліха вам,
Будзець вам ліха ліхое,
Пагоніце кошак у поле.
Іх нямножка: дваццаць шэсць,
І ўсе яны ў адну шэрсць.
Гоняць, гоняць ды і стануць,
Ды і ў кошачак пытаюць:
«А кошачкі, кошачкі,
Ці баляць вам ножачкі?»



Сягоння Купала, заўтра Іван,
Будзіць, мальцы, ліха вам.
Будзіць ліха ліхое,
Пагоніце кошак у поле.
Кошкі будуць гізаваць,
Мальцы будуць даганяць.
А ўсіх кошак сорак шэсць,
І ўсе яны ў адну шэрсць.
Адна кошка падласка —
Кавалерская закраска.



Чые хлопчыкі казадойцы?
    Каліна *.
Нашы хлопчыкі казадойцы:
А Мішачка ды й казу даіў,
А Пецечка малако цадзіў,
А Іванка даёначкі мыў.



Хадзіла вутка па сенажаці,
    Каліна *.
Вывела вутка пяцёра дзяцей:
Адно дзіцятка — молад Арналька,
Другое дзіцятка — молад Юзічка,
Трэцяе дзіцятка — молад Сашка,
Чацвёртае дзіцятка — молад Пецечка,
Пятае дзіцятка — молад Валодзька.
А ў Арналькі — крывыя ногі,
А ў Юзічка — кудра галава,
А ў Сашкі — рэдкія зубы,
А ў Пецячкі — сінія вочкі,
А ў Валодзькі — белыя ручкі.
Крывыя ногі — жар заграбаць,
Кудра галава — печ вымятаць,
Рэдкія зубы — кісель цадзіць,
Сінія вочкі — чытаць, пісаць,
Белыя ручкі — паненак вітаць.



На вуліцы чабор гарыць,
Нашым малайцам жывот баліць.
Яны на вулку не выходзяць,
Дзеўкам таночкі не выводзяць.
Калі ж выдзіць адзін каторы —

Праз яго ногі свіней ганяць,
Яго рукамі жар заграбаць,
Праз яго зубы кісель цадзіць,
Праз яго вочы попел сеяць.



У гародзе гардованька,
    То-то-то! *
Цяжка хлопцам пятрованька.
Ідзіце, дзеўкі, гарду рваці,
Цяжка хлопцам Пятра ждаці.
Дзеўкі гарды не нарвалі,
Хлопцы Пятра не даждалі.
А большыя патапіліся,
А сярэднія падавіліся:
Пад пералазам — дык па тры разам.



Паганю карову ў діброву,
А сама вярнуся дадому.
А вы тут, хлопчыкі, пастойце,
Будзе бегчы сучка — падойце,
Папяловай кашкі наварыце,
Суччыным малачком забяліце.
Паганю карову ў дуброву,
А сама вярнуся дадому,
А вы тут, дзяўчаткі, пастойце,
Будзе бегчы кароўка — падойце,
Пшанічнай кашкі наварыце,
Кароўчыным малачком забяліце.



А хто ж у нас нежанаты князь?
    Купала, ой, рана *.
Лёнечка ў нас нежанаты князь.
Ажаніць яго з свіннёю,
Палажыць спаць пад мяжою.



А хто ж у нас нежанаты князь?
    Купала на Івана *.
Хведзька ў нас нежанаты князь.
А й век яму не жаніціся,
Як сабаку, валачыціся.



Купальская ночка невялічка —
Нашы мальцы ды не выспаліся.
Прабудзіліся, прыблудзіліся,
Прыблудзіліся к стаўбу, к печы.
Сталі яны стоўб абнімаці,
Сталі яны печ цалаваці,
Думалі мальцы, што гэта дзеўкі.



На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала, праўду казала:
«Чаму, хлопчыкі, не жаніліся,
Хоць бы вы лепш патапіліся».
— Не тапіліся — вадзіца ўпала,
Не жаніліся — дзевак не стала.



Іван, Іван ды Мар'я
Каціліся з узвалля,
З высокае гарушкі
У мягкія падушкі.
Іван Мар'ю даганяў,
Рукі, ногі, паламаў.



Іван, Іван і Мар'я,
У нас сягоння купалле:
Купаліся дзевачкі —
Як белыя белачкі,
Купаліся дзецюкі —
Як чорныя парсюкі.



Купальская ночка месячна,
Пайшлі хлопцы вешацца.
Павілі вяроўкі з крапівы
І павесіліся на мяжы.



На вуліцы чабор гарыць,
А ў дзевачкі жывот баліць.
«Ой, жанішка, ратуй, ратуй,

Калыбельку гатуй, гатуй.
Калыбелька цясовая,
Дзіцятка любовая».



На сенажаці мядуначка,
    Каліна *.
Там кукавала зязюлечка,
Кукавала, праўду казала:
«Чаму, дзеўкі, замуж не йдзеце?»
— А як жа нам замуж ісці,
Калі ж дзецюкі пажаніліся,
Пааставаліся абірачкі,
Абірачкі невялічачкі.



А на купала цёмныя ночы,
Каб павылазілі хлопцам вочы,
Каб не хадзілі к дзеўкам уночы,
Каб не насілі дзеўкам гарэлкі.
А што ж гэта за дзевачкі,
А што не п'юць гарэлачкі?



А на гарэ купарос,
А чорт мальцаў за чуб трос.
Ён і трос і калаціў,
Усё праўды дахадзіў.
Але праўды не дайшоў,
Засмяяўся і пайшоў.



Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў камені ядра няма,
А ў мальцаў праўды няма.
А ў мальцаў праўдачка,
Як узімку сонейка:
Хоць яно і лялеець,
Але ж яно не грэець.
Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разгуляўся Юр'еў конь,

Разбіў арэх капытом.
А ў арэху ядро ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.
А ў дзевачак праўдачка,
Як улетку сонейка,
Хоць жа яно хмарненька,
Але ж яно цёпленька.



Пакукуй, зязюлька, пакукуй,
Ды нямнога табе кукаваць:
Ад вялікадня да Пятра.
А пятрова ночка маленька,
Ды не выспалася паненка.
Ды красачкі рвала — драмала,
Ды вяночак віла — заснула,
Ды прыехаў мілы — не чула.
Махнуў платочкам — не ўстала,
Узяў за руку — пабудзіў:
«Ды чаго, дзевачка, позна спіш?
Табе ж трэба больш за ўсіх».
— А што табе, мілы, да таго?
Есць у мяне мамка для таго —
Яна напрадзе для мяне ўсяго:
Сорак саракоў ручнікоў,
Апрача таго — драбніцы.
Што дарыць дзевярам, залвіцам.



Да закуй, зязюлька, закуй,
Да нямнога табе кукаваць:
Ад вялікадня да Пятра.
Пятрова ночка невялічка,
Да не выспалася дзевачка.
Ягадкі брала — драмала,
Перабірала — заснула,
Прыехаў дзяцінка — не чула.
Махнуў хустачкаю — не дамахнуў,
Пакаціў пярсцёнак — не дакаціў,
Злез з коніка да пабудзіў:
«Устань, дзевачка, да не ляжы,
Паднімі пярсцёнак да на мяжы,
Да на праву ручку узлажы,
Да нясі мамачцы пакажы».
— Вось і мой, мамачка, пярсцёнак —

Ад любага зяця падарунак. —
«Да насі, дзіцятка, здарова,
Не скажу табе ні слова».



Пятрова ночка невялічка,
Я, маладзенька, недаспала,
Кашулечку вышывала.
Каб я знала, што старому,
Я б вышыла крапіўкаю,
Выстрачыла б жыгучкаю.
А старэнькі павярнуўся б,
Павярнуўся б — абстрыкнуўся.
Пятрова ночка невялічка,
Я, маладзенька, недаспала,
Кашулечку вышывала.
Каб знала, што маладому,
Я б вышыла чорным шоўкам,
Выстрачыла б бялюсенькім.
Маладзенькі павярнуўся б,
Павярнуўся б — усміхнуўся.



Пятрова ночка малюсенька,
Не ўсходзь, сонца, ранюсенька.
Раечка ночкі недаспала,
Шоўкам платочкі вышывала.
Выйшла на вулку — распрадавала,
Свайму Іваньку так даравала.
Таму-сяму — за дулячкі,
Свайму Іваньку — за думачкі.
Таму-сяму — за вішанькі,
Свайму Іваньку — за мысенькі.



Пятрова ночка невялічка,
Я ж, маладзенька, не ведала:
Было летка ці не было.
Мамка на вулку не пускала,
Нову святліцу замыкала.
Як адчыню ж я ваконачка,
Кіну, гляну на вуліцу:
Ці ўсе вулачкі памяцёны?
Усе вулачкі памяцёны,
А пад яворам нямецена.

А там мой мілы з торгам стаіць,
Таму-сяму таргуючы,
А мне, маладзе, даруючы.



Пятрова ночка невялічка,
    Божа наш! *
Наша дзевачка не выспалася,
Пагнала бычкі ў дубнічкі,
Пагнала кароўкі ў дуброўкі.
Сукала шнуркі шаўковыя,
Шыла кашулькі бялёвыя,
Ой, шыла, шыла, вышывала,
Свайму міламу даравала.



Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка
На новым ганку седзячы,
Нову кашулю шыючы.
«А шыю, шыю кашулю,
Свайму міламу штабную:
З чорнай кітайкі — рукаўкі,
З белай паперкі — каўнеркі».



Пятрова ночка маленька,
Не выспалася Марынка.
Красачкі рвала — драмала,
Віла ў вяночак — заснула,
Прыехаў міленькі — не чула.
Пакаціў сыгнэцік па мяжы.
«Уставай, Марынка, не ляжы,
Падымі сыгнэцік на мяжы,
Толькі маёй мамачцы не кажы,
Бо мая мамачка сярдзіта,
Да ўкіне сыгнэцік у жыта,
А ты будзеш шукаці, не знойдзеш,
Горка заплачаш да пойдзеш».



Драмліва поле, драмліва,
І на ягодкі ўрадліва.
Пашла Галячка ў ягодкі
І ў ягодках заснула,

Ехаў Валодзька — не чула.
Махнуў хустэчкай — не дастаў,
Кінуў сэгнэтам — не лучыў,
Злез ён з коніка — пабудзіў:
«Не спі, Галячка, на дворы,
А спі, Галячка, ў каморы.
На дворы пташкі лятаюць —
Яны ж мне цябе спужаюць».



Ой, разгон, разгон, Пятроў дзень,
Разагнаў дзевачак з вулачкі,
Падаваў сярпочкі ў ручкі.
«Да годзе, дзевачкі, гуляці,
Ідзіце ў поле жыцейка жаці.
Да й у полі жыта ядраненька,
Да будзе вам жаці весяленька.
Да будзеце рваці да кветачкі,
Да будзеце віці да вяночкі».



Пятрова ночка — збор ночка,
Пятрова ночка — збор ночка,
Сабрала дзявок на вулцы,
Сабрала дзявок на вулцы,
Падавала па сярпочку,
Падавала па сярпочку.
Выправіла ў бор жыта жаць,
Выправіла ў бор жыта жаць,
А ў луг сена сенаваць,
А ў луг сена сенаваць.
У бару жыта пажата,
У бару жыта пажата,
У лузе пасенавана,
У лузе пасенавана.
Спазнілася выпраўляці.
Спазнілася выпраўляці.





## ЖНІЎНЫЯ ПЕСНІ

Жніўныя песні спяваліся на зажынках, у час самога жніва і на дажынках. Гэты цыкл песеннай творчасці народа амаль цалкам належаў жанчынам. Жнеі спявалі непасрэдна за працаю, сагнуўшыся—як гэта ні цяжка ўявіць (звычайна, кожная жняя ў асобку, сола), а таксама ў час адпачынку, ідучы дадому, і за бяседным сталом пасля жніва талакою (у гэтых выпадках—хорам).

Жніво як адзін з асноўных этапаў працоўнага гаспадарчага года ведала калісьці нямала аграрна-магічных абрадаў, такіх як ушанаванне першага і апошняга снапа, які неслі ў хату і ставілі на покуці, як «завіванне барады» на дажынках (пакідалі нязжатай жменьку збажыны і завязвалі яе вузлом або заламвалі — для ўшанавання добрага духу поля, які ў паўночных раёнах Беларусі вядомы пад назваю Рай, або Раёк), як кулянне на пожні з заклінальнымі словамі «Ніўка, ніўка, аддай маю сілку!», як звіванне вянка з каласоў, якім прыбіралася самая лепшая маладая жняя, і інш. Элементы гэтай земляробчай магіі, першабытнага анімістычнага светапогляду, таксама як і старажытнай славянскай міфалогіі, захаваліся ў некаторых жніўных песнях да нашых дзён. Гэта перш за ўсё тыя песні, у якіх выяўляўся клопат селяніна аб ураджаі, аб дастатку і сямейным дабрабыце, у якіх услаўляецца ён сам, чалавек працы—руплівы гаспадар і працавітая жняя-гаспадыня. Песні гэтыя маюць ярка выражаны заклінальны або велічальны характар: селянін-хлебароб у іх называецца няйначай, як панам—«багатым над усімі панамі», у якога «столікі цясовыя, абрусікі шаўковыя, кубачкі залатыя, віном, мёдам налітыя» і г. д.

Але сярод традыцыйных беларускіх песень жніўнай пары непараўнана больш захавалася твораў іншага зместу і характару: не заклінальных і велічальных, а элегічна-журботных, тужлівых або гнеўных, іранічна-насмешлівых. Хаця яны і спяваліся ў час жніва, аднак

непасрэднай сувязі са жніўнымі абрадамі не маюць і аграрна-магічнага сэнсу ў сабе не ўтрымліваюць. Гэта песні сацыяльнага і сямейна-бытавога зместу, песні, якія адлюстроўваюць гаротнае становішча селяніна ва ўмовах класавага прыгнёту, асабліва ж—становішча вясковай жанчыны-бяздольніцы, якая, апрача панскага здзеку, зносіла яшчэ жорсткасць і дзікасць сямейнага дэспатызму. Як творы больш познія паходжаннем яны маюць пераважна рэалістычны характар, хаця і выкарыстоўваюць элементы старой традыцыйнай паэтыкі. Яны ўжо ў значнай меры выяўляюць думкі і пачуцці чалавека працы як асобы, як члена грамадства, і, па сутнасці, азначаюць сабой зараджэнне і станаўленне лірыкі пазаабрадавай—сацыяльна-грамадскай і сямейна-бытавой.

У асобныя групы вылучаліся калісьці песні, якія спяваліся ў час сенакосу (сенакосныя песні), у час яравога жніва (дзе-колечы іх называлі ярыннымі), пры церабленні лёну (ільняныя песні). У запісах, якія былі ў нашым распараджэнні, такіх песень аказалася зусім мала. Тэматыку іх амаль без выключэння складае сямейнае жыццё, каханне і шлюб.



У полі жыта палавее,
У багатага душа млее,
Што ў засеку жыта тлее.
А ў беднага радуецца,
А ў беднага радуецца,
Што новы хлеб гатуецца,
Што з багатым зраўнуецца.



Дай жа божа, пагодачку
Ды на нашу работачку.
Каб сонейка качалася,
Каб работка канчалася.
Мы работку рабіць будзем,
Мы пагодку хваліць будзем.



У нас сёння зажыначкі,
Дай нам, бацька, гарэлачкі,
Гарэлачкі з мёдам, з мёдам —
Мы нап'ёмся з сваім родам.
Гарэлачкі з суніцамі —
Мы нап'ёмся з сястрыцамі.



У нас сёння зажыначкі,
Дай нам, пані, гарэлачкі
І беленькага сыра —
Каб радзіла пані сына.
І чорненькага мачку —
Каб радзіла пані дачку.



Наш паночку, каралёчку,
Пусці нас дадамочку.
Нашы дамы далёкія,
А дарожкі шырокія.
Кароўкі не доеныя,
Дзетачкі не кормленыя.
Кароўкі рыкаць будуць,
Дзетачкі плакаць будуць.



За бор сонца каціласе,
Жанцы ў пана прасіліся:
«Наш паночку, каралёчку,
Пускай нас дадамочку!
Бо ў малодкаў дзеткі плачуць,
А ў дзевачак вянкі вянуць,
А ў старых ножкі зябнуць».



А я ў полі жыта жала,
А я ў полі жыта жала,
Снапкоў не вязала, спяшыла,
Снапкоў не вязала, спяшыла.
Дзесяць дзяцей дома кінула,
Дзесяць дзяцей дома кінула:
Аднаго — з калысачкай,
Аднаго — з калысачкай,
На полі — з падвязачкай,
На полі — з падвязачкай.
Жыта маё каласістае,
Жыта маё каласістае.
Жызня мая не фарсістая,
Жызня мая не фарсістая:
Што гадочак, то сыночак,
Што гадочак, то сыночак.
З калысачкай на полі,
З калысачкай на полі.
Нада мной прыганяты,
Нада мной прыганяты,
Цівун панскі пракляты,
Цівун панскі пракляты.
Мяне, бедную, прыганяе,
Мяне, бедную, прыганяе,
На сыночкаў не ўпавае,
На сыночкаў не ўпавае.



А жоначкі, лябёдачкі,
Пойдзем разам дамовачкі
А з гэтае няволечкі.
Нам няволя надаела,
Сярэдзінка забалела.
Нам няволя здакучыла,
Сярэдзінкі адмучыла.

Нельга стаці-пастаяці,
Сваё гора расказаці.
Найбольшае горачка,
Што чужая старoначка.



Ой, ішлі жнеячкі
З шырокага поля,
Як вутачкі з мора.
Сустрэлі жнеячкі
Ды пана гаспадара,
Ды пані гаспадыню.
«Здаровы, жнеі маладыя,
Сярпы залатыя».
Не пытаюцца: ці пілі, ці елі,
Аддыху ці мелі?
А пытаюцца: ці многа зжалі,
Ці многа нажалі?
«А мы зжалі поле шырокае,
Нажалі коп незлічона».



Вечар, вечар, вечарэе,
Наш паночак весялее,
Па постацьках паязджае,
Сваіх жнеек паганяе:
«Жніце, мае жнейкі, жніце,
Самі сябе не пазніце».
— Сярпы жалі, нажаліся,
Ручкі бралі, набраліся.



Да пара дамоў, пара,
Да пара мінаецца,
Да пара мінаецца,
А наш пан туляецца
Каля лесу цёмнага,
Каля бярэзніку зялёнага.



А наш пан — кароль, кароль,
Ды пусці дамоў парой.
Ды пара спарылася,
Ды пара спарылася,
Я дамоўкі спазнілася.



Да ўжо ж у нас дажон, дажон,
Бадай пану ў сэрца ражон,
Бадай паны паздыхалі,
Як мы дарам жыта жалі.
Шумяць вятры халодныя,
Нашы дзеткі галодныя.
Ды засвяці ж ты, сонца яснае,
Прыйдзі да нас, доля шчасная.



Ужо сонца за дубочкам,
Добра жаць нам з халадочкам.
Ужо сонца за грушою,
Пусці, пане, жывых дамоў з душою.



Ой, добрая мая доля,
Што мамачка мая дома.
Замецена і памыта,
Наварана і наліта.
Мамка ў сенях пахаджае,
Сваю сям'ю паджыдае.
«Не ўся ж мая сям'я дома,
Яшчэ мая дачка ў полі,
Да пры шырокім загоне,
Пры праклятым прыганятым,
Маладзенькім, нежанатым.
Ой, бадай ён ажаніўся,
Ды за намі не ганіўся».



За бор сонца калесіцца,
Прыганяты павесіцца.
Вазьмі, божа, яго душу
На калючую іграшу.
Няхай яна праветрае,
Можа яна палепшае.
Жніце, жнеі, пажынайце,
На пана не паглядайце.



Дзяўчыначка-сіротачка,
Дзяўчыначка-сіротачка
За гарою жыта жала,
За гарою жыта жала,

З сонейкам размаўляла,
З сонейкам размаўляла:
«Ты сонейка яснае,
Ты сонейка яснае,
Чаго раненька ўсходзіш,
Чаго раненька ўсходзіш?
Чаму позненька заходзіш,
Чаму позненька заходзіш?»
— Ой, дзяўчына, дзяўчына,
Ой, дзяўчына, дзяўчына,
Не вінуй жа ты мяне,
Не вінуй жа ты мяне,
Да вінуй свайго пана,
Да вінуй свайго пана.
Хоць я раненька ўзыйду,
Хоць я раненька ўзыйду,
На ніўцы цябе знайду,
На ніўцы цябе знайду.
Хоць я позненька зайду,
Хоць я позненька зайду,
На ніўцы цябе кіну,
На ніўцы цябе кіну.



Пусці, пусці прыгон, пане,
Халодная раса пала.
Адна раса — лядовая,
А другая — мядовая.
Лядовую колам праб'ю,
Мядовую з раднёй пап'ю.



Ой, у нашага пана
Да нядобрая слава.
Яго жнеячкі ў полі
Па месяцу жыта жалі,
Па месяцу жыта жалі
Да сярпочкі пагублялі.
Пайшлі яны гукаючы
Да сярпочкаў шукаючы.
Каторая раней нашла,
Тая дамоў пашла.
А каторая не нашла,
Тая ў полі спаць лягла.



Жалі, жалі па сонейку,
Жалі, жалі па сонейку,
Будзем жаць па месяцу,
Будзем жаць па месяцу.
Па сонейку — самаму пану,
Па сонейку — самаму пану,
Па месяцу — капітану,
Па месяцу — капітану.



Ой, пара дамоў, пара,
Ужо й пара мінаецца,
Ужо й пара мінаецца,
Ды наш пан валяецца.
То за пень, то за елку,
То за бабу, то за дзеўку.



А й багат наш пан, багат
Над усімі панамі:
Ён сам ходзіць у золаце,
Жана яго — у серабры,
Дзеткі яго — у атласе,
А слугі яго — ў сярмязе.



А дзевачкі, да нас, да нас,
Ў нас паншчыны няма ж, няма ж.
А мы на гэтым тыдні
Былі усяго тры дні:
У пятніцу — на работу,
У суботу — на варту,
У нядзелю — лапці плясці,
У панядзелак — зноў ісці.



Сцюдзёная раса пала,
Пусці мяне дамоў, пане.
Мае ж дамы далёкія,
Пераходы вялікія:
Сем міль борам ісці,
Восьмую — балоцечкам
К таткавым вароцечкам.



Палі, палі, дождж,
На тры суботы,
Каб не было работы.
Палі, палі, дождж,
На тры нядзелі,
Каб мы дома пасядзелі.
Палі, палі, дождж,
На тры панядзелкі,
Каб пагулялі дзеўкі.
Палі, палі, дождж,
На тры аўторкі,
Каб пагулялі ўдоўкі.
Палі, палі, дождж,
На тры серады,
Каб пагулялі дзяды.



Пара дамоў, пара,
Халодная раса пала,
Халодная раса пала,
Цёмная ночка стала.
Дзе мы будзем начаваці?
Што мы будзем вячэраці?
Начаваці пад капою,
Вячэраці хлеб з вадою.



«А сонейка, сонейка,
Закаціся скоранька.
Не бывала ж ты ў найме,
Не спагадаеш ты мне.
Каб ты ў найме пабывала,
Ты б мне паспагадала.
Ты б раненька не ўсхадзіла,
Позненька не захадзіла».
— Ты дзяўчына-сіраціна,
Не я ў гэтым вінавата,
Вінавата чужа маці:
Нашто рана пабуджала,
Да позлага выпраўляла.
Хоць я й раненька ўзыду,
Цябе на ніўцы найду,
Хоць я й позненька зайду,
Цябе на ніўцы кіну.



Рады, рады пчолкі й перапёлкі,
Што зімачка прайшла,
    лецечка даждалі.
Надаелі цяжкія маразы,
    лютыя завеі.
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта пажала,
    ў копы пастаўляла.
Надаела цяжкая работа,
    жаркая пагода.
Нажыліся без кіслага квасу,
    без пухлага хлеба.
Надаела ранняе ўставанне,
    позняе ўкладанне.



Жніце, жніце, жнеячкі,
Жніце, жніце, жнеячкі,
Прынясе пан гарэлачкі,
Прынясе пан гарэлачкі.
Патаміла панска ніва,
Патаміла панска ніва,
Што й гарэлка не міла,
Што й гарэлка не міла.



Ой, я жала памаленьку,
Дэй нажала сараценьку.
Ой, я жала хапу-хапу,
Дэй нажала капу, капу.
Хто на мяне варагуе—
Няхай мяне абмінуе.
Хто на мяне каведзіцца—
Той няхай павесіцца.



Хадзіла каралёва жонка
    па чыстаму полю,
Прасіла каралёва жонка
    да госпада бога:
«Дай божа, каб майго караля
    на вайне забілі,
Я б выйшла замуж за селяніна
    да за маладога.

Селянін умее чытаць і пісаць,
і на скрыпачцы іграць.
Ён бы іграў, я бы скакала
і ў ладачкі пляскала».



Згубіла зара ключы
Каля позніх жней ідучы.
Месячык за ёй ішоў,
Ён тыя ключы нашоў.
«Месячык, мой брацетка,
Аддай мае ключыкі:
Жнеячкі дамоў ідуць,
Нечым нівачку замкнуць».



Сонейка маё яснае
Каля лесу ходзіць,
Каля лесу ходзіць,
Ды за лес не заходзіць.
Мой брацятка, мой родненькі
Каля маіх варот едзіць,
Каля маіх варот едзіць,
Ды да мяне не заедзіць.
«Сястрыца мая родная,
Як да цябе мне заехаць?
Як заеду — дык ты плачаш,
А як ад'язджаю — дык ты ж горай».



Вакол сада сонца ходзіць,
Ка мне ў сад не заходзіць.
Вакол хаты мамка ходзіць,
Ка мне ў хату не заходзіць.
«А зайдзі, мамка, зайдзі
Ка мне ў хатачку».
— Я ж бы рада захадзіці,
Ты не ўмееш гаварыці,
Ты не ўмееш гаварыці
І далёка правадзіці. —
«А зайдзі, мамка, зайдзі.
А я ў горы пабывала,
А я гора павідала.
Наўчылася гаварыці
І далёка правадзіці».



«Чаго, сонейка, каля лесу ходзіш,
А ў лес не заходзіш?»
— Чаго я маю ў лес захадзіці,
Дзянёк караціці?
А як я буду на полі стаяці —
Дзянёк прадаўжаці. —
«Чаго, татулька, каля мяне едзеш,
Ка мне не заедзеш?
Заедзь, заедзь, мой татулька родны,
На маё падвор'е».
— А як я маю к табе заязджаці,
Ў цябе гасцяваці?
Як будзеш, дзіця, сама гаспадыня,
А муж гаспадар —
Тады я буду к табе заязджаці,
Ў цябе гасцяваці,
Тады я буду мёд, віно піці,
З табой гаварыці.



Каля лесу сонейка ходзіць,
А за лес не заходзіць.
Каля двору мой татачка ездзіць,
А у двор не заедзіць.
«Заедзь, заедзь, мой татачка,
Ка мне у загляды».
— Дачушка мая, родная мая,
Як мне заязджаці?
Да ты ж недалёканька праводзіш,
З двара не сыходзіш. —
«А татулька мой, як мне правадзіці?
Свякроўка зурчыці».
— Ой, ідзі, шэльма, бацьку правадзіці,
Дабро разнасіці:
Ой, жыта, жыта — прыпаламі,
А муку — рукавамі.



Сонца маё ясненькае
Каля маіх варот ходзіць,
Ка мне ў сад не заходзіць,
Майго саду не сагрэіць,
Маіх вішань не даспеліць.
Татачка мой родненькі
Каля маіх варот ездзіць,
Ка мне ў госці не заходзіць,

У суседа начуіць,
Пра маё гора чуіць.
«Дачушка мая родная,
Як жа я за горачку —
Тады ты ў каморачку;
Як жа я за лясочак —
А ты ж тады ў галасочак».
— Да татачка мой родны,
Ды вазьмі ж маё гора,
Ды вязі ў чыста поле.
А не сей пры дарозе,
А пасей пры балоце,
Каб там дзеўкі не хадзілі
Ды цвяточкі не зрывалі,
Майго гора не зазналі.



Што гэта за сонца
Каля лесу ходзіць,
Каля лесу ходзіць,
У лес не заходзіць?
Што гэта за татка,
Каля двору ездзіць,
Каля двору ездзіць,
А ў двор не заедзіць?
Што гэта за дачка,
У ваконца глядзіць,
На двор не выходзіць,
На двор не выходзіць,
Слоўца не прамовіць?



Сонейка маё вячэрняе,
Каля лесу нізка ходзіш.
Чаму за лес не заходзіш?
А татулька мой родненькі,
Каля майго двору едзеш —
Чаму ка мне не заедзеш?
А хоць заедзеш — не начуеш,
Хоць начуеш, дык ташнуеш.
Ля ваконца спаць кладзешся,
А ў ваконца паглядаеш
Ды дзянёчка дажыдаеш:
А ці скора залачае?
Ўжо на зару займаецца,
Мой татулька збіраецца.

Дачка бацьку праважае,
Дачка бацьку праважае,
Сваю долю праклінае:
«Бадай мая доля ўспламянела,
Як я сюды замуж хацела!»



Чырвоная каліначка
Ваду замуціла,
Няшчасная судзьбінушка
Замуж выкруціла.
Ці я, млада-младзюсенька,
Красенцы не ткала,
А што мяне, маладую,
Нядоля спаткала?
Як пайду я па вадзіцу,
Пазбіраю дулі —
Мінуліся, мой татулька,
Дзявочыя гулі.
Як пайду я па вадзіцу,
Пазбіраю трэскі —
Мінуліся, мой татулька,
Дзявочыя смешкі.



Чорная мая смародзіна —
Яшчэ ж бы я чарней была,
Каб я ў лузе пастаяла,
Белыя цвяткі папускала,
Чорны б ягады ўспявала
Да й лісточкамі махала.
Ой, красная ты дзевачка —
Яшчэ ж бы я красней была,
Каб я ў таткі пагуляла,
Сваю коску заплятала,
Сваю коску заплятала,
Яшчэ годзік пагуляла.



Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дуброваю.
Няхай голас галасуець,
Няхай мамка дома чуець.
«Калі маё дзіцё пяець —
Няхай яно красуецца.
Калі мая нявестачка —

Няхай яна суцішыцца,
Дамоўкі спяшаецца:
Мало дзіця ў калыбелі,
Ліхі муж у пасцелі».
— Мало дзіця закалышу,
Ліхога мужа перапрашу.



Як пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю.
Няхай голас галасуе,
Няхай мая мамка чуе.
«А калі дзіця маё —
Няхай яно красуецца,
А калі нявестачка —
Няхай яна прыцціхае,
К майму полю прывыкае.
К майму полю далёкаму,
К майму ніўцу шырокаму,
К майму жыту ядраному,
К майму сыну маладому,
І к позняму лягане́йку,
І к ранняму ўставаннейку».



Сама пайду дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Няхай голас галасуець,
Няхай мая радня чуець.
Браток кажыць: «Зязюлі кукуюць».
Сястра кажыць: «Пташачкі шчабечуць».
Мамка кажыць: «Гаротніца наша».



Сама пайду дарогаю,
Пушчу голас дуброваю.
Няхай голас галасуець,
Няхай мая мамка чуець.
«Калі маё дзіця пяець —
Няхай яно красуецца,
Ў чаравічкі абуецца,
На кірмашы рыхтуецца.
Калі мая нявестачка —
Няхай яна ташнуецца,
У лапцікі абуецца,
На работку рыхтуецца».



Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дубровую.
Няхай голас галасуе,
Хай свякроўка мая чуе,
У каморы седзячы,
Праз акенца гледзячы.
«А калі маё дзіця —
Дык няхай красуецца.
А калі нявехначка —
Дык няхай шануецца:
Будзен дзень на рабоце,
А святы — у балоце.
А калі маё дзіця —
Дык няхай красуецца:
Будзен дзень — у таночку,
А святы — у садочку.
Будзен дзень — у народзе,
А святы — ў карагодзе».



Ой, пайду я дарогаю,
Ой, пайду я шырокаю,
Пушчу голас дубровую.
Няхай голас галасуе,
Няхай мая мамка чуе,
Седзячы ў каморцы,
Гледзячы праз аконца.
«Калі гэта дзіця маё —
Няхай яно прывыкае
Да шырокай постаці,
Да вялікай воласці.
Наша постаць шырокая,
Наша воласць вялікая:
Сівым канём не аб'едзеш,
Белым сырам не абдзеліш.
Сівы конь скапыціўся,
Белы сыр пакрышыўся».



Як пайду я дарогаю,
Пушчу голас дубровую.
Няхай голас галасуе,
Няхай татка ў хаце чуе.
Хоць пачуе, не ўвазнае,
Свалачэйкай называе.

«А татачка мой родненькі,
А якая ж я свалачэйка?
А я ж тваё дзіцятачка.
Ай, ці ведаеш, мой татачка,
Ці я жыву, ці гарую?
Што і ў доме не начую?
У чыстым полі пад капою
Вячэраю хлеб з вадою,
Слёзкамі праганяю,
Сваю долю праклінаю.
Бадай, доля, ты згарэла —
Я ж бы ручанькі пагрэла.
Бадай доля ўтапілася —
Я б, молада, памылася,
На горачка забылася».



Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дуброваю.
Хай мой голас галасуець,
Няхай мая мамка чуець,
Няхай вячэрку гатуець.
А вячэрку смачную,
А пасцельку мяккую.
На вячэрку — юшку,
На пасцельку — падушку,
На вячэрку — рыбку,
На пасцельку — пярынку.



Сама іду дарогаю,
Галасок мой — дуброваю.
А мая свякроўка чуе,
Мне вячэру гатуе.
Наварыла гароху,
Насыпала пораху.
Наварыла чачавіцы,
Насыпала чамярыцы.



«Добры вечар, мая мамка,
Ці топлена твая хатка?
Ці варана вячэрачка?
Ці сцелена пасцелечка?»

— На вячэру — галушачкі,
На пасцелю — падушачкі.
Галушачкі цяпленькія,
Падушачкі мяккенькія.



Ужо вечар вечарэе,
Мая мамка вячэрае,
Мая мамка вячэрае,
Кліча мяне вячэраці.
«Ой, вячэрай, мамачка,
Бо я ўжо вячэрала:
Ела хлеб не сухама,
Слёзкамі праганяла.
Да ў соль мачаючы,
Долю праклінаючы,
Ой, доля мая, доля,
Каб ты ў агні згарэла,
Я ж бы ручкі пагрэла,
Каб ты ў моры ўтанула,
Я б рукамі спляснула».



Ужо вечар вечарэе,
Мой татачка вячэрае,
Кліча мяне вячэраці.
«Я ж, татачка, вячэрала —
Ў цёмным лузе на беразе:
Салодкую маліначку
І горкую каліначку».
— Не ўгадала, маё дзіцятка,
Што горкае, што салодкае.
Гарчэй, дзіця, твая доля
За горкія каліначкі,
Салодкія маліначкі.



А мая ты мамулечка,
Мой жа мужык — мядуначка:
П'ець гарэлку — не п'яніцца,
Прыйдзе дамоў — не сварыцца.
«Жонка мая міленькая,
Прапіў каня вараненькага,
Прапіў каня з абротачкай,
Выкуп шаўковым платочкам».

— Не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платкі пагубляла,
Пад стрэшкаю начавала,
З верабейкамі шчабятала.



Малада маладзіца
Гусей праганяла,
К свайму полю прывыкала,
К свайму полю далёкаму,
К полю свайму шырокаму.
«Прывыкайце, мае гусі,
К майму полю далёкаму,
Як я, малада, прывыкала
І к свёкру і к свякрусе,
І к дзеверу і к ятроўцы.
Як свякрусе ўгаджала —
Чыста хату падмятала.
Як я свёкру ўгаджала —
Белу пасцель усцілала.
Як ятроўцы ўгаджала —
Дзіця спаці ўкладала.
Як дзеверу ўгаджала —
Чыста анучкі вымывала».



А ўсе людзі папар аруць,
А ўсе людзі папар аруць,
А жоначкі абед нясуць,
А жоначкі абед нясуць.
Пайду дамоў паабедаю,
Пайду дамоў паабедаю,
Сваю жану адведаю,
Сваю жану адведаю.
Падхаджу к вароцікам,
Падхаджу к вароцікам:
Вароцікі закрытыя,
Вароцікі закрытыя.
Захаджу я ў сенячкі,
Захаджу я ў сенячкі:
Стаіць вада ўчарашняя,
Стаіць вада ўчарашняя,
Ўчарашняя ды дзяняшняя,
Ўчарашняя ды дзяняшняя.
Захаджу я ў хатачку,
Захаджу я ў хатачку:

Стаіць ложа засланая,
Стаіць ложа засланая,
Ляжыць жана ўвабраная,
Ляжыць жана ўвабраная.
Яна сына спарадзіла,
Яна сына спарадзіла,
А сама яна няжыва,
А сама яна няжыва.
«Мае ж вы, мае бабачкі,
Мае ж вы, мае бабачкі,
Чаму ж не далі ёй радачкі,
Чаму ж не далі ёй радачкі?
Мае ж вы, мае кумачкі,
Мае ж вы, мае кумачкі,
Чаму ж не далі ёй ратуначкі,
Чаму ж не далі ёй ратуначкі?»



Ой, не пайду я дадому,
Буду ў лесе начаваці
Дзеля свёкра журлівага,
Дзеля мужа бітлівага.
Свёкар журыць, паджурвае,
А муж яму патурае,
Ды завядзе ў каморачку,
Ды надае ў галовачку.



Павей, павей, ветрык, павей
Да па полі, па коласу.
Развей маю русу касу
Да па плечках па валасу.
Пазнай мяне, мая мамка,
Ў чыстым полі па голасу.
Павей, павей, ветрык, павей
Да па полю памаленьку,
Да на мяне, маладзеньку,
Каб я ў полі не пацела
Да дадому не хацела.



За лес сонца захаджае,
Ой, маці дачку праваджае,
Праваджаўшы, пастаяла,
Ой, пастаяўшы, папытала:
«Ой, чаго, дочка, стара стала?

Чаго, дочка, стара стала?»
— Ой, састарыла мяне гора,
Ой, далёкае замужжайка,
Далёкае замужжайка,
Ой, нялюбае падружжайка.



Каля майго саду суніцы цвітуць,
Каля майго саду суніцы цвітуць,
А пасярод саду пташачкі пяюць,
А пасярод саду пташачкі пяюць.
Не так яны пяюць, як праўду гаворaць.
Аддаў мяне татачка замуж далёка,
Аддаў мяне родны замуж далёка,
А не так далёка, як за старога,
Не ўладжу старому пасцельку паслаць.
Сцялю, сцялю мякка, а ён кажыць: «Мулка».
Бог дай, цябе, старый, ды пераламіла,
Бог дай, цябе, старый, ды пераламіла,
Як я табе, млода, ды не ўгадзіла.
Як я табе, млода, ды не ўгадзіла.



Закацілася яснае сонца
За белу бярозу, закацілася.
Захацелася мне, малодзенькай,
К татульку ў госці, захацелася.
Не баюся я ні цёмнай ночкі,
Ні доўгай дарожкі не баюся я.
Толькa баюся госпада бога,
Да мужа ліхога толькі баюся:
Бог пакараець, бог пакараець,
Муж пабіваець, толькі баюся.



Ужо пара дамоў, пара,
Ужо пара дамоў, пара,
Ужо вячэрняя зара.
Ужо пара спарылася,
Ужо пара спарылася,
Я дамоў спазнілася.
Мая мамка заснула,
Мая мамка заснула
І каморку замкнула.
Адчынiся, мамачка,
Адчынiся, мамачка,

Дай вячэрку смачную
І пасцельку мяккую.
Вячэрка — курыначка,
Пасцелька — пярыначка.



Пара дамоў, пара.
Ужо пара мінаецца,
А прыганяты туляецца.
Прыганяты, не туляйся,
Ў мяне ж дома не мамачка,
Ў мяне дома свякровачка.
Не скажа, што я жала,
А скажа, што ляжала.
Не скажа: «Умарылася».
А скажа: «Лянілася».
З поля йду — сярпок знімае,
Каромысла накладае
І за вадой пасылае.
Пайду вады хоць у паўночы,
Залью табе, свякроўка, вочы.



А ўжо ж дамоў пара, дамоў,
А ўжо ж дамоў пара, дамоў.
А ўжо ж пара канчаецца, дамоў,
А ўжо ж пара канчаецца, дамоў.
Прыганяты туляецца ля снапоў,
Прыганяты туляецца ля снапоў.
Жала жнейка, жала, нажалася,
Снапоў у копы наскладалася.
Замарыўшыся, чуць у двор ідзе,
Замарыўшыся, чуць у двор ідзе,
А свякроўка з хаты есці нясе,
А свякроўка з хаты есці нясе.
Есці нясе, ды не ёй — свінням,
Есці нясе, ды не ёй — свінням.



Да іграла сонейка,
Да за лес заходзячы,
Плакала сіротачка,
На постаці стоячы:
«Чаго я дамоў пайду?
Каго дома я найду?

Ў мяне дома не мамачка,
Не скажыць: «Дзіцятачка».
Ў мяне дома свякроў стара,
Не скажыць, што я жала,
А скажыць, што ляжала.
Не скажыць: «Марылася».
А скажыць: «Лянілася».
А я ў полі аж млела,
А я піцькі хацела.
Я жаці старалася,
Свякроўкі баялася.
А свякроўка не мамка,
Яна мяне не жалеець.
Хоць з работы распадайся,
А свякроўкі ўважайся».



Белая бярозачка,
Ды не пускай карэннейка,
Карэннейка — на дарогу,
А голлейка — аж да долу.
Я голлейка ламаць буду,
Карэннейка таптаць буду,
К мамцы ў госці ехаць буду
Па леце — у карэце,
А зімою — у вазочку.



Маці к дачцы ў госці едзе.
«Добры вечар, дачушка мая,
Ці жыва, ці здарова?»
— Не пытайся, ці здарова,
А пытайся, яка доля. —
Маці гэта як зачула —
Назад коні завярнула,
Назад коні завярнула
І цяжэнька ўздыхнула.



Хаджу я, браджу па зарэчайку,
Бяру я ваду халодную,
Панясу я свякроўцы піці.
Свякроўка вады не прынімае,
Мяне, маладой, не прыхінае.
Хаджу я, браджу па зарэчайку,
Бяру я ваду халодную,

Панясу я міламу піці.
А мілы ваду прынімае,
Мяне, маладу, да прыхінае.



Сонца за бор хаваецца,
Братка сястры чураецца.
Сядзіць братка у абедзе,
Зірк у вакно — сястра едзе.
«Прымай, жана, хлеб са стала,
Едзе ў госці сястра мая».
Сястра тое як пачула,
Каня назад павярнула.
«А брацейка мой родненькі,
Да я ж гэта ўсё ведала,
Ўзяла дома паснедала,
А палудзень мой у возе,
А вячэра — у дарозе.
Не ехала ж абедаці,
А ехала адведаці:
Не так цябе — дзяцей тваіх,
Да дзявочых сцежак сваіх».



Зялёнае жыта — рана жаць,
Зялёнае жыта — рана жаць,
Пайду на бор ягады браць,
Пайду на бор ягады браць:
Даспелушкі ў пялёначку,
Даспелушкі ў пялёначку,
Зялёнушкі — ў каробачку,
Зялёнушкі — ў каробачку.
Даспелушкі — сваёй мамцы,
Даспелушкі — сваёй мамцы,
Зялёнушкі — свякровачцы,
Зялёнушкі — свякровачцы.
Родна мамка да пажалее,
Родна мамка да пажалее,
За ягадкі падзякуе,
За ягадкі падзякуе.
«Дзякуй, дзіця, за ягадкі,
Дзякуй, дзіця, за ягадкі,
Што ты ночы недаспала,
Што ты ночы недаспала,
Да мне ягад назбірала,
Да мне ягад назбірала».



Да пайду я да Дунаю,
Да стану я, падумаю,
Што ў Дунаі і дно відно,
Мне ў бацюхны добра было.
Да пайду я да Дунаю,
Да стану я, падумаю,
Што ў Дунаі дна не відна,
Мне ў свякроўкі дабра няма:
Ля постаці пераднюю,
Над жорнамі заначую,
Сваіх ручачак не чую.



Ужо сонца на закоце,
Я, малада, на рабоце.
Ой, пара дамоў, пара.
Мне дамоў не хочацца,
Мне дамоў не хочацца:
Ў мяне дома чужа мамка,
Ў мяне дома чужа мамка
Ля варот пераймаець,
Па ваду пасылаець.
Прынясу ваду ўночы,
Залію свякроўцы вочы,
Каб яна не глядзела,
У запечку пасядзела.
«А нявестухна, дзіцятухна,
Я ж не вады жадала —
Цябе з свету збаўляла».



Маладая малодачка
Па месяцу жыта жала
Ды з месяцам размаўляла.
«Ой, месячык круглюсенькі,
Па ўсім небе святлюсенькі,
Асвяці мне дарожачку,
Кудой ісці дадомачку».
— Маладая малодачка, —
Каля саду-вінаграду
Ды к бацюхну на параду.
Каля саду зялёнага —
Да бацюхны радзонага,
А к мамачцы на вячэру
Ды на мяккую пасцелю.



А ці чула ты, мая мамачка,
Як я цябе гукала,
Як я цябе гукала?
А ці раненька, а ці позненька,
Сваім дробненькім галаском,
Сваім дробненькім галаском.
Голас дробненькі, лес высоканькі,
Не даходзе да мамкі,
Не даходзе да мамкі.
Нашто ж ты мяне, мая мамачка,
На горачка радзіла,
На горачка радзіла?
Нашто ж ты мяне, мая мамачка,
За п'яніцу аддала,
За п'яніцу аддала?
За п'яніцу, за няўдаліцу —
Як горкую сірату,
Як горкую сірату.
А за ім жа, мая мамачка,
Я навек прападу,
Я навек прападу.



Мая мамка журлівая,
Па дачушцы журылася,
Што я ў поле спазнілася.
«Не журыся, мамка, не журыся,
Я заўтра раней прыйду,
К месячку снапкі знясу,
К зорачкам копку складу,
К зорачкам копку складу,
Раніцой дамоў прыйду».



Ды не вейце, вятры ў лузе,
А вейце па дарозе,
Пад новыя вароцейцы,
Маей мамачцы пад ножачкі.
Няхай мамачка чуе,
Мне вячэрку гатуе.
На вячэрку галушачкі,
На пасцельку падушачкі.
А галушачкі цёплыя,
А падушачкі мяккія.



Надаела жаркота, пякота,
Чужая работа, надаела.
Надаела па полю хадзіці,
Гаршкі валачыці, надаела.
Як пайду я каля лесу блізка,
Ступаючы нізка як пайду я.
Як найду я новенькую хатку,
Ды няродну матку як найду я.
Не пытае, ці баліць мне спінка,
І ці ломяць ручкі, не пытае.
А пытае, ці многа сажала,
Ці многа звязала, а пытае.
Як пайду я каля лесу блізка,
Ступаючы нізка як пайду я.
Як найду я старэнькую хатку,
Ды родную матку як найду я.
Не пытае, ці многа сажала,
Ці многа звязала, не пытае.
А пытае, ці баліць мне спінка,
І ці ломяць ручкі, а пытае.



Пара дамоў, пара.
Халодная раса пала,
Халодная раса пала,
Цёмна ночка настала.
Цёмна ночка настала,
Зара ключы пацерала.
Зара ключы пацерала,
Каля постаці ходзячы,
Постаці займаючы,
Постаці займаючы,
Жменькамі махаючы,
Жменькамі махаючы.
З месяцам гукаючы:
«Месяц мой ясненькі,
Аддай мае ключыкі,
Аддай мае ключыкі.
Мае ключы знакомыя,
Мае ключы знакомыя,
Пачопачкі шаўковыя.
Буду зямельку адмыкаці,
Расіцай высцілаці:
Первая — лядовая,
Другая — мядовая,
Трэцяя — цяпленькая.

Лядовая — свякроўчына,
Мядовая — мамчына,
Цяпленькая — міленькага».



«Ой, саколю, мой саколю,
«Ой, саколю, мой саколю,
Да пераляці ж ты маё поле,
Да пераляці ж ты маё поле,
Да накажы ж ты маёй мамцы,
Да накажы ж ты маёй мамцы,
Што маё жыта да няжатае,
Што маё жыта да няжатае,
Да сена ж маё някошанае,
Да сена ж маё някошанае».
— Да не журыся, дзіцё маё,
Да не журыся, дзіцё маё,
Да будзе ж жыта тваё пажата,
Да будзе ж жыта тваё пажата,
Да сена ж будзе пакошана,
Да сена ж будзе пакошана.
Я ў панядзелак прышлю жнеек,
Я ў панядзелак прышлю жнеек,
А ў аўторак — касароў сорак,
А ў аўторак — касароў сорак,
Да ў сераду я сама прыйду,
Да ў сераду я сама прыйду,
Да ўвесь парадачак навяду,
Да ўвесь парадачак навяду.



Ой, у лузе да чарацінка,
Ой, у лузе да чарацінка.
Заплакала сірацінка,
Заплакала сірацінка.
Да па магіле ўсё й ходзячы,
Да па магіле ўсё й ходзячы,
Сваёй мамкі да й просячы,
Сваёй мамкі да й просячы:
«Устань, мамачка, устань,
Устань, мамачка, устань
Да зачашы мяне гладка,
Да зачашы мяне гладка,

Да памый мяне бяленька,
Да памый мяне бяленька,
Штоб я была ўсім раўненька,
Штоб я была ўсім раўненька:
Штоб старому да й малому,
Штоб старому да й малому,
Да й казачаньку маладому,
Да й казачаньку маладому».



Я жну, пажынаю,
Да дому паглядаю:
Ці не йдзе мая свякроў,
Ці не нясе абедаці.
Аж ідзе мая свякроў,
Нясе мне абедаці:
Нясе хлеба скарыначку,
Яшчэ солі драбіначку.
Я жну, пажынаю,
Да дому паглядаю:
Ці не йдзе мая мамка,
Ці не нясе палуднаваць?
Аж ідзе мая мамка,
Нясе мне палуднаваць:
Нясе хлеба бандушачку,
Яшчэ малака гарнушачку.



Воля мая мінулася,
А я к татку вярнулася.
«Родны татка, вазьмі мяне».
— А дачушка, мне жаль цябе,
Ды нельга мне ўзяць к сабе:
Твой свекар усердзіцца,
Свякроўка судзіць будзіць,
Усёй сям'і апастынеш,
І мужу знялюбееш.



Па месяцу жыта жала,
І з месяцам размаўляла:
«Мой месяцу яснюсенькі,
Асвяці мне дарожаньку,
Куды ісці да доміку,
Каля саду-вінаграду
Да к айчынку на параду.

Парадзь, айчынка, парадзь,
Як мне гора гараваць,
Дробных дзетак гадаваць?»
— Гаруй, дзетка, як гаруеш,
Гадуй дзетак, як гадуеш.
Дробных дзетак пагадуеш
І ўсё горачка забудзеш.



Да ўжэ сонца за бор, за бор,
Пара, людзі, дамоў, дамоў,
Да й апала раса далоў:
Адна раса лугавая,
А другая — мядавая.
Лугавая — для свякротка,
Мядавая — для бацюхна,
Каб бацюхна ажывіўся,
А свякратко — удавіўся,
Як ён з мяне наглуміўся:
Яшчэ сонейка не ўсходзіць —
Выпраўляе жыта жаці.
А як стану абедаці —
Пачынае праклінаці.
А прыду дадому позна —
Да не дае мне паспаці.



Што за шум па дуброве,
Што за шум па зялёнай?
Дачка к бацьку ў госці едзе
Ды вязе гасцінчыкі:
Тры садовых яблычкі.
А як першы яблычак —
«Дзень добры, татулечка!»
А як другі яблычак —
«Ці здарова матулечка?»
А як трэці ж яблычак —
«Я гарую, татулечка».
— Гаруй, гаруй, дзіцятачка,
Пакуль гора адгаруеш,
Дробных дзетак падгадуеш.



Не пайду дамоў,
Я тут заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамоў.

У мяне дома
Нятоплена хатка,
Няродная матка
У мяне дома.
Буду начаваць
Пры бітай дарозе,
Пры белай бярозе
Буду начаваць.
Буду праклінаць
Свёкра і свякроўку,
Дзевера й залоўку
Буду праклінаць.
Забі, божа,
Свёкра за сталом,
У зубы памялом
Забі, божа.
Забі, божа,
Свякроўку ля печы,
Засланкай у плечы
Забі, божа.
Спалі, божа,
Залоўку ў клеці,
Яснай бліскавіцай
Спалі, божа.
Ўтапі, божа,
Дзевера ў дарозе,
Да на перавозе
Ўтапі, божа.
Ўдаві, божа,
Нялюбага ў месце.
Мяккімі пірагамі
Ўдаві, божа.



Не пайду дамоў,
Я тут заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамоў.
У мяне дома
Лучыны ні шчэпкі,
Плачуць малы дзеткі
У мяне дома.
У мяне дома
Дроўцаў ні палена,
Хата акалела
У мяне дома.



Ой, звінела пчолачка,
Па бары лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы.
Ой, плакала ўдовачка,
Трэсачкі збіраючы,
Вячэрачку гатуючы.
Наварыла, паставіла,
Сама села, заплакала.
«Страўка мая спажытная,
Не з кім цябе спажываці.
Ночка мая цёмненькая,
Не з кім цябе начаваці.
Дзеткі мае драбненькія,
Хто вас будзіць гадаваці?»



Пушчу я паву,
Пушчу я паву
　　Рана, рана
Па Дунаечку.
Сама я пайду,
Сама я пайду
　　Рана, рана
Па беражку.
Да ці ня ўвіджу,
Да ці ня ўвіджу
　　Рана, рана
Таткаву хату.
А хоць увіджу,
А хоць увіджу
　　Рана, рана,
Жыць там не буду.



Іду, бягу,
Іду, бягу дарогаю,
Дарогаю,
Дарогаю шырокаю.
Крышу, ламлю,
Крышу, ламлю ляшчыннічак.
Шчыплю, лушчу,
Шчыплю, лушчу арэшачкі,
Арэшачкі,
Арэшачкі для мілага,
Шалупачкі,
Шалупачкі для свёкаркі.

«Еш, міленькі,
Еш, міленькі, пажывіся.
Еш, свёкарка,
Еш, свёкарка, падавіся».



Як пайду я,
Як дым па даліне,
Як дым па шырокай,
Як пайду я.
Падыйду я
К татку пад аконца,
Як яркае сонца,
Падыйду я.
А мой татка
Ля ваконца сядзіць
І ў ваконца глядзіць
А мой татка.
«Чаго, чада?
Каля дому ходзіш
І ў дом не заходзіш,
Чаго, чада?»
— Як жа буду
Я ў дом захадзіці,
Дзянёк караціці,
Як жа буду?
Калі мяне
Свёкарка так нежыць,
Як ножыкам рэжыць.
Калі мяне
А свякроўка
Дый дужа шануе,
Як вехцем шаруе
А свякроўка».



Зашумелі ўсе лугі
І крутыя берагі.
На беражку пясочак,
На пясочку садочак.
А ў садочку салавей:
Як запяе — скора дзень.
Не пей, не пей, салавей,
Не задавай жалі мне —
Я на чужой старане.

А чужая старана
Без ветру сушыць,
А чужая мамачка
Без віны журыць.



Што пад белай бярозанькай
Там сіротка жыта жала,
К сырой зямлі прылягала.
«Ты, сырая маць-зямелька,
Ты ж мяне асіраціла:
Ўзяла татку, ўзяла мамку,
Ўзяла маю ўсю радзінку,
Вазьмі й мяне, сірацінку».
— Нашто мне ды цябе браці,
Табе трэба долю даці:
Хоць не такую людскую,
Хоць такую сіроцкую.



Я ў татачкі расла, расла,
Я ў татачкі расла, расла,
А ў мамачкі кахалася,
А ў мамачкі кахалася,
Чужым людзям дасталася,
Чужым людзям дасталася.
Бацьку з маткай на наругу,
Бацьку з маткай на наругу,
Чужым людзям на спаругу,
Чужым людзям на спаругу.
Чужы людзі ў прочкі шлюць,
Чужы людзі ў прочкі шлюць,
Варанога каня даюць,
Варанога каня даюць.
Ой, конічка варанога,
Ой, конічка варанога,
Падвознічка маладога,
Падвознічка маладога.
А конічак сам з'ездзіцца,
А конічак сам з'ездзіцца,
Падвознічак сам вернецца,
Падвознічак сам вернецца.
Кінуць мяне адну ў лесе,
Кінуць мяне адну ў лесе.
Зялён дубок — не татачка,
Зялён дубок — не татачка,

Бяроздачка — не мамачка,
Бяроздачка — не мамачка,
А тростачкі — не сястрычкі,
А тростачкі — не сястрычкі,
А кусточкі — не браточкі,
А кусточкі — не браточкі.
Шумяць, гудзяць — не гаворац,
Шумяць, гудзяць — не гаворац,
Таску маю не разгоняць,
Таску маю не разгоняць.



Пара дамоў, не раненька,
Пара дамоў, не раненька,
А мне дамоў не хочацца,
А мне дамоў не хочацца.
Ў мяне ў двара адзін бацька,
Ў мяне ў двара адзін бацька,
А мамачка не родная,
А мамачка не родная.
У вароцях сустракае,
У вароцях сустракае,
Па вадзіцу пасылае,
Па вадзіцу пасылае.
Я па ваду не адна йду,
Я па ваду не адна йду —
Дзяверачку з сабой вяду,
Дзяверачку з сабой вяду.
«Дзяверачка-брахненічка,
Дзяверачка-брахненічка,
Пойдзем з табой па вадзіцу,
Пойдзем з табой па вадзіцу
У халодную крыніцу,
У халодную крыніцу.
Ты будзеш на гуслях граць,
Ты будзеш на гуслях граць,
А я буду ваду браць,
А я буду ваду браць».



Ой, я жала жыта, жала,
Ды тры снапочкі нажала.
Мне здаецца, што я жнейка,
А за мною — адна жменька.
Мне здаецца — не лянюся,

Ды ўсё ззаду застаюся.
Няма маёй роднай маці
Мне постаці падагнаці.
Няма маёй і сястрыцы
Серадольшай памашніцы.



А я жала, зажалася
І з «казою» засталася.
Каб у мяне родна маці,
Пасобіла б «казу» гнаці.
Каб у мяне сяструлечка,
Не стаяла б «казюлечка».



Ой, пайду я каля рэчкі,
Наламлю я каліначкі,
Пакідаю па дарозе,
Сама сяду пры беразе.
Будзе ехаць мой татачка,
А каго ж ён пашкадуе:
Ці зялёну каліначку,
Што не ў пару паламана,
А ці мяне, маладую,
Што без пары заручана?
«Не жаль цябе, каліначка,
Што зялёна паламана,
А жаль цябе, маё дзіця,
Што маладо заручана,
Што маладо заручана,
Заручана й замучана.
Заручана за сталамі,
Замучана за жарнамі,
Заручана на покуці,
Замучана ля постаці».



Пара дамоў, пара.
Сцюдзёна раса пала,
Ды дзе цёмная ночка —
Там свякроўчына вочка.
Дзе сцюдзёная раса —
Там свякроўчына граза.



«Дубровенька зялёная,
Што ты рана зашумела?»
— Не сама я зашумела —
Буйны ветры скалыхнулі. —
«Удованька маладая,
Што ты рана заўдавела?»
— Не сама я заўдавела —
Злыя людзі падшуцілі,
Злыя людзі падшуцілі,
З мілым другам разлучылі.



Як была я у свайго татулькі,
У свае мамулькі,
Я ж не знала,
Адкуль сонца ўсходзіць
І куды заходзіць.
Я ж не знала, калі кароў доюць,
Калі ў поле гонюць.
Толькі знала, дзе музыкі йграюць,
Дзе дзеўкі гуляюць.
А як стала у чужога бацькі,
У чужыя маткі,
Стала знаці,
Адкуль сонца ўсходзіць
І куды заходзіць.
Пазабыла, дзе музыкі йграюць,
Дзе дзеўкі гуляюць.



Да з высокага бору
Шэры гускі ляцелі,
Лятучы гаманілі,
Праўдачку гаварылі:
«Няма смачнейшай ягодкі,
Як маліны салодкі.
Няма мілейшай госціцы,
Як дачушка ў матулі.
А як матуля памрэць,
Сцежка травой зарасцець,
Траўкаю-мураўкаю,
Зялёнай атаўкаю:
Ельнічкам-бярэзнічкам,
Зялёным алешнічкам».



Закурыўся ціхі дробны дожджык
Па чыстаму полю.
Зажурыўся мой татачка родны
Па майму бяздоллю.
Не курыся, ціхі дробны дожджык,
Па чыстаму полю.
Не журыся, мой татачка родны,
Па майму бяздоллю.
Ой, тады было дожджыку курыцца,
Як хмарачка ішла.
Ой, тады было татачку журыцца,
Як маленька была.
Цяпер ужо нечага журыцца,
Як у людзечкі пайшла.



Баліць мая галовачка,
Што чужая старonaчка:
Не з кім стаці, пастаяці,
Сваё гора расказаці.
Прыхінуся я к дубочку —
Дубочак не татачка,
Зялёненькі не родненькі.
Шуміць, гудзе — не гаворыць,
Са мной слоўца не прамовіць.
Прыхінуся я к елачцы —
Елачка не мамачка,
Зялёная не родная.



Да й пайду я на радзіму,
Да й выламлю смародзіну,
Да й пакідаю па дарожцы.
А будзе тудой мамачка йсці
Да смародзіну падбіраці.
«А чыя ж гэта смародзіна —
Зялёная ды паломлена?
Да мусіць маё дзіця ішло,
Смародзіну паламала,
Па дарожцы пакідала».



Як пайду я між гор, між гор,
Між гор, між гор,
Свае долі шукаючы,
Шукаючы.

Сюды, туды павярнуся,
  Павярнуся,
Ўсё з доляю размінуся,
  Размінуся.
Сухі чарон ножкі коля,
  Ножкі коля,
Мне ў бацюшкі няма долі,
  Няма долі.



Тонка ў лесе бярэ-й-бярэзінка,
Баліць мая й сярэ-й-сярэдзінка.
Не хочацца й жыта, й жыта жаці,
Да хочацца й паля-й-паляжаці.
Ой, бадай вы пагі-й-пагінулі,
Як вы мяне пакі-й-пакінулі.
Альбо ж мяне пада-й-падажнеця,
Альбо ж мяне пада-й-падаждждэця,
Альбо ж дайце паджо-й-паджончыка,
Альбо ж ён мне снапок й снапок звяжа,
Альбо ён мне слаўцо й слаўцо скажа.



А на дварэ вечарэе,
Кліча мамка вячэраць.
«Вячэрай, мая мамка,
Да я ўжо вячэрала:
Не сухі я хлеб ела,
А вадой праганяла,
Сваю долю праклінала:
А пратонь, мая доля,
Сярод сіняга мора.
А каму ж я засталася?
Нявымытай барадачцы,
Нячэсанай галовачцы.
А я брус мыла змыла,
Покуль бараду памыла.
Грабёначкі паламала,
Покуль кудры расчасала».



За бор сонейка коціцца,
Мне й да мамачкі хочыцца.
За бор сонейка закацілася,
Я й да мамачкі прыпазнілася.

«Дзе ж мяне, мамка, сустракаць будзеш,
Чым мяне, мамка, трахтаваць будзеш?»
— Сустракаць буду за новым дваром,
Трахтаваць буду мёдам і вінам.



Да ўжэ сонца закоціцца,
Мне дадому не хочацца.
Ў мяне дома не свой бацько,
Ў мяне дома люты свёкар.
Стрэне мяне у варотах
І з ражнамі ды біклажкамі,
Вышле ж мяне па вадзіцу
Ды ў шыроку у крыніцу.
Да сем міляў борам ісці,
А восьмую ў Дунай плысці,
Да й свякратку ваду нясці.
«Мой свякратко, мой бацюхно,
Ці вы вады жадаеце,
Ці нявехну збываеце?»
— Ды не вады я жадаю,
А нявехну збываю.
Няма на цябе, нявехна,
А ні звера лютога,
Ні чалавека ліхога.—
«Да я ж звера калом заб'ю,
А чалавека—добрым словам,
Да ўсё ж такі жыва буду,
Цябе, свякратко, перабуду».



Сварылася чужа маці,
Што я рана дамоў іду.
Не сварыся, чужа маці,
Заўтра буду пазней жаці,
Па месяцу снапкі зносіць,
Па звёздачках копкі лічыць:
Што звёздачка, то копачка,
Не сварыся, свякровачка.



Час дамоў, час дамоў,
Час дамовачкі.
А ў маім садочку
Раёчкі ўюцца,

А ў маім дварочку
Дзеверы б'юцца.
Я ў той кут, я ў сёй кут —
Усе кіі стаяць,
Усе кіі, ўсе кіі, ўсе дубовыя
На мае плечачкі
На здаровыя.
Каб тыя ўсе кіі
Паламаліся,
Каб мае плечачкі
Не баяліся.



На ўдоўчыным полічку,
На ўдоўчыным полічку
Сабраліся работнікі:
А мядзведзь карчом арэць,
А мядзведзь карчом арэць,
А воўк барануіць;
Заінька дровы сячэць,
Заінька дровы сячэць,
Лісічка бліны пячэць.
Ужо сонца за лес, за лес,
Ужо сонца за лес, за лес,
Ужо мядзведзь у лес палез.
А ваўчок ў ельнічак,
А ваўчок ў ельнічак,
Заінька ў бярэзнічак.
А лісічка ў норачку,
А лісічка ў норачку,
А ўдовачка ў каморачку.



А ўзыйдзі, ясен месяц,
Асвяці тое поле,
Асвяці тое поле,
Дзе мілы на рабоце.
Калі ён на рабоце,
Памажы яму, божа,
Калі ж ён у дарозе,
Прынясі ж яго, божа:
На вячэрку смачную,
На пасцельку мяккую,
На вячэрку-юшачку,
На пасцель-падушачку.



А ўжо Маруся адслужыла,
Серпік на куфар палажыла.
Не будзе серпік жыта жаці,
Трэба да яго прыnaняці.
Трэба да яго прынаняці,
Па залатому ў дзень даці.
Жэнчык не будзе добра жаці,
Будзе на слонца паглядаці,
Ці скора сядуць абедаці.



Зелянуха зажалася,
Харашуха засталася.
Зелянуха загон скача,
Харашухі байструк плача.
«Не плач, не плач, байстручку,
Дам табе я хлеба ў ручку,
Дам табе я скарыначку,
Каб не выбыў гадзіначку».



Зара з зарой спіралася,
Каторая яснейшая.
Ранейшая зара ясна,
Пазнейшая — не такая.
Ў селяніна жана красна,
Ў дваряніна — не такая.
«Селянін, селянін,
Дам табе каня з сядлом,
Памяняем жану з табой».
— Дваранін, дваранін,
Не жадаю каня з сядлом,
Не мяняю жану з табой.



Гаварыў лён зялёны,
У чыстым полі стоючы:
«Ой, бяда, мая бяда,
Не дадуць мне вырасці,
Не дадуць мне вырасці,
Сінім цветам выцвісці.
Ужо мяне абіваюць,
Галовачкі абіваюць,
Па пожаньцы рассцілаюць».
Гаварыла дзевачка,

У роднага таткі жывучы:
«Ой, бяда, мая бяда,
Што мой дом пры дарозе,
Пры шырокім гасцінцы.
Не дадуць мне вырасці,
Русу касу выплесці.
Ды штодзень сваты едуць
І гарэлачку вязуць,
Майго татачку пояць,
Маю мамачку просяць,
Каб гарэлачку піла,
Каб дачушку аддала».



Гаварыла жыта ядраное,
Ў чыстым полі стоячы, гаварыла:
«Надаела мне ў полі стаяці,
Каласком махаці надаела.
А хачу я ў полі капамі,
У гумне стагамі а хачу я».
Гаварыла малада Анютка,
Сваёй роднай мамцы гаварыла:
«Надаела мне ў таткі жыці,
Мамачцы служыці надаела.
А хачу я у свякоркі жыці,
Свякроўцы гадзіці а хачу я».



Перапёлачка-пташачка,
Па яру лятаеш,
Дабро аглядаеш,
Жнейкам памагаеш,
Стому ўдаляеш,
Вадзічку пасылаеш,
Дзень укарачаеш.



Разгарэлася вячэрняя зара
Перад ранняю,
Расхадзілася наша гаспадынька
Перад жнейкамі.
Вынасіла цясовыя сталы
На новыя двары
І саджала першую жнейку
На снапочку,

І пытала: «Ці многа зжалі,
    Ці многа нажалі?»
— Мы зжалі поле незмярона,
    Незмярона.
Мы нажалі копак незлічона,
    Незлічона.



Палятала шэра перапёлка
Па чыстаму полю,
А шукала шэра перапёлка
Сваіх дробных дзетак.
І не найшла шэра перапёлка
Сваіх дробных дзетак.
Толькі знайшла тое месцечка,
Дзе было гняздзечка.
Пахадзіла малада Аленка
Па новаму двару.
І шукала малада Аленка
Ды сваю матульку,
І не найшла малада Аленка
Ды сваю матульку.
А толькі найшла крыніцу з вадзіцай
Ды новы калодзезь.
«Скалыхніся з крыніцы, вадзіца,
Ды ў новы калодзезь,
Адгукніся, ды мая матулька,
Ды хаця разочак».



Ой, ці вышла да сіняя туча
З-пад цёмнага бору, ой, ці вышла?
Ой, не вышла да сіняя туча
З-пад цёмнага бору, ой, не вышла.
Высылала да буйныя вятры
І дробныя дажджы, высылала.
Ой, ці вышла наша гаспадынька
З шырокага двору, ой, ці выйшла?
Ой, не выйшла наша гаспадынька
З шырокага двору, ой, не выйшла.
Высылала сынка-сакалка,
Дачку-перапёлку высылала.
Высылала дачку-перапёлку,
Нявехну-змяёўку высылала.
Сынка-сакалка — снапочкі насіці,
Снапочкі насіці,

Дачку-перапёлку — копачкі лічыці,
Копачкі лічыці,
Нявехну-змяёўку — поле памятаці,
Поле памятаці.



Чыё ж гэта поле, чыё ж гэта поле
Зазвінела спора, зазвінела спора?
Іванькава поле, Іванькава поле
Зазвінела спора, зазвінела спора.
Жнейкі маладыя, жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя, сярпы залатыя.
По соўнейку жалі, па соўнейку жалі,
Сярпы пазлачалі, сярпы пазлачалі.
Чыё ж гэта поле, чыё ж гэта поле
Застоіла доўга, застоіла доўга?
Сцяпанкава поле, Сцяпанкава поле
Застоіла доўга, застоіла доўга.
А жнейкі старыя, а жнейкі старыя,
Сярпы лубяныя, сярпы лубяныя.
Па месяцу жалі, па месяцу жалі,
Сярпы паламалі, сярпы паламалі.



Выхадзіла да цёмная тучка,
З-пад сіняга лесу выхадзіла.
Нанасіла да сільнага ветру,
Да дробнага дажджу, нанасіла.
Выхадзіла наша гаспадыня,
Наша дамавая, выхадзіла.
Вынасіла наша гаспадыня,
Наша маладая, вынасіла.
Вынасіла бутэльку гарэлкі,
І сыр на тарэлке вынасіла.
Яна жнеек сваіх прывітала,
У дом зазывала, зазывала:
«Жнеі мае, жнеі дарагія,
Сярпы залатыя, залатыя,
Жнеі мае, па месяцу жалі,
Сярпы паламалі, жнеі мае».



«Што казала аржаное жыта,
У полі стоячы? Што казала?»
— Не магу я ў полі стаяці,
Каласка дзяржаці, не магу я.

Толькі магу я ў полі капамі,
А ў гумне тарпамі, толькі магу я. —
«Што казала наша гаспадынька,
Па дварэ ходзячы? Што казала?»
— Не магу я у полі стаяці,
Сярпочка дзяржаці, не магу я.
Толькі магу я па дварэ хадзіці,
І жнейкам плаціці толькі магу я.
Толькі магу я абед варыці,
Жнеячак карміці толькі магу я.



Ой, пара, дамоў пара,
Ужо вячэрняя зара.
Зарыца зарылася,
Я дамоў спазнілася.
Згубіла зара ключы,
Каля постаці ідучы.
А за ёй месяц ішоў,
Яе ключыкі знайшоў.
«Месячык, мой брацятка,
Аддай мае ключыкі.
Буду зямельку адмыкаці
І расіцу выпускаці».



А жоначкі, лябёдачкі,
Пойдзем разам дамовачкі.
Нашы дамы далёкія,
Пераходы вялікія.
Сем міль полем ісці,
А восьмую ракой плысці,
Дзевятую — далінаю,
Дзесятую — краінаю.



Маладзіца жыта жала,
У баразёнку дзіця клала.
Прыйшлі два ваўчкі шэранькія.
Адзін кажа: «Дай я буду калыхаці».
Другі кажа: «Дай я буду забаўляці».
Калыхалі, забаўлялі —
Ў маладзіцы дзіця ўкралі.
«Ах вы, ваўчкі шэранькія,
Аддайце мне дзіцятачку,

А вазьміце каровачку
Чорную, падласую,
Хоць тую пасажную».



А была ў мяне свякроў ліхая,
Паслала мяне пшоначку жаць.
Жала я пшонку — не ўгіналася,
Снапкі вязала — не ўзіралася.
Маё дзіцятка ў мяжэ стаяла,
Ў мяжэ стаяла, моцна крычала.
Прыйшло да яго а тры ваўчочкі,
А тры ваўчочкі, а тры шэранькіх.
Адзін жа казаў: «Я б пакалыхаў,
Ды баюся, каб не выкінуць».
А другі казаў: «Я ж бы падзяржаў,
Ды баюся, каб не ўпусціці,
Каб не ўпусціці і не забіці».
А трэці казаў: «Я б пацалаваў,
Ды баюся, каб не ўкусіці,
Каб не ўкусіці і не глынуці».
Узялі дзіця за белы пахі,
Панеслі яго ў воўчую ложу.
Плача нявеха, плача лябёдка.
Прыйшла ж да яе свякроўка яе.
«Чаго, нявехна, чаго, лябёдка,
Да так сільна плачаш-жалішся».
— Як мне не плакаць, як мне не жаліць:
Я пшонку жала — не ўгіналася,
Снапкі вязала — не ўзіралася.
Маё дзіцятка ў мяжы стаяла,
Ў мяжы стаяла, сільна крычала,
Прыйшло да яго а тры ваўчочкі,
Унеслі яго ў воўчую ложу. —
«Ціху, нявехна, ціху, лябёдка.
Гэта ж не ваўкі — твае дзевяркі.
Тваё дзіцятка даўно ўжо дома
Накармлёнае, напаёнае,
Напаёно і спаць палажоно».
— А й дзякуй богу, што дзіця дома:
Я ж буду жаці да яснай зары,
Каб усе жнейкі дадому пайшлі.



Даніла, Данілушка, купецкі сын.
Як пайшоў Даніла на бяседачку,
А Даніліха — ў чысто поле,

У чысто поле ядраное жыта жаць.
Ой, яна жала дзень да вечара,
А ўвечары йна дамоў пайшла,
Прыйшоўшы дамоў, пад кароў пайшла.
Чатырох кароў яна падаіла,
А к пятае падходзіла,
А к пятае падходзіла
І ўспомніла пра дзіцятачку.
Пайшла Даніліха ў чысто поле
І ўстрэціла яна чатырох ваўкоў.
«Ой, ваўкі, ваўкі, ваўкі серыя,
Ці не бачылі вы дзіця майго?»
Адзін кажа: «Каб я бачыў, я б папеставаў».
Другі кажа «Я б пакалыхаў яго».
Трэці кажа: «Я б накрыў яго».
А чацвёрты: «Давай дзяліць яго.
Каму ножачкі, каму ручачкі,
А старому ваўку — галовачка,
Роднай мамцы — хваробачка,
А роднаму бацьку — пераломачка».



Да й я ў полі адна жала,
Да й я жала, не ляжала,
не ляжала.
Да й я жала памаленьку,
Да й нажала сямярэньку,
сямярэньку.
Да й свякруха хапу-хапу,
Да й нажала капу-капу,
капу-капу.



А я жала, не ляжала,
А я жала, не ляжала,
Да палудня сноп нажала,
Да палудня сноп нажала.
Па палудні цапу-лапу,
Па палудні цапу-лапу
Ды нажала жыта капу,
Ды нажала жыта капу.



За бор сонца, за барынку,
За бор сонца, за барынку,
Во дай, божа, вечарынку,

Во дай, божа, вечарынку.
Няхай вечар быстрэй будзе,
Няхай вечар быстрэй будзе,
Няхай сэрцу лягчэй будзе,
Няхай сэрцу лягчэй будзе.



Пара, маці, жыта жаці,
Пара, маці, жыта жаці:
Каласочак наліўся,
Каласочак наліўся.
Пара, маці, дачку аддаці,
Пара, маці, дачку аддаці:
Галасочак змяніўся,
Галасочак змяніўся.



«Авясец, татка, авясец,
Авясец, татка, авясец.
Калі бог сватоў прынясець,
Калі бог сватоў прынясець?»
— Увосень, дачушка, увосень,
Увосень, дачушка, увосень
Хай прыдуць разам хоць восем,
Хай прыдуць разам хоць восем.



«Зімовая перапёлачка,
Дзе ты зіму зімавала,
Дзе ты лецейка летаваць будзеш?»
— Зіму зімавала ў крынічцы.
Летаваць буду ў пшанічцы.—
«Зімовая перапёлачка,
Дзе табе лепей было?»
— Добра было у крынічцы,
Лепей будзе у пшанічцы.—
«Маладая дзевачка,
Дзе ты зіму зімавала,
Дзе ты лецейка летаваць будзеш?»
— Зіму зімавала ў мамачкі,
Летаваць буду ў свякроўкі.—
«Маладая дзевачка,
Дзе табе лепей было?»
— Добра было ў мамачкі,
Лепей будзе ў свякроўкі.



«Зімовая перапёлачка,
Дзе зіму зімавала,
А дзе лета летавала?»
— Зімавала ў крыніцы,
Летавала ў пшаніцы:
Пад буйнай саломкай,
Пад ядроным каласочкам,
Пад дзявочым галасочкам.



Да за белым бярэзнічкам
Ці не бель там бялеецца?
Ой, не бель там бялеецца—
Белы мак там зацвітае.
Там малойчык ваюе,
Па ім мамка бядуе.
«Не бядуй па мне, мамка,
Не адзін я тут ваюю:
Ўся радзімка са мною,
Увесь край выязджае
Цясцёў двор зваяваць,
Дзевачку к сабе ўзяць».



Дымна ў полі, дымна,
А нічога не відна.
Там Іванька з вайны едзець,
Яго татка пераймаець,
Яго татка пераймаець,
Пра ваенку пытаець:
«Іванька, дзіця маё,
Ці харашо ваяваўся?»
— Не я ж адзін ваяваўся—
Ваявала цёмна ночка,
Ваявала цёмна ночка
І чужая старonачка,
І вострая шабелечка,
Воран-конік пада мною,
Ўся дружына са мною.



Ай, гудзела пчолачка,
Па бары лятаючы,
Па бары лятаючы,
Мядочак збіраючы.
Мядочак збіраючы,

У каранёк складаючы.
Гаварыла дзевачка
З сваёй роднай мамачкай,
З сваёй роднай мамачкай
Трубачкі качаючы,
Трубачкі качаючы,
У купарчык складаючы:
«Калі мяне не выдасі,
Я сама ад вас пайду,
Я сама ад вас пайду:
Па двары мяцёлкаю,
Па двары мяцёлкаю,
За вароты пчолкаю».



«Ой, ды траўка-мураўка,
Чаму ты незялёна?»
— Як жа мне быць зялёнай?
Мяне дзеўкі стапталі,
Мяне дзеўкі стапталі,
Да касцёла ходзячы,
Да касцёла ходзячы,
Пана бога просячы.—
«Ой, каб даў жа мне божа
Свёкарку багатага,
Свякроўку ласкавую,
Свякроўку ласкавую,
Мілага красівага».



«Зялёная дубровачка,
А чаго ж ты не зелена?»
— Ой, як жа мне зялёнай быць?
Цераз мяне купцы едуць,
У карэнні агонь кладуць,
Карэннейка выпаляюць.—
«Маладая дзяўчыначка,
А чаго ж ты невесела?»
— А як жа мне вясёлай быць?
Сваты з хаты не выходзяць,
Гарэлачкі не выносяць.



Вы не вейце, ветры, ў лузе,
Вы павейце пры дарозе,
Вы развейце маю касу,

Ой, па плечках па валасу,
Па чырвонаму па паясу.
Няхай каса красуецца,
Дачка ў бацькі гадуецца.



А маё ж ты сонейка,
Ды заходзь ты борздзенька,
Не сушы нам явару,
Не сушы нам явару.
Нам явару многа трэба,
Нам явару многа трэба.
Будзем секчы і рубаць
І малодзенькіх вянчаць.



«А сіняе балоннейка,
Чаго рана затанула?»
— А як жа мне не тануць?
Наляцелі шэры гусі,
Усю ваду замуцілі,
Ўсё балонне затапілі.—
«А красная дзевачка,
Чаго рана заплакала?»
— А як жа мне не плакаць?
Наехала чужыначка—
Чужы бацька, чужа маці,
Хочуць мяне к сабе забраці.
Мамачку угаварылі,
Татачку вінам напаілі,
Мяне, маладу, заручылі.



Як пайду я борам, борам,
Гаворачы з богам, богам:
«А дай божа, каго я хачу:
Свякратку, як татачку,
Свякровачку, як мамачку,
Дзевяратку, як братачку,
Заловачку, як сястрыцу,
А мужа — як я сама».



Павей, ветрык, павей
Па полю па маленьку,
На мяне, маладзеньку.

А я жыву ды бядую:
Годы трачу ўпустую.
Годы мае маладыя,
Якія ж вы нешчаслівыя:
Каго люблю — не ён мяне,
А хто любіць — не я яго.



«Ой, красуйся, жыцейка,
Калі цёпла лецечка».
— Як жа мне красавацца?
Буен вецер павяваець,
Буен вецер павяваець,
Красу маю абіваець,
Не даець красавацца. —
«Ой, красуйся ж, дзевачка,
У роднага татачкі».
— Як жа мне красавацца?
Кожны дзень сваты едуць,
Кожны дзень сваты едуць,
Не даюць красавацца,
Не даюць красавацца,
У белае прыбірацца.



А высока, далёка
Салавей гняздзечка ўець.
А павышай салаўя
Іванька церам ставіць:
На вуліцу вароцькамі,
К цясцю на двор ваконцамі,
Каб прыгожа глядзець было
На цесця багатага,
На цесця багатага,
На цешчу ласкавую,
На цешчу ласкавую,
На дзевачку ўдалую,
На дзевачку ўдалую,
На долю шчаслівую.



Чырвоная ружачка
Блізка плоту стаяла.
Маладзенькая дзевачка
Ды да сонца ўстала.

З ружы росачку брала,
Расою ўмывалася,
Красою ўціралася,
У мамкі пыталася:
«Мамачка мая родная,
У што мне прыбрацціся:
Ці ў атлас, ці ў аксаміт,
Ці ў ружовае золата?»
— У атласе — жыта жаці,
Ў аксаміце — пагуляці.
А ў ружовым золаце —
Да свякрухі ў хатку,
Каб яна дый пазнала,
Сваім дзіцем назвала.



А ў полі бярозанька —
Залатыя лісточкі.
Там Ганначка шчыпала
Кветкі на вяночкі.
Яе мамулька дамоў завець:
«Ганначка, дзіця, хадзі дамоў».
— Мамулька, родная, не пайду:
Цёмная ночачка — баюся,
Быстрая рэчачка — утаплюся.



Зялёная арэхаўка
Ды на тын палягаіць,
А з-пад тое арэхаўкі
Сівы конь выбягаіць,
А з-пад тое арэхаўкі
Сівы конь выбягаіць.
А на тым сівым коніку
Залатая сядзёлачка,
А на той на сядзёлачцы
Маладзенькі малойчык.
Пад ім конічак броіць,
Капытом зямлю кроіць,
Пад ім конічак броіць,
Капытом зямлю кроіць.
«А не брой, кося, не брой,
Капытом зямлю не крой:
На зямелячку кроіш —
Маё сэрцайка кроіш.
Не татулечка жэніць
І не дзевачку берацьць.

Не татулечка жэніць,
І не дзевачку бераць,
А бераць мне ўдовачку,
Журыць маю галовачку».



Як наняў казак жнеек —
Маладзюсенек дзевак,
А сам пайшоў у лясочак
На маленькі часочак.
Жнейкі жыта пажалі,
Казачэнькі не даждалі.
А назаўтра ранюсенька
Казачэньку з лесу вядуць:
І ручанькі скаваныя,
І ножанькі звязаныя.
«А вот табе, казачэнька,
Ранняе сняданнейка,
Позняя вячэрачка,
Дзявоцкая пасцелечка».



Па край поля шырокага
Дунай-мора глыбокае.
Пушчу паву па Дунаёчку,
Сама сяду на беражочку:
А ці не ўвіджу таткаву хатку?
А хоць і ўвіджу — мне ў ёй не жыці.
Па край поля шырокага
Дунай-мора глыбокае.
Пушчу паву па Дунаёчку,
Сама стану на беражочку:
А ці не ўвіджу свёкраву хатку?
А хоць не ўвіджу — мне ў ёй жыці,
Сталы стаўляці і іх накрываці.



Поле маё вялікае,
Поле маё вялікае,
Жыта маё ядраное,
Жыта маё ядраное.
А мне ў полі не быці,
А мне ў полі не быці,
А мне жыта не жаці,
А мне жыта не жаці.

Толькі ж мне быці,
Толькі ж мне быці
Ды ў новай святліцы,
Ды ў новай святліцы.
Ды шыць мне, вышываці,
Ды шыць мне, вышываці
Міламу кашулечку,
Міламу кашулечку.
Шыла, вышывала Броньку,
Шыла, вышывала Броньку —
Не хваціла мне шоўку,
Не хваціла мне шоўку.
А мне шоўку не хваціла,
А мне шоўку не хваціла,
Я ў падружкі папрасіла,
Я ў падружкі папрасіла.



Хадзіў, пахаджаў Ясь па полі,
Сеяў, рассяваў васілёчкі.
А рассеяўшы, прэч паехаў,
А ехаў, ехаў — аглянуўся,
На васілёчкі ўспамянуў.
«Васількі мае, васілёчкі,
Васількі мае баравыя,
А хто ж вас будзець паліваць?
Мамка — стара, сястра — мала!»



Ой, пайду я каля луга,
Шукаючы свайго друга.
Не знайшла я свайго друга,
Знайшла толькі салавейку.
Салавейка на колічку —
Мой міленькі на конічку.
Салавейка на бярозе —
Мой міленькі ў дарозе.



Дзевачка з поля ішла,
За поясам сярпок нясла,
За поясам сярпок нясла,
За плячыма — калысачку,
А на руках — дзіцятачка.
Калысачка — цыргі-цыргі,
Дзіцятачка — кугі-кугі.



Як пайду я ля гаю, гаёчку
У руцьвяным вяночку.
Сустрэў мяне малады малойчык
І даець мне пярсцёнак.
Я ж таго малойчыка не знала
І пярсцёнка не брала.
Лепей буду я ў мамачкі жыці
І ў бяленькім хадзіці.
Лепей буду беленька ўмывацца,
Слізенька часацца,
Над мальцамі наругацца.



Белая бярозачка
Папускала вецейка,
Папускала вецейка
Ад вярха да кораня,
Задавала холаду
Глыбокаму кораню.
Маладая дзевачка
Папускала косачкі
Ад галоўкі да пояса.
Задавала жаласці
Сваей роднай мамачцы.
«А мамачка родная,
А мамачка родная,
Калі мяне не выдасі,
Я ад цябе сама пайду.
Я ад цябе сама пайду —
На дварэ расой паду,
Туманом пакачуся,
Туманом пакачуся,
Слёзкамі абальюся,
Слёзкамі абальюся,
Коскамі рассцялюся.
Слёзкамі дробненькімі,
Коскамі русенькімі».



А з зялёнага саду
Сакалы вылятаюць,
Сакалы вылятаюць,
Зязюльку вызываюць:
«Ты, зязюлька шэрая,
Ці паляціш з намі?»
— Рада была б палядецi,
Жаль сада зялёнага,

Жаль сада зялёнага,
Салаўя вясёлага.—
А з вялікага двору
Маладзец выязджаіць,
Маладзец выязджаіць,
Дзевачку вызываіць:
«Маладая дзевачка,
Ці паедзеш са мной?»
— Рада была б паехаць,
Жаль мамкі старэнькай,
Жаль браціткаў маленькіх.



Ой, зараўлі валы ў ярме,
А ў хлопца дзеўкі на ўме.
Валы з ярма не выходзяць,
Дзеўкі самі не прыходзяць.
Хлопец татку свайго просіць:
«Мой татачка, мойродненькі,
Выведзі валы з ярма,
Можа, прыйдзе дзеўка сама».
А ўжо вол з ярма ідзе,
Хлопец дзеўку сам бярэ.
«Табе, татка, жняя будзе,
А мне, татка, жонка будзе.
Табе будзе жыта жаць,
Са мной—у пасцельцы спаць».



Пушчу каня я ў гарод,
Сама пайду наўпярод.
«Паеш, паеш, конь, траву,
Паеш, паеш зеляну
І цвяточкі васількі,
Баровыя красачкі.
Мне ў татулькі не быці,
Мне ў татулькі не быці,
З іх вяночка не віці,
Адзін была савіла,
Павешала ў куточку.
Павешала ў куточку
На залатым пруточку.
Там малойцы хадзілі,
Той пруточак зламалі,
Мой вяночак укралі».



«Сіняе мухамору,
А якога ж ты бору?»
— А я бору вялікага,
А карэння глыбокага.—
«Маладая дзевачка,
А якога ж ты роду?»
— А я роду вялікага,
А татулькі багатага,
А татулькі багатага,
А мамулькі разумнай.



А жоначкі, лябёдачкі,
Пойдзем разам дамовачкі.
Студзёная раса пала,
Зара ключы пагубляла,
Каля постаці ідучы
І з сонейкам гуляючы,
І з месяцам жартуючы.
А хто гэты ключы нойдзець,
За караля замуж пойдзець.
Аленачка ключы нойдзець,
За караля замуж пойдзець.



А я ў полі была жнейка,
А я ў полі была жнейка,
За гарою мая жменька,
За гарою мая жменька.
А хто маю жменьку звяжа,
А хто маю жменьку звяжа,
Той са мною спаці ляжа,
Той са мною спаці ляжа.
Абазваўся мой міленькі,
Абазваўся мой міленькі:
«А я ж тваю жменьку звяжу,
А я ж тваю жменьку звяжу,
Я з табою спаці ляжу,
Я з табою спаці ляжу».



Ды пытаўся месячык
У яснага сонейка:
«А сонейка яснае,
Ці пара мне ўсхадзіці?»

— Пагадзі, не ўсхадзі,
Дай у хмарку спусціцца,
Дай у хмарку спусціцца,
Дожджыкам абрасіцца.—
А пытаўся Колечка
У родненькай мамачкі:
«А мамачка родная,
Ці пара мне жаніцца?»
— Пагадзі, не жаніся,
Розуму набярыся.
Розуму айцецкага,
Паезду шляхецкага.



Ужо позненька, да не раненька,
Сонейка на заходзе,
А ўжо дзевачка маладзенькая
У мамкі на выходзе.
Ўзяла мядніцу, пайшла ў святліцу,
Беленька ўмылася.
Выйшла з святліцы, выйшла з новенькай,
Мамцы пакланілася.
«Дзякуй, мамачка, дзякуй, родная,
За тваё гадаванне.
Цяжкое цяпер ды не лёгкае
Нам з табой расставанне.
Сваты прыедуць, мяне забяруць,
А ты тут астанешся,
Тут астанешся, тут астанешся,
Слёзкамі абальешся».



«Селязенька, ці быў ты на моры,
Ці відзеў вутачку?»
— Я й на моры быў,
На беражку сядзеў,
На вутачку глядзеў.
У маёй вутачкі
Шаўковае пер'е,
Залатое крылле.—
«А ты, хлопец,
Ці быў ты ў цесцяткі,
Ці відзеў ты дзевачку?»
— Я ў цесцяткі быў,
За столікам сядзеў,
На дзевачку глядзеў.

У маёй дзевачкі
Шаўковае плацце,
Залаты вяночак,
Коска на плечках,
А слёзка на шчочках.



Жыта маё ядранае,
А чаму ж ты не ўрадзіла,
А чаму ж ты не ўрадзіла
Да Іванячку на піва,
На горкую гарэлачку:
Трэба ехаць па дзевачку.



А чые там конікі
Рана ў луг заведзены,
Рана ў луг заведзены
Ды шоўкам папутаны,
Ды шоўкам папутаны,
Золатам пацугляны?
Іванькавы конікі
Рана ў луг заведзены,
Рана ў луг заведзены
Ды шоўкам папутаны.
Ды шоўкам папутаны,
Золатам пацугляны.
«Аленка, душа мая,
Распутай каня майго».
— Рада я б распутаці,
Ды баюся татачкі.
Татачка ў акне сядзіць,
Розгачку ў руцэ дзяржыць,
На мяне паглядаіць,
Розгачкай патрасаіць.—
«Аленка, душа мая,
Да не бойся нікога,
Да не бойся нікога—
Аднаго пана бога
Да мяне, маладога».



Прасіла паненка паніча:
«Купі мне, панічу, гасцінца,
Купі мне балота з конямі,

Купі мне поле з копамі,
Купі мне места з цэрквамі,
Купі мне сяло з дзеўкамі».



А гуляла сонейка
Да па ясненькім небе.
А гуляла, гуляла,
У хмарачку хавалася,
Месяца баялася.
«Хавайся, не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму».
А гуляла Ніначка
Ды па новенькім ганку.
А гуляла, гуляла,
Між дзевачак хавалася,
Сцёпачкі баялася.
«Хавайся, не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму».



Мала цэркаўка, мала,
Мала цэркаўка, мала,
А званы вялікія.
Як зазвоняць у Вільні,
Як зазвоняць у Вільні —
Пачуюць на Ўкраіне.
Мала Валечка, мала,
Мала Валечка, мала,
А гонару вялікага.
Шыла кашульку, шыла,
Шыла кашульку, шыла,
Шаўкамі вышывала,
Валодзьку падаравала,
Валодзьку падаравала.
«Насі, Валодзька, здароў,
Не забывай маіх дароў,
Не забывай маіх дароў,
Адзявай штосуботку —
Не забывай маю работку,
Успамінай маю работку.
Адзявай штонядзельку —
Не забывай мяне, маладзеньку,
Успамінай мяне, маладзеньку.

Адзявай у панядзелак —
Не ідзі да другіх дзевак.
А ў аўторак здзявай,
А ў аўторак здзявай —
На мяне не забывай».



Ой, тонка, тонка сасонка,
Ой, тонка, тонка сасонка,
Не таней за тую, што ў бару.
Служыў Ясенька пры двару,
Выслужыў сабе коніка.
На тым коніку — сядзялцо,
На тым сядзялку — струмянцо,
На тым струмянку — тры свячы.
Ехаў Ясенька з паўначы,
Застаў Марыльку не сплючы,
Шоўкам кашульку шыючы.
Ой, шыіць, шыіць, гафтуіць,
Яна Ясеньку гатовіць.



Чорна мая смародыня,
Чорна мая смародыня.
Яшчэ ж бы я чарней была,
Каб у лузе пастаяла,
Каб у лузе пастаяла,
Чорным веццем памахала,
Чорным веццем памахала,
А лісточкам пашатала.
А красная ты Анечка.
Яшчэ ж бы я красней была,
Каб я ў таткі пабывала,
Каб я ў таткі пабывала
І з хлопцамі пагуляла,
І з хлопцамі пагуляла,
І з дзеўкамі папяяла.



Ой, час, пара жыта жаці,
Ўжо каласок нахіліўся,
Ўжо каласок нахіліўся,
А мой галасок змяніўся.
Ой, пайду я ў гай спаці,

Ды не будзі мяне, маці.
Няхай мяне той разбудзіць,
Ды хто мяне верна любіць.
Няхай збудзіць паціхеньку:
«Уставай, міла, памаленьку,
Каб галоўка не балела,
Каб міленька не змарнела».



Заломлена ў лузе каліна
Вельмі зялёная.
А хто ж яе заламаў такую
Вельмі зялёную?
Заламілі яе буйны ветры
І дробныя дажджы.
Заручана ў таткі Аленка
Вельмі маладая.
А хто ж яе заручаў такую
Вельмі маладую?
Заручыў яе малады Іванка
З сваімі сватамі.
Павязлі к вялікаму сялу,
К багатаму двару.
Прыстаўлялі к цясовай кравацi
Белу пасцель слацi.
«Не вучыла мяне родна маці
Белу пасцель слаці.
А вучыла тонка выпрадаці,
Часта вытыкаці».



Зыбнула мора, зыбнула,
Там дзевачка утанула.
Прыйшоў татачка да яе:
«Падай, дочачка, ручкі мне».
— Не дам, татачка, ніводнай:
Не ўмелі мяне шанаваці,
Часта на вулку выпраўляці.—
Зыбнула мора, зыбнула,
Там дзевачка утанула.
Прыйшоў служэнька да яе:
«Падай, дзевачка, ручкі мне».
— Бяры, служэнька, абедзве:
А будзеш мяне кахаці,
Часта на вулку выпускаці.



А я з поля дамоў іду,
Каробачку малін нясу.
Сустракаець мяне мамачка,
Сустракаець і пытаець:
«Дочка мая дарагая,
Сям'я наша вялікая,
Як жа, дочка, дзяліць будзеш?»
— Ой, мамачка дарагая,
Сям'я яго невялікая:
Каробачка маленькая
Для майго міленькага.



Чыя гэта мамачка,
Чыя гэта мамачка
Каля вішань хадзіла,
Каля вішань хадзіла,
З вішнямі гаварыла?
«Ой, вішні, мае вішні,
Развядзіце мае мыслі.
Я адну дачку маю,
Я адну дачку маю —
Тую замуж аддаю,
Тую замуж аддаю
Да ў турэцкую зямлю,
Да ў турэцкую зямлю».



Пойдзем, дзеўкі,
Пойдзем, дзеўкі, каля жыта,
Каля жыта.
Песні пяя,
Песні пяя, пагукаем,
Пагукаем.
Няхай чуе,
Няхай чуе мой татанька,
Мой татанька.
Не так татка,
Не так татка, як свякратка,
Як свякратка.
«Гэта пяе,
Гэта пяе дзіця мае,
Дзіця маё.
Няхай пяе,
Няхай пяе, пагукае,
Пагукае.

К майму дому,
К майму дому прывыкае,
Прывыкае».



Пойдзем, дзеўкі,
Пойдзем, дзеўкі, каля жыта,
Каля жыта.
Ці не знойдзем,
Ці не знойдзем каго ў жыце,
Каго ў жыце?
Ці коніка,
Ці коніка варанога,
Варанога?
Ці хлопчыка,
Ці хлопчыка маладога,
Маладога?
Ці коніка,
Ці коніка і з павозкай,
І з павозкай?
Ці хлопчыка,
Ці хлопчыка і з гармошкай,
І з гармошкай?
Каня знойдзем,
Каня знойдзем — ездзіць будзем,
Ездзіць будзем,
Хлопца ўстрэцім,
Хлопца ўстрэцім — гуляць будзем,
Гуляць будзем.



Кругла, мала балотачка,
Там хадзіла малодачка.
Там хадзіла малодачка
Да сеяла красу сваю:
«Расці, расці, краса мая,
Расці, расці, краса мая,
Тонкая ды высокая,
Тонкая ды высокая,
Карэннямі глыбокая.
Калі буду ў мамачкі,
Калі буду ў мамачкі,
Дык я цябе палоць буду.
Калі ж буду у свякроўкі,
Калі ж буду у свякроўкі,
Я цябе з карэннем вырву,

Я цябе з карэннем вырву
І цераз тын перакіну.
Няхай цябе валы з'ядуць,
Няхай цябе коні стопчуць.
Валы з'ядуць, бушуючы,
Коні стопчуць, гарцуючы,
А дзевачкі — танцуючы,
А хлопчыкі — гуляючы.
Няхай дзевачкі танцуюць,
Няхай дзевачкі танцуюць,
Няхай хлопчыкі гуляюць,
Няхай хлопчыкі гуляюць
І мяне успамінаюць,
І мяне успамінаюць».



Кругло, мало балоцечка,
Хоць жа яно кругло, мало,
Але ж яно ўрадлівае:
Наляцела пташак многа
З імі разам салавеечка.
Нізка, мала Аленачка,
Хоць жа ж яна нізка, мала,
Але ж яна шчаслівая:
Наехала сватоў многа,
Выбрала сабе Іваньку.



Пара, маці, жыта жаці,
Салома павяла, салома павяла.
Ой, жаль жа мне вечарочка,
Што я не гуляла, што я не гуляла.
Забалела галовачка,
Стала нездарова, стала нездарова.
Пушчу галасок на масток,
Размовачкі розна, размовачкі розна.
Не лай мяне, мая мамка,
Што гуляю позна, што гуляю позна.



Як пайду я борам, борам,
Гаворачы з богам, з богам:
«Ох і дай жа ты божа,
А мне добрую долю,
А багатага свёкра.
А багатага свёкра,

А дасужую свякроўку.
А дасужую свякроўку,
Таруватую залоўку,
Таруватую залоўку,
Дзевярочка-ямшчычочка,
Міленькага-таргаўшчочка,
Каб я ў поле не хадзіла,
Галованькі не таміла,
Каб я дома дамавала,
Таварамі таргавала.
Таварамі таргавала,
К сабе дзевачак гукала».



«Ой, чый гэта лён зялён,
Залатыя галовачкі,
Шаўковыя валаконачкі?»
— Яніначчын лён зялён,
Залатыя галовачкі,
Шаўковыя валаконачкі.—
«Іванька, душа мая,
Пойдзем бор церабіці,
Будзем лён гарадзіці,
Каб пташачкі не ўлятали,
Галовачак не клявалі,
Галовачак не клявалі,
Валаконачак не цягалі».



Ці я ў полі не жнеечка,
Ці за мною не жменечка?
Ой, дайце ж мне павязнога—
Не старога, не малога—
Харошага, маладога.
Ён за мною снапы звяжа,
Ён жа мне ўсю праўду скажа
Снапы звяжа, да й падыме,
Спаці ляжа, да й абдыме,
Снапы звяжа—палюбуе,
Спаці ляжа—пацалуе.



Жніце, жнеячкі, не ляніцеся,
Нізка да зямелькі нахіліцеся,
Сярпок нізенька закладайце,
Каласочкаў не зразайце.

Жніце, жнеячкі, жніце позна,
Пакуль сонейка за лясок не запала,
Пакуль расічка не прыпала,
Каб зярнятка на зямельку не ўцякала.
Бо ня будуць поўны засекі ў пана,
А прыедзіць на кані панічок,
Прывязець ён балючы бічок.
«Не карай, не бі нас, паночку,
Мы будзем жаць усю ночку,
Каб пан бізуном не адкалаціў,
Каб хоць патрошку заплаціў».



Ой, я жала, не ляжала
Дый тры капы наклала.
Сярэдзінка не гнецца,
Ззаду постаць валачэцца.
Як дажнуся да дубу,
Я й палуднаваць буду.
Ой, няма маёй сястрыцы
Ды большай мне памочніцы.
Яна б жыцейка жала,
А я б стала, пастаяла
Ды варон пастраляла.



Ой, ты, сівая зязюлечка,
Не куй рана ў дуброве,
Не будзі мяне, маладую.
У мяне, у маладой,
Ды не родненькі татка,
Ды не родная матка.
Будзіць мяне ранюсенька,
Шле па вадзіцу ў крыніцу.
Ой, я, маладая, слухмяна,
Узяла вядзерца, паслухала,
Узяла вядзерца, паслухала
І ў другое паглядзела.
Набрала залы пад лаўкаю
Свякроўцы і свёкру мыціся,
А нялюбаму — напіціся.
У радно галоўку увярцела,
А ўвярцеўшы, у клець пайшла,
У клець пайшла да й спаць лягла.
Ка мне свякорка з нагайкаю.

«Чаго, нявехна, вада мутная?»
— Поначы брала — не размахала,
Ваша крыніца смеццем запхана.



У полі бяроза, у полі кудрава,
А я, маладая, ў нядолю папала.
Што тую бярозу, хто йдзе, дак рубае,
Мяне ж, маладую, хто хоча, ругае.
Маці, мая маці, мяне муж не любіць,
Мяне муж не любіць, са мной не гаворыць.



Ужо, жнейкі, дамоў пара,
Вячэрняя раса пала,
Цёмна ночка настала.
«Дзе мы будзем начаваць,
Што мы будзем вячэраць?»
— Начаваць будзем пад капой,
Вячэраць будзем хлеб з вадой,
Начаваць будзем пад каберцам,
Вячэраць будзем рэдзьку з перцам.



Гула пчолка, гула,
Па бару лятаючы,
Мядок сабіраючы.
«Ты, мядок саладзенькі,
Праз цябе спазнілася,
Праз цябе спазнілася,
У бару начавала,
У бару начавала,
Ночка цёмная стала,
Ночка цёмная стала,
Халодная раса пала».



Я жну, пажынаю,
На бачок паглядаю:
Ці высока соўнейка,
Ці густа снапоўейка.
Соўнейка нізюсенька,
Снапоўе гусцюсенька.



Ой, у полі бярэзіна,
Баліць мая сярэдзіна.
Дай жа божа, кугакала,
Каб пад снапком заплакала.
Пайшла ж бы я скалыхнула —
Сярэдзінка б аддыхнула.
Пайшла ж бы я пакарміла —
Сярэдзінка б адпачыла.



«Жніце, жнеячкі, жніце,
Найдзеце саву ў жыце».
— Нашто нам тая сава,
Нам трэба кугакала,
Каб у хвасце заплакала,
Каб падысці ўскалыхнуці,
Сярэдзінцы аддыхнуці.



«Ой, козле мой, козле,
Ды хто табе жыта пожне?
Ці баран, ці авечка,
Ці малада паненачка?»
— Ні баран, ні авечка,
Ні малада паненачка.
Ёсць у мяне стара маці,
Яна будзе жыта жаці.



Ой, у садочку цвіла лілея,
Дажала жыта старшая жнея,
Збор жытка, збор!
Каб мы здаровы плён спажывалі,
Зарок шчаслівы зноў дачакалі,
Збор жытка, збор!
Ой, наш вяночак не па такому,
Кожны каласочак па залатому,
Збор жытка, збор!



Сягоння ў нас абжыначкі,
Нап'ёмся гарэлачкі.
Гарэлачкі з бутэлячкі,
Бела сыру з талерачкі.

Адчыні, пану, дварок,
Нясуць жнейкі вянок.
Мы яго не ў крамцы куплялі,
Мы яго на ніўцы збіралі.
Ой, выходзь, панок, выходзь,
Бочачку віна выкоць.



А ў нас сёння вайна была,
У нас сёння вайна была:
А ўсё поле зваявалі,
А ўсё поле зваявалі
І ў копачкі паскладалі,
І ў копачкі паскладалі.
Што горачка — то копачка,
Што горачка — то копачка,
Што нізочак — то вазочак,
Што нізочак — то вазочак.



Гаспадыня, дамоў, дамоў,
Гаспадыня, дамоў, дамоў
Ды напячы бліноў, бліноў,
Ды напячы бліноў, бліноў,
Ды навары гаршчок кашы:
Прыдуць есці жнейкі вашы.



Палуднічкі прагудзелі,
Палуднаваць захацелі.
Хоць гудзіце, не гудзіце,
Палуднаваць не будзеце:
Шчэ постаці не пражалі,
Капы снапоў не звязалі.



За лес сонца заляцела,
За лес сонца заляцела,
Я вячэраць захацела,
Я вячэраць захацела.
Гаспадыня-цяцерачка,
Гаспадыня-цяцерачка,
Ці гатова вячэрачка,
Ці гатова вячэрачка?



Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
Вы гудзіце, не гудзіце,
Палуднаваць не будзеце.
Гаспадыня маладая
Палуднаваць прысылае:
Лусту хлеба аржанога,
Бочку піва пшанічнага.
«Сядзьце, жнейкі, ў халадочку,
З'ешце хлеба па кусочку,
Выпіце піва па шклянцы».



А ўжо вечар вечарэе,
Пан у полі весялее,
Па постаці паяжджае,
Сваіх жанцоў паганяе:
«Ой, вы, жніцы, жнеце, жнеце,
Самі сябе не пазнеце:
Не дажаўшы, не пойдзеце!»
— Ой, паночку, каролiку,
Пусці ты нас дадоміку,
Бо ў нас дома дзялоў многа:
Дзяжу хлеба замясіці,
Дзевяць кароў падаіці.



Ой, зелен явар, зелен
Над усімі яварамі.
Ой, багат наш гаспадар
Над усімі багачамі.
Ды выкаціў бочку мёду,
А другую — гарэлачкі,
Ды прыехаў к сваім жнейкам.
«Жніце, жнеечкі, вы жніце,
Вам гарэлачка ў жыце.
Каторая дажнецца,
Гарэлачкі нап'ецца».
— А мы жнейкі не жаўнеркі —
Не п'ём горкае гарэлкі,
Хочам мёду салодкага.



Багат гаспадар, багат,
Багат гаспадар, багат.
Яго ўсё дабро ўдалося:

Жыта ў трубу павілося,
А авёс, як тын, парос,
А ячмень палёг на пляцень,
А пшаніца — як брусніца,
А грэчачка — як кветачка.
Гаспадыня ж маладая
Пагубляла залаты ключы,
З панічамі гуляючы.



І да ў нашага пана,
І да ў нашага пана
Маляваная брама.
А з-пад тэй-то брамачкі,
А з-пад тэй-то брамачкі
Тры ручаёчкі цякуць:
У першым ручаёчку,
У першым ручаёчку
Горкая гарэліца;
У другім ручаёчку,
У другім ручаёчку
Дый зялёнае віно;
У трэцім ручаёчку,
У трэцім ручаёчку
Дый салодкі мядочак.
Горкая гарэліца,
Горкая гарэліца
Для мужчын, для жоначак;
А зялёнае віно,
А зялёнае віно
Для хлопцаў-малойчыкаў;
А салодкі мядочак,
А салодкі мядочак
Для дзяўчат-паненачак.



Наш гаспадар маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі.
Ён усё поле аб'язджаіць,
Сваіх жнеяк аглядаіць:
Ці ўсе яго ў полі жнеі
І ці звязаны іх жмені?
Ці ўся яго талочанька,
Ці зжата ўся валочанька?



Залатая мяцёлачка
Памяла, папратала,
Памяла, папратала
І ў тарпочкі паскладала.
Гудцэ гудуць, гудцэ гудуць,
А нам палуднаваць не нясуць.
Ой, сонца ўжо на елі,
А мы йшчэ абеду не елі.
Залатая мяцёлачка
Памяла, папратала,
Памяла, папратала
І ў мяшочкі пассыпала.



Ай, ніўка, ай, ніўка,
Аддай маю сілку,
Аддай маю сілку
На другую ніўку.
А я ж цябе жала,
Сваю сілку клала.
Я жала нямнога,
Ды нажала многа.
Ніўка, мая ніўка,
Ніўка залатая.



Сядзіць казёл на лазе,
Дзівуецца барадзе:
«Чыя ж гэта барада
Ды неполатая?
І неполатая,
І неголеная,
І бярозтай увіта,
І смалою абліта?»
— Сцяпанава барада
Ды неполатая,
І неполатая,
І неголеная,
І бярозтай увіта,
І смалою абліта.—
Сядзіць казёл на лазе,
Дзівуецца барадзе:
«Чыя ж гэта барада
Ды паполатая?
І паполатая,
І паголеная,
І ўся шоўкам увіта,

І мядочкам абліта?»
— Іванава барада
Ды паполатая,
І паполатая,
І паголеная,
І ўся шоўкам увіта,
І мядочкам абліта.



А й хадзіў Спарыш а й па вуліцы
А й па пожаньцы па шыроканькай,
А ніхто Спарыша ў хату не завець.
Выйшла, выйшла гаспадынечка:
«А хадзі, Спарыш, ка мне ў хатаньку,
А ў маей хаце ўсё прыбрана:
Цесавы сталы пазасціланы,
Віном кубкі паналіваны.
Садзіся, Спарыш, за цесавы стол,
А пі, Спарыш, салодкі мядок,
А еш, Спарыш, сахарны кусок».



Вейце, павейце,
Вейце, павейце, Раю, мой Раю,
Буйныя ветры.
Нясіце весці,
Нясіце весці, Раю, мой Раю,
Нашаму пану,
Што яго жнейкі,
Што яго жнейкі, Раю, мой Раю,
Жыта пажалі.
Жыта пажалі,
Жыта пажалі, Раю, мой Раю,
У копы паклалі.
Дзе былі лугі,
Дзе былі лугі, Раю, мой Раю,
Там сталі стагі.
Дзе былі горы,
Дзе былі горы, Раю, мой Раю,
Там сталі копы,
Там сталі копы.



Хадзіў Раю па вуліцы,
Хадзіў Раю па вуліцы,
Насіў яйкі ў ярмулачцы,

Насіў яйкі ў ярмулачцы.
Жнейкам яйкі даваў,
Жнейкам яйкі даваў.
Канчаць жыта жаць запрашаў,
Канчаць жыта жаць запрашаў.
Жнейкі жыта дажалі,
Жнейкі жыта дажалі,
Гаспадара віншавалі,
Гаспадара віншавалі.
Бараду на ніве ўкрашалі,
Бараду на ніве ўкрашалі,
Гарэлку піць запрашалі,
Гарэлку піць запрашалі.



Хадзіў Раёк, хадзіў Раёк
  Па вуліцы,
У беленькай, у беленькай
  Кашуліцы.
Ніхто Раю, ніхто Раю
  У дом не зваў.
Абазваўся, абазваўся
  Наш паночак:
«Проша Раёк, проша Раёк,
  У мой дварок.
Мае двары, мае двары
  Мяцёныя,
Мае сталы, мае сталы
  Цясовыя,
Абрусікі, абрусікі
  Шаўковыя,
А кубачкі, а кубачкі
  Залатыя,
Віном, мёдам, віном, мёдам
  Налітыя,
Для Раечка, для Раечка
  Пастаўлены».



Ой, хадзіў Раю,
Ой, хадзіў Раю, Раю, мой Раю,
Да па вуліцы.
І ніхто Раю, Раю, мой Раю,
Ў хату не клічыць.
Ой, абазваўся,
Ой, абазваўся, Раю, мой Раю,

Молад Іванька:
«А хадзі, Раю,
А хадзі, Раю, Раю, мой Раю,
Ка мне ў хатку.
У маёй хатцы,
У маёй хатцы, Раю, мой Раю,
Як у святліцы.
Стаяць столікі,
Стаяць столікі, Раю, мой Раю,
Пазасціланы.
Кубачкі мёдам,
Кубачкі мёдам, Раю, мой Раю,
Паналіваны.
Жнеячкі мае,
Жнеячкі мае, Раю, мой Раю,
Пазазываны.
Усе ў радочак,
Усе ў радочак, Раю, мой Раю,
Папасаджаны».



Дажалі мы жыта
Да самай граніцы,
У нашай гаспадыні
Шырокія спадніцы.
Спадніцамі патрасець,
Нам закуску прынясець.
Плён жыта, плён са ўсіх старон!
А ў нашага гаспадара
Кудравая галава.
Ён кудрамі патрасець,
Гарэлкі нам прынясець.
Ён кудрамі пакалоціць,
Гарэлку нам пасалодзіць.
Плён жыта, плён са ўсіх старон!



Сягоння ў нас вайна была,
Усё поле здула, змяла
Вялікаю мяцёлкаю,
Ідзём дамоў з вясёлкаю.
Гаспадарок, не лякайся,
У каморку не хавайся.
Выкаці бочку віна,
А другую — гарэлкі
Ды напаі свае жнейкі.



Пад мяжою вянок віўся,
Ён к пакою прыкаціўся.
Ён к пакою прыкаціўся,
І ў пакоі папрасіўся.
«Ой, паночку, мой каролю,
Прымі мяне да пакою,
Бо я ў полі настаяўся,
Буйных вятроў нашугаўся,
Зімніх дажджоў нацярпеўся».



«Ай, дабранач, шырокае поле,
Жыта ядраное, ай, дабранач!»
— На здароўе, жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя, на здароўе!
Прыхадзіце заўтра раненька,
Як сонца узыйдзе, прыхадзіце!
Прынясіце адзін гаршчок кашы,
Другі сыраквашы прынясіце!
Вы сажніце шырокае поле,
Жыта ядраное вы сажніце!
Пастаўляйце у полі капамі,
А ў лузе стагамі пастаўляйце! —
«А мы зжалі шырокае поле,
Жыта ядраное а мы зжалі.
Пастаўлялі ў полі капамі,
А ў гумне тарпамі пастаўлялі!»



Ой, хвала табе божа,
Што жыта пажалі,
У снапочкі павязалі,
У бабачкі пастаўлялі
І копачкі пашчыталі.
Ой, рахуйцеся, копачкі,
У чыстым полі стоячы,
У чыстым полі стоячы,
На гумёнцы гледзячы.



Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала, рада, рада.
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта пажала, рада, рада.
Рада, рада, што жыта пажала,

Ў снапы павязала, рада, рада.
Рада, рада, ў снапы павязала,
Ў копы пастаўляла, рада, рада.
Што не будзець у поле хадзіці,
Жбан з сабой насіці, што не будзець.
Толькі будзець на тачок хадзіці,
Цапком малаціці, толькі будзець.
Рада, рада шэра перапёлка,
Што ёсць што клявацi, рада, рада,
Рада, рада наша гаспадынька,
Што ёсць што малоці, рада, рада.



Каціўся вянок з поля,
Прасіўся да пакоя.
Не хавайся, пан, пад лаву,
А выйдзі к нам на расправу.
Будзем мы распраўляцца,
За вянок таргавацца:
Мы не будзем рубля браць,
Бо было нам цяжка жаць.



Ды падзякуем богу
Ды за яго выходу,
Ды за яго пашану,
Ды за ціхае лета,
Ды за буйнае жыта.
Ды мы ўсё лета жалі,
Ды ні дня ні ляжалі,
Ды ні дня ні ляжалі,
Ўсё каласкі збіралі.
Ды мы поле рачком сышлі,
Ды пад мяжою вянок нашлі,
Ды прынеслі на галоўцы,
Палажылі на талерцы.



У нас сёння дажыначкі,
Гаспадар дасць гарэлачкі:
Гарэлачкі-гарчаначкі
Дзеля мяне, мяшчаначкі.
Гарэлачкі саладзенькай
Дзеля мяне, маладзенькай.



А мы жнейкі маладыя,
У нас сярпочкі залатыя.
Гаспадару вянок з дабра,
А нам дасі на трох рубля.
Просім цябе для рызыкі,
Каб паслаў нам па музыкі.
Табе дабро — спажываці,
Нам музыкі — пагуляці.



Каб жа нам чатыром
Шырокае поле.
Каб жа нам чатыром
Шырокае поле,
Мы ж ба пажыналі,
Мы ж ба пажыналі.
Каб жа нам чатыром
Гарэлачкі з бутылём,
Каб жа нам чатыром
Гарэлачкі з бутылём
Мы ж ба папівалі,
Мы ж ба папівалі.
Каб жа нам чатыром
Музычаньку з дударом,
Каб жа нам чатыром
Музычаньку з дударом,
Мы ж ба пагулялі,
Мы ж ба пагулялі.



У нас сёння дажыначкі,
Мы нап'ёмся гарэлачкі
Ды з поўненькай барылачкі.
А дзе тая барылачка?
У каморы пад лаўкаю,
У каморы пад лаўкаю
Ды зарасла мураўкаю.
Мы мураўку парвём, парвём,
Гарэлачку пап'ём, пап'ём,
Барылачку паб'ём, паб'ём.



Да ў мяжу, жнейкі, ў мяжу,
У мяжы прыганяты,
Малады, нежанаты.

Хто ў мяжу дажнецца,
Той з ім ажэніцца.
А каб ён ажаніўся,
Можа б ён адмяніўся:
За жнейкамі не ўчапляўся б,
Да з жонкаю забаўляўся б.



Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
Хоць гудзіце, не гудзіце,
Палуднаваць не пойдзеце.
Наша пані — дабрадзейка
Ды забіла верабейка,
На тры кухні гатавала,
На сем сталоў падавала.



У нас сёння дажон, дажон,
Вып'юць бабкі — ражон, ражон,
Маладзічкі — каланічкі,
А дзевачкі — гарэлачкі.



Ой, я жала, не ляжала,
Ой, я жала да па шчырай праўдзе.
Не давайце мне па чарачкі,
Да давайце да па поўнай кварце.
Ад чарачкі не нап'юся,
Ад квартачкі не павалюся.
Ой, дайце мне паўгарчыка,
Дык я ў самай да красе буду.
Ой, я пайду пагуляю,
Як рыбачка дый па Дунаю.
Рыба-шчука з акунцамі,
А я, маладая, дый з малайцамі.
Рыба-шчука дый з плотачкамі,
А я, маладая, дый з малойчыкамі.



Да ўжо жыта палавее,
Да ўжо жыта палавее,
Гультаёва душа млее,
Гультаёва душа млее.

Да ўжо жыта пара жаці,
Да ўжо жыта пара жаці,
Гультай хоча паляжаці,
Гультай хоча паляжаці.



Ой, я ў бары жыта жала,
А мне дома бяда стала:
Узлезла свякроўка на тын глядзець,
Ці скора нявестка жнець.
Павей, ветрык, каля тыну,
Скінь свякроўку у крапіву.
Звалілася свякроў з тыну
Стоць галавой у крапіву!
Сабе шыі не зламала,
Мне крапіўку патаптала.
Не жаль жа мне свякровачкі,
Да жаль жа мне крапівачкі:
Крапівачка — яда мая,
Свякровачка — журба мая.



Ды ўжо сонца за бор, за бор,
Пара жнейкам дамоў, дамоў.
Мне ж дадому не хочацца,
Каля печы варочацца!
У мяне дома дзяцей многа:
Што куточак, то й сыночак,
А на печы сем дачочак,
А восьмая на прыпечку
Іграе на скрыпачку.
Ды з прыпечку звалілася —
На друзачкі разбілася!



Жонка мужа шанавала:
На папары навязала
Ды нарвала травы вязку.
Паставіла вады ражку.
«Еж, муж, траву папарную
Ды пі ваду крынічную.
Папарная трава сытна,
Крынічная вада пітна».



Думала я, ужалася,
Аж з «хвастом» засталася.
Думала я, сыр дадуць,
Аж мяне за «хвост» вядуць.
Думала, дуда грае,
Аж мяне за «хвост» лаюць.



Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
Ой, гудзіце, не гудзіце —
Палуднаваць не будзеце.
Дзякуй богу, за полудзень,
Што не сыт і не голадзен:
Галава, як бочачка,
А жывот, як дошчачка.



Ой, я жала ў полі, жала,
Тры снапочкі нажала.
А мой мілы Пракопачка,
Едзе ў поле па копачкі.
«Не бяры ты з гумна рубля,
А вазьмі ты сякерачку,
Адсячы ты бярэзінку,
Папар маю сярэдзінку,
Каб жа яна не балела,
Дамоў рана не хацела».



Да коціцца вянок з поля,
Да коціцца вянок з поля,
Да просіцца да пакоя,
Да просіцца да пакоя.
Гаспадынька маладая
Палуднаваць гатавала.
Да ўкінула тры крупіны,
Да ўкінула тры крупіны,
Крупіна крупіну кліча,
Крупіна крупіну кліча:
«Крупіца, мая сястрыца,
Сыйдзімася мы у места,
Сыйдзімася мы у места —
Ці не будзе каша густа,
Ці не будзе каша густа?..»



Гаспадар, наша кветка,
Чаму тваё жыта рэдка?
Як ты жонку абнімаеш,
Так такое жыта маеш.
Абнімай жонку часцей,
Будзе радзіць жыта гусцей!



А ў вішнёвым садзе,
А ў арэхавым кусце
Салавейка шчабеча,
Салавейка шчабеча,
Усю праўду гавора:
«А ў каго дачок многа —
У таго таргі дома:
А таргуюць, таргуюць,
Мамцы ручкі цалуюць.
А ў каго сыноў многа,
У таго вайна дома:
А ваююць, ваююць,
Бацьку плечы раўнуюць».



«Парай мне, матулечка,
Парай мне, матулечка,
Як з нялюбым мужам жыць?»
— Параю, маё дзіцятка,
Параю, маё дзіцятка,
Як з нялюбым мужам жыць.
Завядзі у цёмны лес,
Завядзі у цёмны лес,
Палажы пад ёлкаю,
Палажы пад ёлкаю
І накрый саломкаю.
Падпалі лучынкаю,
Падпалі лучынкаю,
Сама выйдзі ў вулачку,
Сама выйдзі ў вулачку
І крыкні ратуначку:
«Сягоння ў нас гром не быў,
Сягоння ў нас гром не быў —
Майго мужа пярун забіў.
Маланка не смаліла,
Маланка не смаліла —
Майго мужа спаліла».



Каціліся ды калодачка з печы
Ды забіла майму міламу плечы.
«Ой, не плач, мая мілая, па мне,
Астаецца тры каласочкі ў гумне:
Адзін каласок, што поле засяваці,
Другі каласок, што мяне пахаваці,
Трэці каласок, што дзетак гадаваці».



Араў Юрка пры дарозе,
Павесіў торбу на бярозе,
    Гэй, гэй, павесіў торбу на бярозе.
А там дзеўкі жыта жалі,
Яны, шэльмы, торбу ўкралі,
    Гэй, гэй, яны шэльмы торбу ўкралі.
Тая ж торба з пірагамі,
Не з прастымі — з бульбянымі,
    Гэй, гэй, не з прастымі — з бульбянымі.



Сонца ў тучку, жнейкі ў кучку,
    Пара да двара.
А каб наша хазяечка
    Здарова была.
Наварыла гаршчок кашы,
    Мёдам заліла.
Паставіла на прыпечку —
    Кошка разліла.
«А каб цябе, кошачка,
    Ды пераламіла,
Як ты маіх жнеечак
    Ды асіраціла».





## ВОСЕНЬСКІЯ ПЕСНІ

Восеньскія песні замыкалі сабой гадавое кола каляндарна-абрадавай паэзіі. Яны прыпадалі на той перыяд, калі сяляне, закончыўшы працу ў полі, абмалочвалі на таках збожжа, мялі па восецях лён, збіралі ў лесе познія ягады і грыбы, пачыналі ладзіць вяселлі, рыхтаваліся да зімы. Спяваліся восеньскія песні часцей за ўсё жанчынамі і дзяўчатамі на так званых «супрадках» — доўгімі асеннімі вечарамі. Многія з восеньскіх песень захавалі ў сваім вобразным змесце рэшткі вельмі далёкай міфалагічнай даўніны (напрыклад, песні пра «вядзьмедзьку», пра «ластавіцу-перапёлачку). Іншыя, відавочна пазнейшыя паходжаннем, заключаюць у сабе матывы, звычайныя для сямейна-бытавой лірыкі: перажыванні маладой дзяўчыны ў чаканні блізкага вяселля, прадчуванне хуткага развітання з домам, жыццё жанчыны замужам.

Восеньскія песні, як і валачобныя, складаюць нацыянальную спецыфіку песеннай творчасці беларускага народа.



У цёмным лесе мядзведзь рыкаіць,
Рана, рана, мядзведзь рыкаіць.
Мядзведзь рыкаіць, дзевак пужаіць,
Рана, рана, дзевак пужаіць.
Рыкай, не рыкай — я не баюся,
Рана, рана, я не баюся.
Толькі баюся асенняй ночкі,
Рана, рана, асенняй ночкі.
Асенняя ночка разлуку даець,
Рана, рана, разлуку даець.
Яна разлучыць ад таткі, ад мамкі,
Рана, рана, ад таткі, ад мамкі.
Яна прылучыць к свёкру, к свякроўцы,
Рана, рана, к свёкру, к свякроўцы.
К свёкру, к свякроўцы, к дзеверу,
к залоўцы.
Рана, рана, к дзеверу, к залоўцы.



А ў барочку цецярук бармочыць,
Ён з барочку ляцеці не хочыць.
А ў барочку ягадкі салодкі,
А ў крыніцы вадзічка студзёна.
Я ў барочку ягадак наемся,
А ў крыніцы вадзіцы нап'юся.
А ў каморцы ды Валечка плачыць,
Яна ад таткі ісці не хочыць.
А ў свякроўкі так негі не будзець:
Ранюсенька на тачок пабудзяць,
А выйшаўшы на вулку — абсудзяць:
«Санлівая ай наша нявеста,
Вячэрнюю зорачку прагуляла».
А раннюю зорачку праспала,



А на ўдоўчынай гарэ
Мядзведзька карчом арэ,
А заенька барануе,
Лісічка абед гатуе.
Як прыгрэла сонейка,
Пайшлі ўсе работнічкі:
Мядзведзька — у ельнічак,
Лісічка — ў бярэзнічак,
Заенька — пад ламочак,
А ўдоўка ў галасок.



А ў караля сярод двара
Стаіць мора глыбокае,
Стаіць мора глыбокае,
Глыбокае, шырокае.
«Хто гэта мора пераплыве,
Той маю дачку возьме».
А дзе браўся стары ваўчышча.
«Я гэта мора пераплыву,
Я тваю дачку вазьму».
Дачка плача — ісці не хоча,
А воўк мармоча — узяць хоча.



«Чаго, зімачка маразяная,
Так рана нападаеш?»
— Я й не раненька і не позненька —
Самая паравая.
Дробны дождж ідзець,
Белы снег падзець,
Марозік націскае. —
«Чаго, дзевачка маладзенькая,
Так рана замуж ідзеш?»
— Я й не раненька і не позненька —
Самая паравая.
Юзафка бярэць, татка аддаець —
Свякроўка пераймае.



Пад дубком, дубком пад зялёненькім
Паўлінка лянок слала.
Прыйшоў да яе Яначка яе.
«Памагай бог, Паўлінка!»
— Да дзякуй табе, мой ты Яначка,
За добрае слоўца.
Чаму не прыйшоў ці не прыехаў
Учора звячора?
Ці каня не меў, ехаць не хацеў,
Ці мамачка не пускала? —
«Я й конікі меў, і ехаць хацеў,
Мамачка выпраўляла.
Меншая сястра, лет не дарасла,
Яна мяне не пускала».
— Не едзь, брацік, не едзь, родненькі,
Шчасця там ты не знойдзеш.
Згоніш конікі вараненькія,

Па полі ганяючы.
Стопчыш боцікі хромавенькія,
З Паўлінкай гуляючы.



«А чаго, лосю, а чаго, дзікі,
Ды к сялу прылягаеш?
А ці ты, лосю, а ці ты, дзікі,
Сцюдзёну зіму чуеш?»
— Чую, не чую — добра ведаю:
Не цёплае лецечка.
Улетку хаджу, травіцу скубу,
Каторая смачнейша.
Узімку хаджу, асінку глажу,
Каторая гарчэйша. —
«Чаго, Манечка, чаго, малада,
Так сільна плачаш?
Ці ты, Манечка, ці ты, малада,
Ліхую свякроў чуеш?»
— Чую, не чую — добра ведаю:
Не родная мамка.
У мамкі ключы ды на паліцы,
Ў свякроўкі пад поясам.
У мамкі хаджу, косачку чашу —
Я ў яе работніца.
Ў свякроўкі хаджу, работу раблю —
Я ў яе нягодніца.
У мамкі ў дварэ крутыя горы —
Мне гуляць на волі.
Ў свякроўкі ў дварэ нізка даліна —
Я гуляць не павінна.



«Чаго, зязюлька, не кукавала,
Як зіма наставала?»
— А я ж думала, мае пташачкі,
Што гэта цвяты цвітуць.
Аж тыя цвяты выйшлі на снягі,
Запраўду зіма стала. —
«Чаго, дзяўчыначка, ты не плакала,
Як цябе заручалі?»
— А я ж думала, мае дзевачкі,
Што сваты жартавалі.
Аж тыя жарты выйшлі напраўду,
Запраўду павянчалі.



«Чаго, зязюля, чаго, сівая,
Да саду прылятаеш?
Мусі, зязюля, мусі, сівая,
Тугую зіму чуеш?»
— А ці тугая, ці нетугая,
Не будзе, як лецечка.—
«Чаго, дзяўчына, чаго, малада,
Да стала прылягаеш?
Мусі, дзяўчына, мусі, малада,
Ліхую свякроў чуеш?»
— А ці ліхая, ці неліхая,
Не будзе, як мамачка.
Мамачка ўстане—ўсю хаду ўходзіць
І коўдрай накрые.
Свякроўка ўстане—вядзерцам бразне
Дый мяне пабудзіць.



Кругло, мало, кругло, мало балоцітка.
Ды хоць яно, ды хоць яно кругло, мало,
Але яно, але яно жырлівае.
Наляцела, наляцела гусей многа.
Не адны гусі, не адны гусі—ёсць лебедзі,
А гусачкі, а гусачкі бяленькія,
А лебедзі, а лебедзі сівенькія.
Нізка, мала, нізка, мала дзевачка.
Ды хоць яна, ды хоць яна нізка, мала,
Але яна, але яна шчаслівая.
Наехала, наехала сватоў многа,
Не адны сваты, не адны сваты—ёсць сваціца.
А сваціца, а сваціца ў аксаміце,
А сваточкі, а сваточкі ў бархаце.



«Досыць, калінка,
Досыць, чырвона,
Табе ў лузе стаяці.
Цябе, калінка,
Цябе, чырвона,
Пташачкі аклявалі».
— Не так пташачкі,
Не так пташачкі,
Як дробныя птушаняты.
Прылятуць—клююць,
Палятуць—клянуць,
Што калінка горкая.—

«Досыць, дзевачка,
Досыць, малада,
Табе ў мамачкі быці.
Цябе, дзевачка,
Цябе, малада,
Ўсе суседкі абмаўляюць.
Не так суседкі,
Не так суседкі,
Як суседнія дзеткі.
Прыйдуць — гавораць,
Пойдуць — абмовяць,
Што дзевачка старая».
— Няхай гавораць,
Няхай аблаюць,
А я ж іх не баюся.
Як прыйдзе восень,
Я замуж пайду —
Усім пакланюся.



У майго таткі сад над ракою,
Сад над ракою ды над вадою.
Пусці, татулька, ў сад пагуляці,
Ды я не буду вішань шчыпаці.
Толькі вышчыкну вінаградачку,
Прынясу татку на парадачку:
«Скажы, татулька, што мне рабіці:
Ці замуж ісці, ці дома быці?
Замуж не ішоўшы — людзям гаворка,
А замуж пайшоўшы — баліць галоўка».



Паехаў малойчык у краснае поле,
Спаткала малойца няшчасная доля,
Спаткала, спаткала, гаварыці стала:
«Дзе будзеш, малойчык, ночку начаваці?»
— Буду начаваці ў зялёным лужочку,
Прывязаўшы коніка к зялёну дубочку,
Прылажыўшы галоўку к белай бярозе.
Папрашу бярозу, ды каб не шумела,
Залатое лісцейка на Дунай не ляцела.
Выспаўся ў бярозы на яе лісточках,
Як у роднай мамачкі на ручочках,
Выспаўся ў бярозы на яе карэннях,
Як у роднай мамачкі на каленях.



А ў борку, борку, пры борку
Вісіць калыска на шоўку,
А ў той калысцы малойчык.
Калыхалі яго брацейкі,
Забаўлялі яго сястрыцы.
«Ускалыхніце ж высока,
Каб я ўвідзеў далёка,
Ускалыхніце на ўвесь бор,
Каб я ўвідзеў цясцёў двор,
Дзе мая дзевачка гуляе,
Шаўковым платочкам махае,
Залатым арэшкам частуе,
З малойчыкамі жартуе».



«Мае хмарачкі, мае цёмныя,
Разыдзіцеся розна.
Ой, не сварыся, мая мамачка,
Што прыходжу позна.
А хоць сварыся, хоць не сварыся,
Ты ж мяне не навучыш.
Каго я люблю, за таго пайду,
Ты ж мяне не разлучыш.
Было навучаць, было разлучаць,
Як была я маленька,
Цяпер, мамачка, ты не разлучыш,
Калі я з ім міленька.
Ой, пі, мамачка, да тую ваду,
Да што я нанасіла,
Любі, мамачка, да таго зяця,
Да што я палюбіла».
— Я й не буду піць, я й не буду піць,
Да буду разліваці.
Хоць не мілы зяць, хоць не мілы зяць,
Да буду частаваці.



Дробна пташачка, невялічкая
Па ляшчыначцы скача.
Дурна дзеванька, неразумная
Па малойчыку плача.
Дурна дзеванька, неразумная,
Дзе ты разум падзела?
Ён не сватае — толькі смяецца,
Ты напраўду хацела.



Пайшла дзевачка за вароцейкі,
    Расплятаючы коску.
За ей мамачка, за ей родная —
    Праліваючы слёзку.
«Пастой, дзіцятка, пастой, мілае,
    Мы з табой пагаворым».
— Не буду стаяць, не буду чакаць,
    Не буду гаварыці.
Мне людзі кажуць, я й сама знаю,
    Што мне з мамкай не жыці.



А ў гародзе капустачка
Сцелецца, не ўецца.
А ўсе людзі добра жывуць,
А мой не гарнецца.
Людзі вязуць жыта сеяць,
А я сваё гора.
Усе людзі просяць бога,
Каб жыта ўрадзіла,
А я прашу, каб горачка
Маё не ўсхадзіла.
Як узышло маё гора
Рэдкімі ўсходамі,
Як зацвіло маё гора
Сінімі васілямі.



Дзе я радзілася, дзе вырасла,
Там мяне цёмна ночка абняла,
Там мяне цёмна ночка абняла,
Я пад калінкаю спаць лягла.
Ножкаю калінку кранула,
На мяне расіца лінула,
На маю пасцельку бяленьку,
На мяне саму, маладзеньку.
Лінула расіца, лінула,
Каб я, молада, утанула.
А ўтану я, молада, ўтану,
Не стануся нікому, нікаму,
Не стануся нікому, нікаму,
Толькі аднаму мору сіняму.



А на дубчыку два галубчыкі,
    Ой, рана, рана, два галубчыкі.
Б'юцца, дзяруцца за галубачку,
    Ой, рана, рана, за галубачку.

Каму галубка, каму крыллейка,
Ой, рана, рана, каму крыллейка?
Каму крыллейка — той лятаць будзіць,
Ой, рана, рана, той лятаць будзіць.
Каму галубка — брукаваць будзіць,
Ой, рана, рана, брукаваць будзіць.
А на вуліцы два малойчыкі,
Ой, рана, рана, два малойчыкі.
Б'юцца, дзяруцца да за дзевачку,
Ой, рана, рана, да за дзевачку.
Каму пярсцёнкі, каму дзевачка,
Ой, рана, рана, каму дзевачка?
Каму пярсцёнкі — той насіць будзіць,
Ой, рана, рана, той насіць будзіць.
Каму дзевачка — той з ёй жыць будзіць,
Ой, рана, рана, той з ёй жыць будзіць.



Цераз рэчаньку, цераз быструю,
Ой, рана, рана, цераз быструю
Ляжыць кладачка дужа гібкая,
Ой, рана, рана, дужа гібкая.
А туды ж ішоў брацец з сястрою,
Ой, рана, рана, брацец з сястрою.
Брацец перайшоў, сястра ўтонула,
Ой, рана, рана, сястра ўтонула.
Сястра ўтонула і прамовіла,
Ой, рана, рана, і прамовіла:
«Не касі, брацец, на лугу траву,
Ой, рана, рана, на лугу траву.
На лугу трава — ўсё й каса мая,
Ой, рана, рана, ўсё й каса мая.
Не сячы, брацец, белай бярозы,
Ой, рана, рана, белай бярозы.
Белая бяроза — ды ліцо маё,
Ой, рана, рана, ды ліцо маё.
Не бяры, брацец, ды ў рацэ вады,
Ой, рана, рана, ды ў рацэ вады.
У рацэ вада — ды слёзы мае,
Ой, рана, рана, ды слёзы мае».



«Узыйдзі, месяц, такі вялікі,
Як млыновае кола.
Выйдзі, дзяўчына, сэрца ядына,
Мы з табой пагаворым».

— Рада б я выйсці, пагаварыці,
Аб нас людзі гавораць,
Што ты не любіш, замуж не возьмеш,
Толькі з мяне насмяешся. —
«А няхай судзяць, няхай гавораць
Хоць на ўсім белым свеце,
Я цябе люблю, я цябе вазьму,
Што ты ў розавым цвеце».



За гарою калінка буяіць,
За другою — дзяўчынка гуляіць.
«Гуляй, дзеўка, цябе маці кліча».
— Няхай кліча — я знаю нашто:
Хоча маці за старога аддаці.
Я старога здаўна не любіла,
У тыдні тры дні ўсё дымам паіла,
За вароты сабакамі правадзіла,
У яго след камень пакаціла. —
За гарою калінка буяіць,
За другою — дзяўчынка гуляіць.
«Гуляй, дзеўка, цябе маці кліча».
— Няхай кліча, я знаю нашто:
Хоча маці за роўніцу аддаці.
А я роўніцу здаўна любіла,
У тыдні тры дні ўсё віном паіла,
За вароты з скрыпкамі правадзіла,
У яго следзік персцень пакаціла.



Ходзіць вутачка па сенажаці,
    Сама сабе разважае:
«Ці ў мора плысці, ці ў мора плысці,
    Ці на беражку быць?
Ў мора паплыўшы, ў мора паплыўшы —
    Нечага жыраваці.
На беражку быўшы, на беражку быўшы —
    Недзе зімаваці».
Ходзіць дзевачка па падвор'ейку,
    Сама сабе рассуждае:
«Ці замуж ісці, ці замуж ісці,
    А ці ў дзеўках быці?
Замуж няйшоўшы, замуж няйшоўшы —
    Людская пагаворка.
Замуж пайшоўшы, замуж пайшоўшы —
    Бедная галоўка».



«Чаго, селязень, смуцен, нявесел?»
— А як селязню быць вясёламу?
Учора звячора на морачку быў,
На морачку быў, вутачку сачыў,
Сягоння рана прэч паляцела.
Каб жа далёка, жалі б не было,
А то ад мяне ў трэцім кусце.
У маім беражочку купаецца,
Мне, селязеньку, наругаецца.—
«Чаго, малойчык, смуцен, нявесел?»
— А як малайцу быць вясёламу?
Учора звячора у цясцёчка быў,
У цясцёчка быў, дзевачку запіў,
Сягоння рана за другім пайшла.
Каб жа далёка, жалі б не было,
А то ад мяне ў трэцім даме.
Цераз мой дварэц па вадзіцу йдзець,
Ножачкай тупнець, хустачкай махнець,
А мне, малайцу, жалі задаець.
Ў варотах маіх папраўляецца,
Мне, маладому, наругаецца.
На прызбе маёй абуваецца,
Аж маё сэрца разрываецца.



Маладая удоўка,
Маладая удоўка
Каля гаю хадзіла,
Каля гаю хадзіла
Дый з гаем гаварыла,
Дый з гаем гаварыла:
«А ты гаю, мой гаю,
А ты гаю, мой гаю,
Падымай веццe ўгору,
Падымай веццe ўгору,
Пратарай мне дарогу,
Пратарай мне дарогу,
Бо я к мамачцы іду,
Бо я к мамачцы іду.
Калі мамачка жыва,
Калі мамачка жыва,
Будзь, дарожачка, торна,
Будзь, дарожачка, торна
І паходачка спорна,
І паходачка спорна.
Калі ж мамачка ўмерла,
Калі ж мамачка ўмерла,

Будзь, дарожка, не торна,
Будзь, дарожка, не торна
І паходка не спорна,
І паходка не спорна».



Вядзьмедзька кару дзярэць,
Вядзьмедзька кару дзярэць,
Дзяўчына ваду бярэць,
Дзяўчына ваду бярэць.
«Вядзьмедзька, нашто кара,
Вядзьмедзька, нашто кара?
Дзяўчынка, нашто вада,
Дзяўчынка, нашто вада?»
— Карою хатку крыці,
Карою хатку крыці,
Вадою лаўкі мыці,
Вадою лаўкі мыці.
Хатку крыці — зімаваці,
Хатку крыці — зімаваці,
Лаўкі мыці — сватоў ждаці,
Лаўкі мыці — сватоў ждаці.



Шыла сукенку
З белага шоўку,
Я ж яе не знасіла:
Колькі год была, красавалася,
Я ў ёй звянчалася.
Як прышла дамоў,
Кінула далоў —
Сільненька заплакала.
Дзевачкі ідуць,
Кветачкі нясуць,
Яны ж мяне не прымаюць.
Жоначкі ідуць,
Дзетачкі нясуць,
Яны ж мяне паклікаюць.



А я, молада, ў грыбы хадзіла,
А я ў грыбах долечку згубіла.
А сяду, сяду на яравым кусце,
А ці не прыдзіць мая долька ка мне?
А не шуміце, зялёныя лугі,
Не паддавайце майму сэрцу тугі.

А маё сэрца многа жалі маіць,
Бяздольна дзіця ў гасцёх не бываіць.
А ўзыдзі, узыдзі, вячэрняя зара,
А прыдзі, прыдзі, бяздольнае дзіця.
Заранка ўзышла — ўвесь свет асвяціла,
Бяздольна дзіця людзей засмуціла.



Ой, ночка цёмна, пара спаць,
Пайшла Галінка вандраваць,
Правандравала тры мілі
Ды да чырвонай каліны,
Ды да каліны — скачучы,
А ад каліны — плачучы:
«Божа мой мілы, нядоля,
Бо мой Юзючок не дома.
Юзючок у войску ваюіць,
А я, маладзенька, гарую».



Што за шум па дуброве,
Што за пыл на дарозе?
Іванька з вайны едзіць,
А за ім войска валіць,
А як мак, расцвітаіць,
Як чырвоная рожа.
Памажы яму, божа,
А й цясця зваяваці,
А й цёшчу справаваці,
Галячку сабе ўзяці.
«А я цесця зваяваў,
А я цешчу справаваў,
Галячку з сабой узяў».



«Ой, баравая цяцера,
Чаго ты з бору ляцела?
Ці ў бару жыру не мела?»
— А ў бару жыру даволі:
Болей не будзіць ніколі.
А ў бару вадзіца — крыніца,
У бару ягодкі — салодкі. —
«Ой, маладая дзевачка,
Чаго замуж ляцела?
Ці ў таткі хлеба не мела?»

— А ў таткі хлеба даволі:
Болей не будзіць ніколі.
У таткі вадзіцы не было,
А было салодкае віно,
Яно ж у нас рэчачкай цякло.
Не ляніся раненька ўставаць,
Вінцо у бутылачкі пераймаць.



А ў майго таткі
Сад над ракою,
Сад над ракою,
Над даліною.
Пусці, татачка,
Ў сад пагуляці,
Ня буду, татачка,
Вішань шчыпаці.
А сарву ветку
Ды й вінаградку,
Панясу к татку
Я на парадку.
Парадзь, татачка,
Што мне рабіці:
Ці замуж ісці,
Ці дзеўкай быці?
Лепей у таткі
Чорны хлеб есці,
Ой, як з нялюбым
Да за стол сесці.
Лепей у таткі
Горы капаці,
Ой, як з нялюбым
У шлюбе стаці.



А што ў стаенцы звінела,
Ой, рана, рана, звінела?
Конік падкоўкай звінеў,
Ой, рана, рана, звінеў.
Хлопчык каня вывадзіў,
Ой, рана, рана, вывадзіў.
З ім татулька гаварыў,
Ой, рана, рана, гаварыў:
«Куды паедзіш, сынок,
Ой, рана, рана, сынок?»
— Паеду, татачка, на рынак,
Ой, рана, рана, на рынак.

Выбіраць сабе паненак,
    Ой, рана, рана, паненак.—
«Не глядзі, сынку, на рынку,
    Ой, рана, рана, на рынку.
А глядзі, сынку, на ніўку,
    Ой, рана, рана, на ніўку.
Ці быстра сярпом махаіць,
    Ой, рана, рана, махаіць?
Ці густа снапы стаўляіць?
    Ой, рана, рана, стаўляіць?»
— Махаіць сярпом, як жняя,
    Ой, рана, рана, як жняя,
Стаўляець снапы, як змяя,
    Ой, рана, рана, як змяя.



«А чаму ты, ялушачка, незялёная?»
— А як жа мне, ялушачцы, зеляніцца?
Пада мною тры купчыкі начавалі,
Яны ж маё руцце-вецце паламалі,
Яны ж мяне, ялушачку, засушылі.—
«А чаму ты, дзяўчыначка, невясёлая?»
— А як жа мне, дзяўчыначцы, весяліцца?
А са мною бел малойчык начаваў,
Ён жа мяне, маладзеньку, ашукаў,
Ён жа мой руцень-вяночак украў.



У цёмным лесе бярозачка стаяла,
У цёмным лесе кудравая стаяла.
Што ніхто к той бярозачцы не ходзіць,
Што ніхто к той кудравае не ездзіць.
Як зайшла, заехала цёмна хмара,
Аблілася бярозачка расою,
А ўсё тою расою дажджавою...
Як аддаў мяне татачка далёка,
Ён далёка, далёка—ў чужы людзі.
Ён і сам ка мне ў госцікі не ходзіць,
Мае мамачкі роднай не пускае.
Як прыслаў ка мне брахаиьку меншога,
Ён мяншога, мяншога—небальшога.
А як стаў жа мой браханька ў парозе
І «дабрыдзень» сястрыцы не гаворыць,
Пра здароўе ў сястрыцы не пытае...
Аблілася малодачка слязамі,
А ўсё тымі слязамі гаручымі.



Пайду, пайду у лясочак,
Ламлю, ламлю ляшчыначку,
Шчыплю, лушчу арэшкі:
Спяленькія — да прыполу,
Зеляненькія — да долу.
Спяленькія — паненачкам,
Зеляненькія — белачкам.



Ой, зара мая, несхадзімая,
    Ой, ля-лё, рана, несхадзімая.
За што я ў таткі нешчаслівая,
    Ой, ля-лё, рана, нешчаслівая?
З церама йдучы, ўцерала ключы,
    Ой, ля-лё, рана, ўцерала ключы.
А прызнайцеся, хто за мной ішоў,
    Ой, ля-лё, рана, хто за мной ішоў?
Хто за мной ішоў, ключыкі знайшоў,
    Ой, ля-лё, рана, ключыкі знайшоў?
Калі маленькі — братцам назаву,
    Ой, ля-лё, рана, братцам назаву.
Калі старэнькі — таткам назаву,
    Ой, ля-лё, рана, таткам назаву.
Калі роўніца — то замуж пайду,
    Ой, ля-лё, рана, і з ім жыць буду.



У борку, борку, пры борку
Рабіў малойчык каморку.
Тудой ішла дзевачка.
«Памажы божа, малойчык,
Нову каморку рубіці.
Рубі каморку шчыльненька,
Сячы аконцы нізенька,
Каб салавейкі ўлятаЛі,
Нас, маладзенькіх, будзілі.
Бо ў нас няродная маці,
Яна будзіці не будзе,
Выйдзе на вулку — абсудзе».
— Лянівa нявестка, лянівa,
Сонца не зойдзе — спаць ляжа,
Сонца ўзойдзе — яна спіць,
Каб па вадзіцу не схадзіць,
Каб чаравічкі не абрасіць,
Каб сукеначку не абмачыць.



Ах, восень, восень, макрота,
Дзецюкам жаніцца ахвота,
Дзевачкам замуж — няволя,
Дзевачкам замуж — няволя:
Заняволіла субота
І дзявочая работа.



Лужком, беражком рэчачка цякла,
Па прыгор'ейку Ніначка ішла,
З лугавой вадой гаварыла:
«Як я ў матулькі у роднай жыла —
Бела сваё лічанька ўмывала,
Каб маё лічанька белым было,
Каб я суджанаму міла была.
Як стала я жыць у свякровачкі:
Бела было лічанька — пабялела,
Міла была суджанаму — памілела».



А канапелька а зеляненька
У гародзе стаяла.
На канапельцы на зеляненькай
Зязюля кукавала.
Хопіць, зязюля, хопіць, шэрая,
Лятаці, кукаваці.
Адкукавала, адшчабятала
Ад мяне работніцу.
Прыкукавала, прышчабятала
Да мяне нягодніцу.



«Кляновая лісціначка,
Куды цябе вецер веець:
Ці у луг, а ці ў даліну,
Ці ў шчырую баравіну?»
— Я і сама не ведаю,
Куды мяне вецер веець:
Ці у луг, а ці ў даліну,
Ці ў шчырую баравіну? —
«Маладая дзяўчыначка,
Куды цябе татка аддаець:
А ці к свёкру, ці к свякроўцы,
Ці к дзеверу, ці к ятроўцы?»
— Я і сама не ведаю,

Куды мяне татка аддаець:
А ці к свёкру, ці к свякроўцы,
Ці к дзеверу, ці к ятроўцы.



«Залатая макоўка,
Ці многа макоў маеш?»
— Ці многа, ці нямнога —
Усё поле засеяла,
А на луг не хапіла:
Мачыну ад насення —
Дзяўчыне на вяселле. —
«Маладая дзевачка,
Ці многа дароў маеш?»
— Ці многа, ці нямнога —
Усіх сватоў адарыла,
На свякроўку забыла.
Ой, свякроўка-мамачка,
Я цябе не забуду,
Кожны дзень дарыць буду
Доўгімі станінамі,
Белымі кужалямі.



«Зялёная дубровачка,
Чаго рана зашумела,
Жоўтым лісцем зажаўцела?»
— А як жа мне не шумеці,
Жоўтым лісцем не жаўцеці:
А паўз мяне, дубровачку,
Да выбілі дарожачку,
А паўз мяне, высокую,
Да выбілі шырокую.
А паўз мяне купцы едуць
Да з мяне пруточкі рэжуць,
На карэннях агонь кладуць,
А на галлё дымы ідуць.





## ТАЛОЧНЫЯ ПЕСНІ

Невялікі па аб'ёму цыкл талочных песень мы змяшчаем пасля ўсіх іншых каляндарна-абрадавых таму, што ў ім аб'яднаны творы, якія выконваліся ў розную пару года: і вясной, і летам, і восенню. Талака наймалася на вывазку гною, на жніво, на апрацоўку лёну і на іншыя гаспадарчыя работы. Гэта—вельмі старажытная і вельмі зручная форма калектыўнай узаемадапамогі. Песні, якія спявала талака на жніве, мы палічылі мэтазгодным падаць у раздзеле жніўных. Увогуле ж талочныя песні, апрача таго што часам нясуць пэўныя адзнакі працы, нічым не адрозніваюцца ад звычайных бяседных, якія спяваюцца ў вясёлай грамадзе ў застоллі і часцей за ўсё вызначаюцца гумарыстычна-жартаўлівым настроем.



Талака, талака
Талачылася,
Увесь дзень па полі
Валачылася.
Мы увесь гнаёчак
Павыносілі,
На падводачках
Павывозілі,
Да ўвесь гнаёчак
Раскалацілі,
На ручках гнаёчак
Перадзяржалі,
Ножкамі зямельку
Перамералі.



Гаспадар, гаспадар,
Выхадзі з клеці,
Вынасі, вынасі
Кварту гарэлкі.
Мы твае гнаёчкі
Павывозілі,
Мы твае хлявочкі
Павычышчалі,
Мы твае нівачкі
Пазасцілалі.



А і добра мы табе,
Татулька, зрабілі:
Мы твае хлявочкі
Папаражнілі,
Мы твае нівачкі
Пазалацілі.
Заплаці ж возьнічкам
Хоць па грыўнічку.
А сваім капачам —
Па рубельчыку.



А што ў полі шуміць, гудзе,
Шуміць гудзе?
Там талака дамоў ідзе,
Дамоў ідзе.
Там Іванка снапы вязе,
Снапы вязе,

А Змітрачка ў варот стаіць,
У варот стаіць.
«Вязі, Іванка, ў маё гумно,
Ў маё гумно.
Маё гумно вялікае,
Вялікае,
Да зяроды высокія,
Высокія,
Да старонкі глыбокія,
Глыбокія».



«Чыя ж гэта талака
Шчуку-рыбу валакла
А сабе на вячэру?»
— Іванава талака
Шчуку-рыбу валакла
А сабе на вячэру.—
Гаспадыня тужыла,
Што вяліка дружына:
Піва не набраці.
А гаспадар таму рад:
«Садзіцеся, жнейкі, ў рад,
Буду частаваці».



«Дзяўчыначка, дзяўчыначка,
Чаму ж ты лянива?
Пад акном ручаёчак,
А ручкі не мыла».
— Дзецюкі, малайцы,
Купіце вы мыла.
Умыюся, убяруся—
І буду вам міла.



Цераз пень талака
Да цераз калоду.
Лезьце вы, малойцы,
Па пояс у воду.
А бадай вы, малойцы,
Патапіліся,
А як жа вы сёлета
Не жаніліся.



Талака, талака
Талачылася,
Таўкучы, мелючы,
Я змарылася.
Сеяла мучыцу—
Апылілася.
Вышла на вуліцу—
Скаланулася
Ды сваім суседкам
Наругнулася.
Работка мая—
Уся пыльная,
Маім суседзям
Дый завідная.



Ішоў я, ішоў я
З поўначы з карчмы.
Найшоў я, найшоў я
Салаўя ў карчы.
«Салавей, салавей,
Пташка дробная,
Запей, салавей,
Песні розныя».
— Рад бы я пяяць—
Голасу няма.
Учора звячора
У зязюлі быў,
У зязюлі быў
І з ёй шчабятаў,
Сягоння рана
Голас пацяраў.



Добра мне, добра
За старым дзедам:
Не маю клопату
За яго хлебам.
Пойдзець у карчомку—
А я за ім следам.
З карчомкі ідзець—
За ручку вядзець.
Прывёўшы дамоў,
Пасцельку сцелець.
Паслаўшы пасцель,
Спатачкі кладзець.

«Спі, мая мілая,
Да белага дня:
У мяне не дзесяць —
Ты ў мяне адна».



Талака, талака,
Талакі не ўняць.
Не дасцё гарэлкі,
Ня буду пяяць.
Вуліца, вуліца,
Ты шырокая,
Па табе, вуліца,
Не нахаджуся.
Каго верна люблю,
Не налюблюся.



Як сядзем мы на лавачцы,
Як вып'ем ды па чарачцы,
Як сядзем мы на роўненькай,
Як вып'ем ды па поўненькай.
А мы пілі, не ўпіваліся,
А з нас людзі дзіваваліся,
Што дамоў ішлі — не валяліся,
Ў вароцейках пахіліліся,
У новых сенях паваліліся.



Поўны засекі
Кіёў насеклі.
Ўсе тыя кіёчкі,
Ўсе тыя дубовы —
На дзевачкі плечкі
Ўсе яны гатовы.
Усе тыя кіёчкі
Паламаліся,
А дзевачкі плечкі
Не збаяліся.



Час дамоў, час дамоў,
Час да хатачкі.
А ў маей хатачцы
Непарадачкі.

Я ў той кут, я ў сей кут —
Усё кіі стаяць.
Усё тыя кіёчкі
Маляваныя —
На мае плечачкі
Гатаваныя.



Зарыца, зарыца,
Не ўсхадзі рана,
Не кажы, зарыца,
Што ночка мала.
Ноч мала, ноч мала —
Мне надаела,
Даўно я, даўно я
З мілым сядзела.
Міленькі, міленькі,
Ясная зара,
Дай, падай ручачкі
Хоць сярод двара.
Міленькі, міленькі,
Яснае сонца,
Дай жа, дай ручачку
Хоць праз ваконца.



А пазвалі ў талаку,
Пасадзілі на палу.
І на пол не нясуць,
І на кут не завуць.
Дайце чарку адну —
Я й дамоў пайду.



Я не панскага роду:
П'ю гарэлку, як воду.
А мне смачна пілося,
Па сярмяжцы лілося,
А па белай паліне —
На здароўейка мне.



На мяне казалі:
Пасялушачка,
На мяне казалі:
Пасялушачка,

А я ў свайго таткі
Весялушачка,
А я ў свайго таткі
Весялушачка.
На мяне казалі,
Па сялу хаджу,
На мяне казалі,
Па сялу хаджу,
А я ў свайго таткі
Работку раблю.
А я ў свайго таткі
Работку раблю.
На мяне казалі:
Горка п'яніца,
На мяне казалі:
Горка п'яніца,
А я ў свайго таткі
Дый работніца.
А я ў свайго таткі
Дый работніца.



У садзе вішанька нахілілася,
На мяне мамачка насварылася.
Пастаўлю зэдлічак і калодачку,
Пасаджу мамачку, як ягодачку.



«Няслава, няслава, Іванька, твая,
Не п'яна, не п'яна талака твая.
А ўчыні, ўчыні, Іванька, славу,
А ўпаі, ўпаі талаку сваю.
А хто ж у цябе работку рабіў?
А хто ж у цябе гарэлку папіў?»
— Рабілі работку талачанікі,
Папілі гарэлку прыхаджанікі.



Піва п'яна, піва п'яна,
Гарэлачка горка.
Раздурэла, раздурэла
Іванькава жонка.
Трэці дзянёк ня п'ець мядок,
Дамоў не бываець.
А хто ж яе, а хто ж яе
Хатку даглядаець?

«Есць у садзе-вінаградзе
Яблычкі ды йгрушкі.
Даглядаюць маю хатку
Сынкі ды й дачушкі».



Крывая вулачка —
Як па ёй хадзіць?
Ліхая свякроўка —
Як ёй угадзіць?
Па крывой вулачцы
Нахадзілася,
Ліхой жа свякроўцы
Нагадзілася.
Па крывой вулачцы
Хадзіць не буду,
Ліхой свякроўцы
Гадзіць не буду.



Талачу, талачу,
Гарэлкі хачу.
Не дасцё гарэлкі —
Паб'ю талеркі.
Талачу, талачу,
Я сыра хачу.
Не дасцё сыра —
Палажыце сына.
Дайце мне гарэлкі
З белай бутылкі.
Дайце мне закускі
З поўнай талеркі.





## РАДЗІННЫЯ ПЕСНІ

Радзінныя, або іначай хрэсьбінныя, песні суправаджалі абрады, якія выконваліся ў сям'і ў сувязі з нараджэннем дзіцяці і мелі, несумненна, магічны характар. Пазней першапачатковы сэнс хрэсьбінных абрадаў у значнай меры зацямніўся, і яны перайшлі ў добры народны звычай—святкаваць нараджэнне чалавека, дзяліць у сяброўскім застоллі радасць бацькоў, вітаць новананароджанага чаркай «на жыццё, на быццё, на добрае здароўе, на доўгі век». Радасць сямейнага свята і складае асноўны змест хрэсьбінных песень пазнейшага паходжання, якія больш правільна будзе называць не абрадавымі, а звычаёвымі, бытавымі. Але ў песнях больш ранніх захаваліся і водгаласы некаторых старажытных вераванняў, і рэшткі тых абрадавых заклінанняў, якія магічным чынам павінны былі забяспечыць дзіцяці доўгі век і добрую долю: «і хлебавую, і салявую, і трэцюю—здаровейкую».

Радзінныя песні прысвячаліся новананароджанаму, маці-парадзісе, бацьку, бабцы-павітусе і куму з кумой. Многія з іх можна назваць велічальнымі, хаця ў самой паэтычнай фактуры іх няма, а калі ёсць, дык зусім мала тых элементаў паэтыкі, якімі ствараецца паэтычная ідэалізацыя вобраза, дасягаецца тон ушанавання і ўслаўлення. Велічальнымі яны з'яўляюцца ўжо за тое, што вылучаюць з грамады пэўнага ўдзельніка святкавання, выказваюць яму павагу і пахвалу, падкрэсліваюць яго заслугі і г. д. У той жа час у многіх хрэсьбінных песнях, асабліва адрасаваных бабцы-павітусе, куму і куме, вобразы апошніх як бы наўмысна прыніжаны ўвядзеннем дабрадушна-жартаўлівых, гумарыстычных нотак.

На хрэсьбінным банкеце спяваліся таксама песні, якія не маюць непасрэдных адносін да свята ў гонар нараджэння чалавека. І па зместу і па характару свайму гэта песні хутчэй бяседныя, якія маглі гучаць у лю-

бым святочным застоллі, выяўляючы адпаведны настрой выканаўцы. У наш зборнік з ліку такіх лірычных бяседных песень, што запісаны як хрэсьбінныя, мы ўключылі толькі найбольш цікавыя на наш погляд прыклады.

Беларускія хрэсьбінныя песні заслугоўваюць вялікай увагі, таму што гэты пласт старажытнай абрадавай паэзіі не захаваўся ў астатніх славянскіх народаў, хаця ў агульнаславянскую эпоху, трэба думаць, роўна належаў усім. Таму даследаванне беларускіх хрэсьбінных песень можа дапамагчы высвятленню некаторых праблем, звязаных з вывучэннем абрадавай паэзіі і ўвогуле сямейнага быту славян.



Да ў чыёй жа каморцы
Да агонь пабліскуе?
Там Гэлячка рана ўстала,
Сваю чэлядзь пабуджала:
«Да устань жа, мая чэлядзь,
Да прадзі белы кужаль,
Да сучы шнурочкі
Для майго палажочка».



А хто, хто ў нас да па ночы ходзіць,
А хто, хто ў нас да бабульку просіць:
«Бабулька мая, галубка мая,
Прыйдзі ж ты ка мне і к маёй жане.
У маёй жаны жыватох баліць,
Жыватох баліць, сярэдзінку ломіць».
— Унучак ты мой, галубочак мой,
Не журыся ты, каго божа дасць:
Калі дачушку — швачкаю будзе,
А калі сынка — пісарам будзе.



А між сеначак, між каморачак,
А між сеначак, між каморачак,
Ой, там Гэлячка павай хадзіла,
Ой, там Гэлячка павай хадзіла,
Павай хадзіла, сына радзіла,
Павай хадзіла, сына радзіла.
А Міколачка, а мой душачка,
А Міколачка, а мой душачка,
А бяжы, бяжы па бабулечку,
А бяжы, бяжы па бабулечку.
Наша бабулька ды не гордая,
Ды не гордая, а здагадалася:
І сама бяжыць, аж зямля дрыжыць,
І сама бяжыць, аж зямля дрыжыць,
І прасціначку у руках дзяржыць,
І прасціначку у руках дзяржыць.
«А прасці, божа, а дзве душачкі,
А прасці, божа, а дзве душачкі:
Адну душачку — парадзішачку,
Адну душачку — парадзішачку,
Другу душачку — нараджоную,
Другу душачку — нараджоную,
А дзве душачкі — мае ўнучачкі».
І старэнькая, і маленькая,

Мы старэнькую — шанаваць будзем,
А маленькую — гадаваць будзем.
Мы старэнькую — дзеля жаласці,
А маленькую — дзеля радасці.
Мы старэнькую — у пярыначках,
А маленькую — у пялёначках.



А ў нядзелечку
Параненечку
На небе зазвінела.
Госпад бог ідзець,
Ключыкі нясець,
Неба адмыкае.
А кума стаіць,
Дзіцятка дзяржыць,
Ў бога долі просіць:
«А дай жа божа,
Гэтаму дзіцяці
Тры долі шчаслівых:
І збажавую,
І грашавую,
І тую вясельную».
А ў нядзелечку
Параненечку
На небе зазвінела.
Гаспод бог ідзець,
Ключыкі нясець,
Неба адмыкае.
А кумок стаіць,
Дзіцятка дзяржыць,
Ў бога долі просіць:
«А дай жа божа,
Гэтаму дзіцяці
Тры долі шчаслівых:
І збажавую,
І грашавую,
І тую вясельную».



Ой, завешаны каўры,
Ой, завешаны каўры
Аж да самай да зямлі,
Аж да самай да зямлі.
Ой, за тымі каўрамі,
Ой, за тымі каўрамі

Парадзішачка ляжыць,
Парадзішачка ляжыць.
А хто к ёй прыхінецца,
А хто к ёй прыхінецца —
Мёду, віна нап'ецца,
Мёду, віна нап'ецца,
Розуму набярэцца,
Розуму набярэцца.
Бабулька прыхінецца,
Бабулька прыхінецца —
Мёду, віна нап'ецца,
Мёду, віна нап'ецца,
Розуму набярэцца,
Розуму набярэцца.



Чырвона, жарка у лузе каліна,
А жарчэй каліны ў Івана жана.
Па дварку хадзіла — дварок асвяціла,
На ганак ўзышла — ганак абламіла,
У сенкі ўвайшла — сыночка радзіла,
Сыночка радзіла, сямейку будзіла:
«Мілая сямейка, ці ўся весяленька?
Дружочак міленькі, пара уставаці:
Цясовыя сталы будзем засцілаці,
Залатыя кубкі віном наліваці,
Дарагіх гасцей нашых будзем частаваці».



Раса пала на травіцу,
Наша мама — парадніца,
Наша мама — парадніца,
Дзевяць сыноў парадзіла.
Дзевяць сыноў парадзіла,
А дзесятую дачушку.
Яе браты калыхалі,
Калышучы, прымаўлялі:
«Люлі, люлі, сястрыца,
Спі доўга, расці скора,
Сваёй маме на пацеху,
Чужым людзям на ўспамогу».



А ясна, красна на небе зара,
А люба, міла Іванку жана.
Пашыў шубачку з сямі сабалёў,

Восьмага бабра — каля падала.
Дзевяту рысю — каля рукава,
Дзесяту лісу — каля каўняра.
«Анечка-душа, насі шубачку,
Насі шубачку, ды не падбівай,
Вадзі дзетачак, ды не старуйся,
Гаруй горачка, ды не скардзіся».
— А міленькі мой, няпраўда твая:
Насіўшы шубку, падаб'ю яе,
Вадзіўшы дзетак, састаруюся,
Гараваўшы гора, паскарджуся.



Цераз рэчачку цераз быструю
Гібка кладачка ляжыць.
Па той кладачцы па той гібенькай
Молад Мішачка ідзець,
Сваю жоначку, сваю мілую
Ён за ручачку вядзець.
«Ой, ты, кладачка, ой ты, гібкая,
Ты не гніся пада мной.
А ты, жоначка, мая мілая,
Ты не старуйся за мной.
Пі мёд, пі віно і гарэлачку,
І не будзь ты п'яная.
Радзі сем сыноў і дачушачку,
І не будзь ты старая».
— А мой мужанька, а мой міленькі,
Ды няпраўдачка твая:
П'ючы мёд, віно і гарэлачку,
Мушу быці п'яна
Раджу сем сыноў і дачушачку,
Мушу быці старая.



А ў садзе рабінкі,
А ў нас сёння радзінкі.
А мы ж рабінкі
Да ламаць будзем,
А мы ж радзінкі
Да гуляць будзем.



Ой, сцелецца да уецца,
Ой, сцелецца да уецца
Лугам траўка зялёная.

Ой, цалуе да мілуе,
Ой, цалуе да мілуе
Мужык жонку маладую.
«Жонка мая маладая,
Радасць мая удалая,
Ты радзіла мне сыночка,
Ты радзіла мне сыночка,
Як яснага сакалочка.
Яшчэ радзі мне дачушку,
Як шызую галубачку.
Мне сыночак на уцеху,
Табе дачушка на пацеху».

Ў нас сягоння, хвала табе божа,
Застагнала Гэлячка у ложы,
Зажадала вішнёвага соку,
Зажадала вішнёвага соку.
«А паклічце міленькага з току,
А паклічце міленькага з току,
Хай дастаніць вішнёвага соку,
Хай дастаніць вішнёвага соку».
— Калі сына — магу расстарацца,
Калі сына — магу расстарацца,
Калі дочку — прашу перабачыць.
Калі дочку — прашу перабачыць,
Бо сыночак — свой гаспадарочак,
Бо сыночак — свой гаспадарочак,
А дачушка — то людская служка,
А дачушка — то людская служка. —
Ў садзе вішні — ўсё роўнае вецце,
Ў садзе вішні — ўсё роўнае вецце,
Бацьку й маці — ўсе роўныя дзеці,
Бацьку й маці — ўсе роўныя дзеці:
Сыны і дачушкі — ўсе роўныя служкі,
Сыны і дачушкі — ўсе роўныя служкі.

Садовая яблынька,
Садовая яблынька
На сугор'і стаяла,
На сугор'і стаяла.
Хоць бяленька цвіцела,
Хоць бяленька цвіцела,
Ды два яблычкі мела,
Ды два яблычкі мела.

Маладая Тацянка,
Маладая Тацянка
Ой, цяжэнька хадзіла,
Ой, цяжэнька хадзіла,
Сабе служку радзіла,
Сабе служку радзіла.
Хоць набралася мукі,
Хоць набралася мукі —
Ды пярэйміць жа рукі,
Ды пярэйміць жа рукі.
Хоць набралася бяды,
Хоць набралася бяды —
Прынясець старой вады,
Прынясець старой вады.



А на гары агонь гарыць, палымнее,
Кожна матка над дзіцяткам сваім млее.
Яна ж яго, як насіла, галасіла,
Яна ж яго, як раджала, умірала
Да жоначак, суседачак сабірала,
На смерць белу кашулечку гатавала
І родную мамачку падзывала:
«Давай, мая мамачка, распрасцімся».



У полі гаёк расшугаўся,
Іванька з жонкай разгукаўся.
Ой, жана мая дарагая,
Дзе ўсю ты красу сваю дзела?
Ці з малайцамі прагуляла?
Ці з дзевачкамі прапяяла?
Ці з жоначкамі прасядзела?»
— Ой, муж ты мой, муж маладзенькі,
Калі сам не знаеш, не ведаеш,
То ў добрых людзей папытайся:
Як табе сыночка радзіла —
Ўсю сваю красу я згубіла.



Ой, белая бярозачка,
Чырвоная вольха.
Чырвоная вольха.
А хто зрабіў бяседачку?

Іванькава жонка,
Іванькава жонка.
Сама сядзіць у запечку,
Як курачка, квокча,
Як курачка, квокча.
А Іваначка, гаротнічак,
Бяседачку топча,
Бяседачку топча.



А на моры селязенька ды падпырхіваець,
А ён сваю шэру вутачку паісківаець:
«Дзе дзелася, падзелася шэра вутачка мая?
Калі ж яна у гняздзечку, не спужайце яе,
Калі ж яна на жырочку, не страляйце яе».
Ходзіць па сенцах Іваначка, паглядываець,
А ён сваю мілу жоначку паісківаець.
«Дзе дзелася, падзелася міла жоначка мая?
Калі ж яна ў белай ложы, не будзіце яе,
Калі ж яна у каморы, дык паклічце яе».



А хто, хто каля рэчачкі свішчыць?
Селязень сваей вутачкі ішчыць.
«А тут, тут мая вутачка была,
Яна ж тут і гняздзечка віла,
Яна ж тут і яечка знесла».
А хто, хто па новых сенцах ходзіць?
Мішачка сваей жоначкі ішчыць.
«А тут, тут мая жоначка была,
Яна ж тут і пасцельку слала,
Яна ж тут і дзіцяця мела».



А хто ж гэта ў траснічку шашчыць?
Селязенька сваю вутачку просіць:
«А вуць-вуць, мая вутачка, ка мне.
А ў мяне гняздзечка ў траснічку,
А ў мяне пад крыллечкам цёпленька».
А хто ж гэта па новых сенях ходзіць?
Колечка сваю Анечку просіць:
«А хадзі ж, мая Анечка, ка мне.
А ў мяне цясовы краваці,
А ў мяне пуховы пярыны,
А ў мяне сыны і дачушкі —
Няма ў мяне Анечкі-душкі».



Як малодка дзіцятку радзіла,
Яна сваю свякроўку прасіла:
«Свякроўка-матулька, палі ліхтары,
Ідучы ў каморку, крэпка застучы,
А майго міленькага разбудзі.
Устань, устань, міленькі мой,
Досыць табе ў каморцы спаць,
Пойдзем у сад вінаград ламаць
Ды будзем гарэлачку гнаць,
Нагнаўшы, радзіначку сабяром,
А сабраўшы, хрэсьбінкі згуляем».



А ўчора я п'яна была,
А сягоння я не буду піць,
Меліся ка мне госцікі быць:
Першыя госці — кум і кума,
Другія госці — брат і сястра,
Трэція госці — маці мая.
Для кума з кумой піва вару,
Для брата з сястрой гарэлку ганю,
Для роднай мамкі мёд саладжу.
Для кума з кумой пасцель сцялю,
Для брата з сястрой саломачку,
Для роднай мамкі пярыначку.



Наш сусед малады,
Малады, малады,
Ён сам ідзець па зямлі,
Жану вядзець па скам'і.
Жану вядзець па скам'і,
Перапрашаваіць:
«А не гневайся, жана,
Што не ўся твая радня.
А як восені дажду
Ды ячменю нажну,
Віна-піва навару,
Усю радню сазаву,
Усіх п'яна напаю».



«А чаму ты, яліначка, незялёна?
А чаму ты, яліначка, незялёна?»
— А як жа мне, яліначцы, быць зялёнай,

А як жа мне, яліначчы, быць зялёнай?
Пада мною два купчыкі начавалі,
Пада мною два купчыкі начавалі,
Яны ж маё карэннейка патаптаалі,
Яны ж маё карэннейка патаптаалі.
Яны ж маё ўсё суччайка пасмалілі,
Яны ж маё ўсё суччайка пасмалілі.—
«А чаму ж ты, Арыначка, невясёла,
А чаму ж ты, Арыначка, невясёла?»
— А як жа мне, маладзенькай, быць вясёлай?
А як жа мне, маладзенькай, быць вясёлай?
Калі мяне мой міленькі зневажаець,
Калі мяне мой міленькі зневажаець:
Ўсе клетачкі, каморачкі замыкаець,
Ўсе клетачкі, каморачкі замыкаець.
А я свайму міленькаму угадзіла,
А я свайму міленькаму угадзіла,
А я ў яго ўсе ключыкі паўкрадала,
А я ў яго ўсе ключыкі паўкрадала,
Ўсе клетачкі, каморачкі паадмыкала,
Ўсе клетачкі, каморачкі паадмыкала,
Бачурачку гарэлачкі нацадзіла,
Бачурачку гарэлачкі нацадзіла,
Усю сваю радзімачку упаіла,
Усю сваю радзімачку упаіла,
У белую пасцелечку улажыла,
У белую пасцелечку улажыла.



А ў саду, саду, у садочку,
У вішнёвенькім кусточку,
Там пташачкі шчабяталі,
Яны салавеячку ўгнявілі—
Салавеячка прэч паляцеў.
«А вярніся, салавейка, вярніся,
Без цябе сады незялёны,
Без цябе вішні нечырвоны,
Без цябе пташкі невясёлы».
А ў даму, ў даму, у дамочку
У Іванкавым церамочку,
Там госцейкі п'юць, гуляюць,
Яны Іванечку ўгнявілі—
Іванечка прэч паехаў.
«А вярніся, Іванка, вярніся,
Без цябе піва неп'янное,
Без цябе віно нехмяльное,
Без цябе госці невясёлы».



Добра, добра мне
За сталом сядзець,
Як у майго ўнука
Парадак ідзець.
Як мой унучак
Парадак вядзець,
Поўны чарачкі
Усё наліваець,
Мілых госцікаў
Усё запрашаець:
«Выпі, бабулька,
Поўну чарачку.
Глядзі, бабулька,
Ля парадачку».



Куначка па бору пахадзіла,
А яна саболя пабудзіла:
«А ўстань, саболю, абудзіся,
А ўжо ж нас стрэльчыкі акружылі,
Хочуць нас, саболю, пастраляці:
Цябе, саболя — на падболле,
Мяне, куначку — на шубачку,
А нашых дзетак — на адкладкі».
Ніначка па спальні пахадзіла,
А яна Іваньку пабудзіла:
«А ўстань, Іванька, абудзіся,
А ўжо ж нас суседзі асудзілі,
Што наша бяседа невесяленька,
Што наша бабулька непʼяненька».



А па сенячках
А па новенькіх
Вецер дымам вее.
А там Ванечка
Маладзюсенькі
Гарэлачку гоне.
Падкіне жарку,
Падсыпле мядку,
Каб была саладзенька.
Ўпоіць бабульку,
Ўпоіць галубку,
Каб была пʼяненька.



Цераз рэчку кладачка,
А там ішла бабачка,
Спаткаў яе заячка.
«А куды ідзеш, бабачка?»
— К унучачцы, заячка.—
«А што нясеш, бабачка?»
— Намётачку, заячка.



Не кукуй, зязюлечка, рана,
Не кажы, што ночачка мала.
Аленка ўсю ночку не спала,
Яна к сабе госцікаў звала,
Любых госцікаў ды бабулю.
Столікі абрусом засцілала,
Талеркі сухароў накладала,
Кубачкі ды віном налівала,
Яна сваю бабулю частавала.



Ой, у нашага Іванкі,
Ой, у нашага Іванкі
Явар на дварэ,
Явар на дварэ.
Ён пасадзіў за стол бабку,
Ён пасадзіў за стол бабку—
Людзям і сабе,
Людзям і сабе.
Ён пасадзіў за стол кумоў,
Ён пасадзіў за стол кумоў—
Людзям і сабе,
Людзям і сабе.
Ён частуе, ганаруе,
Ён частуе, ганаруе—
Павага, яму,
Павага яму.



А Ванечка малады,
Яго розум залаты,
І сам ідзець па бруку,
Жану вядзець пад руку.
«А пастой, пастой, жана,
А не ўся наша радня.
Віна, піва навару,
Радзіначку зазаву».



Півушка, півушка ты піўное,
Дзівушка, дзівушка ты дзіўное.
Да не будзем, міленькі, упівацца,
А будзем на госцейкаў спадзявацца.
А любыя госцікі: кум з кумою,
Яшчэ найлюбейшыя — брат з сястрою.
Яшчэ наймілейшыя — татка з мамкай,
А найдаражэй за ўсіх — бабка наша.



Як пайду я каля гаю, гаю,
Нашчыпаю я яравога хмелю,
Навару я пшанічнага піва,
Пазаву сваю бабку на дзіва:
«Прыходзь, мая бабачка, ка мне,
Ты ў мяне зневажана не будзеш,
Надзялёная падаркам будзеш».



А ў ельнічку, ў бярэзнічку
Сарока стракоча.
А пытаецца ўнучачка,
Чаго бабуля хоча:
«А ці мёду, а ці піва,
Ці горкай гарэлкі?
Пабудзь, пабудзь, бабулечка,
Ў мяне да нядзелькі.
Ёсць і мёду, ёсць і піва,
І горкай гарэлкі».
— Буду, буду, унучачка,
Ў цябе да нядзелькі.



Ой, тут, тут радзінкі былі,
Тут, тут мы гарэлку пілі.
Запала дарожка сняжком —
Не пойдзе бабулька пяшком.
Унучак каня запражэ,
Бабульку дамоў завязе.
А ты, бабулька, не скупі,
Да ты нам паўлітра купі.



А учора да звячора
Бабцы просьба была,
Бабцы просьба была.

А сягоння ранюсенька
Бабка сама прыйшла,
Бабка сама прыйшла.
«А я к табе, мой унучак,
Не на тое прыйшла,
Не на тое прыйшла,
Каб ад цябе, мой унучак,
Пехатою пайшла,
Пехатою пайшла».
— Запражыце, залажыце
Ды дванаццаць канёў,
Ды дванаццаць канёў,
Адвязіце, завязіце
Ды бабульку дамоў,
Ды бабульку дамоў.



А ў Юзечкі на падвор'і
Вінаград, вінаград.
Учыніў ён бяседачку —
Вельмі рад, вельмі рад.
Учыніў ён бяседачку
І людзям і сабе,
Пасадзіў ён бабулечку
Ды на самым куце.



Бабулечка на куце села,
Бабулечка песню запела:
А первую — ды раджоную,
А другую — ды суджоную,
А трэцюю — хрэсьбінскую.
А дай божа, судзі божа,
Ды гэтага дзіцяці
Нам вяселля прыждаці.



Скокнула унучка
З ложка далоў.
Пакланілася бабульцы
Нізка да ног.
«Каб я ведала, бабуленька,
Што будзе сын,
Я б бяліла кужалёначку,
Як бел сыр.

Каб я ведала, бабулечка,
Што будзе дачка,
Я б выткала кужалёначку,
Як кітаечка».



Бабулька, пірагоў напечана,
Бабулька, пірагоў напечана,
Ты ж у нас а даўно намечана,
Ты ж у нас а даўно намечана.
Ты ж у нас а даўно паважана,
Ты ж у нас а даўно паважана,
Ты ж у нас на куце пасаджана,
Ты ж у нас на куце пасаджана.



Шышачка мядовая,
Шышачка мядовая,
Чарачка радовая,
Чарачка радовая
Па сталу пакацiла,
Па сталу пакацiла,
Бабулю упаiла,
Бабулю упаiла
I спацькi палажыла,
I спацькi палажыла.



Цераз гару сцежка ляжала,
Цераз гару чорна ляжала.
А хто ж тую сцежачку вытаптаў?
А хто ж тую чорную вытаптаў?
Вытаптаў Iванка ходзячы,
Ды сваю бабульку просячы.
Казловыя боты ён стаптаў,
Замшовую шубачку ён сцёр, змяў,
Бабровую шапачку ён знасiў,
Пакуль сваю бабульку упрасiў.



Прыляцеў галуб,
У вароцейкi стук:
«А бабуля, пара
Табе iсцi да двара».

А Іванка малады
Угаворваць пачаў:
«Есць у мяне, бабуля,
Поўна бочачка віна.
А пап'ём, паядзім —
Тады пойдзеш да двара».



Каб я была, каб я была
Шэраю зязюлечкай,
Падляцела б я, падляцела б я
Бабулі пад шубачку.
Паглядзела б я, паглядзела б я
Бабулі кашулечку,
А ці тоненька, а ці беленька,
Ці шоўкам вышывана?
Яна й тоненька, яна й беленька,
Яна й шоўкам вышывана,
Золатам пазалачона,
На куце пасаджона.



У садзе вішня,
У садзе вішня
З-пад кораня выйшла.
Па цябе, бабка,
Па цябе, бабка,
Падводачка прыйшла.
Конь вараненькі,
Конь вараненькі,
Фурман маладзенькі.
Конь гадаваны,
Конь гадаваны,
Вазок маляваны.



У садзе ялінка зеляненька стаіць,
На куце бабулька цверазенька сядзіць.
А чаму цвяроза, бо прывету няма.
Каб прывет быў, яна б і піла, і ела,
І піла б, і ела, і песенькі пела.
Бабулька, чаму ж ты гарэлкі не п'еш?
Бабулька, чаму ж ты песень не пяеш?
Ці табе, бабулька, мёду нестае?

Есць у мяне конік вараны на стайні,
Я ж табе, бабулька, ды мёду дастану.
Я ж таго коніка варанога запрагу,
Я ж табе, бабулька, мёду прывязу.



А ўчора бабка, а ўчора любка
На хрэсьбінах была, на хрэсьбінах была,
А сёння бабка, а сёння любка
На сняданне прыйшла, на сняданне прыйшла.
Ай, пайдзём, бабка, ай, пайдзём, любка,
У гарод пагуляць, у гарод пагуляць,
Будзем мы, бабка, будзем мы, любка,
Пахмелле праганяць, пахмелле праганяць.



«Ці ў цябе, Іванка, ячмень не ўрадзіў,
Ці ў цябе, Іванка, ячмень не ўрадзіў,
Чаму ты бабульку сваю не ўпаіў,
Чаму ты бабульку сваю не ўпаіў?»
— Урадзіў ячмень і бела пшоначка,
Урадзіў ячмень і бела пшоначка,
Наварыла піва мая жоначка,
Наварыла піва мая жоначка.



Сядзіць бабулька на куце,
Як галубачка на кусце.
«А ссадзіце яе далоў —
Ці не пойдзе яна дамоў?»
— Я й дамоўкі не пайду,
Я й на куце пасяджу,
Я й на людзей пагляджу.



Наш дзядулька, наш дзядулька
Пшанічаньку сее.
А бабулька, а бабулька
Праз тын паглядае.
А дай божа, а дай божа,
Каб пшонка ўрадзіла.
Я ж бы тады, я ж бы тады
Бабулькай хадзіла.



Наша бабулька — малімонка,
Наша бабулька — малімонка:
Не п'е гарэлкі, кажа: «Горка».
Не п'е гарэлкі, кажа: «Горка».
Унучка бабульцы падгадзіла,
Унучка бабульцы падгадзіла —
Мёдам гарэлку прысаладзіла,
Мёдам гарэлку прысаладзіла.



А госцікі — малімонкі,
Не п'юць гарэлкі, што горка.
Нашы пчолкі здагадлівы:
Паляцелі ў брод па мёд.
Пакуль яны вернуцца,
Госцікі раз'едуцца.



Да й даўно я, даўно
Ў сваёй бабкі была.
Да ўжо ж мая дарожачка
Да быллём зарасла,
Да й быллём, быллём,
Да й быліною.
Чырвонаю калінаю,
Салодкаю малінаю
Да й панавісала,
Да й панавісала.
Да я к бабцы пайду,
Ды й быллё паламлю,
А чырвоную каліну,
А салодкую маліну
Да й набок прахіну,
Да й набок прахіну.
Да я да свае бабулькі
Да я ў госці прыйду.



На вуліцы на шырокай
Мяцель замятаіць,
А й гаспадар Іваначка
Каня запрагаіць,
А Марылячка, душанька
У яго пытаіць:
«А мой любы Іваначка,
Куды ты паедзеш?»

— Марылячка, душа мая,
Паеду па бабку.—
«Бяры, бяры бабулечку
З багатае хаты,
З багатае хаты—
Не будзіць утраты».
*(Гэтак жа — пра кума і куму.)*



Каля месяца, каля месяца
Усё дробныя зоркі,
Усё дробныя зоркі.
У Іваначкі па застоллейку
Усё любыя госці,
Усё любыя госці.
Яго бабуся, яго бабуся
Гарэлачку п'ецъ,
Гарэлачку п'ецъ,
А закусваець, а закусваець
Белым сахарам,
Белым сахарам.
*(Гэтак жа — пра кума і куму.)*



Сядзіць бабулька на куце,
Як галубка на кусце.
Праганіце яе далоў,
Няхай пойдзе дамоў.
«Я за гэты куток
Палучыла ласкуток».
Сядзіць кумка на куце,
Як галубка на кусце.
Праганіце яе далоў,
Няхай пойдзе дамоў.
«Я за гэты куток
Палажыла ласкуток».
Сядзіць кумок на куце,
Як галубок на кусце.
Праганіце яго далоў,
Няхай пойдзе дамоў.
«Я за гэты куток
Палажыў ласкуток».



«Чаго ты, кумок,
Чаго, галубок,
Увесь кут заняў?»

— Я за гэты кут,
Я за гэты кут
Чырвонец аддаў.—
«Чаго ж ты, кумка,
Чаго ж ты, любка,
Увесь кут заняла?»
— Я за гэты кут,
Я за гэты кут
Прынесла адзежы скрут.—
«Чаго ж ты, бабулька,
Чаго ж ты, рыбулька,
Увесь кут заняла?»
— Я за гэты кут,
Я за гэты кут
Адрэзала ўнучцы пуп.



Цераз сенечкі, цераз новыя
І стучыць, і гручыць,
І стучыць, і гручыць.
Наш Іваначка маладзюсенькі
Па бабульку бяжыць,
Па бабульку бяжыць.
«Хадзі, бабулька, хадзі, зязюлька,
На бяседку ка мне,
На бяседку ка мне.
У мяне бяседка, у мяне бяседка
Весялюсенькая,
Весялюсенькая,
Мая бабулька, мая галубка—
Маладзюсенькая,
Маладзюсенькая».
*(Гэтак жа — куму і куме.)*



Сягоння ў нас імяніны,
Сягоння ў нас імяніны
Добрай жаны-гаспадыні,
Добрай жаны-гаспадыні.
Сягоння ў нас госці будуць,
Сягоння ў нас госці будуць,
Госці будуць траякія,
Госці будуць траякія.
Першы госці—дзед і баба,
Першы госці—дзед і баба.
Другі госці—кум з кумою,

Другі госці — кум з кумою.
Трэці госці — брат з сястрою,
Трэці госці — брат з сястрою.
Брат з сястрою — размаўляці,
Брат з сястрою — размаўляці,
Кум з кумою — пагуляці,
Кум з кумою — пагуляці.
Дзед і баба — ўся парада,
Дзед і баба — ўся парада.



А учора звячора
Бабцы просьба была,
А сягоння ранюсенька
Яна сама прыйшла.
«Не прыйшла ж я піці, есці,
А з людзьмі пасядзець,
Унучачка паглядзець».
А ўчора звячора
Кумку просьба была,
А сягоння ранюсенька
Ён і сам прыйшоў.
«Не прыйшоў я піці, есці,
А з людзьмі пасядзець,
Хрышчэйніка паглядзець».
А учора звячора
Кумцы просьба была,
А сягоння ранюсенька
Яна сама прыйшла.
«Не прыйшла я піці, есці,
А з людзьмі пасядзець,
Хрышчэйніка паглядзець».



А бабулька, пахнючая мята,
А бабулька, пахнючая мята,
Люблю цябе, што вельмі багата,
Люблю цябе, што вельмі багата.
А кумачка, чырвоная рожа,
А кумачка, чырвоная рожа,
Люблю цябе, што вельмі прыгожа,
Люблю цябе, што вельмі прыгожа.
А кумочак, сіні васілёчак,
А кумочак, сіні васілёчак,
Люблю цябе, што сеў у радочак,
Люблю цябе, што сеў у радочак.



А у нашага Іванкі
Вінаград на дварэ,
Пасадзіў ён бабусю
Ды на самым куце.
І частуе, і вяльмуе
Ён і сам для сябе,
Ён і сам для сябе
І для жоны свае,
І для жоны свае,
І для дзетак сваіх.
*(Гэтак жа — куму і куме.)*



А кум з кумачкай на куце сядзіць,
Паміж іх дваіх ручаёк бяжыць.
А ў тым ручайку а тры кубачкі:
Ў адным кубачку — саладок мядок,
Ў другім кубачку — зеляно віно,
Ў трэцім кубачку — горка гарэлка.
Саладок мядок — для бабулечкі,
Зеляно віно — то для кумачкі,
Горка гарэлка — то для кумочка.



Цераз бор сасна паваліласся,
Кума з кумам пасварылася.
А за што ж яны пасварыліся:
Ці за шышачку за яловую,
Ці за чарачку за хмялёвую?
Ні за шышачку за яловую,
Ні за чарачку за хмялёвую,
А за хрэснічка за маленькага,
А за хрэснічка за маленькага.



Сядзіць кумка на куце,
Сядзіць кумка на куце,
Як лябёдка ў гняздзе,
Як лябёдка ў гняздзе.
«А не рушце мяне,
А не рушце мяне,
Не чапайце мяне,
Не чапайце мяне:
Я й за гэты куток,

Я й за гэты куток
Палажыла ласкуток,
Палажыла ласкуток».



А ў бару сасна калыхалася
А там куманька прыбіралася,
Трымя мыламі умывалася:
Першае мыла — ды бяленькае,
Другое мыла — разавенькае,
Трэцяе мыла — ўсё чарненькае,
А бяленькае — мае матулькі,
Разавенькае — майго татулькі,
А чорненькае — майго мілога.
Ён счарніў мяне, як чарнічаньку,
Ды ссушыў мяне, як быліначку.



А ты, кумка, сорам май,
　　Сорам май, сорам май,
А на мыла рубля дай,
　　Рубля дай, рубля дай.
Хоць не рубаль — чырванец,
　　Чырванец, чырванец.
Наша ўнучка маленька,
　　Маленька, маленька,
Хоча мыцца бяленька,
　　Бяленька, бяленька.



Ішоў кум па вуліцы,
Кума — па садочку,
Ішоў кум па вуліцы,
Кума — па садочку.
«Як сыйдземся, мой кумочак,
Нап'емся мядочку,
Як сыйдземся, мой кумочак,
Нап'емся мядочку».
— Пі, кумачка, пі, любая,
Табе павялося,
Пі, кумачка, пі, любая,
Табе павялося.
А мне, маладзюсенькаму,
Жыццё не ўдалося,
А мне, маладзюсенькаму,
Жыццё не ўдалося.



На тым баку за рэчкаю
Слабодка стаіць.
Слабодачка невялічка:
Чатыры двары.
А ў дварочку — па кумочку:
Чатыры кумы.
П'юць, гуляюць малойчыкі,
За мной паслы шлюць.
Першы пасол за мной прышоў,
Не справілася.
Другі пасол за мной прышоў,
Не сабралася.
Трэці пасол за мной прышоў,
Я сабралася.
«Ай, кумачка, галубачка,
За чым бавілася:
Ці за курмі, ці за гусьмі,
Ці за лебедзямі?»
— Не за курмі, не за гусьмі,
Не за лебедзямі.
А за тою жураўкаю —
Дзіцяй малаю.
Дзіця мала, сям'я няўдала —
Забавілася.



«А шышачка хмелявая,
Веццячка да долу,
Веццячка да долу,
А бабулька, мая любка,
Едзь сабе дадому,
Едзь сабе дадому.
Ўжо з маёй дубовай бочкі
Нічога не коціцца,
Нічога не коціцца».
— Мой унучак даражэнькі,
Мне ж дамоў не хочацца,
Мне ж дамоў не хочацца.



Кладзі, бабулька, на мыла,
Кладзі, бабулька, на мыла,
Каб цябе ўнучка любіла,
Каб цябе ўнучка любіла.
Каб цябе на вулцы пазнала,

Каб цябе на вулцы пазнала,
Каб цябе бабулькай назвала,
Каб цябе бабулькай назвала.



Праныра бабка, праныра,
Праныра бабка, праныра
Каля рэчанькі хадзіла,
Каля рэчанькі хадзіла,
Зёлкі, карэнні капала,
Зёлкі, карэнні капала
І мужчынак частавала,
І мужчынак частавала.



А я ж гэту бабку,
А я ж гэту любку,
Я ж бы й бабкай не браў:
Не часта хадзіла,
Не смачна насіла
Ўсё к унучцы сваёй.
Першы раз юшку,
Другі — калатушку —
Ўсё к унучцы сваёй.
А я ж гэту бабку,
А я ж гэту любку
Я ж бы й бабкай узяў:
І часта хадзіла,
І смачна насіла
Ўсё к унучцы сваёй.
І ў суботу позна
Зарэзала козла —
Ўсё к унучцы сваёй.
А ў нядзельку рана
Зарэзала барана —
Ўсё к унучцы сваёй.



Лянівa бабка, лянівa,
Ляніцца прасіць на мыла.
Нядужа бабка, нядужа,
А ў залёты — дасужа.
Таўчы, малоць — охці мне!
А намётачку — дайце мне!
Таўчы, малоць — кох, кох, кох,
Па намётачку — скок, скок, скок!

Таўчы, малоць — ёсць сям'я,
Па намётачку — я й сама.
Таўчы, малоць — не магу,
Па намётачку — пабягу.



П'яна бабулька была,
Цераз рэчачку брыла.
На кладачку ступіла,
Куначку памачыла.
Суседка падглядзела,
Што кунка парудзела.
«Псіца, суседка, псіца —
Мая кунка, як лісіца».



Бабульчына доля ліхая,
Што яе ўнучка скупая.
Сядзіць у куточку на палочку,
Ўсё на свайго мужа маргае:
«А прымі жа ты, мужу, бутэльку,
Бо пап'е бабулька гарэлку».
А як наша бабулька пачула,
Са стала ўсе піражкі сапхнула.
«Было мяне бабкай не браці,
Было сабе лепшай шукаці».



Кацілася, кацілася
Калодачка з печы,
Калодачка з печы
Ды ўдарыла, ды ўдарыла
Бабулечку ў плечы,
Бабулечку ў плечы.
«Хай бы мяне, хай бы мяне
Калодачка ўбіла,
Калодачка ўбіла,
Абы мяне, абы мяне
Ўнучачка любіла,
Ўнучачка любіла».



Бабуля к унучцы сабіралася,
Цэлую нядзелю гатавалася:
У панядзелак у млын ездзіла,

У аўторак з млыну прывезла;
А у сераду — муку сеяла,
А у сераду — муку сеяла;
А у чацвер — дзяжу учыняла,
А у чацвер — дзяжу учыняла;
А у пятніцу — дзяжу мясіла,
А у пятніцу — дзяжу мясіла;
А у суботу — ў печ садзіла,
А у суботу — ў печ садзіла:
А ў нядзелю — з печы выняла,
А у нядзелю — з печы выняла,
Да ў нядзелю на хрэсьбінкі пайшла.
«А унучачка, мая душачка,
А унучачка, мая душачка,
Паспытай жа майго піражка,
Паспытай жа майго піражка.
А мой піражок — ды сыр з маслам».
Як разрэзалі да бабулін пірог —
А не сыр з маслам, а цялё з хвастом.
«А унучачка, мая душачка:
Пры лучыначцы дзяжу мясіла,
А лучыначка ды пагасілася —
І цялё з хвастом умясілася,
І пастух з бічом, і свіння з лычом».



За што цябе, Валодзечка,
Гэтак бог пакараў,
Гэтак бог пакараў,
Што такую ты абжору
За бабулечку ўзяў,
За бабулечку ўзяў?
Пасадзіў ты бабулечку
Ды на самым куце,
Ды на самым куце —
Дык булачкі-сухарчыкі,
Як мятлою, мяце,
Як мятлою, мяце.
А йшчэ глядзіць, ці далёка
Яе дзедка сядзіць,
Яе дзедка сядзіць.
Яна ж яму, яна ж яму
Ціхенька міргае,
Ціхенька міргае
Ды булачкі-сухарчыкі
У кішэню пхае,
У кішэню пхае.

«Нясі, нясі гасцінчыкі,
Мой дзядочак, дамоў,
Мой дзядочак, дамоў,
Заўтра будзе, заўтра будзе
Нам паснедаць з табой,
Нам паснедаць з табой».



Бабка к унучцы,
Бабка к унучцы
Баразёнкай ішла,
Баразёнкай ішла.
Бабка ўнучцы,
Бабка ўнучцы
Тры гурочкі нясла,
Тры гурочкі нясла.
«На табе, унучка,
На табе, унучка,
Тры гурочкі мае,
Тры гурочкі мае,
Каб не балелі,
Каб не балелі
Жываточкі твае,
Жываточкі твае».



А было у бабкі,
А было у любкі
Ды дванаццаць бычкоў,
Ды дванаццаць бычкоў.
Прыехала к бабцы,
Прыехала к любцы
Ды дванаццаць купцоў,
Ды дванаццаць купцоў.
«Прадай жа нам, бабка,
Прадай жа нам, любка,
Ды дванаццаць бычкоў,
Ды дванаццаць бычкоў».
— А ў мяне ёсць рабы,
Возіць мяне ў бабы.
Я ж таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
А ў мяне ёсць гнеды,
Возіць ззаду дзеда.
Я й таго не прадам,
Нізавошта не аддам.

А ў мяне ёсць лысы,
Возіць за мной місы.
І таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
І ёсць пераплесы,
Возіць перапечы.
І таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць бычок падласы,
Возіць мне каўбасы.
І таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць і ганаровы,
Возіць дамоў дровы.
І таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць яшчэ і рыжы,
Да работы хіжы.
Я й таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць у мяне й чорны,
Ён мне круціць жорны.
Я й таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць у мяне буры,
Ён пасецъ мне куры.
Я й таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць у мяне шэры,
Піша мне паперы.
Я й таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць у мяне крутарог,
Вядзе п'яных за парог.
Я й таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
Ёсць у мяне белы
На ўсякія дзелы.
Я й таго не прадам,
Нізавошта не аддам.
І ўсіх іх не прадам,
Нізавошта не аддам.



Бабулька мая гордая,
Парадзіха твая лёгкая.
Вот табе, бабулечка,

Гарнец мёду,
Каб было, бабулечка,
Харашо пры роду.
Вот табе, бабулечка,
Гарнец гарэлкі.
Зрабі мне, бабулечка,
Каб было неспадзеўкі.
Вот табе, бабулечка,
Гарнец маку.
Зрабі мне, бабулечка,
Каб не было й знаку.



Не гневайся, бабка, лябёдка,
Што наша намётка каротка.
Мы пасеем лён над крыніцай,
Запахаем лён хоць курыцай.
І вытчэм намётку даўгую,
І накрыем бабку старую.



«Ці ведаеш, бабка,
Ці ведаеш, любка,
За што мядку бярэш?
Ці хадзіла часта,
Ці насіла смачна
Да унучкі сваей?»
— Я хадзіла часта,
Я насіла смачна
Да унучкі сваей.
А насіла блінкі,
Каб раджала сынкі,
А насіла клёцкі,
Каб раджала дочкі,
Насіла аладкі,
Каб быў унук гладкі.
А хадзіла хараша
Да унучкі сваей,
Прынасіла карася
Да унучкі сваей.



Спілася бабка, спілася,
Пад загнетам звілася.
Шышы-мышы шалелі,
Хвартух бабе праелі.

Стала бабка плакаць,
Няма чым залапіць.
Залапілі лубам —
Стаіць хвартух дубам.
Залапілі шкуратом —
Крычыць баба жыватом.
Як залапілі аўчынкай —
Стала баба дзяўчынкай.



А хто ў нас паміж нас
Да пахмурна сядзіць?
Бабулечка, галубачка
Да пахмурна сядзіць,
А пайдзеце, прынясеце
Хоць гарэлкі кварту,
Ці не будзе, ці не будзе
І з бабулькі жарту?
*(Гэтак жа — пра кума і куму.)*



Сядзіць бабка на куце,
Сядзіць бабка на куце,
Гасцінчык у кішане,
Гасцінчык у кішане.
Ён з кішэні точыцца,
Ён з кішэні точыцца,
А нам яго хочыцца,
А нам яго хочыцца.
А ёй даць нам маркотна,
А ёй даць нам маркотна,
А нам яго ўзяць ахвотна,
А нам яго ўзяць ахвотна.
А яна дае плачучы,
А яна дае плачучы,
А мы бяром скачучы,
А мы бяром скачучы.
*(Гэтак жа — пра кума і куму.)*



Кукавала зязюля
У зялёным лузе.
Яна кукавала,
Праўду казала:
«На бабулі кашуля —
Сем сот каштуе.

Ці не бог ёй даў?
Ці не цар дараваў?
А на куму штаны—
Дык няма ім цаны.
Ці не бог яму даў?
Ці не цар дараваў?
Яго татка багат,
Ён яму спраўляе.
Штонядзельку насіць
І за кумочка хадзіць».



Дождж ідзе, з стрэх цячэ
На бабуліну хату,
На бабуліну хату.
Пакідай, бабуля, піць, гуляць,
Ідзі жаці мяту,
Ўкрывай сваю хату.
Дождж ідзе, з стрэх цячэ
На кумавы сені,
На кумавы сені.
Пакідай, кум, піць, гуляць,
Ідзі касіць сена,
Ўкрывай свае сені.
Дождж ідзе, з стрэх цячэ
На куміну ложу,
На куміну ложу.
Пакідай, кума, піць, гуляць,
Ідзі жаці рожу,
Ўкрывай сваю ложу.



А ў бару шум, шум,
«А хто ж ездзіць?»
— Кум, кум!—
«А што вязець?»
— Каплуны.—
«А для каго?»
— Для кумы.—
Ці каплуны есці,
Ці да кумкі сесці?
А кум кумку любіў,
Чаравічкі купіў!
І купіў, і надзеў,
І на ножку паглядзеў.
«Ой, кума, ой, душа,
Ты кругом хараша!»



Ой, кум ідзець па вуліцы,
Кума па гароду.
Ой, кум нясе кусок сала,
Кума скавароду.
«Ай, кумачка, галубачка,
Гатуй мне яешню».
— Ай, кумочак, галубочак,
Каб не было смешна.—
«Ай, кумачка, галубачка,
Не бойся ты смеху».
— Ай, кумочак, галубочак,
Каб не было грэху.



Кум ішоў па вуліцы,
Кума па гароду.
Кум у кумы пытаецца,
Адкуль яна родам.
Кума родам з Украіны,
А кум з Беларусі.
Зляцеліся — з'ехаліся,
Як шэрыя гусі.



А што ў нас ды за цуда выходзіць?
А кум к куме ды ўпоўнач прыходзіць.
А прыйшоўшы — стук, бразь у аконца.
«Адчыні, мая кумачка, любка».
— Цяжка мне з белай ложы ўставаці.—
«Цяжка мне пад аконцам стаяці:
Ножачкі мае к марозу прымерзлі,
Вусенкі мае к аконцу прысталі,
Вочачкі мае на кумку паглядалі».



А кумочак, галубочак,
Гарэлачку смокча,
Гарэлачку смокча,
А кумачка, галубачка,
Ў пярыначках квокча,
Ў пярыначках квокча:
«Ой, кумочак, галубочак,
Маё маляванне,
Маё маляванне,

Чаго ж цябе не відаці
Праз цэлае ранне,
Праз цэлае ранне?»



Ай, кум куме рад,
Павёў куму ў сад.
Пасадзіў куму
Ў садзе на суку.
«Сядзі, кумачка,
Ты галубачка,
Покуль я прыду,
Мёду прынясу».
Сядзіць кума дзень,
Сядзіць і другі.
«Ні кума майго,
Ні мёду яго».



А як кум з кумой
Цераз тын жылі,
Цераз тын жылі
Дый не зналіся.
Як пазналіся —
Прывіталіся.
А кума куму —
Жох! пірог на стол.
«Ой, кума, кума,
Твой пірог з хвастом!»
— Я, маладзенька,
Тарапілася:
I цяля з хвастом
Умясілася.



Кум хадзіў па саду,
Кума — па гароду.
Як сышліся яны разам —
Напіліся мёду.
Кум прапіў грош, грош,
А кума — капейку,
Кум плакаў год, год,
А кума — нядзельку.



Кланялася кума куму
У самыя грудцы.
«Дзякуй табе, мой кумочак,
Што звазіў у людцы».
Кланялася кума куму
У самыя пяткі.
«Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз да хаткі».
Кланялася кума куму
У самыя ножкі.
«Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз з дарожкі».



Запражыце, закладзіце
Залатую дугу,
Залатую дугу.
Адвязіце, адвязіце
Маладую куму,
Маладую куму.
Яна ж у нас, яна ж у нас
Ўсю гарэлку пап'е,
Ўсю гарэлку пап'е,
Астатачкі, паследачкі
У кішэньку салье,
У кішэньку салье.



Кума з кумам дый павадзілася,
Ўлезла ў печ — у сажу ўмазалася.
«Кумусенька, галубусенька,
А памыйся ж ты бялюсенька.
А я й з кумой на базар пайду,
А я й куме сарафан куплю».
— Я за кумаву выгодачку
Абстрыгу сваю лябёдачку,
І звалю куму валёначку,
І надзену на галовачку.
Насі яе ў васкрасеннейка —
То ў хрэсьбіны, то ў вяселлейка.



А кум куму, а кум куму
У садочак кліча.
«Ой, кумочак, галубочак,
Я саду баюся.

Бо у садзе снегу многа —
Я там памачуся».
— Кумка мая маладая,
Я вытапчу сцежку.
Пойдзем, кумка, пойдзем, любка,
Хаця на пацешку.



Кум сваёй кумцы,
Сваёй прыяцельцы
Каробачку шые.
«Каб мая кумка,
Каб мая любка
Па ягады вышла.
Якія салодкі,
Якія салодкі —
То для цябе, кумка,
А якія горкі,
А якія горкі —
То для маёй жонкі».



Ой, учора, мае кумочкі,
У нас радзінкі былі,
А сягоння, мае кумочкі,
Мы на хрэсьбінкі прыйшлі.
Не шкадуйце, мае кумочкі,
Па рубельчыку даць,
То мы будзем, мае кумочкі,
Да аўторка гуляць.
Не шкадуйце, мае кумочкі,
Па каровачцы даць,
То мы будзем, мае кумочкі,
Ўсю нядзельку гуляць.



Столікі мае засланыя,
Госцейкі мае зазваныя,
Калі я з вамі сыдуся,
Гарэлачкі з мядком нап'юся.
Ой, вып'ю, вып'ю чарачку да дна
Ды паслухаю ў садзе салаўя.
У таго салаўя песенька адна,
А ў мяне, маладой, сястрыца адна.
Ой, адна, адна — ў гасцях не была.

Ой, як бы яна ды пабывала,
Ой, як бы яна ды пабывала,
Чым бы я яе пачаставала?
Чаго б не было — пашла б на сяло,
Чаго б не стала — пашла б, дастала,
Я б цябе, сястрыца, да пачаставала.



Зялёная траўка-мураўка,
Любы гасцёк у мяне — свякроўка.
Зялёную траўку касіла,
Любую свякроў прыгласіла.
Сушоную траўку складала,
Ўсю сваю радзінку пазвала.



Пайду я, пайду я вобак ракою,
Сарву я красачку правай рукою.
Каб гэта красачка ў руцэ звяла,
Я гэтых хрэсьбінак тры гады ждала.
Тры гады, тры гады, тры нядзелечкі,
Даждала хрэсьбінак неўспадзевачкі.



А на моры красівым
Жана мужа прасіла:
«Мілюсенькі мой,
Паедзім дамоў.
Нашы конікі стаяць,
Яны есційкі хацяць,
Мілюсенькі мой,
Паедзім дамоў».
— А нашто нам конікі?
Перад намі столікі.
Болей пасядзім —
Дзіва паглядзім.



Ой, коціцца чарачка
З пакуту ў канец.
А хто гэту чарачку
Віномналіець?
А хто гэту чарачку
Віном наліець,

Той з сваёю жонкаю
Хараша жывець.
Брацітка мой чарачку
Віном наліець.
Ён са сваей жонкаю
Хараша жывець.
Ой, хараша, хараша,
Харашусенька,
Ўся яго радзінка
Весялюсенька.



Хто ў цябе, Юзічка, гарэлку папіў?
Хто ў цябе, Юзічка, гарэлку папіў?
Я ж у цябе, Юзічка, не каштавала,
Я ж у цябе, Юзічка, не каштавала.
Папілі гарэлку суседзі твае,
Папілі гарэлку суседзі твае,
І вышлі на вулку судзіць аб табе,
І вышлі на вулку судзіць аб табе.



Ой, я ўчора сувячора
На радзінках была,
На радзінках была.
А сягоння ранюсенька
На хрысцінкі прыйшла,
На хрысцінкі прыйшла.
Добрыя людзі-суседзі
Упаілі мяне,
Упаілі мяне.
Пад вішанькай, пад чарэшанькай
Спаць паклалі мяне,
Спаць паклалі мяне.
Ой, вішанька, чарэшанька,
Не шумі нада мной,
Не шумі нада мной.
Мой міленькі, чарнабровенькі,
Не журы маладой,
Не журы маладой.
Ой, вішанька, чарэшанька
Як шуміць, дык шуміць.
Як шуміць, дык шуміць,
Мой міленькі, чарнабровенькі
Як журыць, дык журыць,
Як журыць, дык журыць.



І чарачка мала,
І гарэлкі няма.
Гнула, гнула — не цячэ,
Толькі сэрца пячэ.
Гарэлачка, гарэлачка,
Мая весялуха,
Як не вып'ю цябе,
Бярэ мяне скруха.



Ой, ты, брацец мой,
Я — сястра твая.
Не пазваў мяне —
Я й сама прыйшла.
Я й сама прыйшла,
На куце села,
На куце села,
Песні запела.
Ой, людзі кажуць:
Пасялушачка,
Я ў свайго брата —
Весялушачка.
Ой, людзі кажуць,
Па сялу хаджу,
Я ў свайго брата
На куце сяджу.



А ўпілася на мяду,
Я й дамоўкі не зайду.
Ёсць у мяне маладзец,
Ён дамоўкі завядзець.
Пасцелечку пасцеліць
І спатачкі паложыць,
Кажушочкам накрыіць,
Правай ручкай абніміць.



Манячка па саду хадзіла,
Свайго Іванку будзіла:
«Уставай, Іванка міленькі,
Пойдзем мы ў сад зеляненькі
Ды зловім мы птушку-трапятушку.
Прынясём яе мы дахаты —

Яна ж будзе нам шчабятаці,
Каб мы, маладыя, не заспалі,
Каб людзі аб нас не гукалі».



У гародзе макоўка цвіцела,
У Арынкі галоўка балела,
Заморскага зеллейка хацела.
Каго, каго паслаць па зеллейка?
Пашлём, пашлём мы брацейку яе.
Братка кажэць: «Коніка не маю,
Яшчэ к таму зеллейка не знаю».
Пашлём, пашлём Мікалайку яе.
А ён кажэць: «Я коніка маю,
Яшчэ к таму я зеллейка знаю».



Ой, два дубы, ой, два дубы
Ды зялёныя стаяць.
А два браты, а два браты
Ды на хрэсьбінках сядзяць.
П'юць, гавораць, п'юць, гавораць
Аб жаніцьбачку сваю.
«Не ўдалася, не ўдалася,
Брат, жаніцьбачка мая.
А ўдалася, а ўдалася
Мая п'яніца-жана.
А пойдзем, брат, а пойдзем, брат,
Мы да добрых кавалёў,
А скуём, брат, а скуём, брат,
Ваструсенькі тапары.
А пойдзем, брат, а пойдзем, брат,
Мы у цёмныя бары.
А ссячом мы, а звалім мы
Ды горкую асіну.
А скуём мы, а зробім мы
Маляваненькі чаўнок.
А ўложым мы, а ўложым мы
Маю п'яную жану.
А пусцім мы, а пусцім мы
Да на быструю раку.
Самі глянем, самі глянем
Мы пад ясную гару:
Ці высока, ці высока
Ясна зорачка ўзышла,
Ці далёка, ці далёка

Мая жана адплыла.
А скаціся, а зваліся,
Ясна зорачка, далоў.
А вярніся, а вярніся,
Мая жоначка, дамоў».
— Не скачуся, не звалюся,
Ясна зорачка, далоў.
Не вярнуся, не вярнуся,
Бо я п'яніца, дамоў.



Я ў хрэсьбінкі паманілася,
Цэлы тыдзень сабіралася:
Ў панядзелак — у печы паліла,
У аўторак — пшаніцу сушыла,
У сераду — таўкла і малола,
А ў чацвер — у печы паліла,
У печы паліла, вадзіцу грэла,
А ў пятнічку — пірог учыняла,
А ў суботку — чуць на зорачку — мясіла.
А лучынка пагасілася —
Цяля з хвастом умясілася,
І парсюк з лычом,
І пастух з бучом.
Як сталі пірог мой кроіць,
Дык цяля мычыць,
А парсюк квічыць,
А пастух крычыць.



А на гарэ дуб незялёны,
А на куце люд невясёлы.
А ў нізіне дуб зелянейшы,
А ў парозе люд весялейшы.
А на куце бабкі-кітайкі,
Выпіваюць поўныя чаркі.
А ў парозе бабкі-справядліўкі,
Выпіваюць чаркі палавінкі.



Пайду я, пайду я
З начы-поўначы,
Знайду я, знайду я
Салаўя ў карчы.
«Салавей, салавей,

Скажы мне праўду:
А дзе я, а дзе я
Мілога знайду?
Ці ў сыце, ці ў мядзе,
Ці ў гарэлачцы,
Ці ў новай каморы
На пасцелячцы?»
— Ні ў сыце, ні ў мядзе,
Ні ў гарэлачцы,
А з другой міленькай
На пасцелячцы.



А добра ж нам, добра
За сталом сядзець,
А як наш Іванка
Парадкі вядзець:
Па поўнай бутэльцы
Гарэлкі нясець.
А добра ж нам, добра
За сталом сядзець,
Як наша Марылька
Парадкі вядзець:
Па поўнай талерачцы
Сыру падаець.
А мы п'ём і гуляем
І добрыя мыслі маем.



Ешце, госці, карміцеся,
Ешце, госці, карміцеся,
Ў адно месца кладзіцеся,
Ў адно месца кладзіцеся.
На чужое не гальцеся,
На чужое не гальцеся.
Паб'юць бакі — не жальцеся,
Паб'юць бакі — не жальцеся.



Ляцела сава з-пад Барысава,
Шуры-буры, з-пад Барысава.
Ляцела сава ды на хрэсьбінкі,
Шуры-буры, ды на хрэсьбінкі.
А села сава ды на парозе,
Шуры-буры, ды на парозе.

Гаспадар ідзець па гарэлачку,
    Шуры-буры, па гарэлачку.
Гаспадар саву а ўсё ў галаву,
    Шуры-буры, а ўсё ў галаву.
А села сава ды на прыпечку,
    Шуры-буры, ды на прыпечку.
Іграла сава а ўсё ў скрыпачку,
    Шуры-буры, а ўсё ў скрыпачку.



А у нашай Кацярынушкі
То хрэсьбіны, то радзінушкі.
Ой, на печы каравай месяць,
Сярод хаты калыбель весяць.
Жана мужу не прызналася:
Само дзіця завязалася.
Яна яму на злосць, на злосць
Накрухмаліла фартух, як тросць.
І ўсё кажа: «Буду дочкі вясці,
Каб цябе ды з гаспадаркі звясці».



Дзякуй богу, што з родам сышлася,
Гарэлачкі з мёдам напілася.
Дзякуй богу, што мой мужык добры,
Што ён мяне не б'е, не карае,
Што ён мяне за галубку мае.
«Гуляй, гуляй, мая чарнаброва,
Пакуль мая галоўка здарова.
Бо як мая галоўка схінецца,
Тады тваё гулянне мінецца».



А вы, столікі мае,
Вы, цясовыя мае,
А чаго ж вы стаіцё
Незасланыя ў мяне?
Ах, вы, госцейкі мае,
Ах, вы, любыя мае,
А чаго ж вы седзіцё
Невясёлыя ў мяне?
Ці мой хлеб непушон?
Ці мой хмель нехмялён?
Калі хлеб непушон,

Будзем яго пушыць,
Калі хмель нехмялён,
Будзем яго хмяліць.



А ў майго суседа
Добрая бяседа.
І сама не іду,
І па мяне не шлюць.
А мой ты міленькі,
Ці ведаеш тое:
Парадзімся з табой
І пойдзем абое.
А мой ты міленькі,
Хаця не ўпівайся,
На чужыя жонкі
Ты не заглядайся.
Бо чужыя жонкі,
Як асінкі, горкі,
Свая маладзенька
Ад усіх міленька.



А ў цёмным лесе сава кугічыць,
Ой, люлі, люлі, сава кугічыць.
З добрай бяседы муж жонку клічыць,
Ой, люлі, люлі, муж жонку клічыць:
«А жонка, жонка, ідзі дадому,
Ой, люлі, люлі, ідзі дадому.
Не паказвай лічка свайго нікому,
Ой, люлі, люлі, свайго нікому.
Тваё лічанька бела, румяна,
Ой, люлі, люлі, бела, румяна.
Бела, румяна — мальцам спадмана,
Ой, люлі, люлі, мальцам спадмана».
— А ты, міленькі, ты невярненькі,
Ой, люлі, люлі, ты невярненькі.
Едзь на таржочак, купі званочак,
Ой, люлі, люлі, купі званочак.
Павесь званочак на падалочак,
Ой, люлі, люлі, на падалочак.
Дзе буду гуляці, будзіць чуваці,
Ой, люлі, люлі, будзіць чуваці.
Як хто затроніць, званок зазвоніць,
Ой, люлі, люлі, званок зазвоніць.
А ты пачуеш — мяне ўратуеш,
Ой, люлі, люлі, мяне ўратуеш.



А жана мужа ды зневярала,
Ой, люлі, люлі, ды зневярала.
Павяла ў поле ды прывязала,
Ой, люлі, люлі, ды прывязала
К белай бярозе, ды пры дарозе,
Ой, люлі, люлі, ды пры дарозе.
Ды паставіла вадзіцы рашку,
Ой, люлі, люлі, вадзіцы рашку.
Вадзіцы рашку і сена вязку,
Ой, люлі, люлі, і сена вязку.
«Во табе, мілы, гэта за тое,
Ой, люлі, люлі, гэта за тое,
Не хадзі, мілы, да чужых жонак,
Ой, люлі, люлі, да чужых жонак».



Я ў піру была — не ўпівалася,
Я й дамоў ішла — не валялася.
А ў вароцечках нахілілася —
Нахілілася й павалілася.
А мой міленькі у акне стаіць,
У акне стаіць, на мяне глядзіць.
«А чаго ж, жана, упівалася,
На каго ж, жана, спадзявалася?
Ці на свёкарку, ці на свякроўку,
Ці на дзевера, ці на залоўку».
— Праз цябе, мілы, упівалася,
На цябе, мілы, спадзявалася.



«Мамулька мая, галоўка баліць».
— Дачушка мая, абвяжы платком. —
«Мамулька мая, платок па раток».
— Дачушка мая, падвяжы другі. —
«Мамулька мая, другі дарагі.
Мамулька мая, жыватом баліць».
— Дачушка мая, лезь на печ, пагрэй. —
«Мамулька мая, там дзіця ляжыць».
— А скажы, шэльма, дзе яго брала? —
«Мамулька мая, мне сястра дала».
— А не лжы, шэльма, сястра малая. —
«Мая мамулька, мне цётка дала».
— А не лжы, шэльма, цётка старая. —
«Мамулька мая, я ў грыбы пайшла,
Я ў грыбы пайшла — і ў бару найшла».

— А скажы, шэльма, нашто ты брала? —
«Мамулька мая, сільна плакала,
Сільна плакала, мне жалка стала».



Прасілі хоху у хрысцінушкі,
Хоху, хоху, у хрысцінушкі.
Не мела хоха хвартушыначкі,
Хоха, хоха, хвартушыначкі.
А пайшла хоха да суседачкі,
Хоха, хоха, да суседачкі
А папрасіці хвартушыначкі,
Хоха, хоха, хвартушыначкі.
«А як я прала — ты вандравала,
Хоха, хоха, ты вандравала.
А як я ткала — ты позна спала,
Хоха, хоха, ты позна спала.
Як я бяліла — ты ножкі мыла,
Хоха, хоха, ты ножкі мыла.
Як я пашыла — ты папрасіла,
Хоха, хоха, ты папрасіла».
А пайшла хоха на лужыначку,
Хоха, хоха, на лужыначку.
Вырвала хоха лапушыначку,
Хоха, хоха, лапушыначку.
Пашыла хоха хвартушыначку,
Хоха, хоха, хвартушыначку.
І пашла хоха у хрысцінушкі,
Хоха, хоха, у хрысцінушкі.
І ўзялі хоху ў шалёны танец,
Хоху, хоху ў шалёны танец.
Стала хвартушыначка разлазіціся,
Хоха, хоха, разлазіціся.
Пачалі ўсе госцікі разбягаціся,
Хоха, хоха, разбягаціся.
Толькі адзін гаспадар прызастаўся,
Хоха, хоха, прызастаўся,
Ды і той за ступу схаваўся,
Хоха, хоха, схаваўся.



Час дадому, час,
Час да ўжо даўно.
Будзе мяне мілы біці,
Няма каму бараніці,
Час дадому, час.

Я дадому йду,
Як пчолка гуду,
Да й за мною, маладою,
Едуць хлопцы чарадою,
Барабаны б'юць.
«Да й міленькі мой,
Адчыні мне двор.
Ідзе твая міленькая,
Яна трошкі п'яненькая,
Да ці рад ты ёй?»
— Як я ёй не рад,
Калі з яе лад.
Парадзіла мне сыночка,
Пасадзіла, як дубочка —
Будзе ў хаце лад.



За лес, за лес сонца коціцца,
Уся бяседачка расходзіцца,
Мамка мая дамоў строіцца.
Я ж, малада, правадзіць пайду
Праз два полі, праз два чыстыя,
Праз тры рэчкі беражыстыя.
«Ты, свякроўка, мая матачка,
Калышы маё дзіцятачка».
— А чорт яго накалышыцца —
Трое, двое у калысачцы.



Дадому, любыя госці, дадому,
Вы нам ужо, госцікі, надаелі:
Дзве печы пшоннага хлеба з'елі,
Тры купы гарэлачкі выпілі.





## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

Вясельныя песні складаюць самы значны і самы багаты раздзел у традыцыйнай народнай лірыцы беларусаў. Спяваліся яны на розных этапах вясельнага рытуалу, які быў даволі складаны і ўяўляў сабой вялікае, разлічанае на многа дзён, народнае «прадстаўленне». Асноўныя з гэтых этапаў у Беларусі называліся так: сватанне, або іначай агледзіны, малая гарэлка, барыш; заручыны, або іначай запоіны, змовіны, вялікая гарэлка; пячэнне караваю; суборная субота, або іначай дзявочы вечар, паненскі вечар, вечарынка, вянок; пасад з пастрыганнем і бласлаўленнем маладых бацькамі; шлюбавіны, або вянец—з банкетаваннем у доме бацькоў нявесты; пераезд маладой у дом маладога, дзе таксама адбываўся вясельны банкет; нарэшце—пярэзвы, або перазовы, якімі і завяршалася вяселле. На кожным этапе спяваліся адпаведныя песні, якія мелі свой адметны змест і характар. У многіх з іх яшчэ выразна ўлоўліваецца абрадава-магічны сэнс, але пераважная большасць іх прадстаўляе сабой звычайную бытавую лірыку.

У беларускіх вясельных песнях адлюстраваны асаблівасці развіцця шлюбных і сямейных адносін на працягу стагоддзяў. Найбольш даўнія з іх захавалі сляды такіх старажытных форм шлюбу, як «умыканне» («захоп») і купля-продаж нявесты. У пазнейшых песнях засведчана ўступленне ў шлюб па згодзе — але не столькі па згодзе маладых, колькі па дамоўленасці бацькоў. У сялянскім побыце на шлюб нярэдка глядзелі як на гаспадарчую неабходнасць, а на нявестку—як на новага работніка ў сям'і.

Клопатам пра чалавечае шчасце маладой сям'і прасякнуты ўсе вясельныя песні заклінальнага характару. Пажаданні, што выказваліся ў гэтых песнях, мелі магічнае значэнне: яны павінны былі паспрыяць дабрабыту маладых, іх узаемнай ласцы і душэўнай згодзе,

засцерагчы ад бяздзетнасці і г. д. Магічны характар вясельных заклінанняў добра бачны на прыкладзе песень каравайных. Каравай сімвалізаваў багацце і дастатак, што ўсведамлялася як аснова сямейнага шчасця.

Больш, чым заклінальных, захавалася даўніх вясельных песень велічальнага характару. Асабліва многа іх сярод песень, прысвечаных удзельнікам вясельнага абраду, перш за ўсё—маладому і маладой. Паэтызуюцца не толькі ўдзельнікі вяселля, але і тыя абставіны, у якіх яно адбываецца, інача́й сказаць — тыя ўмовы, якія характарызуюць сацыяльнае становішча маладых. Зразумела, што ў гэтых велічаннях ніякай канкрэтна-гістарычнай праўды жыцця няма: рэальны быт селяніна ідэалізуецца ў іх у адпаведнасці з патрабаваннямі фальклорна-паэтычнай традыцыі.

Па колькасці на першым месцы сярод вясельных стаяць рэалістычна-праўдзівыя песні пра думкі і пачуцці маладой — цэнтральнай фігуры ўсяго вясельнага рытуалу. Гэта—песні элегічнага складу, якія раскрываюць самыя розныя перажыванні вясковай дзяўчыны на крутым пераломе лёсу. Іх асноўныя матывы—развітанне маладой з бацькоўскім домам і дзявочай воляй, прадчуванне гаротнага жыцця замужам, нараканні на бацькоў і г. д. У гэтых песнях многа смутку і горычы. Асабліва жаласнымі былі песні нявесты-сіраты.

Але ні адно вяселле не абыходзілася і без песень вясёлых, жартоўных. Увогуле пачуццё гумару — адна з выдатных рыс нацыянальнага характару беларусаў. У свой час рускі фалькларыст А. Занкевіч заўважыў: «Песень жартоўнага зместу ў беларусаў даволі многа, куды больш, чым у вялікарусаў». Адзін з характэрных прыёмаў, якім дасягаўся ў вясельных песнях камічны эфект, было так званае «парадыйнае велічанне». Па форме ў такіх «велічаннях» нібыта ўслаўляліся і сват, і дружка, і малады і іншыя ўдзельнікі вясельнага прадстаўлення, а па сутнасці—вельмі дасціпна і трапна, хаця і дабрадушна, высмейваліся.



Ой, як жа вячора даждаці?
Пойдуць людзі дзяўчыну сватаці,
Пойдуць людзі дзяўчыну сватаці,
А я пайду пад вокны слухаці,
А я пайду пад вокны слухаці,
Ды й што будзе дзяўчына казаці.
Дзеўка ходзіць ды ўсё пахаджае,
Белы ручкі да сэрца складае.
«Маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь, маці, што свату казаці,
Парадзь, маці, што свату казаці:
Ці ісці замуж, ці з год пагуляці?»
— Ой, раджу я табе, не параджу —
Яшчэ з год на цябе я пагляджу,
Але ж, донька, галоўку ты маеш,
Сама бачыш, каго выбіраеш.



Суборная субота настае,
Манечка дружыну збірае,
Збірае дружачак, збірае
І кругом століка саджае.
Сама малодзенька між усіх,
Скланіла галоўку ніжай усіх.
«Ці вы мне галоўку звяжыце,
Ці вы мне малойца прышліце».
Звязалі галоўку платочкам,
Прыслалі малойца з цвяточкам.
Ой, плача Манечка, ой, плача,
Ад мамкі выходзіць не хоча.
Бо ў мамкі парогі нізенько,
Бо ў мамкі па воду блізенько.
Ў свякроўкі парогі высоко,
Ў свякроўкі вадзіца далёко.
У мамкі па воду цераз тын,
У свякроўкі па воду за сем міль.



Суборная суботачка настае,
Маладая Настачка вянкі ўе.
А ўе, ўе вянкі і ўздыхае.
«Чаго, Настачка, цяжка ўздыхаеш?
На каго, Настачка, жаль маеш?»
— А маю жаль я на усіх,
На родную мамку — больш за ўсіх,
Што аддае замуж маладу —

Як белы камень у ваду.
Як белы камень утоне —
Тады мяне мамачка ўспомне.



Суборная суботачка настала,
Настачка ўсіх дзевачак сабрала.
А сабраўшы, за столічак саджала,
А седзячы, работачку давала.
«Садзіцеся, мае дзевачкі, ў радочак,
А звіце мне з руты-мяты вяночак.
Сабе звілі з руты-мяты, з лілеі,
А мне, маладой, — з калючага яленцу.
Яленец коле, галоўку клоне да зямлі».
— А пакланіся, Настачка, усёй радні,
А пакланіся татку з мамкай найніжэй,
Яны ў цябе за ўсю радзімачку даражэй.



Бяроза з лістом, бяроза з лістом
Усю восень шумела:
«Лісточак жа мой, зялёненькі мой,
Ты ж мяне пакідаеш».
— Нябось, бяроза, нябось, белая,
Я цябе не пакіну.
Увосень ападу, вясной нарасту
І з табою буду! —
Ой, маці з дачкой, ой, маці з дачкой
Усю ноч гаварыла:
«Дачушка мая, родная мая,
Ты ж мяне пакідаеш».
— Нябось, мамачка, нябось, родная,
Я цябе не пакіну.
Сёння паеду, заўтра прыеду
І ў цябе госцяй буду. —
«Дачушка мая, родная мая,
Няпраўду гаворыш.
Сёння паедзеш — у год прыедзеш,
У мяне госцяй будзеш».



Зялёненькі вінаград,
Зялёненькі вінаград
Удаўся дзеўкам на пагляд,
Удаўся дзеўкам на пагляд.

Пайшлі дзеўкі глядзеці,
Пайшлі дзеўкі глядзеці.
«А дзе ж цябе садзіці,
А дзе ж цябе садзіці?
Ці ў гародзе на лясе,
Ці ў гародзе на лясе?
Ці ў капуснай баразне,
Ці ў капуснай баразне?»
— Дзе хочаце, садзіце,
Дзе хочаце, садзіце,
Толькі лісця не трыце,
Толькі лісця не трыце.—
«Маладая Насцечка,
Маладая Насцечка,
А дзе ж цябе садзіці,
А дзе ж цябе садзіці?
Ці ў татулькі на куце,
Ці ў татулькі на куце?
Ці ў Іванькі на руцэ,
Ці ў Іванькі на руцэ?»
— Дзе хочаце, садзіце,
Дзе хочаце, садзіце,
Толькі вянка не мніце,
Толькі вянка не мніце.



«Чым ты, розачка, ў садочку адна?»
— Ой, я не адна, ой, я не сама:
Сколькі красачак — ўсе каля мяне,
Толькі няма адной — расчот-барвінку.—
«Чым ты, дзевачка, ў мамачкі адна?»
— Ой, я не адна, ой, я не сама:
Сколькі дзевачак — ўсе каля мяне,
Толькі няма аднаго — майго любага.



Прыехалі заручнічкі
Без скрыпкі, без дудачкі.
Што яны іграць будуць?
Каго яны заручаць будуць?
Каго яны заручаць будуць?
Няма Кацярынкі дома:
Пагнала валы пасці.
Пагнала валы ў бары,
Пасучы — пагубляла,
Ішчучы — заблудзіла.

Прыблудзіла к сеці—
К свякраткавай клеці.
«Тут мае бычкі равуць,
Тут мне дзевачкі пяюць,
Тут мне жыці, быці,
Галоўку палажыці».



Борам, лугам блудзілі,
Свой пярсцёнак згубілі.
Сем вёрст прахадзілі,
Хадзілі, шукалі—другі паднялі.
Прыйшлі да вас запытаць:
«Ці нельга ў вас памяняць?»



А мувіла бочачка,
У піўніцы стоячы:
«Калі мяне не выкацюць,
Я сама выкачуся:
Па двары—крынічкаю,
За вароты—рэчкаю».
Гаварыла дзевачка
Свайму роднаму татку:
«А мой родны татачка,
Калі мяне не выдасі,
Я сама замуж пайду:
Па двары—мяцёлкаю,
За вароты—пчолкаю.
Я пайду, не аглянуся,
К табе, татка, не вярнуся».



«Гаварун, гаварун,
Бел малойчычак,
А які ты гаварун!
А ўжо тваю маладу дзевачку
Ды ваўчок павалок».
— Вы не тукайце,
Вы не люкайце,
Няхай сабе валачэ.
На цясовую на краватачку
Ён яе не пакладзе,
Пад бярозаю ды пад белаю
Яе костачкі растрасе.



Каравайнічкі, пачынайнічкі,
Ды не стойце ў запечку.
Да выйдзіце на хатачку,
Да пачніце вяселлейка,
Вяселлейка вясёлае:
Дзевачкі — у песенькі,
Музычкі — у скрыпачкі,
А мамачка — ў мысенькі.



Стаяла бяроза сорак лет,
Сячыце ж бярозу пад загнет,
Кідайце бярозу ў жарку печ,
Штоб наш каравай ясен быў,
Штоб наш малады красен быў.
Ясен каравай пышкамі,
Красен малады свашкамі.



Лятуць, лятуць лебядзі цераз сад,
Вядуць, вядуць Настачку на пасад.
Яна свайго пасадзіку не знае,
Яна ў сваей мамачкі пытае:
«Скажы, мая мамачка, скуль пасад?»
— А не ад мяне, мая дачушка, ад бога,
Прасі бога, каб не ведала другога.



Брат сястру на пасад вядзе,
Сястра брату да слаўцо кладзе:
«Мой брацейка, да мой родненькі,
А што ж ты мне за пасаг дасі?»
— Сто рублей танюсенькіх,
Пару коней варанюсенькіх
І брычачку маляваную,
І сястрыцу гадаваную.



Выйдзі, Верачка, за вароцейкі
Да рассып там карты.
Ой, мінуліся табе, Верачка,
Ўсе дзявочыя жарты.
Выйдзі, Верачка, за вароцейкі
Да рассып там вішні.

Ой, мінуліся табе, Верачка,
Ўсе дзявочыя мыслі.
Выйдзі, Верачка, за вароцейкі
Да раскінь нічальніцы.
Ой, мінуліся табе, Верачка,
Ўсе твае вечарніцы.



Зайграйце, музыкі, жалосна,
Пастаньце, дружбанты, раскошна,
Пастаньце, дружбанты, усе ў рад,
Будзе ісці Ганначка на пасад
Коскамі плечы ўсцілаючы,
Слёзкамі дарожку залііваючы.



Пастаньце, баяры, усе ў рад,
Будзе ісці Танечка на пасад
Чорную сцежачку топчучы,
Белыя ручкі ломячы.



Маладая Танечка ў квеце,
Няма яе мамачкі на свеце,
Няма каму на пасад пасадзіць,
Няма каму радачкі парадзіць.
Брацейка на пасад пасадзіць,
Ойчанька радачку парадзіць.



Ой, ляцелі гусачкі цераз сад,
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад:
«Час табе, Марылька, на пасад».
— Што вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне мамачка для таго,
Яна мне і радачку парадзе,
Яна мяне на пасад пасадзе.
Пяройдзе сцежачку — я пайду;
Паставе дзежачку — я сяду.



Дзевачка да вянца выязджае,
Яе доля спатыкае.
«Калі добрая доля,

Сядай разам са мною,
Са мною, маладою.
Калі ж доля ліхая,
Аставайся на дарозе
Пры зялёнай бярозе.
Няхай цябе коні саб'юць,
Няхай цябе колы сатруць.
Коні саб'юць вараныя,
Колы сатруць каваныя».



Не стой, маці, ды ў запечку,
А стань сабе у парозе:
Тваё дзіця ісці будзе,
Табе ўклоны нясці будзе,
Уклоны нізенькія,
Слёзачкі дробненькія.



Калі бярэш, зяцю, дочку,
То ўмей яе шанаваці,
Да не давай збыткаваці
Ні старому, ні малому
І самаму да маладому.
Да не бі да яе дубцом,
А карай да яе слаўцом.
Дубцом наб'еш — балецъ будзе,
А слаўцом — разумець будзе.
Не карай яе да ў хаце,
Каб чулі бацька і маці.
Пакарай да у каморы
Да пры ціхай размове.



Мамачка, мая родная,
Не пазні мяне позненька,
Выпраўляй мяне борздзенька.
Там жа нас дажыдаюцца,
Цэркаўку адмыкаюць,
Кaберац засцілаюць,
Свечачкі зажыгаюць,
Нас, маладых, звянчаюць.



Кляновы лісток на падвор'ечку разаслаўся,
Малады малойчык у дарогу сабраўся.
Сеў за сталом, мёду з віном напіўся,
У дарожаньку спазніўся.
Пачувайцеся, вараныя коні, пад намі.
Будзем ехаць чатыры мілі барамі,
А пятую — жалезнымі мастамі,
А шостую — да цесця на двор сватамі.
Каб мы дзевачку на пасадзе засталі,
Каб з сабой да шлюбу забралі.



«Да дубу, зязюлька, да дубу,
Час табе, Ганулька, да шлюбу».
— Што вам, дзяўчаткі, да таго,
Есць у мяне мамачка для таго.
Яна мне і радзейку парадзе,
Яна мяне й на пасад пасадзе,
Яна мне і хустачку падвяжа.



Адступіцеся, ворагі, з дарогі,
Да не пераходзьце дарогі,
Да няхай пярэйдзе госпад бог,
Да няхай пярэйдзе бацька мой
З ясненькімі свячамі,
З дробненькімі слязамі.



Зялёная рутачка
У гародзе расла,
Як яе не шчыпалі.
Як яе пашчыпалі —
Да кораня ссохла.
Маладая дзевачка
Вясёлая была,
Як яе не вянчалі.
А як яе звянчалі,
З мілым рукі звязалі —
Дык сумненькай стала.



Ой, ель, ель да зялёная,
Паднімай галлё угору
Да прапускай у дарогу,

Бо дзевачка к вянцу едзе,
А дзевачка к вянцу едзе.
Яе доля сустракае
Ды на возіку сядае.
«Ой, ты, доля, да мая доля,
Як добрая, то едзь са мною,
А як ліхая — плыві за вадою
І не раўняйся са мною,
Са мною да маладою
І з маёю русаю касою.
Руса коса да да пояса,
А каснічкі да сукеначкі,
А сукенка да да мураўкі,
А дзевачка да да цэркаўкі».



А на гары, горцы
Цэркаўка стаяла.
Малада дзяўчына
Там шлюб шлюбавала.
А шлюб шлюбавала
І ў шлюба пытала:
«Ой, шлюбе, мой шлюбе,
Скажы мне ўсю праўду:
Ці шлюб шлюбаваці,
Ці горы капаці?
Горы ускапаўшы —
Сяду адпачыну.
За нялюбым другам —
Навекі загіну.
Калодзеж капаўшы —
Вадзіцы нап'юся.
За нялюбым другам —
Ў слязах утаплюся».



«Ды мяціце вулачку з канца ў канец,
Ды вядзіце дзеваньку пад вянец.
Ды мяціце вулачку ды канчайце,
Ды вядзіце дзеваньку вянчайце».
— Ды мы сваю вулачку мецямо,
Ды мы сваю дзеваньку ведзямо.
Ды мы тую вулачку канчалі,
Ды мы тую дзеваньку звянчалі.



Да застучэлі вараны коні на дварэ,
Да зазвінелі залатыя кубкі на стале.
Да заплакала малада дзяўчына ў каморы,
Да кінулася свайму татачку пад ногі:
«Да не аддай, мой татачка, ад сябе,
Пералетую гэта лецейка ў цябе».



У дарозе Ганначка, ў дарозе...
«А стань, мая мамачка, ў парозе:
Як буду ісці — сканюся,
Коскамі ножачкі засцялю,
Слёзкамі ручанькі залію,
Што ты мяне, маладу, расціла,
У чужыя людзі пусціла».



Выбіраецца млода Гэлечка да вянца,
Пытаецца ў роднай мамачкі грабянца:
«Падай, падай, мая мамачка, грабянец
Расчасаці русу косачку пад вянец».
— Ой не раз і не два каморачку перайшла,
Нідзе табе, маё дзіцятка,
грабянца не знайшла.



Лугам, берагам гусі лятуць,
Шырокай дарогай сваты едуць.
Выйдзі, Ніначка, перайм сватоў!
Вазьмі коніка за абротку,
Вядзі коніка на стаенку,
А дай коніку аўса, пойла.
Вазьмі Ванечку за ручачку,
Вядзі Ванечку за столічак,
А дай Ванечку віна, мёду.



Прыехала дзевачка з вянца,
Да з вялікае дарожачкі,
Ўпала бацюхну на ножачкі:
«О, бацюхна мой родненькі,
Развянчай мяне, маладую».
— Дзіцятко маё мілае,

Як цябе развянчаці?
Лучшэй мне сто коней даці,
Як цябе развянчаці.



Прыляцела шэра зязюля з ялаўца,
Прыехала наша Настачка з-пад вянца.
Стала ў яе мамачка пытацца:
«А ці ўмела, мая дачушка, вянчацца?»
— Не пытайся, мая мамачка, у мяне,
А пытайся ў большай баяркі мае.
Яна ж бачыла, з кім я пярсцёнкі мяняла,
Яна ж бачыла, з кім я ручачкі звязала.



Прыехала Настачка ад вянца,
Пасеяла расадку з рукаўца.
«Расці, расці, расадка, ў качанне,
Ўдайся, ўдайся, доля вянчальна».



Прыехала дзіця з вянца,
Не прамовіла і слаўца
За бубнамі, за музыкамі
Ды за чужымі языкамі.



«А дзе была, куды ездзіла, Валечка?»
— А я была ў горадзе на таргу,
Прадавала дзявоцкую красату,
А купляла жаноцкую ташнату.
Прадавала дзявоцкае гулянне,
А купляла жаноцкае ташнаванне.



Міжы гор да між далін
Два кані ваду пілі,
Самі з сабой гаварылі:
«Сягоння наша паша,
А заўтра ў дарогу,
А заўтра ў дарогу
Па кабылу, па карову,
Ды па сінюю скрыню,
Ды па Марыльку-гаспадыню».



Вывернула цешча аўчыну
Ды на якую прычыну?
А хацела зяця злякаці,
Каб яму дачку не аддаці.
А зяцейка не лякаецца,
А да дачкі прысмыкаецца.



Ой, жарка, жарка каліна у лузе,
Да ці будзе жарка, як марозік будзе?
Да няхай марозік хаця ўноч пабудзе —
Палавіну жаркасці у яе адбудзе.
Ой, красна, красна дзеванька ў мамкі,
Да ці будзе красна, як будзе ў свякроўкі?
Да няхай ў свякроўкі хаця з год пабудзе —
Палавіну красаты ў яе адбудзе.



Хадзіла дзеванька падляском,
Клікала мілога галаском:
«Прыедзь, мой міленькі, не баўся,
Ужо мой татачка сабраўся.
Цясовыя столікі засланы,
Любыя госцікі зазваны.
Любыя госцікі п'юць, ядуць,
Цябе, маладога, даўно ждуць».



Ляцеў сакалок цераз тры бары,
А ў чацвёртым бару сеў на дубу.
«Што ж табе, сакалок, спадабалася:
А ці бор, ці явар, ці каліначка?»
— І не бор, ні явар, ні каліначка —
Спадабалася мне шэра вутачка. —
Ехаў малойчык цераз тры сялы,
А ў чацвёртым стаў у цясця на дварэ.
«Што ж табе, хлопчык, спадабалася:
А ці мёд, ці піва, ці гарэлачка?»
— І не мёд, і ні піва, ні гарэлачка —
Спадабалася мне мая дзевачка.



А з гары, з гары, з даліны
Бегла конікі чатыры,
На коніках — малады Іванька.
Прывязаў конікаў да бярозкі,

Адламіў ад бярозкі тры розкі,
Сцёбнуў конікаў пад ножкі.
«Бяжыце, конікі, шырока,
Яшчэ мая дзевачка далёка.
Бяжыце, конікі, вузенька,
Ужо ж мая дзевачка блізенька.
Бяжыце, конікі, ступою,
Ужо мая дзевачка са мною.
А ўжо конікі пад акном,
Ужо мая дзевачка за сталом».



Маладзенькі Іванечка,
Ці не пані твая мамачка?
У нядзельку нарадзіла
На цесавой караваці
Ды ў віне пакупала,
Ды ў шоўку спавівала,
Ды ў людзі аддавала.



І што ж табе, дзеўка,
Бог не даў?
Харошыя любілі,
Брыдкі ўзяў.
Не п'е ні гарэлкі,
Ні віна,
А сядзіць пры боку,
Як змяя.



Ой, у полі да чарэшынка,
Нова поле да вылягае,
З-пад гэтай да чарэшынкі
Сівы конік да выбягае.
Сівы конік да выбягае,
Іванка да выязджае.
«Ой, коню, мой коню,
Ты хваліўся ўчора,
Пахваліся цяпера:
Пераляці да вароцечкі,
Да ўдар да капыцечкамі,
Да пабі да тыя вербы,
Што ў цешчы да на двары,
Да пабі да тыя лозы,
Што ў цешчы да на парозе».



Выйдзі, дзевачка, з хаты,
Мы прывезлі ды кавалера
Харошага, як жаўнера.
Пад ім конічак грае,
Як саколік, лятае.
Пярчаткі шаўковыя,
Чаравічкі казловыя,
Падвязкі з атласу,
Нам стаяць няма часу.



«Іванко, наш брацейко,
Заварочвай да назад коні,
Тут жа нас да не злюбляно,
Проці нас да не выязджано».
— Сватачкі, мае сястрыцы,
Як жа мне да завярнуці?
Людзі скажуць, што я ўпіўся
І з дарожанькі збіўся.



Сеў дуб у гародзе
На добрай выгодзе.
Сеў, сеў, скалануўся,
Назад аглянуўся:
Ці ўсё маё дуб'ё села
Сухое, зялёнае?
Сухое, зялёнае,
Бярозка белая?
Сеў Юзік за столікам,
Сеў, сеў, павярнуўся.
Сеў, сеў, павярнуўся,
Назад аглянуўся:
Ці ўся мая радня села
Блізкая, далёкая?
Блізкая, далёкая,
Сястрыца родная.



Кланялася вольха зялёнай бярозе.
Будзе наш Іванка ў далёкай дарозе,
Не адзін ён будзе — паедзе з гасцямі.
А яго Валечка чакае з дзяўкамі.
То сукенкі гладзіць, то дружочкі садзіць.
На вулачку выйдзе: ці Іванка едзе?
Ой, едзе ўжо, едзе ды Іванка п'яны.

«Ой, пусці на дворык, Валечка, Валіна!»
— Не ёсць я Валіна, не буду Валіна,
А пры тваім дому буду гаспадыня,
А пры тваёй клеці ключнічкаю буду,
Табе ж, маладому, навек жаной буду.



У каго, ў каго наша дзевачка ўдалася?
Роўна з паясамі ў золата ўвілася.
«Няхай мая руса косачка лялеіць,
Цяпер мяне мая мамачка жалеіць.
Лялей, лялей, руса косачка, да долў,
Жалей, жалей, мяне, мамачка, да скону».



Пайшла Настачка ў агарод,
Сядзіць рутачка ля варот.
«Выйдзі, татачка, з касою,
Скасі рутачку з расою.
Выйдзі, мамачка, з сярпочкам,
Сажні рутачку з цвяточкам.
Мне ўжо дзеўкай не быці,
З руты вяночкі не віці».



Прыехалі кавалеры,
Палажылі венчык на талеры.
Прыехалі камісары,
Нашу Настачку запісалі.
А ты, Настачка, дагадайся,
За гэты венчык не хапайся.
Гэты венчык — жоўты цвет,
Гэты венчык — з руты-мяты,
Вывядзець з роднай хаты.



«Ты зара, мая заранeчка,
Чаго рана спатухаці стала?
Ой, дзяўчына, ты дзяўчыначка,
Чаго рана сумаваці стала?»
— Засталіся мае гулі недагуляныя,
Засталіся мае скокі недаскаканыя,
Засталіся мае ігры недаіграныя,
Засталіся мае песні недаспяваныя.



«Баравая зязюлечка,
Што нязвонка кукуеш?»
— А я звонка кукую,
Вам не чуць за барамі,
Вам не чуць за барамі,
За пташкамі-салаўямі.—
«Маладзенька Гэлечка,
Што не жаласна плачаш?»
— А я жаласна плачу,
Вам не чуць за сватамі,
За скрыпкамі, цымбалкамі,
За вясёлымі баяркамі.



Кукавала зязюлечка,
Кукавала зязюлечка,
У сад пралятаючы:
«Сады мае зялёныя,
Сады мае зялёныя,
Вішні мае чырвоныя,
Не дзень я вас, не два ждала,
Не дзень я вас, не два ждала—
За адно раннейка паклявала».
Плакала ды Ніначка,
Плакала ды Ніначка,
К скрыні прылягаючы:
«Скрыня мая кляновая,
Скрыня мая кляновая,
Дары мае бялёвыя.
Не год я вас, не два клала,
Не год я вас, не два клала—
За адно раннейка разабрала.
Усім сваточкам—па рушнічку,
Усім сваточкам—па рушнічку,
А свацечкам—па намётачцы.
Свату, свату—увесь пастаў,
Прусатаму—увесь пастаў,
Каб яго конік з места не ўстаў».



Чыя ж гэта мамачка
На канцы стала стаіць,
На канцы стала стаіць
Ды на дзевачак глядзіць.
«А людскія дзевачкі
Сядзяць, як паненачкі.

А як на маё дзіця —
Гарачая смуга пала,
Гарачая смуга пала,
Цёмна ночка настала».



Кукуй, кукуй, кукулечка, не сядзі,
Нямножачка табе засталося кукаваць:
Ад вялічкі, кукулечка, да Пятра,
А пасля Пятра, кукулечка, — ані дня.
Заплач, заплач, млода Ніначка, не сядзі,
Нямножачка табе засталося дзеўкай быць:
Ад раннейка, млода Ніначка, да паўдня,
А пасля паўдня, млода Ніначка, — ані дня.



Сядзіць галубок ды на макушцы,
Ён расічаньку п'е.
А непадалёк шызая галубка
Быстра крыллейкам б'е.
«Перастань, перастань, шызая галубка,
Быстра крыллейкам біць,
А хадзі ка мне ты на макушку
Ды расічаньку піць».
А сядзіць хлопчык ды за столікам,
Мёд-гарэлачку п'е.
Перад ім стаіць красна дзевачка,
Горка слёзачкі лье.
«Перастань, перастань, красна дзевачка,
Горкі слёзачкі ліць,
А хадзі ка мне ды за столічак
Мёд-гарэлачку піць».



Садовая яблынька
Паміж яблыняк стаіць,
Паміж яблыняк стаіць,
Ні яблычка не родзя,
Ні яблычка не родзя,
Ні лісточка не роня.
Маладзенькая Ніначка
Паміж дзевачак стаіць,
Паміж дзевачак стаіць,
Ні галоўкі не клоня,
Ні галоўкі не клоня,
Ні слёзачкі не роня.



Каціліся калёсцы
Да па ранняй росцы,
Да плакала дзевачка
Да па русай косцы.
Не плач жа ты, дзевачка,
Да па русай косцы.
Разаўеш касіцы —
Стужкі аддай сястрыцы.
Сястрыца не возьме —
Аддай мамачцы.
Мамачка возьме,
К сэрцу прыхіне.
«То ж маёй дачушкі
Дарагія стужкі.
Яна іх купляла,
Дорага плаціла.
Яна іх насіла —
Увесь свет красіла».



І не жаль табе, дзевачка,
Дзявоцкага пагуляння,
Дзявоцкага пагуляння,
Хлапецкага жартавання?
Дзеўкі пойдуць вянкі віць,
А ты, маладзенька, слёзкі ліць.
Дзеўкі пойдуць на вулку,
А ты, маладзенька, за люльку.



Ды кувала зязюля на дубе,
Ды плакала дзеўчына на шлюбе.
Хоць куй, зязюля, хоць не куй,
Ужо тваё куванне мінае.
Хоць плач, дзеванька, хоць не плач,
Ужо тваё дзяваванне мінае.
Ды прыедуць панічы ўначы,
Расчэшуць касаньку пры свячы.



Расцвіла каліна дый на захад сонца,
Плакала дзяўчына, гледзячы ў аконца.
«Добра табе, каліна, цвісці, расцвітаці,
Як жа мне нядобра з дому выязджаці.
Добра табе, каліна, ў лесе красавацца,

Як жа мне нядобра з мамкай расставацца.
Добра табе, каліна, ягадкі спяліці,
Як жа мне нядобра дзевяроў дарыці».



Паедзеш, Ганначка, ты ад нас,
А купі зязюльку тут у нас.
А прыкуй ты яе да кравяці,
Будзе табе раненька кукаваці.
У цябе мамачка не свая —
Раненька цябе не пабудзе,
А выйдзе на двор і абсудзе:
«Драмліва нявеста, драмліва,
Раннюю зару праспала,
Вячэрнюю — прадрамала».



Баравое сонейка
Па залесейку ходзе
Хмаркаю апусціўшыся,
Дожджыкам абліўшыся.
Маладая Марылька
Кругом століка ходзе
Коскамі апусціўшыся,
Слёзкамі абліўшыся.



А вышла Верачка,
А вышла на ганачак,
Глянула ў садочак:
Ззяюць красачкі, ззяюць,
Аж яе ручкі вянуць.
«Ззяйце, красачкі, ззяйце,
Мне вас не шчыпаці,
Мне вас не шчыпаці,
Вяночкі не звіваці».



Не гневайся, мая братоўка, на мяне,
Што я села блізюсенька да цябе,
Што я села за белым сталом за тваім,
Я прыехала за родным браткам за сваім.
Было табе па кірмашыках не хадзіць,
Было табе абараначак не есці.
Абаранчкі-падманачкі, што ў мяду,
Яны ж цябе спадманулі, маладу.



Павілася рута надакола плота,
У нашае дзевачкі вяночак із злота.
Мы яе надзелі, каб людзі глядзелі.
Кавалеры стаялі — белы рукі ламалі.
«А божа ж мой, божа, што мы зрабілі:
Маладую дзевачку ў чужыну пусцілі».



«Ой, ты да бярозанька,
Чаму ты незялёная?»
— Як жа мне зялёнай быць:
Паўз мяне, да бярозаньку,
Бітая дарожка ляжыць,
Паўз мяне купцы едуць
І з мяне дубцы рэжуць,
Капытамі карэнне б'юць,
Шапкамі голле ламаюць,
Пада мною агні кладуць,
А на мяне дымы ідуць,
А маё голлейка вяне,
І лісточак ападае. —
«Маладая Валечка,
Чаму ты невясёлая?»
— Як жа мне вясёлай быць?
Каля мяне Ванечка сядзіць
Да за маю ручку дзяржыць.
Як на маё лічка гляне —
То маё сэрдачка вяне.



Сядзела Ганначка за сталом,
Пацяклі слёзанькі ручаём.
Сядзела Ганначка вышэй усіх,
Пацяклі слёзанькі драбней усіх.
Да яе матанька хаджала,
Да яе слёзанькі ўнімала.



«Не думай, Ганулечка, не думай,
Галованькі моцна не займай».
— Як мне не думаць, не гараваць,
Не знала свякроўкі, ды буду знаць.
Назваць яе мамачкай — жалюся,
А назваць свякроўкай — баюся. —
«Ад свае ты долі не ўцячэш
І свякруху мамачкай назавеш».



Лятуць вараныя коні ад вады,
Звіняць, бразджаць шаўковыя павады.
Чула, зачула маладая ў каморы
Да як кінецца свайму татачку ў ногі.
«Не аддай, не аддай, мой татачко, мяне,
Хаця я пабуду гадочак у цябе,
Хаця падганю тваю нівачку ў канец.
А ці не прыедзе лепшы маладзец?»
— Рад я быў бы, дочка, цябе не аддаць—
Прыехалі тыя госцікі, што ўзяць.



Ці табе, дзевачка, замуж хочацца,
Што ў цябе слёзачкі не коцяцца?
Ці ў цябе вочкі пазалачаныя?
Ці ў цябе слёзкі пазычаныя?



Пад дом прыехалі,
Убрацца казалі.
«Сядай, сядай, каханнё маё,
Не паможа плаканнё тваё.
Бо стаяць коні запражоны,
Стаяць возы залажоны».
А я яшчэ не сядала,
Свайму татку дзякавала:
— Ой, дзякуй, дзякуй табе, ойча,
Што хадзіла ў срэбры, злоце.
Зараз не буду.—
«Сядай, сядай, каханнё маё,
Не паможа плаканнё тваё».
А я яшчэ не сядала,
Сваёй мамцы дзякавала:
— Дзякуй, дзякуй табе, мамка,
Што хадзіла чыста, гладка.
Зараз не буду.—
«Сядай, сядай, каханнё маё,
Не паможа плаканнё тваё».
А я яшчэ не сядала,
Сваім парогам дзякавала:
— Дзякуй, дзякуй вам, парогі,
Што хадзілі мае ногі.
Зараз не будуць.—
«Сядай, сядай, каханнё маё,
Не паможа плаканнё тваё».
А я яшчэ не сядала,

Сваім сцежкам дзякавала:
— Ой, дзякуй, дзякуй, мае сцежкі,
Што хадзілі белы ножкі.
Зараз не будуць.


Наша маладая ўдалая,
Да ўдалася яна ў Іванку:
Самая здатная да работы.
Жадаем ім жыці, пажываці,
Жадаем дабра нажываці.
Каб ім нівачка радзіла,
Каб былі багаты, як зямля,
Каб былі здаровы, як вада,
Каб адзін аднаго шанавалі
І нас, старых, не забывалі.


Звінела каморачка, звінела,
Дзе наша Аленачка сядзела?
Сядзела ў каморачцы, сядзела,
Сваю русу касаньку часала,
Сваю русу касаньку часала
І на ўсю каморачку плакала.
На ўсю каморачку плакала
І да сябе татачку клікала.
Прыйшоў яе татачка ў камору,
Яна ўпала татачку пад ногі.
«Не аддавай, татачку, ты мяне,
Перабуду лецейка я ў цябе».
— Як цябе, Манечка, не аддаць?
Прыехаў твой міленькі, хоча ўзяць.
Прыехала госцейкаў семдзесят,
Папускалі конікі ў вішнёў сад.


Зазвінелі чарачкі на стале,
І заржалі конікі на дварэ.
«Няхай тыя конікі не ходзяць,
Няхай руты-травачкі не зводзяць.
Пайдзі, пайдзі, татачку, з касою,
Скасі, скасі рутачку з расою.
Паедзь, паедзь, братачку, з вазочкам,
Звязі, звязі рутачку з пясочкам.
Няхай тая рутачка не цвіце,

Няхай маё сэрданька не вяне».
Расцвіла калінaчка — жоўты цвет,
Была ў нас Аленачка — цяпер нет.



Куды, Маня, сабіраешся,
Чаго бела адзяваешся?
Завязуць цябе ў чужыя людзі,
Там табе ўсё горачка будзе.
А там поле камяністае,
Там свякроўка наравістая.
Яна табе норавы пакажа,
Яна табе праўданькі не скажа.
Яна стане — не пахіліцца,
Слова скажа — не памыліцца.
А ты станеш — да й пахілішся,
Слова скажаш — да й памылішся.
Хлеба ўкроіш — яна скоса гляне,
Есці хочаш — аж сэрданька вяне.
Ах, каб твая мамка ведала,
Што ты сёння не абедала,
Што не можаш ты за стол сесьці,
Прыслала б яна табе есці
Не месяцам, то зарніцаю,
Не браточкам, то сястрыцаю.



Села Зіначка за сталом,
Палажыла ручкі на стале.
«Ручкі мае белыя ў таткі,
Ці будзеце белыя ў свякраткі,
Чорную нявею сеючы,
Сырую пшанічку мелючы,
Ячмень-шасцярэнь таўкучы?»
Як пачуў жа яе міленькі:
«А не плач, не бядуй, Зіначка,
Чорную нявею перавею,
Сырую пшанічку ў млын завязу,
Ячмень-шасцярэнь сам стаўку,
А твае ручкі падмяню».



Ой, пайду я замуж ды даведаюся,
Калі добра будзе — дык астануся,
Калі дрэнна — дык назад вярнуся.

Астануся ў браткі за кусочак хлеба,
А братачка скажа: «Ты мне не трэба».
А сястрыца скажа: «Ты мне дадзела».
А мамачка скажа: «Ты тут без дзела».



Зялён рамон па падвор'ю сцеліцца,
Маладая дачушачка з матуляю дзеліцца:
«Табе, матуля, адна кашуля, а мне дзве,
Бо я паеду ў чужыя людзі, а ты не».
Зялён рамон па падвор'ю сцеліцца,
Маладая сястрычка з сястрыцай дзеліцца:
«Табе, сястрыца, адна спадніца, а мне дзве,
Бо я паеду ў чужыя людзі, а ты не».
Зялён рамон па падвор'ю сцеліцца,
Маладая сястрыца з браточкам дзеліцца:
«Табе, братка, і сені, і хатка, і камора,
А мне, маладой, куфар адзежы і карова».



Сядзьмо, мамачка, павячэраймо з табою,
Павячэраўшы, падзелімся з табою.
Табе, мамачка, світка, паветка, камора,
А мне, мамачка, куфарок, плацце, карова.
Каб мая карованька ў варатах рыкнула,
Каб мая свякроўка ў аконцэ глянула.
«Ох, нявестка мая, шчаслiва доля твая.
Да рассей жа долю да па майму полю,
Да распусці шчасце да па маей хаце».



Казалі: ў моры вадзіцы многа.
А як сталі браці — няма нічога.
Дзе ж тая вадзіца дзявалася?
Па крутых берагах паразлівалася.
Казалі: у дзевачкі радзінкі многа.
Як сталі дарыці — няма нікога.
Дзе ж тая радзінка падзявалася?
Па цёмных куточках пахавалася.



Да дабранач, сцены, лавы,
Сцены мае ды маляваныя,
Хто вас будзе дамалёўваці?
Лавы мае ды вымываныя,
Хто вас будзе дамываці?

Застаецца ды стара маці,
Будзе сцены маляваці,
Будзе лавы вымываці.



Аддай мяне, маці,
Дзе хараша ў хаце,
Дзе залвіцы, як сястрыцы,
А свякроў, як маці,
А дзевяры маладыя
Любяць жартаваці.
Адзін кіўне, другі міргне,
Трэці зажартуе,
А мой мілы, чарнабровы,
Усё гэта чуе
Да на маё бела цела
Нагайку гатуе.
Нагаечка драцяная
Высока лятае,
Кашулечка палатняна
У цела ўліпае,
А фартучок каля боку
Ад слёз не ўсыхае.



Ой, сваха свасе пакланілася,
Каб з яе дочкі не глумілася:
«Да мая свацейка, прашу вас,
Не будзі яе, як певень спяе,
А будзі яе, як пастух ідзе,
Бо певень пяе ўначы-зпаўночы,
А пастух ідзе, як сонца ўзыйдзе».



Ой, села, села Настачка ля аконца
Ды паглядае на яснае сонца.
Скора будзе і сонейка спускацца,
Будзе Настачка з мамкай прашчацца.
Скора будзе і сонейка заходзіць,
Будзе Настачка з таткавай хаткі выходзіць.



Ой, да за сеньмі да вінны калодзеж,
Маладая дзевачка да віно чарпала,
На стол насіла да сватоў паіла.

«Да піце, сваточкі, каб не напіліся
Да мяне у мамачкі не забыліся.
Ды пілі сваточкі — напіліся,
А мяне у мамачкі не забыліся».



Бывайце здаровы, мае вы абразы,
Як я вас убірала на тыдзень два разы.
Бывайце здаровы, мае белы сцены,
Як я вас бяліла напроціў нядзелі.
Бывайце здаровы, мае стол і лавы,
Як я вас умывала на тыдзень два разы.
Бывайце здаровы, мае вы парогі,
Як па вас хадзілі мае белы ногі.



Не думай, Марылечка, не гадай,
Пераедам рэчачку — там Дунай.
А за тым Дунаем — шчыры бор,
А за тым баром — свёкраў двор.
Тады будзеш думаць і гадаць,
Як свёкра, свякруху называць.
Не звала мамачкай — трэба зваць,
Не звала татачкам — трэба зваць.
Не слала пасцелькі — трэба слаць.



«Ахмурнела татачкава хатачка,
А дзе мая радзімая мамачка?
Няхай падойдзе паціхонечку блізенька,
Пакланюся пасledні разок нізенька».
— А няўжо мне, мая дачушка, здаецца,
Куды ж твая галоўка хінецца?
Не хінецца твая галоўка да мяне,
Знаць, пойдзеш, мая дачушка, ад мяне.



Настачка татачку перапрашаець:
«Татачка, родненькі, не забудзь мяне,
Як прыдзе суботачка, прыедзь да мяне.
Я ж, малада, буду пераймаць,
Новыя вароты буду адчыняць,
Слёзкамі сцежачку буду палівацъ».



«Да не жаласлівы, бацюхно,
Напроціў ночы дзіця шлеш,
Да праваднічка не даеш».
— Нашто табе, дзіцятко, праваднічок?
Па левым баку — клён, дубнік,
Па правым баку — чалавек,
А перад табою — дарога,
Едзь, маё дзіцятко, здарова!



А сваціцы, галубачкі, не маўчыце,
Паціхеньку сваю Ганначку вучыце.
Няхай яна хату, сені падмятае
Ды на вулку смецця хай не высыпае.
Нашы курачкі драплівыя — раздзяруць,
Нашы суседкі брахлівыя — разнясуць.



«Ой, ты каліна, чырвона журавіна,
Ой, чаго ты плачаш, малада дзяўчына?»
— Ой, я плачу, да сама тое знаю,
Што ты мяне бярэш — я тавару не маю.
Ой, няма ў мяне ні тавару, ні авец,
Да няма чаго заганяці ў хлявец.



Чырвона каліна дарогу засланіла,
Каб я, малада, да мамачкі не хадзіла.
Я ж тую каліну пасяку, парубаю,
У свае мамачкі ў госціках пабываю.
Я тую каліну пасяку драбнюсенька,
У свае мамачкі да буду часцюсенька.



Не шчабячы, салавейка, не шчабячы,
Ты мае галованькі не клапачы.
Бо мая галованька клапатна:
Не хватае ў маменькі палатна.



«Куды ж, куды ж ты,
млада дзевачка, паедзеш?
Чаму, чаму ж з сабой мамачкі не бярэш?»
— А як жа буду з сабою сваю мамачку
браць,

Сама не знаю, дзе буду ночку начаваць.
Можа, я буду па цёмным лесе блудзіці,
Можа, я буду дробны птушачкі слухаці.
Салавейкі, дробны пташачкі, вераб'і,
Пакажыце мне дарожаньку да радні.
Салавейкі, дробны пташачкі, стрыклаткі,
Пакажыце мне дарожаньку да маткі.



Усходзіла красна сонца з замор'я,
Прасілася Кацярынка з застолля:
«Пусці, пусці мяне, мілы, з застолля,
Паглядзець усё таткава падвор'е,
Распытайце пра мамчына здароўе».
— Было табе, урэмячка вольнае,
Была табе нядзелечка вольная.—
«Ў панядзелак бяллё на рэчцы мыла,
У панядзелак на кладачцы стаяла,
У аўторак сваё бяллё качала,
У сераду радзіначку збірала,
У чацвер я куфэрчык сабірала,
А ў пятніцу з дружкамі гуляла.
У суботу у баню я хадзіла,
А ў нядзелю пад алтаром стаяла».



«Дзяўчыначка мая заручоная,
Чаго ж ты такая засмучоная?»
— Ой, як мне жыці, вясёлай быці:
Каго любіла — трэба забыці.
Каго любіла — каб пазабыла,
Каго не знала — каб пакахала,
Каго любіла — не пазабыла,
Каго не знала — да шлюбу стала.
Пайду я ў лясы, лясы зеляныя,
Найду я часы, часы залатыя,
Дзе я хадзіла, дзе гаварыла:
«А судзі, божа, каго любіла».
Каго любіла, то пазабыла,
Каго не знала — то пакахала.



«Ах, восень, восень — усім па восем,
А мне ніводнага».
— Пастой, дачушка, пастой, радная,

Пагаворым з табою.—
«Не буду стаяць, не буду чакаць,
Не буду гаварыці.
Мне людзі кажуць і сама знаю,
Што з табой мне не жыці».
Ўзяла конаўку, пайшла ў каморку,
Беленька умылася.
Выйшла з каморкі, выйшла з новае,
Мамачцы скланілася:
«Дзякуй, мамачка,
Дзякуй, родная,
За тваё гадаванне.
Цяжка будзе, мая мамачка,
Нам з табой расставанне.
Сваты прыедуць, мяне забяруць,
А ты тут застанешся,
Слёзкамі абальешся».



Не жаль, не жаль, мая мамачка, цябе,
А—што застаецца мая рута-мята ў цябе.
Уставай жа, мая мамачка, раненька,
Палівай маю руту-мяту часценька.
І раннімі і познімі зарамі
Палівай, мая мамачка, слязамі.



Кукавала зязюля ў зялёным садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку.
Кукуе, кукуе ды рагатне:
«Ах, божа мой міленькі, цяжка мне.
А хто ж маё гняздзечка разаўе,
А хто мае дзеткі забярэ?»
Аказаўся салавейка ў лузе:
«Я ж тваё гняздзечка разаўю,
Я тваіх дзетачак забяру».
Ой, плакала дзевачка ў каморы,
Прылажыўшы галоўку к падушцы.
Ой, плача, плача ды і ўзгаласне:
«А хто ж маю косачку распляце,
А хто ж мяне да шлюбу завядзе?»
Аказаўся брацік у каморы:
«Да я ж тваю косачку распляту,
Я цябе да шлюбу завяду».



Пайду замуж хоць за вецера,
Пажыву там хоць да вечара.
Ладна будзе — то жыць буду,
Дрэнна будзе — дамоў прыду.

Пойдзеш замуж — то вернешся,
Ды дзеўкаю не абернешся.



Зялёная дубровачка,
Чаго ў цябе дуб'я многа?
Што многа, замнога,
Зялёнага нігоднага?
Ёсць каму пастаяці,
Няма каму пашумеці,
Няма каму пашумеці,
Па дуброве пазвінеці.
Маладая Ганначка,
Чаму ў цябе бацькоў многа?
Што многа, замнога,
А роднага нігоднага?
Ёсць каму есці, піці,
Няма каму багаславіці,
Няма каму багаславіці,
Да шлюбу праводзіці.



А дзевачка маладая,
Рана ж ты да за стол села,
Рана ж ты да за стол села
Ды цяжанька уздыхнула,
Ды мамачку ўспамянула,
Што ў цябе мамачкі няма,
Што ў цябе родненькай няма.
Ёсць каму да піць і есці,
Няма каму да ладу весці.
Ёсць каму весяліціся,
Няма каму зажурыціся.



А хто ў лесе памалюсеньку гукае?
Там Настачка сваю мамачку шукае.
«Прыдзі, прыдзі, мая мамачка, дадому,
Выправі мяне, маладзюсеньку, да шлюбу».
— Не прыду я, маё дзіцятка, дадому,

Не выпраўлю цябе, маладзюсеньку,
да шлюбу.
Збудавалі да мне хатачку, новы дом
Без аконак, без дзвярушачак, без сонца,
Без аконак, без дзвярушачак, без сонца —
Да не прамоўлю да цябе ні слоўца.



Сышло сонца ў ясно аконца — ўжо й відно.
«Чаму, Гэлечка, твайго ойчанькі не відно?
Пайдзі, Гэлечка, па новых сенях пахадзі,
На белым ложы свайго ойчаньку пабудзі».
— Ой, не раз, не два новыя сені перайшла.
Ой, нідзе, нідзе свайго ойчанькі не знайшла.
Ой, схадзіла новыя сені слядкамі,
Ой, зліла, зліла белу пасцель слязкамі. —
Пайшла Гэлечка з горкі на горку
ў даліначку,
Знайшла Гэлечка свайго ойча магілачку.
«Устань, ойчанько, устань, родны, не ляжы,
Прыдзі ж ты мне параданьку памажы».
— Рад бы я, дачушка, ўстаць,
параданьку даць,
Ды прыбіты ножкі да сасновай дошкі —
не ўстану.
Засыпаны вочкі жоўтым пясочкам —
не ўзгляну.



Цячэ рэчка з возера у мора,
Едзе дзевачка з роскашы у гора.
Цячы, рэчка, і не супыняйся,
Едзь, дзевачка, і не азірайся,
Аб сваю роскаш забывайся,
Не да маткі едзеш, не спадзявайся.



Дзе была зязюлька, дзе быў салавейка —
Зляцеліся яны ў адзін садочак,
У адзін садочак на адзін лісточак.
Елі яны малінкі з адной галінкі,
Пілі вадзіцу з адной лісцінкі.
Дзе была дзевачка, дзе быў малойчык —
З'ехаліся яны на адно падвор'е,
На адно падвор'е за адно застолле.
Елі патраўку з аднаго паўміска,
Пілі гарэлку з аднаго кілішка.



«Што сядзіш, што думаеш,
Маладзенькая Галечка?»
— А я сяджу ды думаю,
Як пайсці ў чужую старану
Да як я свякроўку назаву:
Назваці мамачкай — не мамка мне,
Назваць жа свякроўкай — няслаўка мне.



Не сядзі, Манечка, не сядзі,
Адчыні акенца, паглядзі,
Як твае кветачкі лялеюць,
Як цябе хлопчыкі жалеюць.
А заўтра кветачкі завянуць,
На цябе хлопчыкі не глянуць.



Плач, плач, Манечка, не ўнімайся,
Не ў мамы будзеш, не спадзявайся.
Свякроўка не маці, будзіці не будзе,
А выйдзе на вулку — цябе асудзе:
«А мая нявестка — санліва, драмліва:
Красёнцы снавала — перамоты клала,
Красёнцы ткала — на прыседзі спала,
Кароўку даіці — галоўка баліці,
А малачко есці — дык каб бліжэй сесці».



Ой, не бядуй, наша Настачка, ні па чом,
Сядзіць у цябе твой жаласнік пад плячом.
Ён за цябе сені, хату падмяцець,
Ён за цябе дроў, вадзіцы прынясець.
Ён жа цябе жоначкай назавець,
Ён жа цябе ў плечы кулаком натаўчэць.



Ужо позненька ды не раненька
Сонейка на заходзе.
Наша Ніначка маладзенькая
Ад мамкі адыходзе.
«Ідзі ў каморку, ідзі ў новую,
Умыйся, учашыся.
Прыдзі з каморкі, прыдзі з новае,
Татачку пакланіся».

— Дзякуй, татачка, дзякуй, родненькі,
За тваё гадаванне.
Аддаеш мяне, ды не ведаеш,
Што мая за долечка. —
«Я табе даю тое, што маю,
А долі не згадаю».



Ці табе, матачко, да не жалко,
Ці тваё сэрданько да не кроіць,
Што тваё дзіцятко не гаворыць?
Як село учора звячора
Да спусціло вочанькі да долу,
Палажыло ручанькі на прыполу.
«Белы мае ручанькі у аццa,
Ці будзеце белы ў малайца?»
— Калі былі белы — то будуць:
Да будзеш percentage раненька ўставаці,
Белыя ручанькі вымываці.



Аленачка маладзенькая,
Ты сядзіш да не ведаеш,
Як там мамачка пажывае,
Па сенечках пахаджае,
К сырой зямлі прыпадае.
Войдзе ў святліцу — ні падушачкі,
Войдзе ў камору — ні дачушачкі.
Прыдзе ў вішнёвы садочак,
З вішанькамі гаворыць:
«Вішанькі мае мілыя,
Вы ж тут будзеце зімаваці.
Няма каму вас ашчыпаці,
Няма майго роднага дзіцяці».



Не ведала зязюлечка, як у садзе жыць,
Не ведала матулечка, як дачушку збыць.
«Збудзеш мяне, мамачка, за адзін дзянёчак,
Не забудзеш, мамачка, за адзін гадочак.
Будзе маё месцейка за сталом гуляці,
Будзе мая ложачка на стале валяцца».
— А я тваё месцейка ды дзяцьмі засаджу,
А я тваю ложачку ды пад стол падкіну.



Няславу, мамачка, зрабіла,
Што моладу замуж пусціла.
Чужыя дзеўкі на лаўку,
А я, маладая, ў каморку.
Чужыя паненкі — на гулі,
А я, маладая, — да люлі.



Шуміць бярозка, шуміць белая,
Над ракою стоячы.
Плача дзевачка маладзенькая,
Па падвор'ю ходзячы.
А ёй гаворыць мамачка яе,
Ручанькі ломячы:
«Не плач, дзевачка, дзіцятка маё,
Не давай людзям веры.
Хустачку вазьмі, слёзачкі утры —
Сядзь сабе ля дзевачак».
— Дзевачкі сядзяць, кветачкі дзяржаць —
Яны мяне не прымаюць.
Жаночкі сядзяць, па сынку дзяржаць —
Яны мяне паджыдаюць.



Ой, лугам, лугам да вада ідзе,
А паўз лужайка — сцежачка,
А тудою ішла Танечка,
З лугавою вадою гаварыла:
«Ой, вада мая лугавая,
Я ў цябе вадзіцы не брала,
Не брала вадзіцы — то буду браць,
Не знала свёкратка — буду знаць,
Не звала татачкам — буду зваць.
Не знала свякроўкі — буду знаць,
Не звала мамачкай — буду зваць».



Каб я ды знала, што не будзе раскошы,
Не давала б братку расплятаці косы.
Расплёў братка косы, разаслаў па плечках,
Разліў мае слёзкі па сіненькіх вочках.
Аддаў мяне братка за лясы, за горы,
Каб я не хадзіла ў гасціну ніколі.
«Ідзі, сястра, ідзі адчыняй вароты,
Бо ўсе людзі знаюць, што ты ў нас сірота».



А куды ж ты, наша Настачка, ад'яжджаеш?
А пры кім ты сваю мамку кідаеш?
Яна ж пойдзе, старэнькая, па ваду,
А прымерзнуць старыя ножкі на ляду.
А як стане старыя ножкі адрываць,
Яна ж будзе сваю дачушку ўспамінаць:
«Як у мяне мая дачушка бывала,
Я ж тады гэтай работкі не знала».



Замятай, маці, жар, жар —
Будзе табе дочкі жаль, жаль.
Замятай, маці, попел —
Мы тваю дочку ўхопім.
Ухопім ручэнькамі,
Павязем конічыкамі.
Ухопім да бяленькімі,
Павязем вараненькімі.



Аглядзелася маці,
Што чатыры вуглы ў хаце.
Чатыры вуглы ў хаце,
А пяты ў запечку.
Прапіла маці дочку
На салодкім мядочку.
А прапіўшыся, скача,
А праспаўшыся, плача.
«Было ж, цешча, не хваліціся,
Пасадзіці да дзівіціся,
Пасадзіці да на ганачку,
Дзівіціся да штораначку».



Ой, не дзяржы, Пеценька,
Вішанькі ў кішані.
Да раздавай вішанькі
Усем па жмені.
А мы твае вішанькі
Раскаштуемо,
Да мы табе дзеваньку
Падаруемо.



Ой, гукнемо мы нізенько,
Бо ўжэ нашэ село блізенько.
Да няхай маці чуе,
Да вячэру гатуе.
Няхай маці сподзеваецца,
У шубонькі одзеваецца,
Шубонькі новенькія,
Мы самі молодзенькія.



З мора вада выліваецца,
Зяць ад цешчы выбіраецца.
«Паждзі, зяцю, хоць гадзіначку,
Надзіўлюся на дзяціначку».
— Трэба было не хваліціся—
Пасадзіці дый дзівіціся.



Ці я тобе, мамонька, надаела,
Што ты мяне оддаеш за дзеда?
Ці я тобе посцеленькі не слала?
Ці я тобе кошуленькі не прала?
Слала, слала посцеленьку у каморы,
Прала, прала кошуленьку на моры.
Слала, слала посцеленьку мякенько,
Прала, прала кошуленьку бяленько.



Ой, мы ехалі да возіліся,
За колоду зачэпіліся.
Чы за пень, чы за колоду,
Чы за дзеўку за молоду?
Ой, не за пень, не за колоду,
А за дзеўку за молоду.



Закукавала зязюленька ў дубіне,
Пакінулі дзеўчыну ў чужыне.
Закукавала зязюленька ў жыце,
Пакінулі дзеўчыну тут жыці.
Закукавала зязюленька на кручку,
Ды падзякуй, зяць, цешчы за дачку.
Закукавала зязюленька на карыце,

Перастаньце, суседачкі, гаварыці.
Закукавала зязюля на хаце,
Перастаньце, варожкі, брахаці.



Да стаяла яблынька ля дому,
Да пускала голлейка да долу.
Прасілася дзевачка дадому:
«Пусці, пусці, міленькі, дзе ты ўзяў,
Да каб мой вяночак тут не звяў».
— Не звяў, мая дзевачка, не звяне,
Пакуль маё сярдзечка ўзгляне.



Стаіць конік на стаенчацы,
Ножкай туп.
«Аставайся ты, мая сястрыца,
Адна тут».
Стаіць конік на стаенчацы,
Хвосцікам віль.
«Аставайся ты, мая сястрыца,
За тысячу міль».
Стаіць конік на стаенчацы
І рагоча.
Брат з сястрою разлучацца
Не хоча.



Ой, у садзе вішня
Да долу звісла,
Малада дзяўчына
З паненства вышла.
Ой, у садзе, ў садзе
Рассыпаны вішні.
Забудзь, дзяўчына,
Дзявочыя мыслі.
Ой, у садзе, ў садзе
Рассыпаны грушы.
Забудзь, дзяўчына,
Дзе дзяцюк харошы.



Ой, на табе, матка,
Ды чужое дзіцятка.
Жыві харашэнька з ею,
Ды загадвай ты ею.

На ніўку яе пашлі,
А сама наперад пайдзі.
Яе пашлі на шыроку,
Сама пайдзі ды на вузку,
На шырокай — жыта жаці,
На вузенькай — паляжаці.



Ой, мамачка мая,
Не зрабілі мы табе крыўды,
А зрабілі мы табе славу,
Што прывезлі дзяток пару:
Аднае дзіця — раджонае,
Другое дзіця — суджонае,
Аднае — хатку мясці,
Другое — парадак вясці.



Добры вечар, добрыя людзі чужыя!
Не пужайцеся, што вялікая дружына.
Мы прыехалі не піць, не есці, не гуляць,
А прыехалі сваей свацiцы паглядзець.
Паглядзець, ці відная святліца,
Ці прывыкнець тут наша сястрыца,
Ці відная хаціца,
Ці здарова сваціца.



«Да ляціце, глаланькі, глаланькі,
Да да мае маманькі, маманькі.
Накажыце вестаньку, вестаньку,
Вядзе сын нявестаньку, нявестаньку
Да такую да рабатушачку:
Пятрэўнага дня — сто копак нажала,
А васенняе ночы — сто падаркаў напрала».
— Няпраўда, мой сынаньку, няпраўда,
Я чула чэраз людзей, да чэраз людзей,
Што такая да лянцяечка:
Пятрэўнага дзянька не вылязала з халадка,
А васенняе ночкі не злязала з печкі.



Садовыя яблычкі
Ды з узгор'я ляцелі,
Летучы расшыбіліся,

Летучы расшыбіліся,
Аб зямлю разбіліся.
Маладая Ганначка
А здалёку везена:
Косачка растрэсена,
Косачка растрэсена,
Слёзачка разліта.



Свёкар нявесту вядзець,
Шоўкам дарожку мяцець,
Аўсом пасыпаець,
Вадой паліваець.
Расці, авёс, вялікі,
Мая нявестка мала,
Каб стоячы жала,
Седзячы вязала.



А мы знalі, ведалі,
Куды дзевачку аддалі.
Дзе клеці новыя,
Там бочкі поўныя.
Дзе пералазы нізкі,
Там суседачкі блізкі.
Пералазы да ніжэйшыя,
Суседачкі да бліжэйшыя.



Стараніцеся, людзі,
Едзе наша багатырачка.
Сем воз дабра вязе,
А на восьмым ды сама едзе,
За сабою ды тавару жане.
Тавару да рагатага
Ад татачкі багатага.



Выйдзі, выйдзі, мамачка, паглядзі,
Што ж табе за дзіва ды прывязлі.
Ды ці сіву козачку, ці казяня?
Маладую дзевачку, як паняня!



А стаяла малада Манечка пры мосце,
А прасіла сваю мамулечку ў госці.
«А як жа я маю, маё дзіцятка, бываці,
Ды я ж да цябе дарожачкі не знаю».
— Не бядуй, мая мамулечка, не бядуй:
Я па цябе шэру зязюлечку надашлю,
Яна ўкажыць, мая мамулечка, старану.
Ў маей старане стаіць дзераўца на дварэ.
На тым дзераўцы будзіць зязюля кукаваць.
Весела будзіць, мая мамулька, прывыкаць.
А тое ж дзераўца — зялёнае явор'е,
Зялёнае явор'е — усё маё бяздолле.



Запалі, мамачка, жыжачку,
Вязуць нявесту рыжачку.
Вынасі, мамачка, карытца,
Вязуць нявестачку сварыцца.



А мы ў ловы ездзілі,
А мы ў ловы ездзілі,
Мы мядзведзіцу ўлавілі
З рукамі, з нагамі,
З буйною галавою,
З русаю касою.



А ехалі прыданачкі, блудзілі,
У сяло дарожаньку згубілі.
Спатыкаюць маленькае хлапчанё:
«Пакажы нам дарожаньку, што ў сяло.
Пакажы нам хатачку, дзе мёд п'юць,
Пакажы нам свацечку, дзе нас ждуць».



Да прывёз да баярачку,
Да паставіў да на ганачку,
А сам пашоў у хатачку
Па сваю родну матачку.
«Ой, матачка мая родная,
Вазьмі гэту да баярачку,
Што стаіць на ганачку,
Пазірае да й у хатачку».

— Дзіця маё маладзенькае,
Да рада б я да прыняці,
Не ведаю, як назваці:
Назвала б я да баяркаю —
Да не будзе да хаджайкаю,
Назвала б я да княгіняю —
Да не будзе гаспадыняю.



Свякроў нявехны жадом жадала,
Жадом жадала ды пытом пытала,
Па ўсіх варотах старажы стаўляла.
А каторы сторож да шчаслівы будзе,
У тыя вароты нявехна ўедзе.



Не радуйся, мамачка, нявесце:
Не ціха на парог ступіла,
Не нізка галоўку схіліла,
Задрала галоўку ўгару —
Разгоніць, мамачка, ўсю сям'ю.



«Ой, едзь, бацько, дадому
Да бяры мяне з сабою,
Бо я тут не прывыкну.
Тут горы да высокія,
Калодзесі да глыбокія,
Тут зямля камяністая,
Тут сям'я наравістая».
— Дзіця маё маладое,
Пабудзь хаця адзін тыднік:
Табе зямля параўнее,
Табе сям'я павесялее,
Калодзесі да памяльчаюць.



«Ці ты, сватку, дома работы не маеш,
Што нядзелькі на вяселлі гуляеш?
А хто ў цябе гаспадаркай кіруе?
А хто твае дробны дзеткі гадуе?
А хто тваю мілу жану цалуе?»
— Есць у мяне тры парабкі наняты:
Першы ў мяне гаспадаркай кіруе,
Другі ў мяне дробных дзетак гадуе,
Трэці маю мілу жану цалуе.



Сядзіць сваток на зэдлі,
Спусціў нос аж да зямлі,
Каб яшчэ трошкі прытачыў,
То па зямлі б валачыў.
Казалі, наш сват харош,
Аж у яго доўгі нос,
Каб насыпаў канапель,
Кляваў бы, як верабей.



Наша маладая — як ластаўка,
А ваш малады — як засланка.
Наша маладая — як сыр белы,
А ваш малады — як пень гарэлы.



Не сядзі, сватка, ля сцяны,
Нашы дзеўкі жартаўлівыя:
У сцяне дзіркі круцілі,
З тваёй кішэні, сватка,
Піражок дастаць наравілі.
Пад прыпечкам мышка піснула,
Сваця пірог сціснула.
Сват пірага не дае,
Дамоў дзецям панясе.
Не так дзіцяці —
Як старой сваці.



Дзе мы былі да дзе бывалі,
Такога дзіва да не відалі,
Як у нашага свата:
Тут святліца, не хата.
Печ яго кафляная,
Чэсць яго каханая,
Дзверы яго пахадзячыя,
Хаджаюшкі пабягачыя.



Старшы сватка, не сядзі,
Схадзі дадому, паглядзі,
Што ў цябе дома дзеецца:
Дзевяць кароў целіцца,
Кабыла жарабё прывяла,
Жонка сына радзіла.



Казалі нам людзі:
Хоць едзьце не едзьце,
Ваш сват небагат.
А ў нашага свата
Да з явару хата,
Сеначкі з паперачкі,
Лавачкі з кітаечкі,
Столікі цясовыя,
Абрусы шаўковыя,
Кубкі залатыя
Вінам налітыя.



Казалі, сватка багаты,
Ажно сватка — рызаты.
Палажыў рызы на печ,
Прыказаў стаўпу глядзець,
Каб хто рызаў не парэзаў,
Каб хто латаў не пакратаў.



Сваты хаты не ведалі,
Сваты хаты не ведалі
Ды у хлеў заехалі.
Далі быку руку,
А з каровай прывіталіся,
А з цялушкай цалаваліся.
А свіння падзівілася,
А свіння падзівілася —
Са смеху паваліласяся.
А парасяты-апокі
Пабраліся ў бокі
Ды пайшлі ў скокі.



А ў нашага свата
Кругом хаты мята,
Кругом хаты мята,
А ў хаце багата:
З пірагоў печка збіта,
Блінамі накрыта.
Блінамі накрыта,
А наверсе карыта.
Кругом хаты зелле,
А ў хаце вяселле.



Паджанішнічак высок,
Як у чорта насок,
А зубы рэдкі,
Як у чорта клеткі,
А язык у роце,
Як чорт у балоце.



Брашыце, свашачкі, брашыце,
Аб вугал языкі чашыце.
Наце вам, свашачкі, ячмяню,
Штоб вы драліся на сцяну.
Наце вам, свашачкі, сыра кусок,
Штоб вам, свашачкі, язык усох.
Сабраліся свашачкі
З усіх сёл,
А ў вас парцюкі па сем пол.



«А барусечка мой чарненькі,
Што на табе вовенка корчыцца?»
— Сватняе гарэлачкі хочацца.—
«А барусечка мой чарненькі,
Што на табе вовенка каротка?»
— Сватняя гарэлачка салодка.



Паедзем, госцікі, дадому,
Паелі конікі салому.
Саломы жменька — капейка,
А сена клачок — пятачок.
А сена клачок — пятачок,
Мякіны лубачка — рублічка.



Госцікі мае
Не п'юць, не ядуць,
Не п'юць, не ядуць
І двору не йдуць.
Ой, піце, ежце,
Ой, піце, ежце
Ды двору едзьце,
Ды двору едзьце.
Набяруся вума,

Сыйду са двара.
Ці не паедуць
Госці з сорама?



Госці мае, госці мае,
Пагасцюйце ў мяне.
Я вам, госці, я вам, госці,
Барана вам ушыбу.
Пайду я ў хлеў, пайду я ў хлеў
Барана ушыбаць.
Стаіць баран, стаіць баран
Прыгаруніўшыся.
«Не бойсь, баран, не бойсь, баран,
Я цябе біць не буду,
Сваіх гасцей, сваіх гасцей
Чым-небудзь адбуду».



Ой, свату, свату, дай гарэлкі,
Да было ж не браці у нас дзеўкі.
А як узялі — то дзяржыце,
Цэбрамі гарэлачку насіце.
А як не цэбрам — то вядром,
Перавярні бочачку дагары дном.



Ой, свахначка, галубачка,
А мы сваху доўга ждалі,
Масцілі мост калінаю,
Гацілі гаць слязінаю,
Каб свахначка не ўтанула,
Піражка не замачыла.
Дай нам, сваха, пірага,
Возьмем вала за рага,
Сіву кабылу ды за грыву,
Маладую сваху за чупрыну.
Выведзем сваху на места,
Прамяняем сваху на цеста.
Дзякуй, сваха, за пірог,
Што ты яго гатавала,
Адно — солі шкадавала.
Свяжон, бялён ды мякенек,
Адна ганьба, што маленек:
На далоні мясіла,
А на языку саліла.



Сваціца, галубіца, просім вас,
Пераляцела наша ластаўка да вас.
А вы ж ёй хоць піці, есці давайце,
Часцей яе к мамцы ў госцікі пушчайце.
Вы яе хоць трэсачкі насіць застаўляйце,
А ўсё ж гаспадынькай называйце.



Наша сваці маладая,
На ёй сукенка дарагая.
Не тут яна набірана,
Не тут яна вышывана.
Набіралі на Івенцы,
Вышывалі краўцы-немцы.



Едзьце, прыданкі, дадому,
Да паелі конікі салому,
Да яшчэ ячную мякінку,
Да па-за плоцейкам крапіўку.
Да бярэце косці ў рукі,
Да не будзеце ж каней паганяць,
Да будзеце ж косці гладаць.



Прыгожая дружачка,
Цябе хлопцы спадабалі,
Па садочку праважалі,
Пад калодай агонь клалі,
Кашку з маслам варылі,
Нашу дружачку кармілі.



Другі шафер харошы,
Другі шафер сонца мае.
Ў яго сонца на галоўцы,
Ясен месяц на грудзях,
Залатыя звёзды на рукавах.



А прыезджы брацейко
Сваім дабром выхваляецца:
«Ідзіце, дзеўкі, за мяне,
Бо ў мяне дабра многа:

Торба жыта зашыта,
І цэўка мукі набіта:
Адно зерне ды ў засеку,
І тое б разгулялася,
Ды ў шчыліну папалася».



Паганяй, дружка, клячу,
Не дзівіся. што я плачу.
Плачу, плачу ды ўватруся,
Да маманькі не вярнуся.
Ад маманькі — ды дзявіцаю,
Да свякроўкі — маладзіцаю.



А наш дружко харошы,
Ён багаты на грошы.
У яго кожнай кішэнцы
Ляжаць грошы — чырвонцы.
Як пайшоў ён танцаваць,
Сталі грошы бразгатаць.
Другі дружко бялявы,
Наліў капусты ў халявы.
Як пайшоў ён танцаваць,
Стаў капусту разліваць.



А добра, добра наша Ніначка чыніла,
Што не хадзіла ў шчырыя бары ў арэшкі,
Не нарабіла сваёй радзіне насмешкі,
А хадзіла ў зялёныя лугі, ў калінку,
Украсіла ўсю сваю радзінку.



## СЛОЎНІК

*Абжынкі* — заканчэнне жніва, дажынкі.
*Абжыначкі* — памянш.-ласк. ад *абжынкі.*
*Аброк* — корм для коней, звычайна авёс.
*Авясец* — памянш.-ласк. ад *авёс.*
*Адкладка* — манжэта.
*Акунец* — акунёк.
*Апока* — лежабок, гультай, лайдак.
*Аруд* — засек.
*Арэхаўка* — арэшына.

*Балоннейка* — палянка.
*Бальшаначка* — памянш.-ласк. ад *бальшанка* (старшая шаферка маладой).
*Бандушачка* — буханачка хлеба.
*Барада* — нязжатая жменька збажыны, пераломленая або завязаная вузлом і ўпрыгожаная кветкамі; сімвалізавала заканчэнне жніва і вяртанне ўрадлівай сілы ніве.
*Барусечка* — памянш.-ласк. ад *баран.*
*Барыцца* — бавіцца.
*Бахмісты* — пушысты.
*Бачок* — памянш.-ласк. ад *бок* (край драўлянай бочкі, у якой захоўваліся розныя харчовыя прадукты).
*Баярка* — удзельніца вясельнага рытуалу з боку маладой. Гл. *бальшаначка.*
*Баяры* — тут: 1) нежанатыя хлопцы, кавалеры; 2) удзельнікі вясельнага рытуалу з боку жаніха.
*Бель* — суравыя ніткі або палатно.
*Берасцень* — гліняны гаршчок, аплецены бяростай.
*Беражына* — бераг.
*Борць* — дрэва з выдзеўбанай сярэдзінай, у якім жывуць пчолы.
*Браханька* — ласк. ад *брат.*
*Бузіца* — брудная, каламутная вада.
*Бялёвы* — белы, выбелены.

*Варожачка* — ласк. ад *варожка* (варажбітка).
*Вашчочак* — памянш.-ласк. ад *воск.*
*Вешчаваць* — прадказваць.
*Віцюшкі* — вяночкі.
*Вобак* — узбоч, паўз.

*Воласць* — тут: сям'я.
*Галасаваць* — на ўвесь голас спяваць або плакаць.
*Гаптаваць* — гафтаваць.
*Гардовачка* — памянш.-ласк. ад *гардоўка.*
*Гардоўка (гарда, гардоўнік)* — кусты з сямейства бружмелевых.
*Гарнатовы* — чырвоны.
*Гарнушачак* — невялічкі гліняны гаршчок.
*Гібнуцца* — гнуцца.
*Гігель* — куколь.
*Глаланька* — ласк. ад *галка.*
*Грыўнічак* — памянш.-ласк. ад *грыўнік* (грыўня).
*Гугаль* — гл. *гігель, гуголь.*
*Гуголь* — гл. *гігель, гугаль.*
*Гудзець* — спяваць, гаманіць.
*Гудцэ* (мн. л.) — тут: работнікі, жняцы і жнеі.

*Дажон* — гл. *абжынкі, дажыначкі, абжыначкі.*
*Дажыначкі* — памянш.-ласк. ад *дажынкі.* Гл. *абжынкі, дажон.*
*Далоўкі* (ласк.) — далоў, на зямлю.
*Даспелушкі* — спелыя ягады.
*Дварэц* — памянш.-ласк. ад *двор.*
*Дзевяратанька* — ласк. ад *дзевер* (брат мужа).
*Дзедзька* — ласк.-жартаўл. ад *дзед* (тут: муж, малады, жаніх).
*Дзя́дзінка* — ласк. ад *дзядзіна* (жонка дзядзькі, цётка).
*Дзядулька* — гл. *дзедзька.*
*Дравушачка* — памянш.-ласк. ад *дравушка* (карова, якая ацялілася першы раз).
*Драплівы* — тут: шкадлівы.
*Дружбант* — удзельнік вяселля ад маладой.

*Ёмечка* (ласк.) — ненасенная частка ўраджаю, адабраная для ежы.

*Жалезнічак* — памянш.-ласк. ад *жалезнік* (чыгунны гаршчок).
*Жамерачкі* — памянш.-ласк. ад *жамерыны* (макуха — рэшткі канаплянага або льнянога семя, што застаюцца пасля адгонкі алею).
*Жайнерык* — ласк. ад *жайнер* (салдат).
*Жупан* — верхняя мужчынская вопратка з каляровага сукна фабрычнага вырабу.
*Жыжачка* — памянш.-ласк. ад *жыжа* (святло, агонь).
*Жэнчык* — ласк. ад *жнец.*

*Забрытваць* — закілзваць, надзяваць аброць.
*За́гляды* — знаёмства, госці.
*Зажыначкі* — памянш.-ласк. ад *зажынкі* (пачатак жніва).
*Залаты* — тут: залатая манета наогул.
*Заручнічак* (ласк.) — удзельнік заручын.
*Згу́дзіць* — даць ганьбу.
*Зелянушкі* — недаспелыя ягады.
*Злічны* — прыгожы, мілы. Гл. *слічны.*

*Зурчаць* — бурчаць, сварыцца, быць незадаволеным.
*Зярод* — азярод.

*Ілля кінула лядня* — пайшлі дажджы, пахаладала.
*Ілем* — ілам.

*Кабат* — верхняя жаночая вопратка без рукавоў у выглядзе зашнураванага гарсэту.
*Каберац* — невялікі дыван.
*Кавéдзіцца* — наракаць, папракаць, быць незадаволеным.
*Кадук* (зламоўн.) — нячыстая сіла, д'ябал.
*Каза* — тут: недажатая палоска.
*Каланічка* — памянш.-ласк. ад *каланіца* (дзёгаць).
*Калатушка* — памянш.-ласк. ад *калатуша* (густая мучная страва).
*Калéсіцца* (сонца) — тут: заходзіць, спускаецца.
*Калыбель* — калыска.
*Камісары* — тут: удзельнікі вяселля, сваты з боку жаніха.
*Каплан* — каплун (кастрыраваны певень).
*Кітайка* — гладкая баваўняная тканіна.
*Кладзь* — кладка.
*Клетачка* — памянш.-ласк. ад *клець.*
*Клюняшэнька* — памянш.-ласк. ад *клюшня.*
*Кукольнічак* — ласк. ад *кукольнік* (валачобнік).
*Куна* — 1) куніца; 2) нявеста, маладая жанчына.
*Купа* — тут: вельмі многа.
*Купальнічак* (ласк.) — удзельнік святочных гульняў на купалле.
*Кýпленец* — жыхар вёскі Купленка.
*Купчуваці* — гандляваць.
*Курыначка* (ласк.) — страва ■ курыцы.
*Ксціць* — хрысціць.

*Лéжачкі* (ласк.) — ляжанне, бяздзейнасць, незанятасць працай у час свята.
*Лун* — лунь (птушка).
*Люкаць* — лаяцца, зневажаць.
*Лядзéнь* — тут: пахаладанне.
*Лялецца* — красавацца.
*Лясачка* — памянш.-ласк. ад *ляска* (палка, кій).
*Лясковы* — арэхавы.

*Мáглі* (мн. л.) — качалкі для пракачвання бялізны.
*Малання́* — маланка.
*Майтачкі* — памянш.-ласк. ад *майткі* (штаны).
*Малімонка* — пераборлівая ў ядзе жанчына, ласуха.
*Манерка* — тут: пляшка.
*Маставіначка* — памянш.-ласк. ад *маставіна* (мост).
*Месца* — тут: базар.
*Механоша* — адзін з калядоўшчыкаў або валачобнікаў, што прымаў дары і насіў іх у мяшку.
*Мувіць* — гаварыць.
*Муляваны* — маляваны, размаляваны.
*Мыдль* — мэдлік.

*Надакола* — навокал.
*Надворкі* (ласк.) — на вуліцу, на двор.
*Напа́шку* — наапашкі.
*Непрыветніца* — непрыветлівая жанчына.
*Непрыглядніца* — неруплівая нявестка, якая не ўпраўляецца з гаспадаркай.
*Непрыходніца* — нялюбая нявестка, якой не рады ў сям'і мужа.
*Нічальніца* — ніт (прыстасаванне ў кроснах).
*Нявольніца* — тут: зладзейка.

*Пабяга́чы* (прым.) — той, што любіць бегаць.
*Павук* — паўлін.
*Падболле* — падкладка, падшэўка, подбіўка.
*Падгалоснічак* — гл. падхватнічак.
*Падол* — месца на рэчцы, дзе мыюць бялізну; узбярэжжа ракі.
*Падру́жжайка* — памянш.-ласк. ад *падружжа* (каханне).
*Падуша* — падушка.
*Падхватнічак* — ласк. ад *падхватнік* (адзін з калядоўшчыкаў або валачобнікаў, які звычайна падхопліваў пачатую запявалам песню).
*Пад'яленнейка* — памянш.-ласк. ад *пад'яленне* (ядловец).
*Паёзд шляхецкі* — тут: урачыстая вясельная працэсія.
*Палуднічак* — ласк. ад *палуднік* (работнік, жнец, якому насілі палуднаваць у поле).
*Палянятка* — куранятка.
*Панаша́ць* (вопратку) — доўгі час насіць.
*Папра́таць* — сабраць ураджай.
*Папу́ць* — марудлівы, няўклюдны чалавек.
*Парадніца* — парадзіха.
*Парцюк* — спадніца з саматканага порту.
*Пастаў* — мера палатна.
*Пастка* — памянш.-ласк. ад *пасьба*.
*Патрэп'е* — рэшткі, адыходы пры трапанні лёну.
*Пахадзя́чы* (прым.) — той, што не знаходзіцца на месцы.
*Пачату́ха* — гл. *пачынальнік*.
*Пачынак* — вялікае верацяно, на якое звіваюць пражу з другіх верацён.
*Пачынальнік* — запявала ў гурце калядоўшчыкаў або валачобнікаў.
*Перазімачка* — памянш.-ласк. ад *перазімка* (жывёла ва ўзросце аднаго года).
*Пералетачка* — памянш.-ласк. ад *пералетка* (жывёла паўгадовага ўзросту).
*Пераломачка* — памянш.-ласк. ад *пераломка* (раптоўны прыступ нервовага прыпадку).
*Перамота* — памылка пры снаванні кроснаў.
*Перапеча* — перапечка (невялікая булачка з пшанічнай мукі).
*Перасада* — тут: шлюбаванне, шлюб.
*Перасуд* — тут: судовая пошліна ў карысць суддзяў.
*Полачка* — тут: прыполік.
*Постаць* — паласа збажыны, якую займае жняя.

*Праллейка* — ласк. ад *пралля*.
*Пранічак* — памянш.-ласк. ад *пранік*.
*Пратанýць* — патануць.
*Прусаты* (іран.) — падобны на прусака.
*Прыганяты* — наглядчык за работай у панскіх дварах.
*Прыданка* — дзяўчына, якая дапамагала нявесце рыхтаваць пасаг і збіраць для яе падарункі на вяселлі.
*Прынадка* — памянш.-ласк. ад *прынада*.
*Прыстол* — прастол, трон.
*Пялёнька* — памянш.-ласк. ад *пала*.
*Пярловы* — жамчужны.
*Пяхотаю* — пехатой, пеша.
*Пяхцер* — нехлямяжы, няспрытны чалавек.

*Рабяцкі* — тут: малады.
*Рáдзейка* — памянш.-ласк. ад *рада*.
*Радзімка* — памянш.-ласк. ад *радзіма* (родныя, сваякі, блізкія).
*Радзоны* — тут: родны.
*Радовы* — той, што ідзе па раду, па чарзе.
*Рай (Раю)* — тут: міфічная істота — апякун ураджаю; гл. *Спарыш* у 2) знач.
*Раёк* — памянш.-ласк. ад *Рай (Раю)*.
*Ражны́* (мн. л.) — тут: каромысел.
*Расчот-барвінак* — цотны лік кветак барвенку (тут: любімы хлопец).
*Рукавец* — памянш.-ласк. ад *рукаў*.
*Руцьвяненькі* — памянш.-ласк. ад *руцьвяны* (рутавы).
*Ручаць* (пра пчол) — пайсці рукою, добра весціся.

*Саракоўка* — манета, вартасцю ў дзве грыўні або сорак грошаў.
*Свалачэйка* (абразл.) — лайдачка, гультайка.
*Свахначка* — ласк. ад *свацця* (удзельніца вяселля).
*Семярэнька* — мера ў сем адзінак (тут: сем снапоў).
*Серадольшы* — сярэдні.
*Скут* — доўгі кавалак вытканага палатна, якое беляць.
*Слічны* — гл. *злічны*.
*Смародыня* — куст парэчак.
*Спáтачкі* (ласк.) — спаць.
*Спарыш* — тут: 1) драсён; 2) міфічная істота — увасабленне спорнасці, ураджайнасці; гл. *Рай, Раю, Раёк*.
*Спірáцца* — спрачацца, сварыцца.
*Стан* — ніжняя жаночая вопратка без рукавоў, насілася паверх кашулі.
*Старлівы* — стары.
*Старонка* — памянш.-ласк. ад *старана* (складзенае ў гумне збожжа ў снапах).
*Стоўп* — тут: тоўстая калодка, стаяк.
*Строчаны* — тут: упрыгожаны, размаляваны.
*Строчачка* — памянш.-ласк. ад *строчка* — рад своеасаблівых перапляценняў у лапцях.
*Струменне* (зборн.) — страмёны.
*Струмянцо* — памянш.-ласк. ад *стрэмя*.

*Стрынатка* — птушка, больш вядомая пад назвай *аўсянка*.
*Стрэльчык* — ласк. ад *стралец* (паляўнічы).
*Стýлайка* (зборн.) — памянш.-ласк. ад *стулле* (крэслы, стулы).
*Суборны* — зборны.
*Сугор'е* — узгор'е, узгорак.
*Сýжанька* (ласк.) — суджаны, жаніх.
*Сукланіцца* — пакланіцца.
*Сыгнэт (сэгнэт)* — пярсцёнак з пячаткай.
*Сыгнэцік* — памянш.-ласк. ад *сыгнэт*.
*Тавар* — буйная рагатая жывёла.
*Танок* — памянш.-ласк. ад *танец*.
*Таруваты* (прым.) — той, што не сядзіць дома, пасялун.
*Тачыльнічак* — памянш.-ласк., скаж. ад *тычыннік* (абгароджаны частаколам кветнік).
*Ташнаваць* — нудзіцца, сумаваць.
*Ташнаванне* — нуда, сум.
*Ташнота* — гл. *ташнаванне*.
*Ткаллейка* — ласк. ад *ткалля*.
*Траста* — тут: трыснёг.
*Трасцéчка* — памянш.-ласк. ад *траста*.
*Трахтавáць* — частаваць.
*Тукаць* — палохаць.

*Узвáлле* — адхон, схіл.

*Хаджáюшка* — тут: маладая, нявеста.
*Хоха* (жартаўл.) — няўмека, гультайка.

*Целяпень* — недарэка.
*Цельпучок* — ласк. ад *цяльпук* (непаваротлівы, нязграбны чалавек).
*Цесцятка* — ласк. ад *цесць*.
*Цівун* — кіраўнік гаспадарчых работ у панскім двары.

*Чарон* — тут: сучча.
*Чот* — цот.
*Чысовы* — цісавы, зроблены з цісу.
*Чэлядзь* — тут: нанятыя на год у панскі двор работнікі.
*Чэсовы* — гл. *чысовы*.

*Шалупачкі* — памянш.-ласк. ад *шалупкі* (шалупінне).
*Шарсцень* — шэршань.
*Шатковенькі* — тут: дарагі, багаты.
*Шаты* — дарагое адзенне.
*Шашчэць* — шалясцець, шамацець.
*Штабны́* — паласаты.
*Шуметнік* — сметнік.
*Шчыры* — тут: чысты.
*Шэляжочак* — ласк. ад *шэлег* (старадаўняя дробная манета).

*Ядвабны* — шаўковы.
*Яленец* — ядловец.
*Ямшчычочак* — ласк. ад *ямшчык*.
*Ярнáя змена* — яравы севазмен пры трохпольнай сістэме.

## КАЛЯНДАР СВЯТ, НАЗВЫ ЯКІХ СУСТРАКАЮЦЦА Ў ПЕСНЯХ

Каляды, калядкі, калядачкі, каляда, калядо, калядзіца — з 24 снежня па 6 студзеня [1].

Раство, ражство, ражаство — 25 снежня.

Шчодры вечар, святы вечар, шчодзер, шчодры — 31 снежня.

Новы год, Васілле — 1 студзеня.

Хрышчэнне, кшчэнне (вадохрышча) — 6 студзеня.

Масленіца, масленка — восьмы тыдзень перад вялікаднем (у перыяд ■ канца студзеня да пачатку сакавіка).

Улас, Аўлас — чацвер на масленым тыдні.

Загавіны, гавенны дзянёк — апошні дзень масленіцы.

Грамніцы, грамнічкі — 2 лютага.

Ізбор, Узбор — нядзеля першага тыдня пасля масленіцы.

Аўдакей, Еўдакім — 1 сакавіка.

Саракі — 9 сакавіка.

Аляксей — 17 сакавіка.

Благавешчанне — 25 сакавіка.

Вербніца — апошняя нядзеля перад вялікаднем.

Чысты чацвер — чацвер апошняга тыдня перад вялікаднем.

Вялікадне, вялічка, вялічачка (вялікдзень) — нядзеля ў перыяд з 22 сакавіка па 25 красавіка.

Праводніца, правадніца — наступны, пасля велікоднага, тыдзень.

Радаўніца — аўторак першага паслявелікоднага тыдня.

Юр'е, Юр'я, Юра, Юрый (веснавое) — 23 красавіка.

Барыс — веснавое свята паміж Юр'ем і Міколам.

Мікола (веснавое) — 9 мая.

Ушэсце, шоснік — саракавы дзень пасля вялікадня.

Тройца, троіца — 50-ы дзень пасля вялікадня.

Гранáя нядзеля — наступны пасля тройцы тыдзень.

Дзевятка, дзевятнік — 9-ы чацвер пасля вялікадня.

Дзесятýха — 10-я пятніца пасля вялікадня.

Купалле, купала — ноч з 23 на 24 чэрвеня.

Ян, Іван — 24 чэрвеня.

Пятро, Пятрок, Пётра, Пятра-Паўла — 29 чэрвеня.

[1] *Даты даюцца па старому стылю.*

Пя́ценка — час, калі ў коласе завязваецца зерне («пятка»).
Андрэй — 4 ліпеня.
Ілля — 20 ліпеня.
Макавей — 1 жніўня.
Спас, Іспас — 6 жніўня.
Прачыстая — 15 жніўня.
Меншая прачыстая, святая гаспожка — 8 верасня.
Уздзвіжанне, звіжанне — 14 верасня.
Пакроў, пакровы — 1 кастрычніка.
Змітра — 26 кастрычніка.
Дзяды — свята ўшанавання нябожчыкаў — «дзядоў» — святкавалася 3—4 і болей разоў у год у залежнасці ад мясцовасці: у змітраўскую суботу (напярэдадні і пасля Змітрава дня), перад масленіцай, тройцай, піліпаўкай і інш.
Дзям'ян — 1 лістапада.
Юр'е, Юр'я (асенняе) — 26 лістапада.
Мікола (зімовае) — 6 снежня.
Сцяпан — 28 снежня.
Піліпаўка — шасцітыднёвы пост перад калядамі.

## ЗМЕСТ-ПАКАЗАЛЬНІК



* *Тут і далей лічба ў дужках азначае ўзрост або год нараджэння асобы, ад якой запісана песня.*

** *У асобных выпадках пашпартызацыя няпоўная: не ўдалося высветліць, кім або ад каго, або ў якой мясцовасці зроблен запіс песні.*

14 Прыйшла каляда звечара. *Далідовіч Г. ад маці, в. Янкавічы Стаўбцоўскага р-на.*

15 А калядачкі, нашы лежачкі. *Савіч Т. і Шайтар Т. ад Паляковай Юліі (1921), в. Бялавічы Бярэзінскага р-на.*

15 А калядныя бліны ладныя. *Гамелька Н. ад Гамелька Кацярыны (63), в. Воўкавічы Талачынскага р-на.*

15 А калядачкі, нашы матачкі. *Крумкач В. ад Булоўчык Ганны (78), в. Васілеўка Бярэзінскага р-на.*

16 Вы, калядачкі, вы хадзіце к нам. *Гайдук В. ад Маеўскай Раіны (1880), в. Дубраўка Крупскага р-на.*

16 А калядачкі, а хадзіце к нам. *Драніца М., в. Навахросты Крупскага р-на.*

16 Ну, ну-ну, казёл. *Кубрак Т. ад Віаленці А. (60), Капыльскі р-н.*

18 Го-го-го, каза. *Несцяровіч Г. ад Слабко Гілены (65), в. Хватаўка Бярэзінскага р-на.*

18 Уставай, каза. *Шмігельская Л. ад Казачонак Ганны (58), в. Кавалічы Старадарожскага р-на.*

19 Пасярод двара стаяла вярба.

19 Добры вечар, пане гаспадару! *Жоль М. і Затрымайлава І. ад Бізюк Дар'і (80), в. Гурнавічы Маладзечанскага р-на.*

20 Слаўны вечар. *Ад Салодкай Евы, в. Верхмень Смалявіцкага р-на.*

21 Ішла каляда калядуючы. *Законнікава А. і Дзякоўская Г. ад Тарасюк Зіны (45), в. Сяледчыкі Маладзечанскага р-на.*

21 Ой, куры, куры, не пейце рана. *Лігаева В. ад Чвіровай Л. (1945), в. Хількавічы Чавускага р-на.*

22 Пане гаспадару, ці падаваў тавару. *Вежнавец Т., в. Вежны Светлагорскага р-на.*

22 Ой, ці дома, дома сам пан гаспадар? *Апанасевіч М. ад Дранёвай Вольгі (52), в. Старое Сяло Глускага р-на.*

22 Добры вечар, гаспадынечка. *Жоль М. і Затрымайлава І. ад Бізюк Дар'і (80), в. Гурнавічы Маладзечанскага р-на.*

22 Добры вечар, пахвалёны. *Налецкая Л. ад Рыдзікі Агнесы (55), в. Барадзінічы Браслаўскага р-на.*

23 Ой, жарка, жарка каліна ў лузе. *Кавалёнак Т. ад Кавалеўскай Марыі (1896), в. Брадзец Бярэзінскага р-на.*

23 Ой, рано, рано куры попелі. *Карыцава А. ад Басан Параскі (75), в. Вялікае Малешава Столінскага р-на.*

23 А ў полі, полі ды жыта не зжата. *Серчанкава В. ад Душкевіч П. (56), в. Красніца Рагачоўскага р-на.*

24 Ой, ясна, красна да каліначка ў лузе. *Ад Корбут Ганны, в. Мачулкі Бабруйскага р-на.*

24 А красна, ясна ў лузе каліна. *Лігаева В. ад Чвіровай Л. (1945), в. Хількавічы Чавускага р-на.*
24 А ў Кіеве ды на перавозе. *Аляксеева Л. ад Барай Ірыны (71), г. п. Старобін Салігорскага р-на.*
25 Стаяла бяроза ў канцы перавоза. *Тарасевіч В. ад Агінскай Зінаіды (1930), в. Крывічы Салігорскага р-на.*
25 Ой, пайду ж я ды дарогаю. *Табальчук Г. ад Хілько Клаўдзіі (60), в. Астрэйкі Капыльскага р-на.*
25 Ішоў Колечка беражынаю. *Пюро Л. ад Заяц Г. (1929), Лыгач В. (1925) і Назаранка Ф. (1918), г. п. Хойнікі.*
26 Ой, гула, гула да крутая гара. *Ад Корбут Ганны, в. Мачулкі Бабруйскага р-на.*
26 А ў ляску, ляску на жоўтым пяску. *Клімовіч В. ад Лычкоўскай М., в. Сяліба Бярэзінскага р-на.*
26 А рана, рана Геначка ўстаў. *Серчанкава Л. ад Душкевіч П. (56), в. Красніца Рагачоўскага р-на.*
27 Стаяў явар тонкі, высокі. *Палубатонава Т. ад Рудзянковай Пелагеі (1892), пас. Кругавец-Калініна Добрушскага р-на.*
27 У нашага дзядзькі явар пад вакном. *Тарасеня Г. ад Ярмоленка Сцепаніды (72), в. Палаўкі Гомельскай вобл.*
27 А за гумном трысцё шуміць. *Ад Ціханавец К. (58), в. Бабцы Докшыцкага р-на.*
28 Да за варотамі да зялён вінаград. *Вежнавец Т., в. Вежны Светлагорскага р-на.*
28 Маладзы Віцячка коніка паіў. *Крайчанка Т. ад Рак Зінаіды, в. Сяўкі Лоеўскага р-на.*
29 Ой, рана, рана куры прапелі. *Крайчанка Т. ад Крайчанка Макрэны (64), в. Сяўкі Лоеўскага р-на.*
29 Цераз вішняў сад да й дарожанька. *Ад жанчын в. Намахрава Лунінецкага р-на.*
30 Не кур, не вей, мяцеліца, каляда. *Субач Л. ад Субач Ганны (1902), в. Асіпавічы Вілейскага р-на.*
30 Чаго ты, дубе, зялёны развіўся? *Тарасевіч В. ад Агінскай Зінаіды (1930), в. Крывічы Салігорскага р-на.*
30 Ой, стаяў кося пад ігрушаю. *Шуцько В. ад Ільюшынай Ніны (40), в. Ухвала Крупскага р-на.*
30 А ў ляску, ляску, калядо, калядо. *Кулеш З. ад Ульенка Сцефаніды (56), в. Вялікае Вобрына.*
31 У лесе, лесе ўсё на верасе. *Цудня А. і Мурашка Г. ад Дзівінай Гелены (64), в. Пышна Лепельскага р-на.*
31 Скача гарабейка да па сметнічку. *Пранкевіч Н. ад Кунцэвіч Марыі і Булайко Алены, в. Купеск Навагрудскага р-на.*
31 А й судзі божа, нам каляд даждаць. *Храмцова Н. ад Шапель Веры (40) і Храмцовай Насці (60), в. Пішчыкі Дубровенскага р-на.*
32 А калядачкі, нашы лежачкі. *Сяховіч С. ад Гоман Евы (1910), в. Шавярнічы Бярэзінскага р-на.*

32 Як пашла каляда.
33 Зялён дубочак сам развіваўся. *Ад Вярчэні Н. (44), в. Лешня Капыльскага р-на.*
33 А я табе, дзядзечка, пакалядую. *Дзядовіч Н. ад Шаўлоўскай Марыі, в. Востраў, Рэчыцкага р-на.*
33 Ходзя Ілля на Васіля. *Муха В. ад Хадзьковай Наталлі (69), в. Агародня Добрушскага р-на.*
34 Ой, забіў дзед свінку. *Ляпешка Ж. ад Хурсік Ксені (1906), в. Караваева Пухавіцкага р-на.*
34 Калядачкі, калядкі. *Башура С. і Брэская Р. ад Касцюк Вольгі (69), в. Асака Пухавіцкага р-на.*
34 Калядзін, калядзін. *Палубатонава Т. ад Рудзянковай Пелагеі (1892), пас. Кругавец-Калініна Добрушскага р-на.*
34 Шчадрую, шчадрую. *Гл. папярэд.*
35 Шчодры, бодры. *Лігаева В. ад Матвеенка Еўдакіі (1902), в. Вялікая Тоўшчыца Быхаўскага р-на.*
35 Ой, шчодзер, шчодзер. *Тарасевіч В. ад Агінскай Зінаіды (1930), в. Крывічы Салігорскага р-на.*
35 Ой, шчодзер, шчодзер. *Кавалёнак Т. ад Кавалеўскай Марыі (1896), в. Брадзец Бярэзінскага р-на.*
35 Шчадрыначка шчадравала. *Палубатонава Т. ад Рудзянковай Пелагеі (1892), пас. Кругавец-Калініна Добрушскага р-на.*
35 Ты хадзі ж, мужычок.
36 Цярэшка, Цярэшачка.
36 Пайду я па гародзе. *Агалакава Г. і Грабовік Г. ад Петрыжыцкай Агаты (85), в. Завіднае Барысаўскага р-на.*
36 Пайду я у сад, у сад. *Кабяк Г. у Варапаеўскім сельсавеце Пастаўскага р-на.*
36 А здайся, дзедзька, здайся. *Карабань В. ад Бурак Зосі, в. Мосар Лепельскага р-на.*
36 Пад акном рэчачка цякла. *Гл. папярэд.*
36 А ці мой, ці не мой будзеш. *Ад Ціханавец К. (58), в. Бабцы Докшыцкага р-на.*
37 Дзевачкі, у полі дымна. *Андруш Л. і Сцяпанава В. ад Саковіч Ганны (39), в. Закаліўе Лепельскага р-на.*
37 Шэрая зязюлечка. *Кабяк Г. у Варапаеўскім сельсавеце Пастаўскага р-на.*
37 Цярэшку бяда стала. *Жук Т. ад Віннік Алены (58), в. Трэці Гарадзец Ушацкага р-на.*
37 Цярэшка валочыцца. *Януш А. і Шымко З. ад Белай Сабіны (61), в. Жасціннае Лагойскага р-на.*
37 Цярэшка валочыцца. *Стрыбук Л. ад Батуры Юстыны (87), в. Замасточча Докшыцкага р-на.*
38 Паціху, музыка, іграй. *Глод В. і Гарошка В. ад Хіла Марыі (70), в. Міхалкаўшчына Ушацкага р-на.*
38 Цярэшка, цяху, цяху. *Пятровіч К. і Пасюк Т. ад Салтан Ганны (61), в. Слабодка Лепельскага р-на.*
38 Пад кутом, пад кутнічкам. *Цудня А. і Мурашка З. ад Гардзяёнак Гелены (62), в. Закаліўе Лепельскага р-на.*

38 Божа ж мой, вяліка бяда. *Ад Жарнасек Ірыны, в. Пышна Лепельскага р-на.*
38 Пайду я па гароду. *Асташка Н. і Лысак Г. ад Салтан Ганны (61), в. Слабодка Лепельскага р-на.*
39 Пастаўлю рутачку на акне. *Карпісонава Т. ад Шабловай Тацяны (1904), в. Слабодка Ушацкага р-на.*
39 На вакне рутачка цвіла. *Шаўчук Т. ад Крывец Вольгі (59), в. Пунішчы Лепельскага р-на.*
39 Ельнічак зялёненькі. *Івашкевіч Н. ад Шабловай Тацяны (1904), в. Слабодка Ушацкага р-на.*
39 Пайду ў зелен сад глядзець. *Гл. папярэд.*
39 Божа мой, вяліка бяда. *Бычкова Г. і Жынь Л. ад Падворнай Марыі, в. Вялікія Дольцы Ушацкага р-на.*
39 Не ўцякай, дзядулька-прахвост. *Пасюк Т. ад Салтан Ганны (61), в. Слабодка Лепельскага р-на.*
40 А дайся, дзядулька, дайся. *Лаўшук А. ад Лейчанка М. (60), в. Ладасна Лепельскага р-на.*
40 Пад вакном ручэй пацёк. *Гл. папярэд.*
40 На вакне рута зялёна. *Гл. папярэд.*
40 Пастаі, дзедзя-лябедзя. *Кабяк Г. у Варапаеўскім сельсавеце Пастаўскага р-на.*
40 Божа мой, багата хата. *Сясіцкая А. ад Сясіцкай Софіі, в. Гнязділава Глыбоцкага р-на.*
41 Пайду я ў Цярэшку. *Гл. папярэд.*
41 Пайду я у садочак. *Гл. папярэд.*
41 Пайду я ў зялён садок. *Гл. папярэд.*
41 А ў саду зялёненькім. *Карабань В. ад Антуковіч, в. Замошша Ушацкага р-на.*
41 Пайду я па гародзе. *Гурбановіч Н. і Каралько Л. ад Белай Н. (36), в. Жардзяжжа Лагойскага р-на.*
42 Пайду я па гародзе. *Каралёнак Т. ад Санько Пелагеі (67), в. Крыўцы Лепельскага р-на.*
42 Здайся, дзядулька, здайся. *Ключнік Я. і Шавялёва А. ад Дук Еўдакіі (59), в. Салоўка Ушацкага р-на.*
42 Пайду я на ток, на ток. *Капачэўская В. ад Хамічонак Марты (75), в. Старына Ушацкага р-на.*
42 Паіла коніка ў вядрэ. *Лысак Г. і Асташка Н. ад Кляшторнай Фядоры (69), в. Ладасна Лепельскага р-на.*
43 Пайду я у ток, у ток. *Кабяк Г. у Варапаеўскім сельсавеце Пастаўскага р-на.*
43 Каб цябе кадук задраў. *Жандарэнка Л. і Нядзвецкая Т. ад Мурашка Марыі (60), в. Ладасна Лепельскага р-на.*
43 Пайду ў поле я глядзець. *Кабяк Г. у Варапаеўскім сельсавеце Пастаўскага р-на.*
43 Бабулька, царыца мая. *Карабань В. ад Бурак Зосі, в. Мосар Лепельскага р-на.*
44 Паслухай, дзядулька, мяне. *Андруш Л. і Сцяпанава В. ад Саковіч Ганны (39), в. Закаліўе Лепельскага р-на.*

